# Маладосць

Штомесячны
літаратурна-мастацкі
і грамадска-палітычны
ілюстраваны часопіс

**(712) САКАВІК, 2013**

**Выдаецца з 1953 года**

Галоўны рэдактар
**Святлана Дзмітрыеўна ДЗЯНІСАВА**

**3**



**www.maladost.lim.by**

**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова**
**«Выдавецкі дом «Звязда»**
**г. Мінск**

## У НУМАРЫ:

# Імідж сучаснага пісьменніка

 **Вольга Сталярова, рэдактар дзелавога партала BEL.BIZ:**

— Не хачу разважаць пра тое, якім павінен быць імідж беларускага пісьменніка, сам пісьменнік або беларуская літаратура ўвогуле. Няхай проста будзе — па-сапраўднаму яскрава і змястоўна, каб увесь свет гаварыў пра яго, а не пра чарговае тварэнне Джоан Роўлінг.

Свежыя думкі з адценнем нацыянальнага беларускага інтэлекту (а ён дакладна некалі быў!), заліхвацкі сюжэт і ўменне ставіць цвёрдыя кропкі над «і»… Было б выдатна бачыць гэта ўсё не толькі на старонках кніг сучасных беларускіх пісьменнікаў, але і ў іх вачах. Пераканана: літаратар павінен вылучацца з натоўпу, у тым ліку і з натоўпу іншых літаратараў. Няхай ён будзе апрануты ў куртку колеру хакі і пацёртыя джынсы, але вочы, якім ёсць што сказаць, абавязкова выдадуць, хто ён ёсць!

 **Таццяна Сівец, галоўны рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва»:**

— Сучасны пісьменнік, на маю думку, мусіць найперш быць чалавекам вялікай унутранай свабоды, каб знешнія абставіны не ціснулі на Яго творчую манеру і здольнасць выказвацца напоўніцу. Акрамя таго, гэта высокаадукаваная асоба, што заўжды імкнецца даведацца пра штосьці новае. Сучасны беларускі пісьменнік — чалавек абазнаны ў жыцці сваёй краіны, ён валодае літаратурнай мовай і ведае яе дыялекты, ён чытае сваіх калег, каб быць дасведчаным у айчыннай літаратуры, і замежных творцаў, каб адчуваць сусветныя літаратурныя павевы, не баіцца выкладаць творы ў інтэрнэт і адэкватна рэагуе на крытыку. Незалежна ад таго, піша ён пра гісторыю ці прышласць, сучасны творца апелюе да асноўных каштоўнасцей, гаворыць са сваім чытачом шчыра і зацікаўлена.

Такім, я ўпэўнена, многія хацелі б бачыць сучаснага пісьменніка. Але справа ў тым, што творца таму і адбываецца як творца, бо падпарадкуецца адзінаму закону, які прымушае яго браць асадку і запісваць тое, што прыходзіць да яго ў хвіліну натхнення. Калі перафразіраваць вядомы выраз, то пісьменнік павінен тварыць, а больш ён нікому нічога не павінен!

 **Алёна Іванюшэнка, галоўны рэдактар тэатральнага альманаха «Двери»:**

— Сёння я хачу бачыць беларускага пісьменніка ў першаю чаргу сучасным. Быццам бы ўсё тое, што існуе з намі ў адзін і той жа час, з'яўляецца такім. Насамрэч, гэта зусім не так, я гавару не пра межы часу. Беларускі драматург Павел Пражко прыдумаў характарыстыку, якая здаецца вельмі дакладнай, — «адэкватнасць часу». Я хачу чытаць тэксты пра набалелае. Літаратура не павінна быць адназначнай, аднабокай, не павінна выдаваць нам гатовыя адказы і ўстаноўкі. Яна павінна задаваць пытанні, актуальныя сёння, акуратна пераступаць звыклыя нам межы дазволенага. Яшчэ вельмі важна, каб мы не ўзводзілі гэтыя межы адно паміж адным. Цяпер ледзь не фізічна адчуваецца, што кожная прастора існуе «для сваіх». Вельмі хочацца, каб дзверы былі адчыненымі. Як для калег, так і для чытачоў. Мне цікавыя розныя сінтэтычныя праекты, калі літаратар адкрыты для эксперыментаў. Літаратура плюс тэатр, фатаграфія, дызайн… Я хачу, каб сучасны беларускі празаік, паэт ці драматург быў адкрытым.



*Вольга ШЭЛЯГОВІЧ*

# Справа тонкая

***Як сучасны чалавек, я ведаю, што такое сеціва, і нават больш самой сабе дазволенага карыстаюся сацыяльнымі сеткамі — ажно трыма. Найбольш імпануе «Вконтакте», з якой эліта даўно збегла ў Facebook і Twitter. А я вось, гэткі ёлупень, хоць і маячу час ад часу ў прэстыжных сацсетках, не магу адмовіцца ад зручнай сістэмы абмену паведамленнямі на звыклым са студэнцтва сайце.***

І вось аднойчы вока маё ўпала на пост у ленце навін на vk.com. Пісала старая знаёмая: «Адсутнічала ў інтэрнэце больш як тыдзень. Вярнулася, а пачытаць у вас няма чаго. Людзі, мне нецікавыя вашы перапосты, гламурныя карцінкі і бясконцыя цытаты. Я хачу ведаць, чым жывяце ВЫ, ВЫ асабіста. Інакш буду расфрэнджваць». Не магу сказаць, што мяне спалохала сітуацыя з расфрэнджваннем, бо я акурат з тых, хто калі-нікалі «выпісваецца» на інтэрнэт-старонцы, хоць і рэдка. Але ў сацыяльных сетках такіх няшмат. Нават у Facebook з тысяч сяброў чытаю посты перманентнага дзясятка — астатнія маўчаць. А ў «Вконтакте», дзе збіраецца больш маладая і прымітыўная публіка, знайсці чалавека з асабістым меркаваннем, якім ён згодны дзяліцца, мякка гаворачы, складана. Стужка навін будуецца на цытатах ды спасылках на групы, якіх тут безліч, прычым, часта бязглуздых.

А цытаванне — справа тонкая. Калі вы спытаеце, ці варта цытаваць вялікіх людзей, я адкажу: «Так, варта». Сама раблю тое часта — у артыкулах і размовах. Купляю кнігі з афарызмамі, вучу вершы на памяць, а песні цаню найперш за тэксты. Трапная цытата можа выратаваць сітуацыю і нават падказаць выйсце з цяжкага становішча. Уменне цытаваць да месца, як лакмусавая паперка, указвае на наяўнасць у чалавека інтэлекту, адукаванасці, начытанасці. І намякае, што жыццё яго будавалі не таджыкі — будаваў сам, шмат чаго перажыў, асэнсаваў. Як-ніяк мы любім толькі тыя цытаты, якія кранаюць за душу, сэнс якіх разумеем праз выпрабаванае на сабе, бо і ў нашых галовах таксама раілася нейкая думка, але так і не знайшла прыгожую форму. Цытуюць да месца не тыя, у кім мінімум асабістасці і свайго меркавання няма (такія людзі ўвогуле не затлумляюцца і не бавяць час за абагачэннем слоўнікавага запасу).

Канешне, ёсць сярод аматараў цытат людзі, якія ўжываюць іх дзеля чырвонага слоўца. Найлепш дакладна ведаць кантэкст, а не проста вырваць цытату і казыраць ёй, прачытаўшы пры гэтым тры кнігі: першую, сінюю і буквар. І калі ўжо цытаваць вялікіх, то вялікіх, а не абы-каго. Бо самая неадназначная ў плане таленту асоба становіцца для дылетанта вялікім чалавекам, калі перад яе імем прачытваецца «як сказаў непадражальны…» ці «па словах мудрага…» Але бывае, што словы вялікіх тлумачаца скажона. Мой таварыш зацікавіўся Маякоўскім, бо ізноў жа дзесьці ў сацсетках ён вычытаў радкі з яго верша з нецэнзуршчынай. Можа, як Марсель Пруст, будзем закрываць вочы на такую загану, як прыватнае жыццё геніяў, і не станем рабіць выбар на карысць спрэчных, няхай і вершаваных, выразаў?

Нягледзячы на ўсе плюсы цытавання, безліч цытат у сацыяльных сетках мяне засму-

чае. Таму што там не заўсёды вее мудрымі думкамі ці якаснай паэзіяй. Найчасцей цытуюцца жарты, спісаныя з іншых крыніц ці прыдуманыя Васяй Пупкіным. Сарказм, часта падмацаваны нецэнзурнымі слоўцамі, гумар ніжэй за пояс. А ўжо калі якая добрая цытата і палюбіцца, то яе ў розных групах прыпісваюць розным людзям. Смешна і сумна. Мне бывае няёмка там са сваёй філасофіяй.

Абсалютна шчаслівыя людзі не трацяць жыццё на інтэрнэт — гэта могуць пацвердзіць многія. Але ці так многа сярод нас шчаслівых у абсалютнай ступені? Не-не, і зноў заблытаемся ў сусветнай павуціне, заглянем туды, дзе, на жаль, мала добрага і вечнага. Сотнямі — рэцэпты, анекдоты, прагнозы, пачкамі — фотаздымкі чужых людзей з адпачынку ў Турцыі ці дзе там яшчэ. Часам — прымітыўныя ці жартоўныя статусы. Але ці пішуць у інтэрнэце: «Сярбы, мне дрэнна. Памажыце»? Наўрад ці. Сацыяльныя сеткі — кірмаш ганарыстасці. Кожнаму хочацца паказаць сябе ў найлепшым свеце. Глядзіце, вось я на адпачынку за мяжой, а вось мой клапатлівы муж і бяззубыя дзеці, а гэта мой чыхуахуа, мой аўтамабіль, а гэта кветкі (25 руж, дарэчы) — ад каханага і без падставы. Глядзіце, мы шчаслівыя. А пра тое, што на душы — ні слова.

Між тым, большая адкрытасць — праз трапную цытату, што сапраўды кранула адрасата за жывое, ці праз пару сказаў пра набалелае маглі б саслужыць выдатную службу. Помніце нядаўні выпадак — журналістка выкінулася з акна з двума дзецьмі? Мяне тады вельмі ўзрушыла гэтая навіна: быў час, калі мы з ёй працавалі разам, а я нават не задумалася ні на хвілінку, што чалавек — на мяжы жыцця і смерці. І яе старонкі ў сацсетках гэтага асабліва не адлюстроўвалі (хіба што аўдыёзапісы семінараў пра барацьбу з фобіямі, на якія пазней звернуць увагу апаратыўнікі). А калі б было інакш? Людзям не хапае шчырасці. Адкрытасць і шчырасць па жыцці — прамы шлях да таго, каб не мы цытавалі вялікіх, а разумныя людзі цытавалі нас.

# Ад рукі

Уладзімір Мазго

* * *

У далях блукаю
Сцяжынкаю роснай,
Нібыта шукаю
Мінулыя вёсны.

Далёкія вёсны
І юныя леты
У краі дзівосным
Зялёнай планеты.

Хоць блізіцца восень,
Не гасне затое
Аддаленых вёсен
Святло залатое.

УМ

5 сакавіка 2013 г

**Розгалас будзе на ўсю краіну** ад імпрэзы, якую ладзіць Асацыяцыя беларускіх баяністаў і акардэаністаў Беларускага саюза музычных дзеячаў. Вясновую акцыю «Беларускі дзень баяна, акардэона і гармоніка» апроч канцэртаў з удзелам лепшых выканаўцаў, лаўрэатаў міжнародных конкурсаў, студэнтаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, навучэнцаў музычных каледжаў, гімназій, дзіцячых музычных школ мастацтваў, аматараў баяна і гармоніка складаюць метадычныя семінары, сустрэчы з вядомымі салістамі і педагогамі.
28 сакавіка ўдзельнікаў акцыі вітаюць Брэст і Гомель. 9 красавіка ў сталічным Палацы Рэспублікі адбудзецца канцэрт лаўрэата міжнародных конкурсаў, акардэаніста-віртуоза Ігара Квашэвіча.




*З калекцыі «Маладосці». Канверт. 1972 год.*




**560-старонкавы фаліянт** выпусціла выдавецтва «Беларуская навука». Салідная навуковая кніга! Аднак яна можа зацікавіць не толькі спецыялістаў. «Беларускае канцэртна-выканальніцкае мастацтва. Апошняя траціна XX — пачатак XXI стагоддзя» ўяўляе сабою адмысловую энцыклапедыю сучаснага музычнага жыцця краіны. Ёсць фотаілюстрацыі і аўдыёдадатак.

**Калекцыя старадрукаў дапоўнілася!** Нацыянальны гістарычны музей атрымаў у дар старадрукаваную кнігу «Мінея на месяц март», выдадзеную ў 1761 годзе ў тыпаграфіі Пачаеўскага манастыра. Імя дарыцеля — Галоўнае ўпраўленне па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй МУС.



*Начальнік Галоўнага ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй Альберт Лятовіч перадае старадрукаванку вядучаму навуковаму супрацоўніку навукова-фондавага аддзела пісьмовых і выяўленчых крыніц Юрасю Лаўрыку.*

**Хто паедзе ў сталіцу?** З 19 па 28 красавіка ў Мінску адбудзецца фінал Другога адкрытага рэспубліканскага конкурсу музычнага мастацтва Беларусі «Спадчына». Іспыт для творчай моладзі ладзіцца пры падтрымцы Міністэрства адукацыі, Міністэрства культуры Беларусі і ўпраўлення культуры Мінгарвыканкама. Сярод заснавальнікаў конкурсу «Спадчына» — Беларускі саюз музычных дзеячаў. За Гран-пры ў розных катэгорыях спаборнічаюць навучэнцы сярэдніх агульнаадукацыйных школ, музычных аддзяленняў ДШМ, этнашкол, ДМШМ, гімназій-каледжаў, вучылішчаў культуры і мастацтваў, музычных вучылішчаў і каледжаў, студэнты ВНУ культуры і мастацтваў, маладыя спецыялісты да 30 гадоў. Лепшыя з лепшых выступяць 28 красавіка ва ўрачыстым гала-канцэрце.

Андрэй КОЗЕЛ

# ПРАЗ ЛЮСТЭРКА

## ТРАМВАЙ

Трамвай ляціць, сняжынкі б’е,
Цікуеш снег ты праз акно.
І шэнціць мне! Шанцуе мне:
Як добра, што не на метро.

Напэўна, не — не падыду:
Не хопіць смеласці як след…
Патрэбных слоў я не знайду! —
Нібы спусцеў мой моўны свет.

А я б сказаў табе так шмат!
Пра гэты дзень, сябе, людзей…
Ды моцна так — мацней ў стократ —
Так рвецца сэрца ад грудзей.

Ужо на працу не паспець!
А можа, больш яе няма?!
Цяпер глядзець, давай глядзець
У вочы лепшага нам дня!

Трамвай ляціць, і снег — у такт.
Наўкола — звонкае святло!
І ладна як, і добра так,
Што гэты раз не на метро.

## НЕБА

Я спяшаюся.
Нехта тузае ў спіну мяне,
каб я не спыняўся,
ішоў, хваляваўся;
каб я забыўся
на тое, што было раней;
каб я глядзеў
толькі наперад!



***Андрэй Козел нарадзіўся 8 кастрычніка 1987 года ў пасёлку Новагарадзейскі Нясвіжскага раёна. Па адукацыі — настаўнік, журналіст. Працуе ў раённай газеце «Нясвіжскія навіны». Вершы піша, калі яны пішуцца. Галоўная жыццёвая мэта — заставацца чалавекам у любых абставінах.***

Нехта крычыць —
«Ні кроку назад!»
І сэрца б’ецца
Гэтаму ў такт.

Я прашу ў неба
палёгкі,
прашу спыніцца,
каб стала лягчэй.
А неба цяжкое і лёгкае,
блакітнае і чорнае,
маё і не толькі.
І словы яго:
«Хутчэй!»

**ПРАЗ ЛЮСТЭРКА**

У люстэрку — будучае і былое:
вялікі і маленькі;
худы і таўшчэзны;
бялявы і цёмны;
вясёлы і змрочны;
са слязьмі і з усмешкай;
у дзяцінстве і сталы;
шчыры, хлуслівы;
гнеўны, пагардлівы;
засмучаны і не толькі;
свой і нічый;
каханы і зусім не;
той, хто кахае,
і таксама нішчыць любоў;
адзінокі, шчаслівы —
я!
І як быццам не я…

* * *

Рыжае сонца
цягне цень:
дае дарогу ночы.

* * *

Натоўп каля ганка
Незнаёмай бабулі:
З сумам пераступаю
Праз высланыя сцежкай
Лапкі елак.

* * *

Няма куды дзецца:
шукае прытулку
апалы восеньскі
ліст.

* * *

Сярод старых
маленства рэчаў
адшукаў стары
свой ровар.
Ён здаецца
нейкім іншым?
А, можа, я
ужо другі?..

* * *

На дарозе,
дзе калісьці
крочыў на ручай
з сябрамі, —
жыта буйна каласіцца!
Знікла сцежка
ў дзяцінства.

* * *

Летні вечаровы вецер
амаль не чутны:
уздыхае —
што не паспеў
за дзень…

* * *

Амаль зраўняўся ходнік
з асфальтам:
няўжо настолькі стаў стары?

* * *

Днём хацелася заснуць.
Лёг. Задумаўся пра жыццё —
знік сон:
жыццё цікавей?

**УСЁ**

Усё мае свой тэрмін...
У кожнага ёсць штамп: «годны да»...
Усё мае свой час:
кожнае дрэўца, якое шуміць лістотай,
кожная травінка, што напіваецца расою,
кожны чалавек, які любіць жыццё...

І я тулюся да дрэва, пакуль яно не струхлела;
я гладжу траву, пакуль яна не стала сенам;
я малюю неба, пакуль яно ёсць у мяне;
я гуляю ў жыце, пакуль яно не стала пожняй;
я абдымаю чалавека, які пасміхаецца мне зараз...

Мне шкада ўсяго жывога.
Я спачуваю Сіле,
што забірае ўсё жывое,
што не бачыць прыгажосці,
што не можа ведаць, што такое страта...

**КРОК**

У памкненні ісці — бачу пачатак.

Кожны крок наперад — зараджэнне Новага.
Кожны крок назад — перажытак Старога.
Секунды складуць хвіліну,
Хвіліны ператворацца ў гадзіну,
Тыдні перарастуць у год.
Кожны год вакол сябе збірае безліч
Такіх, як сам, да сябе падобных,
Утвараючы стагоддзі...

І толькі чалавечы крок — жыццё!



Ала ДАРАШЭНКА

# ЁН, МОРА, ЗЯМЛЯ ДЫ НЕБА

*Апавяданне*



***Ала Дарашэнка нарадзілася 11 снежня 1990 года ў Гомелі. Студэнтка чацвёртага курса філалагічнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францыска Скарыны. Член рэдкалегіі гомельскай школы «Малады Літаратар». Друкавалася ў рэспубліканскай і абласной перыёдыцы.***

У гэты дзень усё пачыналася так, як і заўсёды... Яны доўга ішлі па сцежцы парку, моўчкі трымаючыся за рукі. Наваколле ахутвала вячэрняя цішыня. Іншы раз здавалася, што ў гэтай цішыні больш сэнсу і глыбіні, чым у сотнях, тысячах слоў, якія нічога не азначаюць. І яны гэта разумелі, сціскаючы мацней далоні адно аднаго. Пасля доўгага маўчання яна павярнулася да яго і сказала, нібы завяршыўшы іх маўклівы дыялог:

— Паглядзі, мая сукенка колеру начнога неба! Табе ж падабаецца неба, асабліва начное.

— Але ж... Але... — ён не мог больш вымавіць ані слова, толькі глядзеў уверх, на неба, якое сапраўды было аднаго колеру з сукенкай.

Затым, не адрываючыся, ён доўга глядзеў у яе вочы так, як звычайна на неба, нібы знайшоўшы ў іх нейкае падабенства. Потым ціха прамовіў:

— А хочаш, я пакажу табе, як выглядае сапраўднае начное неба? Не гэта. Ты яго ніколі не бачыла.

— Так, хачу! — радасна і не задумваючыся адказала яна.

— Тады хадзем са мной, хадзем! — усклікнуў ён.

Невядома, колькі яны ішлі... Гадзіну ці дзве... Датуль, пакуль яркія агні начнога горада не ператварыліся ў мігатлівую аблачыну, якая адыходзіла ўсё далей за гарызонт. Ён папрасіў яе не паднімаць галавы і не глядзець на неба, пакуль сам не скажа зрабіць гэта. Ён хацеў адвесці яе ў адасобленае, утоенае ад чужых вачэй месца, якое знайшоў і пра якое больш ніхто не ведаў... Тут ён часта глядзеў на неба да таго дня пакуль не сустрэў яе.

Ён хацеў, каб неба паўстала перад ёй ва ўсёй веліччы, усеянае мільярдамі зорак, сузор'яў...

Асабліва яму палюбілася адна зорка, якая свяцілася з паўднёвага боку небасхілу. Яна яму падабалася не таму, што была ярчэйшая і прыгажэйшая за іншыя. Яна заўсёды знаходзілася на адным і тым жа месцы. Зоркі звычайна мяняюць сваё становішча на небасхіле, а некаторыя з іх і зусім знікаюць. А тая зорачка заўсёды, у любую пару

года, была на адным і тым жа месцы, нібы яна ззяла толькі для яго аднаго... Кожную ноч ён прыходзіў і глядзеў на яе, а яна на яго. Раніцай, калі пачынала світаць, зорка павольна згасала...

«Мне пара», — чытаў ён у павольным яе знікненні.

«Я буду чакаць цябе заўтра», — прамаўляў ён сам сабе.

«Я вярнуся, ты ж ведаеш», — адказвала яму зорка, канчаткова знікаючы з небасхілу.

Хлопец прыходзіў на гэтае месца ў наступную ноч зноў і зачаравана глядзеў на сваю зорку, а яна свяціла для яго. Але аднойчы яго зорачка раптам сарвалася са свайго ўлюбёнага месца на небасхіле і пакацілася ўніз, загараючыся ўсё ярчэй. Калі яна наблізілася да зямлі, то заблішчала так моцна, што па яркасці сваёй магла б зацямніць Сонца. Праз імгненне зорка знікла, і непраглядная цемра засталася вакол хлопца. Ён, не верачы ў тое, што здарылася, у чаканні цуду падняў галаву ўверх, жадаючы ўбачыць яе на звыклым месцы, але зоркі не было...

На наступны дзень ён сустрэў дзяўчынку...

Калі яны дабраліся да гэтага чароўнага месца, хлопец акуратна павярнуў яе твар да мора і прамовіў:

— Глядзі, каханая, вось яно, начное неба, сапраўднае начное неба. Глядзі, мілая!

Тое, што дзяўчына ўбачыла, не паддавалася ані пачуццям, ані розуму. Яе адчуванні захлынуліся ва ўбачанным. Перад ёю паўстала незабыўнае грандыёзнае відовішча: цьмяныя агеньчыкі далёкіх зорак, бліскучыя зорныя аблокі, палосы і шары. Адчуванне бясконцасці і магутнасці Сусвету... Ёй хацелася крычаць! Але на самай справе яна толькі ледзь варушыла вуснамі.

Невядома, колькі б часу дзяўчына так прастаяла, калі б не хлопцава рука, якую ён апусціў ёй на плячо. Цішыня вакол была такой глыбокай, што яны маглі чуць біццё сваіх сэрцаў.

— Каханая, а хочаш, я табе раскажу гісторыю пра Неба, Мора і Зямлю? — ціха прамовіў ён, углядаючыся ў начную далячынь.

— Канешне! — усклікнула яна, паднімаючы вочы ўверх.

— Кажуць, што калі з'явілася Неба, то Зямля і Мора ўжо даўно існавалі і былі разам. Спачатку Зямля была гарачай і неспакойнай, астудзіць яе маглі толькі высокія хвалі Мора. Але з часам яна пачала астываць, а Мора станавілася ўсё больш спакойным, бо вецер, які дзьмуў на Мора з Зямлі, слабеў з кожным днём. А ў гэты час Неба, якое заўсёды было вельмі высока і не магло бачыць ні Мора, ні Зямлю, вырашыла апусціцца ніжэй. І тады Неба ўгледзела Мора, якое лашчылася ў сваім спакоі. У Моры Неба ўбачыла сваё адлюстраванне. І яно ўсё часцей і часцей пачало апускацца ніжэй, каб паглядзець на бяскрайняе Мора. Часам, калі Зямлю ахутвала смуга, Мора паднімалася да Неба, каб пабыць нейкі час з ім, але потым заўсёды вярталася дамоў дажджом ці снегам. Ты мяне слухаеш, каханая? — раптам перапыніў расповед хлопец.

— Так, так, працягвай, — усё яшчэ не адрывала погляд ад неба дзяўчына. — А далей што здарылася?

— А далей Неба пакахала Мора. Чыстым, узнёслым каханнем... І зразумела, як гэта хораша кахаць кагосьці. Кожную ноч Неба запальвала для Мора мільёны зорак і сузор'яў, а ўдзень — сонейка. Часам яно дзялілася сваімі зоркамі з Морам, дарыла іх яму. Людзі назвалі гэту з'яву зарападам.

— І як жа паступіла Мора? Яно паднялося да Неба? — запытала дзяўчына, кідаючы ў мора маленькі каменьчык.

— Мора? Яно засталося з Зямлёй. Бо не магло яе кінуць...

— А Неба працягвала дарыць Мору свае зоркі, ведаючы пра гэта?

— Так!

— А навошта яно гэта рабіла?

— Не ведаю... Напэўна, у знак падзякі, што Мора навучыла яго кахаць.

— Прыгожая гісторыя. Цікава, калі б я была Морам, кім бы тады быў ты? — летуценна прамовіла паненка.

Хлопец нічога не адказаў, толькі пяшчотна правёў па яе шчацэ далонню. Потым павярнуўся тварам да мора і сказаў:

— А ведаеш, за дзень да таго, як мы сустрэліся, я часта, амаль кожную ноч, прыходзіў сюды і глядзеў на неба, на зоркі. Асабліва мне падабалася адна зорка, якая свяцілася на паўднёвай частцы небасхілу, — ён паказаў на тое месца, дзе раней зіхцела ягоная зорка, — але яна знікла, упала. Можа, і яе Неба вырашыла падарыць Мору? — усміхнуўся хлопец.

Адказу не пачуў.

— Вось там яна раней блішчала, — паўтарыў хлопец, павярнуўшыся, каб абняць дзяўчыну і прытуліць да сябе. Але ягоная рука знайшла толькі пустату. Нікога не апынулася побач. І толькі свіст халоднага ветру і пошум марской хвалі парушалі цішыню. Хлопец шукаў каханую, клікаў, крычаў, але ніхто не азываўся... Вакол нікога не было... Толькі ён, мора, зямля і неба. Хлопец узняў галаву і... убачыў зорку на ранейшым месцы, на паўднёвай частцы небасхілу...



Эдуард ГРАКОВІЧ

# НЕ СЛАБНЕ ІСЦІНЫ СВЯТЛО

## КАБ ЗАРАЗ РАДАСНЕЙ БЫЛО

Імгненнай зменаю падзей
Мы смутак па мінулым лечым.
Нярэдка і няўдалы дзень,
Як праміне — здаецца лепшым.

Усё нутро тваё кіпіць,
І ты, засмучаны няўдачай,
З сябе самога мусіш кпіць:
«Я ж мог зрабіць зусім іначай».

Хоць час маланкава бяжыць,
Не трэ ўздыхаць, што ён нячулы.
Хто ўмее часам даражыць,
Той не смуткуе па мінулым.

Не ўсім даводзіцца спазнаць
Сівую, згорбленую старасць,
Аднак чыясьці сівізна
Тугу прадказвае нам зараз.

Не слабне ісціны святло,
Хай і смяротныя зямляне.
Каб зараз радасней было,
На сёння з будучыні глянем.

## ПАТОМНЫ ВЯСКОВЕЦ

Стары панадворак — куточак мой крэўны.
Жыву і не мару пра быт гарадскі,
Няхай і абразлівым словам «дзярэўня»
Мяне дакаралі мае ж сваякі.

З такім «прыніжэннем» я здолеў ужыцца —
Вавек не патрэбны мне іншы парог.
З павагай да продкаў і долі мужыцкай
Я працы сялянскай зрачыся не змог.



***Эдуард Гракoвіч нарадзіўся 27 мая 1951 года ў Мінску. Працуе на Мінскім заводзе аўтаматычных ліній. Вершы друкаваліся ў часопісах «Полымя», «Маладосць», газетах «Літаратура і мастацтва», «Звязда» і іншых. Аўтар зборнікаў паэзіі «Няхай гарыць свечка ў святліцы», «Залатая вербачка».***

Які б тут «разумнік» мяне не судзіў бы,
Мне прыкладам служаць бацькі і дзяды.
Спакойна працую на ўласнай сядзібе
І з гэтага маю нажыткі заўжды.

## У СЕНЦАХ

Тры сценкі з тоненькіх бярвенцаў.
Два невялікія акны.
Ну вось і выспаўся я ў сенцах,
Дзе лёгкі пах сухой сасны.

Нядаўна дробны дожджык капаў —
Пакінуў кропелькі на шкле.
А зараз нават і канапа
Сваё вітанне сонцу шле.

Не трэба мне на працу сёння,
І сон, між іншым, добры быў.
Няхай яшчэ крыху падсохне —
Падамся ў лес збіраць грыбы.

## І СЭРЦУ МІЛАЕ, І СЛЫХУ

Ліловы захад дагараў.
Над вёскай зорны вечар браўся.
Нябачны мне раяль іграў
Другі венгерскі танец Брамса.

Павабна песціла мой слых
Чароўных гукаў беззаганнасць.
Мне чуўся шэпт у гуках тых:
«Жыві, славуты Іаганас!»

Пачуўшы тое, што любіў,
І сэрцу мілае, і слыху,
Я шчыра ўдзячны Брамсу быў
І разам з тым хваліў музыку.

## НЕ СУМУЙЦЕ, ГЕРОІ ЗАБЫТЫЯ

Не сумуйце, героі забытыя, —
Ажываеце ў памяці вы.
Мы сягоння ліцвінаў не блытаем
З жыхарамі замежнай Літвы.

Шмат усё ж пад нязвыклымі назвамі
Ёсць загадак на нашай зямлі.
Голас праўды тлумачыць, падказвае,
Хто свае, хто чужыя былі.

Колькі слаўных імён не шануецца —
Іх нанова патрэбна адкрыць,
Называць імі плошчы і вуліцы,
У паэмах аб іх гаварыць.

Наша самая простая грамата —
Даражыць, чым бацькі даражаць.
Пра айчынных герояў не памятаць —
На бясслаўе сябе асуджаць.



*Людміла РУБЛЕЎСКАЯ*

# ГІСТОРЫЯ ПАНІ

## Я І ШТУЧНЫЯ КВЕТКІ

Вядома, я не люблю штучныя кветкі.

Гэта ж кіч, безгустоўнасць, якая не пасуе паэтцы — самая някідкая жывая раслінка вытанчаней за самую яркую штучную...

Але за сваё жыццё я паспела іх нарабіць не адну валізу.

Кожную вясну мая бабуля з сястрой выбіраліся ў вёску Люці на Пухаўшчыне. Побач, у вёсцы Бор, могілкі, на якіх пахаваны мае продкі па бабулінай лініі — у тым ліку ў агульнай магіле попел адзінаццаці Часлаўскіх, сям'я маёй бабулі, спаленая фашыстамі. На Дзень Перамогі належала ўскласці туды вянкі...

Бабуля Паліна з сястрой Вольгай самі рабілі кветкі для вянкоў. Для гэтага закуплялася гафрыраваная папера розных колераў, дрот, парафінавыя свечкі... З шорсткай паперы, складзенай шмат разоў, выразаліся пялёсткі розных памераў: для руж — белыя, крэмавыя, ружовыя, у форме падоўжаных сардэчак, для званочкаў — сінія «зубчыкі», для цюльпанаў — круглыя, чырвоныя і жоўтыя... Кончыкі пялёсткаў для руж накручваліся на вязальную спіцу, потым з дапамогай лыжкі сярэдзіна пялёстка расцягвалася чоўнікам... На кончык дроту накручвалася жоўтая папера, каб утварыць сарцавіну, затым адзін за адным накладаліся пялёсткі, звязваліся ніткай... Потым дрот хавалі пад зялёнай паперай.

Наш вянок павінен быў выглядаць лепшым за вянкі іншых, няхай яны і купленыя! Мы працавалі ўсёй сям'ёй, вечар за вечарам, каляровыя ашмёткі разляталіся па пакоі, быццам у «хрушчобе» адгуў пышны карнавал... Часам я стварала кветку-гібрыд, аналагаў якой у прыродзе не мелася — бабуля такую вольнасць збракоўвала... Калі кветкі былі гатовыя, у рондалі растапліваліся парафінавыя свечкі, у паўпразрыстае рэчыва акуналіся бязважкія ружы, цюльпаны, званочкі — пры гэтым яны, як я лічыла, гаршэлі, трацілі вытанчанасць, лёгкасць, затое набывалі трывушчасць — сумны абмен, які адбываецца і з усім жывым...

Кветкі абсыхалі на разасланых газетах, як маленькія муміі. Гатовыя мы складвалі ў шэры дэрмацінавы



***Людміла Рублеўская нарадзілася 5 ліпеня 1965 года ў Мінску. Працуе аглядальнікам аддзела культуры газеты «СБ: Беларусь сегодня». Аўтар кніг «Крокі па старых лесвіцах», «Адукацыя», «Сэрца мармуровага анёла», «Старасвецкія міфы горада Б.», «Авантуры Пранціша Вырвіча, шкаляра і шпега».***

чамадан і ехалі ў вёску. Бабуля жартавала — вось, нехта падумае, багатыя, колькі гасцінцаў вязуць!

На гэтым рытуал не заканчваўся. У вёсцы мы ішлі ў лес, які называўся «Белая Лужа». Там ірвалі дзеразу — не ведаю, як яна па-навуковаму завецца, яе светла-зялёныя пухнатыя гірлянды сцяліліся па зямлі, чапляліся кволымі карэньчыкамі за глебу... Дзераза і ядловец павінны былі служыць фонам для кветак.

Успомніла адзін з апаведаў з блакітна-бэзавага нумара часопіса «Новый мир», а можа, з часопіса «Масква» — іх у нас была цэлая падшыўка, уся адліга — канец 1950-х—1960-я. Гэтая падшыўка — пра што не перастану шкадаваць ніколі — аднойчы была здадзена ў макулатуру ў абмен на талончык на атрыманне страшэнна дэфіцытнай кнігі Аляксандра Дзюма-старэйшага «Графіня дэ Мансаро». Дык вось, у тым апаведзе расказвалася, як рэпрэсаваны інтэлігент пасля рэабілітацыі вяртаецца да былога жыцця, у Маскву, ягоныя сябры ўчыняюць урачыстую сустрэчу... І нядаўні зэк дорыць свецкай красуні, у якую быў закаханы доўгія гады і якой заўсёды дарыў ружы, букет... Дама з жахам усведамяе, што кветкі — штучныя... Для яе гэта знак, як дэградаваў яе былы бліскучы, далікатны кавалер, страціў густ... Яна хавае бязважкія кветкі ў шафу, спрабуе схаваць расчараванне... Развітваючыся, госць пытаецца, няўжо ёй не спадабаліся кветкі? Дама не вытрымлівае і амаль са слязьмі кажа: ну як жа, яны ж... штучныя... папяровыя... А госць узрушана тлумачыць: не, яны не папяровыя, яны са стружак, з таго лесапавалу, дзе адбываў пакаранне... Майстраваў у перапынках між знясільваючай працай, думаючы пра сваё далёкае каханне...

Усе ружы свету не былі вартыя таго букету, які захаваў пах сібірскай драўніны.

Не ведаю, ці мог быць які вянок з пластыкавых елачак даражэйшы за тыя, нашыя, самаробныя? Хаця ведаю, што бабуля саромелася «самаробнага». Неяк вельмі ўзрушылася, што я сама сабе пашыла лялькі — як паказвалі ў перадачы «Зрабі сам». А раптам хто пабачыць і вырашыць, што па беднасці не могуць дзіцёнку ў краме ляльку купіць! І вянкі яна б, напэўна, ахвотней набывала куплёныя — але ж не на пенсію ў дваццаць восем рублёў...

А вось на пахаванне бабулі я не патрапіла.

Радня наша нешматлікая і не блізкая, і ўсе, хто змог прыехаць, паехалі забіраць памерлую бабулю з бальніцы. Мама ніякіх сяброўак і сардэчных суседак не мела, і мяне пакінулі адну рыхтаваць пахавальны стол. У дзевятнаццаць гаспадарчыя мае здольнасці абмяжоўваліся падзабытымі школьнымі ўрокамі працы і ўменнем адкрыць бляшанку кансерваў. Тым не менш салаты я падрыхтавала, нарэзала, што трэба было нарэзаць, вось толькі з катлетамі — асноўным блюдам стала — атрымаўся аблом. Пакуль бабуля магла, кухня была на ёй... І катлеты ў яе атрымліваліся адмысловыя — і не падгарэлыя, мяккія, і чорнага колеру. Вось і я, плачучы, пякла катлеты і чакала, пакуль яны стануць чорнага колеру, як у бабулі... Але яны толькі змяншаліся ў памерах... Пакуль не сталі з грэцкі арэх. Затое амаль чорныя.

І вось скажыце, трагічны які эпізод жыцця, а памятаюцца перш за ўсё тыя няшчасныя катлеты...

А вянок з уласназробленых кветак я так для бабулі і не падрыхтавала. І цяпер на Радаўніцу, на Дзяды, купляем стандартныя шыкоўныя вянкі...

## Я І МАТЛЮБА

Калі мяне засялялі ў інтэрнат Літаратурнага інстытута, хлопец, які выконваў абавязкі каменданта, спытаўся, з кім бы я хацела жыць, бо першакурснікаў сялілі па двое. Сяброўстваў у мяне пакуль не склалася, і я, напалоханая чуткамі пра тутэйшыя багемныя норавы, запатрабавала: хачу жыць з ціхай, спакойнай дзяўчынай.

— О! Тады гэта Матлюба! Яна дужа спакойная!

Мяне трохі «драпануў» іранічны тон суразмоўцы — ці няма тут падазронай падбіўкі? Але камендант горача пацвердзіў, што дзяўчына вельмі прыстойная. І хуценька выдаў мне ключ, нібыта баяўся, што я перадумаю.

Матлюба аказалася ўзбечкай. Першае, што мне належала запомніць, — націск у яе імені падае толькі на другі склад.

Другое, што мне належала ведаць, — Матлюба любіць акуратнасць. І мае намер змагацца за тое, каб нашаму пакою было нададзена званне ўзорнага.

Сярод маіх шматлікіх вартасцей акуратнасць ашываецца дзесьці на апошніх пазіцыях, амаль дэградуючы ў сваю супрацьлегласць. Але я гераічна згадзілася мыць падлогу праз дзень, у чаргу з аднапакойніцай, прабачце за некрафільскі наватвор.

Калі суровая Матлюба даведалася, што я з Беларусі, і да таго ж пішу па-беларуску, яна палагаднела. І нават дастала са сваёй валізы сукенку, каб параіцца, як можна гэты ўбор выратаваць. Я са здзіўленнем убачыла, што да моднай летняй сукеначкі са светлага трыкатажу прышыты кароткія неахайныя рукавы са штучнага шоўку, якія, калі сукенку мылі, зафарбавалі частку светлай тканіны. У тонкасцях дамаводства я разбіралася кепска, парадзіць нічога талковага не магла, але не вытрымала, каб не папытацца: навошта было псаваць прыгожую сукенку, прышываючы недарэчныя рукавы? Аказваецца, узбекская дзяўчына не можа хадзіць у сукенцы без рукавоў. Тады я канчаткова зразумела, што нават у Савецкім Саюзе, дзе дружба народаў была манументальнай, як Радзіма-Маці на беразе Дняпра, існуе заўважная рознасць менталітэтаў. Дарэчы, і манумент Радзімы-Маці ўнутры пусты, а зусім не з маналіту, і там поўна розных памяшканняў.

Так мы сталі жыць з Матлюбай.

Яна была дачкой узбекскага начальніка, але ў Літаратурны інстытут патрапіла насуперак бацькоўскай волі. Пісала дужа сур'ёзную прозу на сацыяльныя матывы і любіла гэта рабіць па начах. Узятая напракат машынка-друкарка «Масква» грымела, як штампавальны станок, я дарэмна спрабавала затыкаць вушы...

А аднойчы раніцай нас пабудзіў стук у дзверы — за нечым прыйшоў узбекскі паэт, наш аднакурснік, які дагэтуль ніяк не аб'яўляўся...

Як Матлюба перанялася! Я ніколі не бачыла яе такой усхваляванай. У маёй заўсёды ўраўнаважанай, упарта-зацятай суседкі ажно рукі трэсліся... «Ганьба! Ганьба!» — паўтарала яна, кідаючыся па пакоі ў пошуках адзежы.

Аказваецца, для ўзбекскай жанчыны ганьба, калі мужчына прачнуўся раней за яе. Дарэмна я даводзіла, што сёння выходны, а ейны зямляк прыйшоў так рана, што яшчэ ўвесь інтэрнат спіць... Мне не было дадзена зразумець тонкасці ўсходняга этыкету.

А калі да Матлюбы прыйшоў яшчэ нейкі зямляк, яна папрасіла мяне, пакуль будзе займаць яго размовамі, падрыхтаваць пачастунак. А менавіта бульбу. Матлюба, безумоўна, свята верыла, што ў беларусак проста ў генах закладзена ўменне гатаваць бульбу, як у чукчаў уменне лавіць рыбу і шыць адзежу са скураў, і мы з дзяцінства, як апісваў Яўген Еўтушэнка ў сваёй паэме, яшчэ хадзіць не ўмеючы, поўзаем у барознах з заціснутымі ў кулачках бульбінамі...

Як мая суседка памылілася! Я, вядома, бадзёра пацвердзіла чуткі пра рытуальнае бульбяное ўмельства беларусаў, сяк-так начысціла і парэзала Матлюбіну бульбу і кінула на патэльню.

Бульба згарэла, як англійскі каланіст на афрыканскім сонцы. Мяне гэта зусім не засмуціла, я не бачыла нічога заганнага ў падгарэлай бульбе, таму прынесла патэльню, над якой віўся шызы смярдзючы дымок, у пакой і ўрачыста паставіла на стол.

Усходні госць і Матлюба падазрона пакалупалі няроўныя лусцікі з чорнымі бакамі і вярнуліся да талеркі з курагой... А я — нічога, адклала сваю долю ды з’ела.

Пасля гэтага Матлюба западозрыла, што я ці няправільная беларуска, ці зусім не беларуска, а так, вочы зацярушваю. Асабліва абвастрыліся падазрэнні пасля таго, як я абвесціла, што і да мяне прыйдзе зямляк-паэт, і мы будзем размаўляць з ім па-свойму. Матлюба спецыяльна засталася, каб паслухаць экзатычную беларускую мову.

Мы з госцем, маім будучым мужам паэтам Віктарам Шніпам, пілі завараную ў імбрыку гарбату і сапраўды размаўлялі на беларускай мове. Я была шчаслівая: варта прыехаць у Маскву, каб знайсці, з кім паразмаўляць па-беларуску! Матлюба сядзела і ўважліва слухала.

Калі мой госць пайшоў, суседка пагардліва спытала, чаго ж гэта мы гаварылі па-руску?

На жаль, Матлюба не вельмі добра ведала рускую мову, і, падобна, асаблівасці беларускай былі для яе няўлоўныя. Давялося нешта мармытаць пра падабенства славянскіх моў... Але яшчэ ніхто і ні ў чым не змог пераканаць маю суседку.

Я прапускала сваю чаргу мыць падлогу (навошта кожны дзень?), і наш пакой ніяк не заваёўваў званне ўзорнага. Я абы-як кідала свае рэчы, бегала па тэатрах і выстаўках...Ключ у нас быў адзін на дваіх, Матлюба злавалася, што я яе буджу, позна вяртаючыся.

А пасля Матлюба знікла.

Прыйшла я з чарговага тэатра, а дзверы нашага пакоя замкнёныя.

Грукала я, грукала ў іншыя... Дарэмна. У поўным адчаі я бегала па інтэрнаце і шукала Матлюбу — на дыскатэцы ў актавай зале, у землякоў, у аднакурснікаў... Бачылі, кажуць, была...

Урэшце я пераначавала ў грузінскай паэткі, далікатнай арыстакратычнай прыгажуні, якая жыла адна і, пабуджаная ў гадзіну ночы, без ваганняў пусціла мяне.

Раніцай у нашым пакоі мяне сустрэла Матлюба строгім пытаннем: «Дзе ты была?»

Дзе была сама Матлюба ў тую ноч, я так і не даведалася — магчыма, у мэтах майго перавыхавання яна пераначавала менавіта ў той сваёй сяброўкі, дзе мне таксама не адчынілі.

У хуткім часе мы з Матлюбай да агульнага задавальнення раз’ехаліся.

## ЯК МАЯ СЯБРОЎКА ТАПІЛАСЯ Ў СВІСЛАЧЫ

Пісьменнік павінен назіраць за людзьмі, як паэт Купрэеў за жыццём мурашніка. Ісці ў самыя небяспечныя і недалікатныя месцы, як Эміль Заля хадзіў у бардэль і там, хаваючыся за парцьерамі, рабіў зацемкі... Галоўнае памятаць, што, каб апісаць лужыну, не абавязкова ў ёй выкачацца.

Гэта я засвоіла з юнацтва. Таму імкнулася назапашваць уражанні дзеля будучых твораў, калекцыяніраваць «тыпы» і «характары», і сярод маіх сяброў з’яўляліся нечаканыя персоны. Мая аднакласніца паступіла ў ПТВ, аднойчы я выпадкова сустрэ-

лася з ейнай аднагрупніцай і абрала яе чарговым «аб'ектам», бо з такімі раней не сябравала. Ала прыехала з далёкага гарадскога пасёлка. У яе быў крамяны круглы твар і шырокая сялянская костка. Пры кожным зручным выпадку Ала прамаўляла: «Скрупулёзно подмечено!», называла мяне: «Хорошая ты баба!» і шчыра захаплялася гарадскімі рэаліямі. Прымала за праўду ўсё, што заўгодна, і я магла адпрацоўваць на «аб'екце» ўласнаснага сачынення міфы і беспакаранна «сцябацца». Вядома, Ала пакорліва хадзіла са мной, куды б я ні павяла.

Аднойчы пэтэвэшнікам задалі рабіць курсавую з чарцяжом нейкай дэталі, а чарціць пэтэвэшнікі не ўмелі. Я вучылася ў архітэктурна-будаўнічым тэхнікуме, і Ала звярнулася да мяне.

Вядома, я мусіла працаваць не за так. У ПТВ мелася пэўная «такса»: бутэлька віна.

Я накрэсліла дэталь у патрэбнай перспектыве, і Ала прыйшла расплочвацца. Яна купіла бутэльку «чарніла» пад назвай «Солнечное». Мы селі на кухні і, закусваючы рыбай гарачага вэнджання, вельмі хутка «чарнілку» дапілі.

Болей ніколі ў жыцці мне не ўдавалася заліць у сябе столькі «чарніла», і дзякуй Богу.

Чаму б не працягнуць далейшае заглыбленне ў нетры прафаннага жыцця? Мы пайшлі ў краму і купілі яшчэ адну бутэльку. З цяжкасцю цяпер верыцца, але гэта быў партвейн. І я пацягнула Алу на Кальварыйскія могілкі з тым самым пачуццём, як Рэмбо ці Бадлер ішлі ў курыльні опіуму ў парыжскіх трушчобах.

Тады могілкі былі зусім недагледжаныя, зарослыя, мы выбралі магілу, дзе стаяла лаўка ў атачэнні кустоў, і... Мой дзявочы арганізм болей алкаголю не прымаў. Ала, як і чакалася, была больш трывушчай... Я ж вылівала сваю порцыю на магілку з самымі лепшымі пачуццямі да незнаёмага нябожчыка.

Вечарэла... Не пытайцеся, якімі шляхамі мы апынуліся ў парку імя Горкага, я не памятаю. Майская ноч падміргвала скрозь цёмную лістоту ўсімі ліхтарамі. Чорныя хвалі Свіслачы здаваліся таямніча глыбокімі... У такую пару да мяне звычайна прыходзілі вершы, але рамантычны настрой псавала Ала. Мая сяброўка зусім усхадзілася, у ёй прачнулася гэткая зухаватасць, яна пачынала то гайдацца ў бакі, то крычаць нешта захопленае. Асабліва ёй спадабаўся мост цераз Свіслач, там, дзе гэткі невялічкі вадаспад.

— А вось я туды скочу! — гарлала пэтэвэшніца. Яназірала і пасмейвалася. А яна раптам схапілася за парэнчы і давай перагінацца ўніз.

Я зразумела, што жарты скончыліся. Ала з дзікім рогатам ірвалася ўніз, цягнула рукі да шумлівага віра... Ніякія словы ўжо не даходзілі. Пачала адштурхоўваць яе... Але Ала была мацнейшай за мяне. Я ў роспачы азіралася: паблізу нікога... Цёмна... Звалімся ў ваду — ніхто і не заўважыць. А я плаваць не ўмею... Назаўтра толькі знойдуць целы... Да таго ж вярэдзіла пачуццё віны — наэксперыментавалася. Я схапіла Алу за пас джынсаў і проста павісла на ёй усім сваім цяжарам, колькі яго там ува мне было.

Колькі доўжылася тая тузаніна, не памятаю... Але адпускаць Алу я не збіралася. Урэшце мы абедзве паваліліся на асфальт.

Ала рагатала і абсалютна не ўяўляла, што з ёй магло толькі што здарыцца. Я нечым звабіла яе падалей ад моста, ад ракі, сяк-так вывела на праспект і пасадзіла на тралейбус. Здаецца, яна трохі працверазела, таму што да інтэрната дабралася.

Але болей я з ёй не сустракалася. І «чарніла» піць не магу. І выкарыстаць назапашаныя ў зносінах з Алай назіранні так і не давялося. Вось гэта — першы раз нешта згадала.

## Я І ДАЧКА СІБІРСКАГА ЗЛОДЗЕЯ

Пасля ўзбечкі Матлюбы маёй суседкай па пакоі інтэрната Літаратурнага інстытута стала сібірачка Ларыска. Яна была дробная, як дзіця, з кароткай хлапечай стрыжкай, у вялікіх акулярах, сёння сказалі б — як у Гары Потэра. Затое Ларыска нібыта ўся была зроблена з нейкага напятага, цвёрдага матэрыялу, здавалася, варта дакрануцца да яе — атрымаеш у адказ бязлітасны ўдар распрастанай спружыны. Родам мая суседка была з горада Курган і вельмі ганарылася сваімі землякамі. Адзін — знакаміты доктар-артапед, які прыдумаў адмысловыя прыборы для выпраўлення костак, даволі жудасныя з выгляду — косткі працінаюць спіцамі. Другі — вядомы сцэнарыст, сябра Уладзіміра Высоцкага. Трэці — пісьменнік-русафіл, спецыяліст па вар'ятнях. Пра сябе Ларыска з гонарам гаварыла: «Я — дочь вора!» Паколькі яна дужа картавіла, сцверджанне гучала вельмі пераканаўча. Бацька Ларысы быў сапраўды згублены дзесьці ў сібірскіх лагерах, маці працавала прыбіральшчыцай. Сама Ларыска, пакуль не скончыла бібліятэчны тэхнікум, нейкі час шчыравала са швабрай і з гордасцю заяўляла выкладчыкам: «Я чужыя харчкі падцірала!» Пралетарскае паходжанне ў стылі Максіма Горкага ўхвалялася, і прадугледжвалася, што выкладчыкі, як прадстаўнікі «буржуйскага» класа, павінны прысаромецца і адзнакі выставіць ледзь не аўтаматам...

З расповедаў Ларыскі пра родны горад паўставаў зусім іншы свет, нават у параўнанні з рабочымі кварталамі майго роднага Мінска. Там бязвінным жартам лічылася, калі ўночы між ручкамі дзвярэй кватэр, што знаходзяцца насупраць на лесвічнай пляцоўцы, шчыльна нацягваецца вяроўка, і жыхары не могуць раніцай выйсці. Спрабавала Ларыска і наркотыкі — у іхняй кампаніі далі неяк «малой» укольчык... Яшчэ запомнілася, як нейкая дзеўка з іх раёна па патрабаванні каханага хлопца прынесла даведку, што цнатліўка — тады ажаніўся.

Ларыска, якая знаходзілася ў стане партызанскай вайны з усім светам, захацела, каб мы абавязкова выпрабавалі нешта з арсенала жартаў сібірскай шпаны на насельніках інтэрната. І аднойчы я паддалася свайму містэру Хайду (урэшце, я ніколі і не сцвярджала, што я белая і пухнатая). Шкодніцкаму набегу падлягалі кухні. Найперш кухня на паверсе, дзе сяліліся завочнікі — там не дзяжурылі каля пліт усходнія жонкі ўсходніх пісьменнікаў, ахутаныя выпарэннямі з казаноў і рондаляў. У завочнікаў заўсёды было пуста і непрытульна, перакотваліся ў каструльках бледныя крамныя яйкі ці дыетычныя сасіскі... Пуставала кухня і цяпер. У імбрык, які закіпаў на пліце, адправіўся кавалак зжаўцелага сала, у другі — падгнілая цыбуліна...

Мы са здушаным рогатам вярнуліся ў пакой... Але мой «партызанскі азарт» выветрыўся, бо я ўявіла, як бы сама пачувалася, калі б у маім імбрыку вынайшаўся такі «падарунак»... Той пякучы сорам адчуваю і дасюль. Я адмовілася ад далейшых «подзвігаў», нягледзячы на Ларысчыны ўгаворы, і не ведаю, ці ўтварала яна яшчэ нешта падобнае.

Яшчэ Ларыска ўмела завязваць карысныя знаёмствы. Выгляд у яе быў шкадобны: заморany дзіцёнак-самародак з глыбінкі... Як не падтрымаць? Знайшла ў Маскве земляка-сцэнарыста, той нават вадзіў яе на «халасцяцкую маліну», дзе часта бываў Высоцкі. У чачэнца, які жыў за нашай сцяной, выпрасіла кінжал (паабяцаў, але не прывёз). Зацягнула ў наш пакой маладога ціхмянага індуса Анеля (Літінстытут — гэта ж сапраўдны Бабілён!), каб паваражыў. Анеля ажаніла на сабе руская дзеўка, а сам ён належаў да касты брахманаў, у ягонай радні ўсе ўмелі варажыць, вось і нам з Ларыскай напрадказваў (прынамсі, са мной усё спраўдзілася).

У чым мы сыходзіліся з Ларыскай — дык у нянавісці да «сістэмы». Да адчування сябе шрубчыкам, які шчыльна закручаны ў агульны механізм. Школа — толькі тая, што каля дому, прыём у піянеры — па спісе, тады прыём у камсамол, інстытут, праца па размеркаванні, прахадная, сходы, абавязковыя медагляды (іх Ларыска асабліва ненавідзела)... Выйсце мая суседка бачыла толькі ў замужжы. Розніца была толькі ў варыянтах жаніхоў: дыпламат, святар альбо пісьменнік.

Пісьменнікаў у інтэрнаце хапала, але былі яны, як і мы, пачаткоўцамі, без членскіх білетаў Саюза пісьменнікаў СССР. «Учлененыя» пісьменнікі таксама меліся — на Вышэйшых літаратурных курсах. Але былі яны амаль спрэс лысаватыя, п’янаватыя і жанатыя. Варыянт са студэнтам інстытута міжнародных зносін альбо семінарыстам Ларыска «прабіла» і не раз упрошвала мяне прагуляцца ля ўстановы, дзе рыхтуюць дыпламатаў, альбо з’ездзіць у Загорск, дзе знаходзіцца знакамітая семінарыя. Не ведаю, як справілася б Ларыска з роляю «матушкі», але мяне яе матрыманіяльныя планы не цікавілі — калі выходзіць з сістэмы, дык на «ўласных рэсурсах». Да таго ж я сустрэлася ў Літінстытуце з земляком, паэтам Віктарам Шніпам, ягоныя матрыманіяльныя планы ў мой бок вызначыліся вокамгненна, і мае шпацыры па Маскве і ў беларушчыну не адбываліся насамоце... Відаць, Ларыска вырашыла, што я такім чынам пераўтвараю ў жыццё падказаны ёю план, і вырашыла паспрабаваць свайго шчасця. Калі мяне не было, грукалася ў дзверы Шніпа, прыдумаўшы бяскрыўдную падставу (солі-хлеба пазычце).

Шніп дзяўчыны палохаўся і дзверы не адчыняў.

Між тым у Ларыскі назапасілася «хвастоў» па ўсіх прадметах, асабліва па французскай мове, бо мудрагелістае гарлавое вымаўленне ёй ніяк не давалася, хаця яна і спрабавала дамагчыся яго, засоўваючы паводле парады настаўніцы глыбока ў горла лыжку. Мая суседка пачала бегаць да знакамітых землякоў, да нейкіх чыноўнікаў з Саюза пісьменнікаў, распавядала «пра падціранне чужых харчкоў»... Нічога не дапамагло.

А тут яшчэ і здароўе Ларыскі пагоршылася. Яна пачала кашляць з крывёй і дэманстратыўна паказвала мне насоўку. Да доктара, зразумела, не ішла. А пару разоў я пабачыла, як яна, ведаючы, што прачынаюся пазней за яе і дужа неахвотна, пераводзіла будзільнік, каб я спазнілася... Віктар сказаў, што з гэтым трэба заканчваць — мы падалі заяву ў ЗАГС, і я пераехала да яго.

Што далей з Ларыскай сталася, не ведаю, бо з Літінстытута я перавялася на родны беларускі філфак, стварыўшы патрыятычны прэцэдэнт. Здаецца, маю былую суседку адлічылі... Прынамсі, яе твораў у сеціве не бачыла.

## ЯК МЫ Ў КІЕВЕ НАЧАВАЛІ

У маім савецкім дзяцінстве асабліва карыснымі лічыліся кнігі, якія загартоўвалі волю і выхоўвалі альтруізм. Напрыклад, пра піянераў-падпольшчыкаў, што моўчкі пераносілі страшэнныя катаванні, а потым іх імёнамі называлі вуліцы. У звязцы з ваеннымі кнігамі былі і тыя, што распавядалі пра дзяцей, якія пераадольвалі цяжкія хваробы ў спецбальніцах, інтэрнатах і санаторыях. Помню аповеды пра санаторый для туберкулёзнікаў у Крыме, пра інтэрнат для дзяцей, хворых на раматуз, пра палату дзяўчынак, што лечацца апаратам Елізар’ева, які выпроствае косткі... Маленькія пацыенты змагаліся з болем, у іх былі свае гульні і моцнае сяброўства, так што мне нават хацелася патрапіць на іх месца. Гэта вам не «Чароўная гара» Томаса Мана з філасофскім нагрувашчваннем, а ідэалагічнае выхаванне, даходлівае, як дзягай па

азадку... Галоўнае, я ж сама ў дзяцінстве пакаштавала бальніц і нічога добрага там не бачыла... Розніца паміж рэальнымі бальніцамі і апісанымі ў мастацкіх творах была такой жа, як між кадрамі «Кубанскіх казакаў» і рэальнай калгаснай украінскай вёскай, што зведала галадамор.

Цяжка паверыць, але здараецца, што і рэальныя бальніцы дораць перажыванні карнавальна-літаратурныя...

Клас маёй дачкі адпраўляўся на майскія святы на экскурсію ў Кіеў... Паехалі і многія бацькі. Перад адпраўленнем наша настаўніца папрасіла праверыць, ці ва ўсіх з сабой дакументы. І выявілася, што я замест свайго пашпарта прыхапіла сынаў... Я пакорліва выйшла з аўтобуса. Але наша настаўніца Зінаіда Кірылаўна тут жа арганізавала ратунак: адна з маці была на машыне, мы хуценька зматаліся за пашпартам, і я зноў апынулася ў аўтобусе...

Гэта быў лёс.

Ноч прайшла пад бадзёрае гарланне падрастаючага пакалення.

Ніколі больш не паеду ў начную вандроўку ў аўтобусе, набітым падлеткамі.

Раніцай вабноты Кіева ўспрымаліся трохі паралельна свядомасці, марылася пра той гатэль у цэнтры горада, які нам абяцала турфірма.

Але прадстаўніца турфірмы патлумачыла, што з-за святочных накладак, шыкоўны гатэль пакуль не падрыхтаваны, трэба адразу на шпацыр, а заселімся потым...

Паглядзелі Сафійскі сабор, палазілі па пячорах Кіева-Пячэрскай лаўры, прыкладаліся да мошчаў Іллі Мурамца, падзівіліся на манумент Радзімы-Маці, з ажыўленым варыянтам якой, нават у чалавечай прапорцыі, страшна было б сустрэцца на людная вуліцы, а не тое што на пустэльным беразе...

Вазілі нас па горадзе, пакуль не сцямнела, і нават самыя шустрыя шкаляры цяпер гатовыя былі ўлегчыся хоць у бронзавым чоўне Шчэка, Харыва і сястры іхняй Лыбедзі, паклаўшы пад галаву шматлікія вясельныя вянкі, якія па традыцыі туды шпурляюць украінскія маладажоны. Таму звестка, што замест шыкоўнага гатэля нас прымуць у таксама шыкоўным, але не настолькі, успрынялася з палёгкай.

Праз густую ўкраінскую ноч, якую сям-там прабівалі прывідныя свечкі каштанаў, аўтобус пад'ехаў да нейкага парку, лесу, карацей — «зялёнай зоны»... У святле фар вымаляваліся дыхтоўныя жалезныя вароты і бетонная агароджа. Наверсе агароджы ў некалькі радоў цягнуўся калючы дрот. З-за babротаў чуўся сур'ёзны сабачы брэх. Ахоўнікі выглядалі не менш сур'ёзна. Нават узброеныя, як спецназаўцы.

Вароты з жудасным лязгатам ад'ехалі ўбок.

За імі бачыліся толькі дрэвы, падсвечаныя рэдкімі ліхтарамі.

Калі пад хрыплы лямант аўчаркі вароты зачыніліся за намі, узнікла панічнае пачуццё, відаць, родам з генетычнай памяці, што выйсці назад не атрымаецца. Аўтобус ціха ехаў па прысадах, вакол панавала цемра. Нарэшце спыніўся перад двухпавярховым будынкам, які разгледзець цалкам было немагчыма.

Сустракалі нас кабеты ў белых халатах. Рэцэпшэна не прадугледжвалася. Не было і ключоў ад нумароў. Як, уласна кажучы, і саміх нумароў. Нам гасцінна прапанавалі займаць тыя месцы, якія падабаюцца.

Месцаў хапала. Будыніна, відаць, калісьці была панскай сядзібай, з анфіладамі, гасцёўнямі, будуарамі... Цяпер усё гэта было застаўлена металёвымі ложкамі, казённа засцеленымі. Некаторыя ложкі былі дзіцячымі, меліся там жа і скрыні з цацкамі, таннымі і гігіенічнымі, якія лёгка мыюцца.

— Дзіцячы садок санаторнага тыпу! — жыццярадасна патлумачыла адна з мясцовых кабет. А прадстаўніца турфірмы дадала, што маем проста шчаслівы выпадак — людзі на выходныя засталіся працаваць дзеля нас, згадзіліся прыняць...

Але гэта нагадвала хлусню. Бяконцыя анфілады паўцёмных пустых пакояў, бляклыя сцены, панцырныя ложкі, пафарбаваныя ў белы колер з чорнымі плямамі аблезлінаў, спецыфічны незразумелы пах... А вакол калючы дрот... Мы з дачкой і яе сяброўкай спыніліся ў адным з вялізных пакояў — акрамя нас, сюды ніхто не дайшоў. Дзяўчаты, якія ледзь не млелі ад стомы, улегліся. Мне неяк не спадабалася, што пад прасцінамі была падкладзена цырата. Я вырашыла даследаваць дзіўнае месца. Над драўлянымі дзвярыма, фарбаванымі зялёнай алейнай фарбай, драмала лямпачка ў шкляным авальным футарале з чырвоным надпісам «Пост № 2»... У куце — абцерханы пісьмовы стол, з якога старанна былі прыбраны ўсе «доказы»... Затое пад празрыстым пластыкам ляжалі спісаныя лісткі са слупкамі прозвішчаў і лячэбнымі прызначэннямі... І я даведалася, што мы знаходзімся ў адным з карпусоў псіханеўралагічнага дыспансера, а менавіта ў тым, дзе лечаць дзяцей з энурэзам. Тых, што ноччу мочаць пад сабой ложак і каго на рэчыцкім Палессі, калі верыць этнографу Чэславу Пяткевічу, лячылі выключна збіццём.

Так, тут маглі б адбывацца падзеі адной з кніжак майго дзяцінства.

Пераначуеш — болей пачуеш... Але раніцай мы нічога не пачулі, а я не стала агучваць сваё адкрыццё... Нас пагрузілі ў аўтобус і павезлі далей любавацца краявідамі. Спецыфічны пах пераследваў мяне яшчэ некалькі дзён, нават па вяртанні ў Мінск.

Я здагадвалася, што шыкоўнага гатэля, хутчэй за ўсё, нам і не прадназначалася, а гэты быццам бы «выпадковы» начлег — добрая магчымасць падзарабіць для беднай медыцынскай установы і ўвішнай турфірмы.

Але сёння я ўспамінаю тое падарожжа, начлег у кіеўскай псіхушцы, старую сядзібу за калючым дротам у засені вялізных дрэў без злосці... І ўсё здаецца толькі трохі смешным і нават настальгічна-рамантычным.

## Я, АНГЛІЙСКАЯ КАРАЛЕВА І БЕЛЫЯ ПАЛЬЧАТКІ

Стрыечны брат маёй маці, інжынер, на некалькі гадоў быў пасланы разам з сям'ёй у Англію «па абмене», працаваць на вытворчасці. Гэта было проста неверагоднае шанцаванне, і час ад часу мы атрымлівалі лісты з нетутэйшымі маркамі і паштоўкі, усыпаныя блішчынкамі, з замежнымі надпісамі. Аднойчы ў лісце сваякі прыслалі каляровы фотаздымак — парадны партрэт каралевы. У яе быў зусім не лялечны, разумны і добры твар, дасканалая пастава, зацягнутая ў белую пералівістую сукенку, на сіняй стужцы цераз плячо зіхацелі вялізныя дыяментавыя сняжынкі ордэнаў... І, вядома, на галаве красавалася самая сапраўдная каралеўская карона!

Каралева стала маёй улюбёнай субяседніцай. Я разумела, што ёй не вельмі ўтульна ў нашай хрушчоўцы, таму старалася абкружыць належнай раскошай. Са срэбнай і залатой фальгі рабіла сервізы — талерачкі, кубкі, чаркі, лыжкі... Посуд складала ў «залаты» куфэрачак з алюмінію, набыты ў цацачнай краме «Бураціна». І час ад часу каралева мела магчымасць узначальваць сапраўднае каралеўскае застолле... Праўда, я так і не знайшла цацкі, вартай сесці побач з ёй за стол, так што даводзілася мне замяняць каралеве ўсю прыдворную публіку...

Потым нашы сваякі вярнуліся. Мая стрыечная бабуля бясконца з гонарам распавядала пра новыя манеры, якія яе сын, нявестка ды ўнучка прывезлі з замежжа. Выключальнікі перарабілі, каб былі на ўзроўні апушчанай рукі, цукру не ўжываюць... Мая сястра паспела павучыцца ў англійскай школе, і бабуля па яе просьбе звязала з тонкіх белых бавоўняных нітак летнія пальчаткі — бо менавіта ў такіх у Англіі сястрыца хадзіла ў школу...

У якасці падарунка бедным сваякам, якіх мусілі далучыць да арыстакратычных звычак, такія ж пальчаткі былі звязаны і мне.

У маім уяўленні яны былі цалкам матэрыяльным прывітаннем ад каралевы.

Я, напэўна, дзесьці ў глыбінях свядомасці разумела, што ісці ў звычайную савецкую школу ў такіх пальчатках не зусім бяспечна, але ж была паслухмянай дзяўчынкай, да таго ж свет рэальны кранаў мяне куды менш, чым кніжна-фантазійны. Ад застрашлівага і нудотнага побыту я заўсёды адгароджвалася мроямі, выснуўваючы ў галаве сюжэты... І першага верасня мяне ўрачыста выправілі ў школу з арыстакратычным аксэсуарам. Было вельмі цёпла, белыя пальчаткі дзіўнавата спалучаліся з форменным фартушком з акцябрацкім значком і сціплымі паношанымі сандалікамі фабрыкі «Прамень».

Раён быў працоўны, школа знаходзілася ля завода ацяпляльнага абсталявання, чыгуначнай станцыі «Радыятарная» і турмы. Многія хрушчоўкі былі заселены нядаўнімі вяскоўцамі ды жыхарамі працоўных інтэрнатаў. Вучні кучкаваліся перад будынкам школы, заціснутым між дамоў, спрабуючы ў адчайнай беганіне і штурханіне здабыць яшчэ хоць крыху волі...

На мяне азіраліся... Пасля пачалі паказваць пальцамі: «На ёй пальчаткі!» Нехта выкрыкнуў: «Зіма-лета-папугай, наша лета не пужай!», але я ніяк не адгукнулася, паглынутая ўспамінамі пра апошні чытаны прыгодніцкі раман.

Нехта з хлопчыкаў паўстаў на маю абарону: «У яе проста рукі баляць! Праўда?» Я холадна адпрэчыла гэты варыянт. «Значыць, гэта каб зручней партфель насіць?» — падумаўшы, высунуў гіпотэзу мой абаронца. «Так ходзяць у школу ў Англіі!» — спакойна прамовіла я і адвярнулася. Некалькі дзяўчатак, што сімпатызавалі мне, падыходзілі па адной і шэптам раілі зняць пальчаткі, бо «так будзе лепей»... Я пацiскала плячыма: «Так носяць у Англіі!» — і працягвала лунаць у мроях, дзе дзейнічалі каралеўскія асобы.

Між тым школьны натоўп віраваў, вакол мяне ўтварылася кола пустэчы — нават сяброўкі не наважваліся стаць побач. Асабліва пільны хлопчык паспяшаўся паведаміць настаўнікам пра крамольную падзею крыкамі: «Ала Пятроўна, а яна ў белых пальчатках!» А вакол ужо чуўся шэпт: «Буржуйка!»

Настаўнікі зразумелі, што трэба ўмешвацца.

— Людачка, а чаму ты ў пальчатках? — папыталася адна.

— Так носяць у англійскай школе! — сціпла адказала я, не прыўносячы ў адказ ані каліва снабізму.

— Адкуль ты ведаеш?

— У мяне сястра там вучылася! — зноў сціпла адказала я, шчыра не разумеючы, у чым праблема?

Настаўніцы разгублена пашапталіся, пасля чаго мне было загадана пальчаткі зняць.

— А чаму? — наіўна папыталася я. Уцямнага адказу не атрымала, але паслухалася, тым больш, што пальчаткі страшэнна мне абрыдлі, у іх было горача, яны мулялі рукі... Зняла, схавала ў партфель... Але так і не ўсвядоміла, наколькі парушыла нейкія няпісаныя правілы гульні. Маю маму выклікалі ў школу, каб папярэдзіць — больш ніякіх белых пальчатак і ўвогуле ніякіх «замашак»!

Фотаздымак англійскай каралевы дасюль стаіць на маёй кніжнай паліцы. Аднойчы пабываў там і мой сын, які прывёз адтуль два светлавыя мячы «Зоркавых войнаў», што свецяцца і гудуць дасюль, калі націснуць на клыпажкі...

А яшчэ бывае ў мяне час ад часу адчуванне, што я зноў стаю сярод натоўпу ў белых карункавых пальчатках... Але я ніколі больш не схаваю іх у школьны партфель.

*Ганна НОВІК*

# ЛІРЫКА ЗНІКНЕННЯ



***Ганна Новік нарадзілася 17 снежня 1990 года ў Гомелі. Студэнтка 5 курса філалагічнага факультэта ГДУ імя Ф. Скарыны. Друкавалася ў шматлікіх газетах і часопісах, а таксама ў міжнародным альманаху «Сланечнік». Кола інтарэсаў не абмяжоўваецца толькі літаратурай: дзяўчына захапляецца сюррэалізмам, постмадэрнізмам, беларускай і ўкраінскай музыкай, батыкам, жывапісам, хэндмэйдам і іншымі цікавымі рэчамі.***

## СЁННЯ

Сёння — нейкага сакавіка.
Захлынаецца промнямі неба.
Ні радка не напіша рука.
Відаць, і не трэба.
І камечыцца часу сувой,
І спяшаюцца прочкі трамваі.
Хай мяне сёння тонкай рукой
Далікатна адсутнасць кранае.

## ЛІРЫКА ЗНІКНЕННЯ

Між кніжак — білет на цягнік.
У тэрмасе — лёд.
Я восені стылай двайнік.
Даўно. Навылёт.

Каго з мітуснёю вось так
Знітуюць дажджы?
У засені клёнаў мінак.
Яшчэ. Назаўжды.

Пакуль атумечаць гады
І цягнецца змрок,
Шнуруюцца ў парку сляды.
Міжволі. Знарок.

Прашу, каб падман той не знік
І часу не плыць.
Я восені стылай двайнік.
Ужо. Можа быць.

* * *

Няма крыніц спатоліць смагу.
Зашмальцаваныя зняверам

Ізноў напоўнілі біклагі
І чорным воцатам, і белым.

Няма крыжоў уславіць памяць
Хмызом парослых папялішчаў.
Ізноў народжаныя падаць
Мяркуюць успаміны знішчыць.

Няма нябёсаў для збавення.
Удзень пустэчай ціснуць вочы.
Напаўжывыя людзі-цені
Спрадвечным светлым шляхам
крочаць.

* * *

Бясконцае лета
Імжы вераснёвай.
Губляюць версэты
Цяпло пакрыёма.
І гасне лістота
Ў закінутых парках.
І крочыць самота
Па ўсіх брукаванках.

**РАСЧАРАВАНЫЯ**

...А ты, нягледзячы на ўсё,
Чытаеш Рыльке і Басё,
Не лічыш грошы і дажджы —
Яшчэ жывы. Ужо чужы.
На дзіўных сайтах бавіш сон
(Прымерваць крылы — не сезон)
І, пляшку выпіўшы віна,
Сцвярджаеш, што цябе няма.
Не марыш вынайсці спакой,
Не хочаш верыць ні адной,
Не можаш прыхаваць агід...
А я — самотны твой прывід.

* * *

Прысубстантыўная іста.
Веліч? Ахвяры. Даляры.
Напаўзабытая выспа.
Безліч інтрыгаў піяру.

Прыдзеяслоўныя думкі.
Весці. Змагацца. Акрылець.
Толькі сабраныя клункі
Шлях вызначаюць.
У вырай!

**NI4ЫЕ**

Наша шэрае белым не будзе,
Наша змёрзлае цёплым не стане.
На аскепкі ламаюцца людзі
На мяжы цішыні і світання.

Нараджаюцца з попелу здані.
Напаўняюцца шэранем грудзі.
Нераты... Напаўсцёртыя грані...
Хай ніхто нічыіх не асудзіць.



Серж МІНСКЕВІЧ

# УСМЕШКА ЖАЛОБНАЙ КАРАЛЕВЫ, АЛЬБО ТАЙНА МАГНІТНАГА ЗАМКА*

*Аповесць легендарных часоў*

## XIII

## ЯК МАСТАК МАСТАКУ...

Па жоўтай дарозе ішоў мастак Дроздзіч. Ішоў ён, абапіраючыся на свой любімы кіёк-парасон, ішоў-ішоў… Змарыўся, прысеў на ўзбочыне, раскрыў парасон, і раптам бачыць — да яго здалёк, стрымгалоў, скачуць трое вершнікаў. На белым кані — малады віцязь, на чорным — шыракаплечы волат, а на гнядым кані — незразумелая пачвара! — двухгаловы таўстун. Адна галава ў яго з доўгімі валасамі, а другая — маленькая, з вострымі вушамі, як быццам з жывата вершніка расце.

«Так гэта ж Алеолла на кані кат*а* да сябе прыціскае, — здагадаўся мастак Дроздзіч, калі прыгледзеўся лепей, — там жа і Арцін скача, а за імі гоніцца нейкі жахлівы бамбіза з раскосымі вачамі і вострымі скуламі… Не, не гоніцца, а разам з імі скача…»

— Прывітанне, мастак Дроздзіч, — усе вершнікі адначасова асадзілі коней. Бліскучым воблакам пыл узняўся з-пад капытоў. — Мы спяшаліся да цябе!

Алеолла і Арцін, як старыя прыяцелі, абняліся з Дроздзічам. Мастак нават папрасіў сваіх маладых сяброў перайсці з ім на «ты».

— Разумею, разумею, значыць, ягады шчасцядайнай шаўкоўніцы вы раздабылі, — сказаў мастак Дроздзіч.

— Так, раздабылі.

— А гэта хто з вамі?

— Гэта кот Міамурмарор.

— Дзякуючы яму мы гэтыя ягады і займелі.

— А гэта хто? — мастак паказаў на Бедалдая.

— А, гэта мой кат, — спакойна сказала Алеолла.

— Кат? Як гэта разумець? — збянтэжыўся мастак Дроздзіч.

— Кат як кат, навязаўся, вось, на маю галаву. А так нічога, добры хлопец… Яго Бедалдаем клічуць.

Мастак у разгубленасці адступіў ад Бедалдая, зазірнуў у вочы Алеоллы — праверыць, ці ўсё з ёй у парадку.

Тады Алеолла, Арцін ды кот Міамурмарор прыняліся распавядаць мастаку пра свае прыгоды ў замежных краінах.

— І што вы сапраўды здыміце Алеолле галаву з плеч? — спытаў у к*а*та мастак Дроздзіч.

— Здыму, калі яна не пойдзе да Паляндры. А пакуль я сам за яе галавой адказваю, — сурова адказаў Бедалдай. — Берагу і абараняю.

---

* Працяг. Пачатак у № 1, 2 за 2013 г.

— Гэта ж трэба! — здзівіўся мастак Дроздзіч. — Кат-целаахоўнік.

Кот мыўся — аблізваў языком лапу, а потым цёр ёю за вухам.

— За сваім целам кожны павінен сам сачыць і ахоўваць яго… — правуркатаў ён. — Так што, Алеолла, на к*а*та спадзявайся, а сама вострa вуха трымай.

— Слухай… — сказаў Арцін мастаку Дроздзічу. — У нас ёсць план.

Будучы віцязь дастаў са сваёй паходнай торбы плод шчасцядайнай шаўкоўніцы. Мастак адразу ж заўважыў, што яны вельмі падобны да вусеняў-усмуткаў, калі тыя скручаныя ляжаць.

— Так-так, — усхапіўся Арцін, — толькі трэба іх у чорна-бардовы колер перафарбаваць.

— Гэтая праца якраз па мне, — спакойна прамовіў мастак Дроздзіч і пачаў даставаць са сваёй торбы ўсё неабходнае — збанкі з фарбамі, палітру, пэндзлікі.

З веданнем справы мастак змяшаў на палітры чорную фарбу з чырвонай, бардовай і аранжавай, а зверху капнуў яшчэ фіялетавай і зялёнай.

— А навошта столькі фарбаў змешваць? Бо вусені — чорна-бардовыя. Можа, досыць змяшаць чорную і бардовую? — пацікавіўся Арцін.

— Ну, паспрабуй, — падахвоціў юнака Дроздзіч.

— Ну і паспрабую, — рука Арціна пацягнулася да ягады шчасцядайнай шаўкоўніцы.

— Слухай, папрактыкуйся спачатку на звычайных ягадах, каб дэфіцытны прадукт не пераводзіць, — прапанаваў Міамурмарор.

— Можа, мяне яшчэ каты будуць вучыць маляваць? Я і без цябе ведаю, што мне рабіць, — Арцін усё-такі не насмеліўся ўзяць «шчаслівую» ягаду і, пазычыўшы пэндзлік у мастака Дроздзіча, прыняўся размазюкваць звычайную.

— Ну як? — самазадаволена спытаў Арцін праз некаторы час.

Але ніхто з сяброў Арціна так і не адважыўся сказаць праўду, на што была падобная ягоная ягада. А Дроздзіч сказаў:

— Эх, Арцін, гэта ты бачыш у гэтых вусенях толькі два колеры, а мы, мастакі, у любым прадмеце вакол нас заўважаем сотні адценняў самых розных колераў.

— А мы, кат*ы*, уначы можам адрозніць сотні адценняў аднаго толькі шэрага колеру! — пахваліўся кот Міамурмарор.

Перафарбаваць плады шаўкоўніцы для такога мастака, як Дроздзіч, было нескладана, таму неўзабаве тыя ягады пазнаць было немагчыма. Знешне яны сталі цюцелька ў цюцельку, як вусені-ўсмуткі, што ляжалі ў пузатым слоіку мастака Дроздзіча.

— Ого, выдатна,— пахваліў працу мастака Арцін.

— Не адрозніш! — захоплена прамовіла Алеолла.

— Добра, — нават сказаў Бедалдай.

— Калі, вядома, іх не нюхаць, — дадаў кот Міамурмарор.

— Значыць так, — пачаў распавядаць свой план Арцін, — цяпер мы кладзём гэтыя перафарбаваныя ягады шчаслівай шаўкоўніцы ў твой слоік і ўсе разам адпраўляемся да Чорнага Балота. Ты, як заўжды, ставіш слоік на балотную купіну. Чорныя чаплі па звычцы прылятаюць, забіраюць слоік, высыпаюць з яго сапраўдных вусеняў разам з перафарбаванымі ягадамі ў казанок. Паляндра, як звычайна, у гэтым казанку варыць сабе і чаплям поліўку. Затым яны ўсе разам наядаюцца гэтай поліўкай і спакойненька атручваюцца… А мы тым часам з дапамогай вадаступаў без усялякіх праблем перабіраемся да церама, вызваляем людзей, а кот вызваляе жывёл.

Не паспеў Арцін дагаварыць, як неба раптам пацямнела, і па ім пайшлі чорныя віхуры.

— Ай-ай-ай, хутчэй пад парасон! — крыкнуў мастак Дроздзіч. — Чорныя чаплі лятуць!

Але пад яго парасон шмыгнуў толькі кот Міамурмарор. А ўсе астатнія — Алеолла, Арцін і Бедалдай — хутка дасталі са сваіх торбаў накідкі, накрыліся самі і коней сваіх прыкрылі.

Чорныя віхуры праляцелі паблізу.

— Нічога сабе! — зноў здзівіўся мастак Дроздзіч, гледзячы на сваіх захутаных у накідкі прыяцеляў.

— Мы ў Пячорным Горадзе трохі чароўнага ядвабу раздабылі, — растлумачыла Алеолла. — А ты, чаму сваю накідку не дастаў? — спытала яна ў кат*а*.

— Ну, нам, кат*а*м, лягчэй куды-небудзь шмыгануць, чым сябе ў нешта, захінуць. Я наогул насіць вопратку не вельмі люблю…

— Накідкі — гэта вельмі добра, — сказаў мастак Дроздзіч, — а я ўсю дарогу галаву сабе ламаў, як жа мы ўсе пад маім парасонам змесцімся!

— Давай, залазь да мяне, — Арцін заскочыў на свайго каня і паказаў мастаку Дроздзічу на сваё сядло. Гэта было разумна і справядліва — Алеолла ехала на кані з катом Міамурмарорам, а ў Бедалдая за спінай была вялізная цяжкая сякера ў масіўным футарале. Так што пасунуцца і саступіць трохі месца мог толькі Арцін.

Мастак Дроздзіч здолеў сяк-так забрацца ў сядло да будучага віцязя. Яго конь ад дадатковага цяжару спачатку трохі прысеў, але хутка прывык і выпрастаўся.

— Наперад! — паспрабаваў падбадзёрыць усіх мастак Дроздзіч. — На бітву з Журботнай Каралевай!

Сябры хутка, але не ва ўвесь апор, каб берагчы коней, паскакалі наўпрост да Чорнага Балота.

Мастак Дроздзіч выдатна ведаў дарогу, бо яму прыходзілася раз ці два, а мо і тры разы на год прыходзіць да гэтага жудаснага месца: то ўвесну град наляціць — паб'е ўсе ўсходы, і ўвесь год людзі галадаюць. То засуха надыдзе, альбо, наадварот, дажджы на месяцы зацягнуцца — тады працы ў Дроздзіча не абярэшся. Малюйсуцішай людзей. Мяняй усмуткі на ўсмешкі. У такія часы не адзін слоік чорных вусеняў-усмутак даводзілася несці да Чорнага Балота, а цэлых два ці тры…

— Нам засталося ўсяго два дні дарогі, — паведаміў мастак Дроздзіч.

## XIV

## ВЯРХОМ НА СЯКЕРЫ

Лета ў той год выдалася шыкоўнае. Доўга стаяла сонечнае надвор'е. Бывала, пракатваліся кароткачасовыя навальніцы. Пасля іх расліны ажывалі, рунелі сакавітыя травы, моцай набіраліся лясы.

Раптам у небе прамільгнуў цень. Ён праляцеў так імкліва, што ніхто з прыяцеляў не паспеў нават дастаць ядвабную накідку. За першым ценем праімчаў другі, потым — трэці.

Сябры амаль аднmanagачасова нацягнулі павады, спынілі коней і трывожна паглядзелі ў неба.

— Зноў чорныя чаплі? — насцярожыўся Арцін.

— Дый непадобна, — наморшчыў лоб мастак Дроздзіч, але на ўсякі выпадак зняў з пляча свой парасон, каб калі што — як мага хутчэй яго раскрыць.

— Яшчэ адзін! — усклікнула Алеолла.

У адрозненні ад чорных віхур, гэтыя незразумелыя цені ляцелі на вялікай хуткасці па прамой і ўсе ў адным кірунку.

— Пяць, шэсць, сем, — падлічваў кот Міамурмарор.

— Ды іх тут цэлая чарада, — Арцін паклаў руку на дзяржальна мяча.

— І ўсе ляцяць кудысьці ў адну кропку, — востры зрок кат*а* Міамурмарора вызначыў характар палёту ценяў.

— Можа, гэта невядомыя людзям птушкі? — задумалася Алеолла.

Раптам заўсёды нямы Бедалдай здзіўлена буркнуў:

— Што гэта?

Усе паглядзелі на к*а*та — той, азірнуўшыся назад, нешта шукаў вачамі. Бедалдай раптам адчуў, што футарал, у якім знаходзілася яго цяжкая сякера, ні з таго ні з сяго перастаў адцягваць яму спіну. Кат падумаў, што, можа быць, абарваліся шлейкі, на якіх футарал трымаўся. Аднак, шчыльна зачынены на ўсе зашчапкі, футарал быў на месцы, але цягнуў цяпер не да зямлі, а наадварот, кудысьці ў неба.

Над дарогай прамільгнула яшчэ тры цені запар. У гэты момант футарал яшчэ мацней пацягнуў к*а*та ўверх, нібы нацягнулася нябачная моцная нітка, кімсьці прывязаная менавіта да яго сякеры.

Бедалдай, каб праверыць, што адбываецца, саскочыў з каня, зняў футарал з пляча, зазірнуў у яго — усё быццам было ў парадку — сякера на месцы. Ён закрыў і зашпіліў футарал.

У гэты момант пранеслася яшчэ чатыры цені. Футарал з сілай ірвануўся з рук ката. Бедалдай, каб не ўпусціць яго, заскочыў на футарал, нібы на спіну каня, і адчуў, што праз імгненне не па сваёй волі ўздымецца ў паветра. Аднак кат не адважваўся парушыць свой абавязак і кінуць сякеру, па гэтай жа прычыне ён не мог пакінуць без свайго нагляду і Алеоллу. Калі футарал пралятаў побач з канём будучай яснапанны, Бедалдай адной рукой абхапіў яе, і тут жа іх абодвух падкінула ў неба. Футарал, а дакладней сякера, што была ў ім, паімчалася ў тым жа напрамку, дзе знікалі на даляглядзе цёмныя цені.

— Вось дык на табе… — працягнуў у здзіўленні кот Міамурмарор.

Сваім пухнатым хвастом ён заўсёды адчуваў за сабой Алеоллу, а цяпер яго хвост вольна зваліўся на занадта вялікае для кат*а* сядло.

Над галовамі прыяцеляў, што засталіся на дарозе, прамільгнула яшчэ некалькі ценяў.

— Наперад! Давайце за імі! — закрычаў Арцін і рэзка з усёй моцы прышпорыў каня.

Белы конь з двума вершнікамі, Арцінам і мастаком Дроздзічам, паімчалі па полі, па лузе...

Кавунова-паласаты берэт Дроздзіча споўз яму на вочы. Ён нічога не бачыў і толькі мацней трымаўся за Арціна, каб не зваліцца.

Бяда была ў тым, што за лугам узвышаўся вялізны лес, які літаральна праз дзесяць крокаў станавіўся густым і дрымучым. Конь Арціна стаў, як укапаны, перад калючай сцяной елак і соснаў.

— Усё, не праедзем! — з горыччу сказаў Арцін.

Раптам да яго і мастака Дроздзіча даляцеў разгублены крык ката Міамурмарора:

— Стой! Стой! — кругамі па лузе хутка скакаў яго гняды.

Конь быў завялікі для кат*а*. Міамурмарор смешна расцягнуўся на сядле, ухапіўшыся пярэднімі лапамі за аброць. Кот растапырыў пальцы на задніх лапах і ўсімі кіпцюрамі ўпіўся ў бакі каня, ад чаго той панёсся яшчэ хутчэй. Калі конь праносіўся

непадалёк ад адзінокай сасны, Міамурмарор выгнуўся і скокнуў на галіну. На дрэве ён сябе адчуваў значна бяспечней, чым на спіне ў ліхога каня.

Тым часам Арцін саскочыў са свайго скакуна.

— Хто ж гэта мог быць? — усклікнуў будучы віцязь у роспачы. — Што гэта за цені?

— Ну ты і борзды… — мастак Дроздзіч паправіў берэт і злез з каня. — Нельга ж так гнаць, на злом галавы, хораша ёй не падумаўшы.

Дроздзіч спешна выбег на луг, раскрыў свой парасон і паглядзеў скрозь яго на далягляд.

— Ледзь паспеў заўважыць, — паведаміў ён. — Нічога не разумею. Калі вочы мне не хлусяць, то гэта нейкія лятаючыя чарапахі...

— Можа, Паляндра ў дадатак да чорных чапляў сабе на службу гэтых чарапах узяла? — выказаў здагадку Арцін.

— Наўрад ці... Чарапахі вельмі непаваротлівыя.

— А я ведаю, што існуюць балотныя чарапахі, — сказаў Арцін.

— Ну, можа быць, і твая праўда..

— Тады чаго ж мы чакаем! — гарачыўся Арцін. — Наперад, да Паляндры! Трэба вызваляць ужо не толькі нашых людзей, але і Алеоллу!

— Мяў! — знячэўку пачулася зверху.

Арцін і Дроздзіч паглядзелі на адзінокую сасну, што расла пасярод поля.

— Ты чаго… Размаўляць развучыўся? — спытаў Арцін, заўважыўшы кат*а*, які пярэднімі лапамі чапляўся за галіну дрэва.

— Мяў… — сумна працягнуў кот Міамурмарор, — у мяне проста слоў няма.

— Аднак здзіўляе вось што, — сказаў Дроздзіч, — самая кароткая дарога, што вядзе да Паляндры — гэта тая, па якой мы ехалі. А гэтыя чарапахі паляцелі ў зусім іншым напрамку. Калі мы пойдзем за імі, то будзем толькі аддаляцца ад Чорнага Балота. Калі ж пойдзем да Паляндры, то яшчэ не вядома — патрапілі да яе Алеолла і Бедалдай ці не.

— А раптам, гэтыя чарапахі ўжо зрабілі круг і вярнуліся ў свае балота? — выказаў здагадку Арцін. — Я асабіста за тое, каб адразу ж адправіцца да Паляндры.

— А я за тое, каб пайсці туды, куды паляцелі чарапахі, — разважліва прамовіў мастак Дроздзіч. — Сумняваюся, каб яны былі здольны на такія крутыя віражы, як ты мяркуеш. І, увогуле, навошта ім лётаць па крузе.

— Ды ў гэтым лесе мы проста саб'ёмся з дарогі… А калі лятаючыя чарапахі зрабілі хоць невялікі паварот, то мы не толькі іх не знойдзем, але яшчэ і самі заблукаем.

— Не ведаю, але сэрца мне падказвае, што калі мы пойдзем да Паляндры, то ніколі ўжо не ўбачым Алеоллу.

— Добра, — праз зубы працадзіў Арцін. — Будзем галасаваць. Зробім так, як вырашыць большасць. Хто за тое, каб ісці да Паляндры, прашу падняць правую руку. Хто супраць — левую. Каб падумаць, даю час — лічу да пяці, — Арцін пачаў павольна лічыць, — раз, два, тры, чатыры.

На слове «пяць», ён падняў правую руку.

Мастак Дроздзіч, нягледзячы на тое, што Арцін даў яму час на разважанне, усё-такі падняў левую руку.

— Ну, добра, — Арцін паглядзеў на ката Міамурмарора.

Зірнуў на яго і мастак Дроздзіч. Хвост і дзве заднія лапы ката боўталіся ў паветры, а двума пярэднімі ён трымаўся за галіну сасны. Выходзіла, што ў кат*а* былі ўзняты да гары абедзве лапы.

— Гэй, Міамурмарор, — сказаў Арцін, — адпускай адну лапу. — Адпусціш левую, значыць, узнятай застанецца правая. І мы пойдзем да Паляндры.

— Адпусціш правую, то ўзнятай застанецца левая, і мы пойдзем за лятаючымі чарапахамі, — растлумачыў кат*у* мастак Дроздзіч.

— Мя-а-а-а-а-у-у-у, — нема заекатаў кот Міамурмарор, і адпусціў адразу абедзве лапы. У паветры ён перакуліўся і плаўна прызямліўся на чатыры лапы — звычайная справа для катоў.

— Што гэта ў цябе? — адначасова спыталі мастак Дроздзіч і Арцін.

У момант прызямлення на нос кат*а* Міамурмарора капнула нешта белае.

— Гэта малако, — адказаў кот, аблізваючы нос, — яно тлусценькае, нібы вяршкі.

— Адкуль тут малако? — разам прамовілі мастак Дроздзіч і Арцін.

— З неба, — спакойна сказаў кот.

У здзіўленні мастак Дроздзіч і Арцін перазірнуліся, а кот працягваў:

— У Алеоллы з сабою быў бурдзюк з малаком, які яна ўзяла ў зямлянцы ліхадзеяў. Я думаю, яна яго праткнула, каб кроплі ляцелі на зямлю… Мая прапанова — ісці па кроплях малака.

— Ды ну, мы не зможам знайсці і другой кроплі, — засумняваўся Арцін. — Кроплі малака лёгкія, іх ветрам зносіць. Гэта немагчыма!

— Гэта немагчыма для вас, людзей, але не для катоў, — Міамурмарор ганарліва падняў хвост і бліснуў смарагдавымі вачамі. — Галоўнае — не кроплі, галоўнае — пах малака. Я яго з дзяцінства добра адчуваю. Будзьце ўпэўнены, я беспамылкова вызначу, куды ён вядзе.

— Малайчына, — пахваліў яго мастак Дроздзіч.

Яны з Арцінам злавілі коней, забралі неабходныя рэчы, знялі з вялікаханскіх прыгажуноў збрую і адпусцілі на волю.

Трое сяброў адправіліся ўглыб дрымучага лесу ўслед за малочнымі кроплямі.

## XV

## НАПЕРАД, ЗА МАЛАКОМ!

Будучы мужны віцязь, вандроўны мастак і вучоны кот з цяжкасцю прабіраліся скрозь густыя зарасці, абыходзілі паваленыя дрэвы. Невялікія ручаі яны пераходзілі ўброд. А вось забалочаныя лясныя азёры не былі для іх перашкодай — бо ў прыяцеляў меліся вадаступы. Праўда, кату Міамурмарору не падабалася такая прыкрая для лап, макрушчая вада, ён аддаваў перавагу ў гэтых выпадках сядзець на плячах у Арціна альбо ў мастака Дроздзіча.

Толькі па сухім лесе кот ішоў наперадзе ўсіх, беспамылкова вызначаючы, адкуль даносіцца пах малака.

Адным разам кот Міамурмарор, задраўшы свой нос, наблізіўся да густой елкі. Ад яе верхавіны выразна веяла каровіным малаком.

— Каровы ж не лётаюць… — прамармытаў кот сабе пад нос. Ён паглядзеў наверх, і ў гэтае ж імгненне на яго звалілася нешта цяжкае, карычневае.

Гэтае нешта было памерам, калі не з карову, то з цяля, але ж не цялё.

Добра, што кот — гнуткае стварэнне, таму медзведзяня, якое звалілася на Міамурмарора, нічога яму не зламала.

Учуўшы малако, маленькі мядзведзь палез на дрэва, але па невуцтве забраўся на тонкую галінку, якая пад ім і зламалася. А кот, апынуўшыся ў патрэбны момант пад елкай, выратаваў медзведзяня.

Цяпер у кашлатага спалохана блісканелі цёмныя вочы, ён спрабаваў хмурыцца, задзіраў верхнюю губу — няўмела шчэрыўся, паказваючы свае яшчэ, пэўна, малочныя іклы, і зусім нястрашна рыкаў. А кот тым часам хвастом наперад выпаўз паміж лап медзведзяня і кінуўся да суседняй елкі.

— Як жа я не падумаў, што на гэтае малако могуць і мядзведзі паквапіцца? — размінаючы лапы, прамовіў Міамурмарор. — У іх нюх вастрэйшы, чым у сабак.

— І катоў, — дадаў Арцін.

— Ціха! — папярэдзіў мастак Дроздзіч. — Самі па сабе медзведзяняты па лесе не ходзяць.

Толькі Арцін дастаў з похваў меч, як па лесе пракацілася грознае рыканне. З гушчару прама на ката Міамурмарора выбегла агромністая, нібы ўцёс, мядзведзіца. Было відаць, як пад калматай скурай у яе скалынаюцца магутныя цяглiцы. Кот, ні хвіліны не вагаючыся, ускочыў на ствол елкі і хутка ўскараскаўся яшчэ вышэй.

На дрэва ўлез і мастак Дроздзіч. Арцін выставіў наперад меч і адступіў назад.

Мядзведзіца абаперлася пярэднімі лапамі на ствол елкі, дзе засеў кот Міамурмарор, і зарыкала яшчэ гучней. Добра, што елка была тонкая — такой велічэзнай мядзведзіцы яна б не вытрымала. Суровая матуля гэта разумела, таму на дрэва не палезла, а пачала яго трэсці.

— Яна думае, што я рысь… — паскардзіўся ўсім, хто яго чуў, кот Міамурмарор.

Ён выпусціў кіпцюры, усадзіў іх у кару дрэва і закрычаў:

— Акыш, апсік, абрысь, я табе не рысь!

Аднак мядзведзіца не звярнула ніякай увагі на гэтыя воклічы і працягвала трэсці елку. Вогненна-руды кот, нібы вялізная вавёрка ў яе галінах, боўтаўся з боку ў бок.

Да сваёй матулі падышоў мядзведзік, задраў пысу ўверх і нечаканым баском рыкнуў на ката.

— Кіньце ім ягад шаўкоўніцы… — папрасіў кот Міамурмарор. — А то яны мяне з дрэва страсуць.

Арцін дастаў з паходнай торбы ягады звычайнай шаўкоўніцы і адну — шчасцядайнай.

— Можа, не трэба? — папярэдзіў мастак Дроздзіч.

— Ды што такой вялікай мядзведзіцы зробіцца?

Арцін кінуў звычайныя ягады медзведзянятку — той адразу страціў усякую цікавасць да «рудай рысі» на елцы. Носам адшукаў на зямлі ягады шаўкоўніцы і з задавальненнем стаў імі ласавацца.

А «шчаслівую» ягаду Арцін падкінуў прама да пысы мядзведзіцы. Яна наляту злавіла яе пашчай. Яшчэ раз паглядзела на кат*а* на дрэве, потым развярнулася і ні з таго ні з сяго дала аплявуху медзведзянятку.

— Што такое? Гэта ж ягада шчасцядайнай шаўкоўніцы, — здзівіўся Арцін. — Я не думаў, што яна так раззлуецца.

— Гэта яна з любоўю… Паціху, каб ён ад яе больш далёка не ўцякаў.

Мядзведзіца і медзведзянятка павольна пакасалапілі ў гушчар.

— Гэта ж трэба, інтэлігентнага кат*а* з дзікай коткай пераблытаць! — абураўся Міамурмарор ужо на зямлі.

Увечары пайшоў дождж. Ён не стаў нечаканасцю для прыяцеляў. Час ад часу кот залазіў на дрэвы, і не толькі для таго, каб чарговы раз пазнаць, адкуль да-

носіцца малочны пах. Мастак Дроздзіч падаваў яму свой парасон, кот раскрываў яго і аглядаў, што робіцца на даляглядзе.

Набрынялую хмару кот прыкмеціў даўно. Пакуль яна падышла, яны паспелі пабудаваць з густых лапак елак надзейны будан.

— Як я і меркаваў, гэтыя цені, ляцяць прама і нікуды не паварочваюць, — сказаў мастак Дроздзіч.

— Так што твой нос, — пажартаваў Арцін, — нам не надта быў патрэбны.

— Патрэбны, не патрэбны... Ты, між іншым, хацеў нас у Чорнае Балота завесці! — насупіўся кот.

— Мы туды ўсё роўна прыйдзем.

Раніцай, калі дождж прайшоў, кот зноў ускараскаўся на дрэва, пры гэтым ён, як звычайна, захапіў парасон мастака Дроздзіча.

— Гэй! — крыкнуў кот Міамурмарор з дрэва. — У мяне дзве навіны. Дрэнная і добрая. З якой пачынаць?

— З дрэннай, — прапанаваў мастак Дроздзіч, — каб пасля было суцяшэнне.

— Значыць так, малаком больш не пахне. Дождж змыў усе кроплі.

— Вось і спадзявайся на гэтага ката, — прабурчаў Арцін.

— Але я ведаю, куды паляцелі Алеолла і Бедалдай, — упэўнена паведаміў кот.

— Што ты бачыш? — разам спыталі яго мастак Дроздзіч і Арцін.

— Там, адкуль прыйшла хмара, я бачу скалу, на ёй стаіць замак нейкі незразумелы. Падобны да вялікага чорнага дыямента.

— А няўзброеным вокам, гэта замак бачны? — спытаў мастак Дроздзіч.

— Якім гэта яшчэ няўзброеным вокам?

— Я маю на ўвазе, без майго парасона?

— Бачны як чорная жамчужына… І гэта пры тым — маім каціным няўзброеным вокам, — ганарліва адказаў кот Міамурмарор. — А калі глядзець вашым вокам, то ён наогул падаваўся б макавым зернем.

— Добра, злазь з дрэва… Значыць, да таго замка ісці па лесе тры тыдні альбо нават больш, — падлічыў мастак Дроздзіч.

Тым часам Арцін заняўся вогнішчам — бо трэба было падсілкавацца і прасушыць вільготную вопратку.

## XVI

## ДАСПЕХІ НА МУРАХ

Мастак Дроздзіч не памыліўся — праз тры тыдні кампанія падышла да падножжа скалы, якая з усіх бакоў на сотні вёрст была акружана дрымучымі лясамі. Над скалой узвышаўся замак. Яго муры былі складзены з тысяч адпаліраваных пліт металічнага колеру. А можа, гэта і былі жалезныя пліты? Сонечны промень адбіваўся ад іх у дзясятках розных кірункаў. За мурамі ўзнімаўся вузкі пік скалы, вакол якога можна было заўважыць круглы зубчасты балкон, створаны альбо рукамі людзей, альбо майстравітым чараўніком.

— Што гэта за таямнічы замак? Хто-небудзь пра яго нешта чуў? — спытаў Арцін.

— Я сапраўды не ведаю, — сказаў мастак Дроздзіч, — хадзілі чуткі, што ў самім віры лесу, дзе зараджаецца смуга, аблокі і хмары, ёсць скала, на якой стаіць замак. А ў ім жыве Уладар Навальніц…

— А я чуў, — пачаў кот Міамурмарор, — што да нейкага навальнічнага замка гадоў сто таму адпраўлялася вялізнае войска з Залатога Горада. Шапталіся, што гэтае непераможнае дагэтуль войска бясследна знікла.

Скала, ля падножжа якой стаялі сябры, падавалася непрыступнай. Але ж толькі не для кат*а*. Арцін і мастак Драздзіч адразу ж прыступілі да працы — яны скруцілі з лыка вяроўку. Доўгую-доўгую.

І рабілі наступным чынам: кот Міамурмарор узбіраўся на скалу, надзейна абвязваў вяроўкай які-небудзь выступ альбо цяжкі валун, а потым па гэтай вяроўцы караскаліся мастак Драздзіч і Арцін.

Неўзабаве яны падняліся да ўзроўню замка. Перад імі былі высокія змрочныя муры — цалкам стромыя — яны прыгняталі сваімі гіганцкімі памерамі. Але больш бянтэжыла іншае — пад мурамі замка ляжалі груды чалавечых костак і чарапоў. Чыстых, белых і бліскучых. Іх даўно абскублі дзікія птушкі, абмылі воды дажджоў, адпаліравалі градзіны і паднятыя ветрам пясчынкі. Сям-там сярод чалавечых парэшткаў трапяталі кавалачкі амаль сатлелай вопраткі. Па ўсіх мурах замка — вышэй, ніжэй — былі панавешаныя, нібы «прылепленыя» суперклеем, воінскія даспехі: жалезныя шаломы, налакотнікі, панцыры, кальчугі. У некаторых з іх можна было заўважыць чалавечыя шкілеты. Побач з даспехамі на мурах «вісела» зброя: шчыты, мячы, наканечнікі стрэл і дзід.

Калісьці даўно невядомая сіла магутным прыцягненнем прыкавала да муроў замка ваяроў, што спрабавалі ўзяць яго ў аблогу. Некаторыя з іх так і не змаглі вызваліцца ад сваіх жа латаў і навечна засталіся ў іх…

Арцін адчуў, як за яго спінай нешта заварушылася. Ён з жахам азірнуўся. Раптам з калчана ў паветра вырвалася страла і паляцела да замка, стукнулася аб замкавы мур і «прыляпілася» да яго наканечнікам.

Арцін мацней перацягнуў калчан аборкай, каб астатнія стрэлы самі па сабе не павыляталі. Але тут жа з похваў, якія былі зроблены з дрэва, пачаў «выпаўзаць» меч. Арцін з сілай засунуў яго назад у похвы, а дзяржальна абматаў аборкай.

— Што за неведзь! — вылаяўся ён.

— Сцены зроблены з магічнага жалеза, — згадзіўся мастак Драздзіч. — Яно прыцягвае іншае жалеза.

— Ты б, Арцін, схаваў пакуль сваю зброю пад валуном. Далей з ёй усё роўна не пройдзеш, — параіў кот Міамурмарор.

— Так-так, а то паляціць да мёртвых ваяроў — не дастанеш потым, — дадаў мастак Драздзіч.

— А як жа, па-вашаму, я ваяваць буду?

— Ну, можа быць, драўляным籍 дручком, — параіў кот Міамурмарор.

Арціну было не надта прыемна расставацца са сваёй зброяй, але з кожным крокам яна рабілася ўсё цяжэйшай. І юнаку, хочаш не хочаш, давялося скарыстацца парадай сяброў. Арцін схаваў меч і похвы пад валуном, паклаў і прыціснуў валуном стрэлы.

— Калісьці нашыя продкі не ведалі жалеза. Ды і цяпер у далёкіх паўночнаўсходніх лясах ёсць плямёны, у якіх няма ні мячоў, ні шабляў. Усю сваю зброю яны робяць з каменя і костак рыб ды жывёл, — сказаў Арцін. — Я — будучы віцязь — не магу без зброі.

На скале ён знайшоў добры кавалак крэменя, раскалоў яго іншым крэменем, такім чынам каб былі завостраныя краі. Затым змайстраваў каменную сякеру — завостраны кавалак каменя прывязаў крыж-накрыж да кія.

— А я як быў без зброі, так і застануся, — самазадаволена прамовіў кот Міамурмарор, — мне і маіх кіпцюроў досыць.

— І ў мяне ёсць мой парасон, — прамовіў мастак Дроздзіч.

Прыяцелі абышлі замак вакол, але ні брамы, ні лаза, ні нават шчыліны не ўгледзелі…

## XVII

## СУСТРЭЧА З ЛУСКАВАТЫМІ

Насамрэч Алеолла не праколвала бурдзюк. Яна яго проста перакуліла і паслабіла вяроўку, якой ён быў перавязаны. Малако стала прасочвацца, і кроплі ляцелі ўніз.

Яна разам з Бедалдаем, набраўшы хуткасць, імчаліся па паветры ў невядомым кірунку. Здавалася, што яны знянацку ператварыліся ў вецер, які ляціць уздоўж зямлі, бо рэзкі, шчыльны вецер бесперапынна свістаў у іх у вушах і бязлітасна трапаў валасамі.

Алеолла нават не спрабавала вырывацца з жалезных абдымкаў Бедалдая. Папершае, яна баялася, што, калі вырвецца, проста зваліцца на зямлю і разаб'ецца, а па-другое, яна выдатна разумела, што кат не збіраецца рабіць ёй аніякай шкоды.

Ні Бедалдай, ні Алеолла да канца не зразумелі, што адбылося — чаму раптам незразумелая сіла падхапіла Бедалдая і панесла ў невядомым кірунку. Можа, такая ж сіла падхапіла і яе сяброў? Алеолла ўзіралася ўдалеч, ці не ляцяць за ёй Арцін, мастак Дроздзіч і кот Міамурмарор. Яна нават пашкадавала, што яны не разам — а было б цікава паглядзець, як ляцеў бы, распушыўшы агніста-апельсінавы хвост, кот Міамурмарор, які быў бы ў яго выраз на пысцы. Але, на жаль, за імі ніхто не ляцеў — толькі ўдалечыні віднеліся невядомыя цёмныя цені.

Такія ж цені — толькі паболей — былі і наперадзе. Абрысамі яны нагадвалі чалавека з вялікім панцырам альбо шчытом на спіне.

Далёка ўнізе мільгацеў суцэльны кілім лесу. Алеолла атрымлівала асалоду ад гэтага яшчэ нязнанага ёй адчування палёту. Блакітнымі змеямі зіхцелі рэкі, срэбнымі манетамі ззялі азёры, валунамі падаваліся ўцёсы. Часам Алеолла і Бедалдай ляцелі так нізка, што ледзь не краналіся верхавін дрэў і вяршынь узгоркаў, а часам зямля рэзка сыходзіла ўніз, нібы правальвалася ў глыбокую ўпадзіну.

Угары ззяла сонца, яно засталося такім жа далёкім, а вось аблокі сталі большымі.

Раптам наблізілася зямля, павялічыліся дрэвы, унізе прамільгнулі пясчаная гара і шэрая сцяна замка.

— Мы ляцім на пік скалы! — крыкнуў Бедалдай. — Трымайся!

Алеолла яшчэ мацней учапілася рукамі ў к*а*та і зажмурылася. У яе з рук выпаў пусты бурдзюк з-пад малака і паляцеў уніз. Але ім пашанцавала, у пік яны не ўдарыліся — насамрэч у скале, пад самай вяршыняй, знаходзіўся грот. Уварваўшыся ў яго на шалёнай хуткасці, Алеолла і Бедалдай тут жа патрапілі ў сетку, падобную да сачка, якім дзеці ловяць матылькоў, толькі гэты сачок-падхватнік быў надзвычай вялікі.

Сетка была зроблена з мяккіх і пругкіх вяровак. Па іх Алеолла і Бедалдай з'ехалі ўніз і апынуліся на каменным выступе, падобным да балкона з зубчастымі краямі.

Адсюль, з вышыні птушынага палёту, віднелася зямля — усюды, куды ні зірні, рассцілалася лясное мора…

— А гэта яшчэ хто? — Алеолла ўбачыла, як побач з праёмам, што вёў у глыб скалы, стаяў віцязь-волат і з цікаўнасцю разглядаў яе і Бедалдая.

Віцязь быў апрануты ў незвычайныя латы — і шалом, і самі латы складаліся з пласцінак, падобных да рыбінай лускі, а за поясам у віцязя вісеў меч, зроблены з зуба вялізнай рыбы.

З Бедалдаем адбывалася нешта незразумелае — падчас борсання ў сетцы ён здолеў начапіць сабе на спіну свой футарал. Цяпер жа шлейкі туга нацягнуліся і кат «прыляпіўся» футаралам да сценкі балкона. Бедалдай крахтаў ад намагання, нязграбна тузаўся, спрабуючы адарвацца разам з футаралам ад сцяны. Але ўсё было дарэмна — у яго нічога не выходзіла.

— Пэўна, у яго там высакаякаснае жалеза, — выказаў здагадку віцязь. Ён казаў нізкім раскацістым голасам.

— Ага, — усміхнулася Алеолла, — у яго там высакаякасная сякера.

— Тады няхай вызваляецца ад шлеек і выходзіць сюды. Пакуль маг не пераверне глыбу, твой прыяцель усё роўна, як бы ні імкнуўся, не зможаададраць сваю сякеру ад сценак балкона.

Бедалдай упарта не жадаў пакідаць свой футарал з сякерай і з усіх сіл працягваў цягнуць яго на сябе.

У гэты час у сетцы заварушыўся яшчэ адзін віцязь — такі ж «лускаваты», як і першы, з такім жа мячом за поясам. Па вяроўках віцязь спусціўся ўніз і тут жа «прыляпіўся» да сценкі балкона. За спінай у віцязя быў шырокі шчыт на шлейках, амаль такіх жа, як і на футарале Бедалдая. «Лускаваты» звыкла зняў шлейкі з плячэй і ўстаў на ногі.

— Што гэта за госці ў нас? — спытаў ён у першага віцязя.

У абодвух віцязяў, як у братоў, вочы былі аднаго колеру — колеру марской хвалі, аднолькава чорныя з сінім адлівам вусы і такія ж валасы, якія выбіваліся з-пад шалома, зробленага з рыбінай лускі.

— Мяне клічуць Алеолла, — прадставілся дзяўчына. — А гэта Бедалдай, мой кат…

— Хто?

— Я хацела сказаць… ну… у сэнсе…

Яна замялася, убачыўшы як мяняюцца з твару віцязі.

— Гэта са мной... — прамямліла яна.

— Так што, ён за вамі гнаўся? — гнеўна спытаў адзін з віцязяў і схапіўся за меч.

— Не, ён толькі мяне абняў…

— Што ён зрабіў? — здзівіліся віцязі.

Алеолла не ведала, як ім усё растлумачыць.

Тым часам з сеткі вылез яшчэ адзін лускаваты. Ён чуў, пра што казалі яго таварышы, таму падышоў да Бедалдая і з сілай выцягнуў таго са шлеек футарала.

— Ты будзеш гаварыць з самім Ромам Essence Ончарам. І ты, як цябе там, Алеолла, таксама.

Тут з сеткі выпаўз чарговы віцязь.

— Што гэта? — гучна абурыўся ён. — Што гэта за скрыня прышпандорана да сценкі балкона? Гэта месца для майго шчыта!

— Супакойся, Мернеск, стаў свой шчыт побач з маім, будзем разбірацца, — сказаў яму віцязь, які трымаў Бедалдая.

Раптам Бедалдай вырашыў пасупраціўляцца. Яму амаль удалося вырвацца з рук віцязя, які яго трымаў. Аднак віцязь быў вышэйшы за яго на галаву і відавочна мацнейшы.

— Не бузі, — нізкім голасам загадаў ён Бедалдаю.

Раптам у сетцы апынуўся сапраўдны гігант. Яго шчыт быў вялізны, так што месца для такога шчыта было толькі на брылі балкона. Сетка ледзь не трашчала пад ім. Гэты гігант плячама прыпёр свой шчыт да брыля і вызваліўся ад шырачэзных шлеек.

— Што тут за вэрхал? — прагрукатаў ён.

Гэты звыш-віцязь быў не менш двух касых сажняў у плячах, рукі яго былі падобны да пяціпальцавых граблёў — калі яны сціскаліся, ператвараліся ў вялізны, нібы паходны кацялок, кулак. Парослыя густым «мохам», надброўныя дугі рэзка выступалі наперад і грозна навісалі над вачамі.

— Гэта не вэрхал… — сказала Алеолла. — Гэта Бедалдай… Мой кат... Ой! — вымавіла яна і змоўкла.

— Хто? — падняў адно брыво гігант.

— Слухай, Ром Essар, няпрошаныя госці «ўчапіліся» з намі, — забасілі віцязі.

Гігант спадылба зірнуў на спалоханую Алеоллу і Бедалдая.

— Добра, пайшлі да Ніціча. Распавядзём, як бітва прайшла, і гэтых пакажам, — загадаў ён. — Гэй! Мы прыбылі! Усе на месцы! — гігант прамовіў гэтак громагучна, што здрыгануліся сцены.

Яго словы пранміклі ўнутр скалы і, змяшаўшыся са сваім жа рэхам, ператварыліся ў далёкі шум-гуд.

— Малайцы. Я вас чакаю! — іншы мужчынскі голас прыйшоў з падзямелля. — Увага! Адмыкаю!

У гэтае імгненне шчыты віцязяў, «прылепленыя» да сценак балкона, хіснуліся. Яны ўсё яшчэ працягвалі трымацца, але не з такой сілай, як перад гэтым. А футарал Бедалдая наогул споўз на падлогу.

Убачыўшы гэта, кат ірвануўся, каб падхапіць яго.

— Яшчэ раз паўтараем… з намі не бузі, Бедалдай, а то бяды не абярэшся, — сказаў віцязь, які трымаў яго, і моцна схапіў за плячо.

Бедалдай перастаў вырывацца.

## XVIII

## РАДЗІМКА ЗЯМЛІ

Віцязі пайшлі па галерэі ў глыб скалы і неўзабаве трапілі ў грот, столь якога была з горнага крышталю. Столь раз-пораз у розных месцах азаралі жоўта-аранжава-сінія водбліскі.

У цэнтры грота знаходзілася агромністая прастакутная глыба шэрага колеру. На ёй стаяла вялікае плеценае крэсла, у якім сядзеў чалавек.

У зале, пад глыбай, уздоўж круглай сцяны пашыхтаваліся віцязі. Разам з прыбылым Ромам Essарам іх было трыццаць. Высока пад крыштальным купалам залы Алеолла заўважыла яшчэ аднаго віцязя. Ён, нібы павук у сетцы, ляжаў у гамаку і ўвесь час спрабаваў злавіць поглядам чарговы жоўта-аранжава-сіні водбліск на столі.

— Вітаю волатаў! — крыкнуў чалавек на глыбе. — Як поспехі?

— Няшчасныя хазраане пабіты і ўцякаюць, — адказаў за ўсіх Ром Essар.

— Малайцы! Вы як заўсёды былі хуткімі і храбрымі! — урачыста прамовіў чалавек на глыбе. — Віншую з перамогай! Адпачывайце і банкетуйце!

— Ніціч! — зноў загаварыў Ром Ончар.
— Слухаю, слаўны ваявода!
— Мы «падчапілі» гасцей… Трэба з імі паразмаўляць.
— Добра, я хутка спушчуся.
Ром Ончар сам голасна звярнуўся да віцязяў:
— Дзякую, хлопцы! Добрая праца… Усе могуць быць вольныя, — а затым, панізіўшы голас, сказаў віцязю, які трымаў Бедалдая, — дай мне гэтага недарэку.
Бедалдай, які не лічыў сябе недарэкам, тупнуў нагой, павёў плячом і вызваліўся. Але ненадоўга — магутныя рукі Рома Ончара яго дасталі. Ваявода схапіў к*а*та за карак і сціснуў так моцна, што Бедалдай закусіў губу ад болю.
Ніціч па вяровачнай лесвіцы спусціўся з глыбы і падышоў да Рома Ончара.
Ніціч быў ваяводзе па плячо, таксама шыракаплечы, з добрай паставай і ўвесь сівы — падавалася, што яго галаву ахутвае пышнае белае воблака. Такое ж белае, толькі меншае, воблака — з белых вусоў і барады — было ў яго пад носам. А карыя вочы Ніціча былі жвавыя і вельмі цікаўныя.
«Дзівосны стары», — адзначыла Алеолла.
— Дабрыдзень, — ветліва сказаў Ніціч будучай яснапанне.
— Дабрыдзень, — адказала Алеолла тонам будучай яснапанны.
— Я — Ніціч, па прызначэнні — маг, — прамовіў ён, трохі напышліва.
— Я — будучая яснапанна, — прамовіла дзяўчына ў рэверансе.
Маг Ніціч ветліва пакланіўся ёй, а затым паглядзеў на ваяводу.
— А навошта вы Бедалдая трымаеце?
— Ды вось, хлопцы гавораць, што ён бузіць, — грубым голасам прамовіў Ром Ончар.
— А што, хіба з такімі хлопцамі можна бузіць?
— Вядома, не… Вось і трымаю яго, — раздзімаючы ноздры, сурова сказаў ваявода. — А то зламаюць яму што-небудзь незнарок…
— Ясна, — сказаў маг Ніціч. — Давайце вы, Алеолла, і вы, Ром, з гэтым бузацёрам да мяне.
Маг Ніціч пайшоў уніз па спіральнай лесвіцы, за ім пачала спускацца Алеолла, а за ёй Ром Ончар павёў Бедалдая. Лесвіца стромкімі прыступкамі бегла па краях шырокага круглага праёма, падобнага да вялікай студні, і як быццам увінчвалася ў падзямелле. Па цэнтры «студні» вісеў драўляны, да бляску адпаліраваны доўгі шост — прыстасаваны на выпадак экстраннага спуску.
— Асцярожна, прыступкі высокія, для дзяўчыны нязручныя, — ветліва папярэдзіў маг Ніціч. — Сам я асабіста люблю спускаюцца па шасце. Прашу вас.
Усе ўчатырох яны ўвайшлі ў пячорную залу. Падобнае жыллё Алеолла ўжо бачыла раней — у старца ў Пячорным Горадзе. Аднак трэба аддаць належнае, пакой мага Ніціча быў значна прасторнейшы і святлейшы. Усё ў ім было выслана мяккімі дыванамі. У асобнай нішы гарэў агонь, што рабіла памяшканне больш утульным.
— Калі змерзлі ад пералёту — прашу да агню, — запрасіў маг Ніціч. — Гэта вечны агонь — з зямлі б'е горны газ, таму агонь ніколі не згасае. Спрабаваць яго тушыць альбо дзьмуць на яго нельга. Газ — атрутны. А калі раптам агонь згасне, трэба адразу ж адтуліну замазваць глінай — вунь бачыце камячкі свежай гліны?
Камячкі свежай гліны ляжалі побач з каменнай нішай, а ў ёй, са скалы, біла струменьчыкам чыстая вада. Вада збіралася ў выдзеўбаную ў сцяне чару і збягала далей у горную расколіну.
— У гэтым замку шмат дзіўных рэчаў, — лагодна прамовіў Ром Ончар, звяртаючыся да Алеоллы і Бедалдая.

— Прашу садзіцца, — прапанаваў маг Ніціч.

Перад газавым камінам стаялі тры плеценыя з лазы крэслы-гушкалкі.

— Садзіцеся, — лагодна сказаў маг Ніціч Бедалдаю, — адпусці ты яго, Ром.

— Так, праўда, адпусціце, яго. Гэта мой… целаахоўнік, — папрасіла Алеолла.

— А-а, — густым басам працягнуў Ром Ончар, — адразу б так і казала. А то кат ды кат… Які яшчэ кат?

— Я хутка, — сказаў маг Ніціч.

Праз некаторы час ён з'явіўся з круглым плеценым столікам на маленькіх колцах. На ім быў паднос з вінаградам, мандарынамі, рознымі гатункамі арэхаў, сокам, місамі, напоўненымі маннай і рысавай кашай з разынкамі ды мёдам.

— Частуйцеся… Праўда, каша ўжо халодная. Жадаеце вам падцяплю? Учора твае арлы на Ясны Бераг лёталі, там за жэмчуг выменялі… — паведаміў маг Ніціч Рому Ончару.

— Дзякуй, — сказала Алеолла і адшчыкнула некалькі вінаградзін.

Бедалдай моўчкі ўзяў жменю арэхаў, стаў жаваць і паволі пахіствацца ў крэслегушкалцы.

Сабе маг прынёс з глыбіні залы сціплае крэсліца і сеў разам з усімі за столік.

— Ну, распавядайце, хто вы і што вы, — звярнуўся ён да Алеоллы. — Як тут апынуліся?

— Ды што мы... Ехалі на конях, ехалі, і раптам — хоп! — ужо ляцім.

— Ну, бывае… Вельмі рэдка, але такое здараецца, — прамовіў маг Ніціч.

— Лепш вы распавядзіце, што гэта за замак? І як вы навучыліся лятаць? — з вялікай цікавасцю спытала Алеолла.

— Не, будучая яснапанна, спачатку вы распавядзіце падрабязней — як жывяце, куды і адкуль шлях трымалі… З кім сябруеце… — здавалася, маг Ніціч распытваў зычліва.

— А як жа я магу пра сябе і сваіх сяброў распавядаць, калі я не ведаю, каму распавядаю, і дзе я і мой целаахоўнік знаходзімся? І што гэта за дзіўнае месца такое? І рыцары, якія на шчытах па паветры лётаюць… Можа, вы гэтыя… як іх мянуюць… налётчыкі… — пагляд Алеоллы зрабіўся занепакоеным. — Тым больш, вы нас, як самі гаворыце, неспадзявана «ўчапілі».

— Разумна даводзіце… — хітра ўсміхнуўся маг Ніціч. — Але гэта вы неспадзявана за нас «учапіліся», а не мы за вас. Добра, не хочаце нічога распавядаць — не трэба. Я вас адвяду кожнага ў свой пакой, але, папярэджваю, выходзіць з пакояў без майго дазволу нельга — гэта небяспечна. У гэтым замку трэба жыць асцярожна.

— Чаму?

— Газ, агонь, вада… Яшчэ шмат розных рэчаў... Доўга тлумачыць, ды і зразумець гэта цяжка без спецыяльнай адукацыі.

— Ну, калі ласка. Давайце мяняцца. Я пра сябе распавяду. А вы пра сябе, — Алеолла згарала ад цікаўнасці — усе гэтыя палёты, пячора, грот з крышталёвай столлю, на якой заўсёды нешта ўспыхвала, незразумелая прастакутная глыба пасярод залы. Ад гэтых незвычайных рэчаў у яе проста дух захоплівала.

— Мяняцца? Згодзен. Распавядайце, — маг Ніціч пагладзіў сваю белую бараду і падрыхтаваўся слухаць.

— Добра.

Алеолла, Бедалдай і Ром Ончар селі ямчэй у плеценых крэслах-гушкалках. Маг Ніціч тым часам прынёс сокі і халодны квас, паставіў усё гэта на столік. Усе сталі частавацца і слухаць, што скажа Алеолла.

Будучая яснапанна распавяла ўсё пра сабе, пра сваё мястэчка, пра няшчасці, якія выпалі на яе блізкіх і землякоў, пра тое, што яна і яе сябры намерваліся ісці да Жалобнай Каралевы Паляндры. Праўда, дзяўчына не стала распавядаць пра шаўкоўніцу — не хацела выдаваць сакрэт.

— Добрую справу задумалі, хоць і вельмі рызыкоўную, — згадзіўся маг Ніціч. — А цяпер я праводжу вас у вашыя пакоі, каб адпачыць ад такіх узрушэнняў.

— Мы так не дамаўляліся! Гэта ж несправядліва! Я вам пра сябе ўсё распавяла, а вы нам з Бедалдаем анічагусенькі! — абурылася Алеолла.

— Па дарозе ўсё пачуеце, — усміхнуўшыся, прамовіў маг Ніціч. — Прашу трымацца за мной.

Бедалдай не паслухаўся, а стаў таптацца з нагі на нагу:

— Мне патрэбна мая сякера, — змрочным голасам прагаварыў ён.

— Давай-давай, збірайся! — пагрозліва сказаў яму Ром Ончар. — Потым разбяромся.

Маг Ніціч падпаліў нафтавую паходню і павёў Бедалдая з Алеоллай яшчэ ніжэй па прыступках, што віліся па баках вялікай «студні». За імі таксама з паходняй у руцэ ішоў велічэзны ваявода — ён час ад часу ўважліва пазіраў на Бедалдая.

— Вы будзеце, нарэшце, распавядаць? — нецярпліва спытала Алеолла.

— Буду, буду, — перавёў дыханне маг Ніціч. — Значыць так, слухайце… Калі, канешне, зможаце зразумець... Гэты замак пабудаваны ў самім цэнтры нашай часткі свету. Менавіта ў гэтым месцы сыходзяцца струмені магічнай сілы зямлі...

— Гэта тут легендарны пуп зямлі? — перабіла яго расхваляваная Алеолла.

— Не. Гэта не пуп зямлі. Скажу праўду, зямля — гэта шар, вы гэта ведаеце?

— Так, — кіўнула Алеолла і ўспомніла кат*а* Міамурмарора ў вобліку заморскага мудраца.

— Дык вось, у зямлі ёсць два пупы. Адзін — на поўначы, другі — на поўдні. А вось замак, дзе мы знаходзімся, пабудаваны, калі можна так сказаць, на зямной радзімцы.

— На зямной радзімцы? — задумалася Алеолла.

— Так... Да яе і збягаюцца струмені магічнай сілы, — працягваў свой аповед маг Ніціч.

Усе ўчатырох яны спусціліся на самае дно «студні» і ўвайшлі ў вузкую пячорную галерэю, звярнулі адзін раз, другі, трэці… Апынуліся ў сапраўдным лабірынце. Алеолла спрабавала запомніць дарогу, але неўзабаве канчаткова заблыталася. Ёй заставалася спадзявацца толькі на Бедалдая і яго памяць.

Маг Ніціч працягваў:

— Калісьці я сышоў са стольнага горада Дзівіна і адправіўся падарожнічаць па Светлых Азёрах, па Сініх Азёрах, па Жоўтарэччы. Пабываў у вялікіх гарадах: Новым Беразе, Векаве, Залатым Горадзе, нават наведаў Мерамір. Плаваў на захад, быў на ўсходзе. Аднойчы перажыў караблекрушэнне — а выратаваў мяне Ром Ончар. У той час ён жыў са сваімі волатамі на аддаленай выспе на Вечаровым моры. Вось тады мы з ім і пазнаёміліся. Я слухаў мудрацоў, чытаў кнігі. Гаварылі, што зямля валодае магічнай сілай, і я вельмі хацеў гэтую сілу выявіць. Здавалася, што ўсё дарма. Таму што ніхто — ні мудрэц з усходу, ні навуковы муж з захаду — не маглі мне сказаць, што гэта за сіла. Хоць усе згаджаліся з тым, што яна існуе. І вось аднойчы ў Далёкіх Гарах адзін пустэльнік падарыў мне сталёвую рыбу. Калі падвесіць яе на нітцы за плаўнік, то яе галава заўсёды паказвае на поўнач, а хвост — на поўдзень. Я зноў адправіўся вандраваць па свеце. І мая рыба ні разу не памылілася, ні разу мяне не падвяла. Як бы я ні круціў яе на нітцы, яна заўсёды спынялася

галавой на поўнач. «Цяпер, — думаў я, — ніколі і нідзе не заблуджуся. Ні ў моры, ні ў глухім лесе». І вось аднойчы, калі я вяртаўся на Светлыя Азёры і ішоў праз вялізны дрымучы лес, раптам адбылося штосьці неверагоднае. Рыба прывяла мяне да высокай скалы. Менавіта ў гэтай скале мы цяпер і знаходзімся. Рыба не хацела паказваць ні ў які іншы бок — толькі на гэтую скалу. І я зразумеў! — маг Ніціч перавёў дыханне. — Я зразумеў, што ў гэтай скале ўтойваецца магічная сіла зямлі. Высока пад яе пікам я ўбачыў грот — у ім і пасяліўся. Потым я заўважыў, што шэры камень, які можна здабываць з гэтай скалы, таксама ўтрымлівае ў сабе магічную сілу... А яшчэ гэты камень здольны прыцягваць маланкі, якія валодаюць падобнай, але нашмат большай сілай. Тут, у гэтай скале, зямля і неба быццам перадаюць адно аднаму гэтую магічную сілу…

— Дык гэта вы той самы Уладар Навальніц? — раптам спытаў Бедалдай. — Гэта вы пасылаеце навальніцу ў любую кропку зямлі?

— Людзі любяць распускаць чуткі і распавядаць розныя небыліцы. Ну і, вядома ж, даваць розныя гучныя імёны. Я — маг Ніціч… Але навальніцамі, на жаль, не загадваю. Пакуль не загадваю. Я проста папрасіў сваіх сяброў-волатаў пабудаваць тут замак. Яны выканалі маю просьбу і назвалі магічную сілу зямлі ў гонар майго імя «магнітнай». Дарэчы, вы заўважылі, што сцены гэтага замка прыцягваюць жалеза? Увогуле, я навучыўся ўзмацняць гэтую «магнітную» сілу да «магутна магнітнай», як я яе назваў — «магнітычнай» сілы! І з дапамогай яе я навучыўся лятаць і навучыў лятаць віцязяў. Ну што, цяпер вам усё зразумела?

— Зразумела, — працягнула Алеолла, — але не зусім… А як усё гэта адбываецца? Як гэта яны лятаюць?

— Віцязі бяруць свае шчыты і ляцяць удалячынь, — проста сказаў Ром Essential Ончар.

— І ўсё?

— Амаль усё, — прызнаўся маг Ніціч.

— Распавядзіце падрабязней, калі ласка.

— Калі заўтра вы яшчэ гэтага захочаце, — лагодна ўсміхнуўся маг Ніціч, — тады пакажу… Ну добра, вось мы і дайшлі. Алеолла, там твой пакой, — маг паказаў у бок аднаго каменнага калідора, — а тут, Бедалдай, твой, — махнуў ён у бок іншага калідора. — Адзін да аднаго ў госці можаце хадзіць, а вось наверх паднімацца, пакуль я сам не дазволю, нельга. Яшчэ раз папярэджваю — небяспечна для жыцця. Ды і заблукаць тут можна.

— А мая сякера? — зноў нахмурыўся Бедалдай.

— Не хвалюйцеся, — паспрабаваў супакоіць яго маг, — з сякерай нічога не станецца. Ніхто яе не кране. Праўда, ваявода?

— Так, сапраўды, — адказаў Ром Ончар, — мы ваюем мячамі, зробленымі з зубоў рыбы-маржа.

— Гэтая сякера павінна быць толькі ў мяне. І больш ні ў кога, — папярэдзіў Бедалдай.

— Цікава, цікава, — вочы Ніціча загарэліся. — Што гэта за цуд-сякера? Лётае па «магнітычных» струменях не горш за нашыя шчыты.

— Між іншым, мне таксама цікава, — сказала Алеолла, — чаму ўсё-ткі сякера Бедалдая ўчапілася за гэты, як вы гаворыце, «магнітычны» струмень?

— Ну, над зямлёй часам адбываюцца магнітныя буры, вось струмень і адхіліўся. А сякера ўзяла і зачапілася, — растлумачыў маг. — О, прашу сюды.

Маг Ніціч адгарнуў дыван, які закрываў уваход у пячорны пакой, прызначаны для Бедалдая, і яны ўвайшлі ўнутр. У пакоі-пячоры стаяў драўляны стол, крэсла і тапчан, пакрыты тоўстым покрывам. Падлогу і сцены высцілалі дываны.

— Гэта адмысловая тканіна, — паказаў на дываны маг Ніціч, — зроблена з пустыннай травы. Яна амаль не гарыць.

— Ого, — здзівілася Алеолла.

У адным з кутоў пакоя знаходзіўся гарлач з вадой, у які са столі капала чыстая вада. Калі гарлач перапаўняўся, вада вылівалася з тонкага носіка гарлача ў каменную нішу і сыходзіла скрозь адтуліну ў глыб гары. Яшчэ ў пакоі-пячоры меўся газавы камін, дакладна такі ж самы, як у зале мага Ніціча.

Ром Ончар пальцам адняў кавалак гліны, і газ сыкнуў. Палкаводзец хутка запаліў камін сваім крэсівам, і полымя весела затанчыла ў каменнай выемцы.

— З гэтым камінам трэба быць вельмі асцярожнымі! І ні ў якім разе не тушыць! — загадным тонам сказаў Ром Ончар.

Бедалдай абыякава глядзеў на ўсё, што адбываецца.

— Вось тут косці для гульні, — паказаў на стол маг Ніціч, — можаце пагуляць адно з адным, а можна і аднаму, паспрабуйце выкінуць «чароўную піраміду». Правілы простыя: кідаючы па адным кубіку перш трэба выкінуць «6», потым «5», потым «4», «3», «2», «1». А атрымаць «піраміду» трэба столькі разоў, колькі граняў на кубіку: шэсць разоў запар.

— І што будзе? — запытала Алеолла.

— Калі хтосьці выкіне піраміду шэсць разоў запар, адбудзецца чараўніцтва… Спадзяюся, вы не засумуеце, — сказаў маг Ніціч.

— Мне трэба забраць сваю сякеру, — панура паўтарыў Бедалдай.

— Што ты заладзіў — сякера, сякера? Гэтая сякера проста засела ў цябе ў галаве, — непрыязна прамовіў Ром Ончар.

— Так, і што гэта за незвычайная сякера? І чаму яна павінна быць толькі ў цябе і ні ў кога больш? — спытаў маг Ніціч. — Распавядзі нам, калі ласка.

Бедалдай цяжка ўздыхнуў, падышоў да каміна і прыняўся расказваць:

— Гэтую сякеру зрабіў джын-каваль Тшэтхест. Па легендзе, ён папрасіў дзевяцярых самых лепшых кавалёў-людзей выкаваць яму па сваёй самай лепшай сякеры. Ды так, каб усе сякеры былі з выдатнай сталі, нават дзяржальна са сталі… Сякеры ў кавалёў, насамрэч, вышлі на славу — маглі секчы любы метал, любы камень. «Малайцы», — пахваліў кавалёў Тшэтхест і даў кожнаму кавалю золата па вазе выкаванай ім сякеры. А потым Тшэтхест адправіўся ў сваю пячору і з дзевяці сякер скаваў-спрасаваў сваім вялізным молатам адну. Сякера стала магутнейшай у дзевяць разоў — і з тых часоў гэта самая страшная зброя на Зямлі. Магутны чорны джын Штайнат празнаў пра гэтую сякеру і спалохаўся. Бо такой зброяй можна забіць яго самога. Але калі Штайнат сам завалодае гэтай зброяй, то зробіцца непераможным. Тады Штайнат хітрасцю заманіў джына-каваля Тшэтхеста ў падзямелле, у пячору Далёкіх Гор, сказаўшы, што там знаходзіцца самая чыстая жалезная руда ў свеце. І калі Тшэтхест спусціўся ўніз, Штайнат абрынуў на яго ўсю гару. Аднак перад тым, як адправіцца ў шлях, джын-каваль паспеў схаваць сваю сякеру дзесьці ў глыбокім месцы… — Бедалдай распавядаў глухім голасам, гледзячы толькі на вогнішча каміна. — І вось праз тысячу гадоў сякеру знайшлі ў студні Пячорнага Горада. Гэта найглыбейшая студня на зямлі. Сякеру Тшэтхеста ніхто не хацеў даставаць — усе баяліся чорнага джына Штайната. Ды і ваду людзі баяліся браць з гэтай студні. А я не пабаяўся і ўзяў гэтую сякеру сабе.

— А сам ты не баішся чорнага джына Штайната? — спытала Алеолла.

— Не, не баюся. Толькі ў к*а*таў чорны джын не можа забраць сякеру, таму што гэта не толькі зброя, але і іх прылада працы. Чорнай працы, якую і чорны джын робіць...

— Дык ты ўсё-такі кат? — падняў свае страшныя бровы Ром Ончар.

— Так, — глуха адказаў Бедалдай.

— І як шмат людзей ты забіў? — гнеўна спытаў Ром Ончар.

Ваявода хацеў схапіць к*а*та за плечы, прыўзняць ды так скалануць, каб дух з яго выляцеў. Бедалдай ледзь паспеў адступіць у глыб свайго пакоя.

— Ніводнага… — прамовіў кат. — Адзін выгляд сякеры прыводзіць у жах людзей, якія задумалі штосьці нядобрае.

— Значыць, ты кат людскіх думак? — зацікаўлена вымавіў маг Ніціч. — Адсякаеш не дрэнныя галовы, а тое дрэннае, што ёсць у галовах?

— Можна і так сказаць.

— Але ён жа ў любы момант можа стаць сапраўдным к*а*там! — грозна праракатаў Ром Ончар.

— Бедалдай мяне ахоўвае! І нават абараніў ад злыдняў! — умяшалася Алеолла.

Дзяўчына стала паміж Бедалдаем і Ромам Ончарам.

— Дык магу я забраць сваю сякеру? — настойліва і без аніякай боязі спытаў кат.

— Сякера зроблена з высакаякаснай сталі. А знаходзіцца ў замку з металічнымі рэчамі вельмі небяспечна, — папярэдзіў яго маг Ніціч, — таму раю пакінуць сякеру там, дзе яна цяпер знаходзіцца. На балконе… Ром, пабудзь у калідоры… Хадзем, Алеолла, я пакажу вам, дзе будзеце жыць.

Яны пакінулі Бедалдая ў сваім пакоі. Ром Ончар выйшаў у галерэю, а маг і будучая яснапанна прайшлі ў калідор, які вёў у суседнюю пячорку. Гэты пакой быў дакладна такім жа, як і ў Бедалдая. На стале таксама ляжалі косці для гульні, і выразаная табліца з правіламі «чароўнай пірамідкі». Маг Ніціч запаліў камін і звярнуўся да Алеоллы:

— Акрамя касцей для гульні, у вашым пакоі ёсць скрутак. Гэта кніга па геаграфіі. Вывучайце Зямлю…

— А якое чараўніцтва адбудзецца, калі атрымаецца гэтая «пірамідка» шэсць разоў запар? — пацікавілася Алеолла.

— А вы паспрабуйце пагуляць, тады і зразумееце.

— Вам што, шкада сказаць? — з какетлівай крыўдаю прамовіла Алеолла.

— Я думаю, што калі чалавеку цікава нешта спазнаць, то яму варта паспрабаваць зрабіць гэта самому.

— А каб самому праверыць, якое будзе чараўніцтва, мне трэба згубіць пройму часу. А часу, нават самай маленькай проймачкі, у мяне няма.

— Як гэта ў вас няма часу? Мы вас прывялі сюды, каб вы як след адпачылі з дарогі, — здзівіўся маг Ніціч.

— Але я не магу адпачываць з дарогі, таму што мая дарога не завершана. Мне трэба тэрмінова вяртацца да маіх сяброў!

— А навошта ж вы, будучая яснапанначка, столькі часу ішлі за мной па падземных галерэях?

— Я пайшла таму, што вы паабяцалі расказаць нам пра замак.

— Дык я вам ужо ўсё распавёў.

— Не, вы — хітры чалавек, вы не распавялі, як гэта ўсё адбываецца… Як і адкуль рыцары ўзлятаюць… Навошта яны кудысьці ляцяць… Думаю, калі я ў наступны раз «зачаплюся» за вашыя магічныя струмені, вы абавязкова раскажаце. А цяпер прашу адправіць мяне і Бедалдая назад да маіх сяброў.

— Як? Ісці цяпер назад… І ляцець на сякеры па паветры? — усклікнуў маг Ніціч.

— Ну, вядома ж, так!

— Цяпер гэта зрабіць немагчыма!

— Адпраўце мяне з Бедалдаем!

— Не. Вы з гэтым вашым Бедалдаем проста разаб'ецеся… Ні вы, ні ён лятаць не ўмееце. І, галоўнае, не ўмееце прызямляцца.

— Тады мы пойдзем назад праз лес.

— Гэта немагчыма. Лес дрымучы і непраходны... Там столькі дзікіх звяроў! І яшчэ, як бы вы ні хацелі ісці ад замка, вы ўсё роўна заўсёды будзеце вяртацца назад да яго. Такая ўжо тут уласцівасць прасторы. Нічога не паробіш. Мая вам парада — адпачніце, а заўтра паразмаўляем.

Маг Ніціч хутка выйшаў з пакоя ў галерэю, павярнуў за бліжэйшы кут. Алеолла хацела за ім пабегчы, але разгубілася, ды і ў падзямеллі было надта цёмна. Яна села на тапчан перад камінам.

Знік у цемры калідораў і камандзір віцязяў Ром Ончар.

## XIX

## ЧАЛАВЕК ЛАБІРЫНТА

Алеолла легла на тапчан, узяла скрутак і паглядзела на карту заморскіх земляў. На ёй былі выяўлены горы, рэкі, лясы, жывёлы, якія жывуць у тых краінах, замкі, гарады, караблі на моры… Дзяўчына пазнала паўвостраў Дарвіт і бухту з горадам Гняздо Рыб, горад Палац Садоў, гару, на якой размяшчаўся знаёмы ёй Пячорны Горад. «Вось пераможам Паляндру, — падумала Алеолла, — і рванём з Арцінам куды-небудзь у далёкія краіны. І Міамурмарора з сабою возьмем… І мастака Дроздзіча»… Яна ўяўляла, што яе сябры ўжо ідуць па малочным следзе. Каб кот ды не знайшоў малако? Алеолла ведала, што гэтага проста быць не можа! Яна думала і пра Бедалдая. «А як жа ён там? Сумуе альбо ўжо спіць?»… Ёй было не па сабе. Аднаму ў падзямеллі знаходзіцца вельмі прыкра. Алеолла паглядзела на кубікі для гульні — шаравата-металічныя, з белымі кропкамі. Полымя газавага каміна гулліва адлюстроўвалася на іх паверхні. «Вось цяпер выпадзе “піраміда” — і адбудзецца чараўніцтва — вернуцца ўсё родныя з палону Паляндры і будзе ўсё добра», — падумала Алеолла.

— Не, згуляю потым, — прамовіла яна ўслых, — трэба наведаць Бедалдая.

Алеолла выйшла са свайго пакоя — у калідоры нікога не было. Яна пайшла па цёмнай галерэі. Раней ёй уяўлялася, што пакой Бедалдая дзесьці блізка, зусім побач, але па нейкай прычыне пакоя побач не аказалася. З кожным крокам Алеолла апускалася ва ўсё больш апраметную цемру. Часам ёй станавілася вельмі страшна, але яна ўсё ж ішла далей. З глыбіні пячоры даносіўся бесперапынны гул — гэта глыбока ў нетрах гары шумеў вадаспад. Ад сцен цягнула вільгаццю, пахла неабжытай пустэчай. Раптам на процілеглай сцяне праз глыбока-шэрую цямрэчу праступіла чорная размытая пляма. Алеолла спынілася і прымусіла сябе прыгледзецца ўважлівей.

— Што гэта за стварэнне падзямелля? — у дзяўчыны задрыжала сэрца.

Прывід не варушыўся і не расплываўся. Алеолла набралася мужнасці і паціху падышла бліжэй.

— Сажа... Гэта сажа.

У нішы знаходзілася пагаслая нафтавая паходня, а над ёй — чорная пляма сажы. Яна здалёк нагадвала чорнае полымя альбо чорную здань.

— Вось і добра! — сказала Алеолла. — З паходняй я змагу прайсці далей.

Дзяўчына выцягнула яе з нішы, вярнулася да сябе ў пакой і падпаліла — паходня весела разгарэлася і ціха затрашчала.

Цяпер ісці па падземнай галерэі было ўжо не так страшна. Хоць з-за дрыготкай паходні за спінай Алеоллы мудрагелістымі васьміногамі варушыліся і распаўзаліся па сценах мігатлівыя цені.

Алеолла асцярожна прасоўвалася наперад, пакідала сажай на сценах плямы-адмеціны, — а раптам заблудзіцца! Яна хацела як мага хутчэй знайсці Бедалдая. Удвух будзе значна лягчэй, не так боязна.

Удалечыні дзяўчына заўважыла святло — гэта быў пячорны пакой з уваходам, завешаным дываном — гэтак жа, як і ў яе.

— Нарэшце знайшла, — падумала Алеолла і дадала кроку. Наблізіўшыся, яна зазірнула ў пакой.

— Бедалдай! — паклікала дзяўчына.

У глыбіні пакоя за сталом сядзеў чалавек. Ён кідаў «косці» і ўважліва глядзеў на лічбы, якія выпалі. Святло ад газавага каміна цьмяна асвятляла пакой, таму чалавеку даводзілася нахіляцца наперад, каб лепш разгледзець кубікі.

— Бедалдай! — Алеолла паклала руку яму на плячо.

Чалавек павольна павярнуў галаву…

Першае, што заўважыла Алеолла, былі яго пустыя, бялявыя вочы ў чорных вачніцах. А затым яна ўбачыла аблічча — худое, сухое, з мноствам зморшчын, быццам гэта не скура, а моцна пакамечаная і пажоўклая ад часу папера.

Кашчавая рука пацягнулася да дзявочай далоні, якая ляжала ў яго на плячы. Дакрананне гэтай рукі было пякуча-халоднае і агіднае.

— Не перашкаджай! — папрасіў чалавек.

— Бедалдай — гэта ты? Што яны з табой зрабілі? Што адбылося?

— Засталася «адзінка». Апошняя «адзінка»… Шостая «адзінка»! — хрыпеў ён.

Чалавек-здань узяў кубік.

— Бедалдай! Гэта ты?

Алеолла адскочыла.

Кубік выпаў з дрыготкіх рук старога і пакаціўся па падлозе.

— А-а, — натужана, хрыпла закрычаў ён, сагнуўся, апусціўся на калені і папоўз за кубікам.

— Бедалдай… Альбо хто вы… Адкажыце мне!

Алеолле было вельмі страшна пачуць, што гэта Бедалдай, і што з ім нешта за гэты час адбылося.

— А-а! — хрыплым перарывістым голасам закрычаў з падлогі чалавек. — А-а… «Шэсць»… Не трэба мне «шэсць»!

Ён зваліўся, падціснуўшы пад сябе ногі і рукі.

— Маё царства! Маё царства!

— Вы хто? — настойліва запытала Алеолла.

Чалавек ляжаў на падлозе, а яго павекі пачалі павольна апускацца.

— Вы паміраеце? — Алеолла кінулася да яго, штурханула.

— Царства! Мерамірскае царства! Мерамірскае царства ўва мне памірае!

— Не памірайце! Скажыце, хто вы!

Стары на падлозе хрыпеў.

— Хто вы?.. — як мага гучней крыкнула Алеолла.

— Я… Цар Ранеон…

— Я не чула пра такога! — Алеолле стала лягчэй, галоўнае — гэта не Бедалдай.

— Апошняя «адзінка»! Прэч! Пайшла прэч адсюль… — стары ўжо сіпла шаптаў. — Пайшла прэч… Апошняя «адзінка»...

— Выбачайце, вы каго праганяеце — «адзінку» альбо мяне? — як мага больш ветліва спытала Алеолла.

— «Адзінка»… Прэч! Нічога… Нічога… Я цяпер... Я цяпер… Толькі адпачну… У мяне яшчэ ёсць час… Пайшла прэч, нягодніца! «Адзінка»…

Алеолла зразумела, што прыступ у цара Ранеона выкліканы роспаччу ад чарговага пройгрышу, і што гэты стары хутка засне, таму што гуляў без сну і адпачынку некалькі сутак напралёт. Паспіць, ачуняе і пачне новую гульню.

Алеолла ўзяла сваю паходню і паціху выйшла з пакоя цара Ранеона.

## XX

## ЗАМАНЛІВЫЯ КОСЦІ

Алеолла зноў ішла ўздоўж сцяны. Яна павярнула ў адзін бок, затым у другі. І раптам пазнала тое месца, дзе апошні раз спрабавала запомніць паслядоўнасць паваротаў. Дзяўчына ясна прадставіла, як ёй выйсці да лесвіцы, што вяла да піка скалы.

Праз пэўны час Алеолла ўжо стаяла на прыступках, якія спіраллю ўзнімаліся высока ўверх. Там, уверсе, гарэла святло. Яна вярнулася трохі назад. У адной з ніш пакінула непагашанай сваю паходню — на выпадак, калі прыйдзецца вяртацца.

Паволі-паволі, затаіўшы дыханне, Алеолла пачала ўзнімацца па прыступках. Яна чула, як шалёна б’ецца сэрца — ёй было страшна, раптам хто-небудзь з гэтых дзіўных рыба-віцязяў альбо яшчэ якая-небудзь невядомая людзям пячорная істота выскачыць з цёмнага праходу. А такіх праходаў у сцяне скалы было шмат. Дзяўчына сілай волі прагнала свой страх і рушыла далей.

Неўзабаве Алеолла паднялася да залы, дзе ляжала прастакутная глыба. Выцягнуўшы, наколькі магла шыю, яна спачатку зазірнула ў залу.

Побач з глыбай нікога не было. І на самой глыбе на плеценым крэсле — таксама. А вось пад крыштальным купалам, у гамаку, ляжаў той жа загадкавы віцязь. Гэтым разам ён нават прыўзнімаўся да тых агеньчыкаў-водбліскаў, што перыядычна ўзнікалі на люстраной паверхні столі.

На дыбачках Алеолла прайшла ў залу і пачала красціся ўздоўж глыбы. Віцязь у гамаку пад купалам кашлянуў і паварушыўся. Алеолла прысела за глыбу і ледзь-ледзь закранула яе плячом. Найвелізарнейшая глыба, што важыла, на думку Алеоллы, ніяк не менш, чым тысяча сланоў, захісталася і трохі павярнулася. З-пад глыбы раздаўся гук, падобны да рыпення, калі адчыняюцца дзверы.

Віцязь у гамаку ўважліва паглядзеў уніз. Алеолла ўся сціснулася, забіўшыся пад глыбу. Яна заўважыла, што ўвесь гэты вялізны камень стаіць толькі на адным вострым выступе, які знаходзіцца ў самым яго цэнтры, унізе. Выходзіла, што гэтая прастакутная глыбіна ўсталявана так хітра, што з усіх яе бакоў захоўваецца раўнавага. Гэта тое ж самае, што роўную дошку трымаць на адной падушачцы пальца. Таму, нягледзячы на вялізную вагу глыбы, нават Алеолла магла яе павярнуць.

— Ёсць тут хто-небудзь? — гучна спытаў віцязь у гамаку.

Алеолла затаіла дыханне.

Віцязь адвярнуўся да крыштальнага купала і зноў пачаў лавіць поглядам гэтыя незразумелыя для Алеоллы мігатлівыя водбліскі.

Будучая яснапанна паціху пракралася да калідора, які выходзіў на балкон. Спачатку яна хацела разам з Бедалдаем прабрацца туды і забраць яго футарал з сякерай, але паколькі к*а*та яна не знайшла, вырашыла ўсё зрабіць сама. Ды і ў адзіночку лягчэй ціхутка прашмыгнуць і застацца незаўважанай. Сякеру трэба было перахаваць, каб, даведаўшыся, як віцязі лётаюць уздоўж гэтых «магнітычных» струменяў, самой разам з Бедалдаем паляцець назад да сяброў. Алеолле гэты маг Ніціч са сваім ваяводам падаваліся вельмі падазронымі. З аднаго боку, яны спрабавалі ўдаваць сябе добранькімі, а з іншага — выглядалі залішне хітрымі. І потым, што гэта за вар'ят стары ў падзямеллі? Што ён там робіць? Хто ён? Нейкі скінуты з трона і забыты ўсімі цар? Брр, якія халодныя і шурпатыя ў яго рукі… Навошта яны яго там трымаюць? І наогул, куды лятаюць гэтыя рыцары? А галоўнае — навошта?

Дзяўчына наблізілася да балкона і, заўважыўшы футарал Бедалдая, паспрабавала ўзяць яго. Аднак перш, чым футарал паддаўся, і яго атрымалася адляпіць ад сценкі, Алеолле давялося прыкласці незвычайныя намаганні. Яна накінула шлейкі на плечы — і футарал з сякерай адразу пацягнуў яе ўніз — такі ён быў цяжкі, але нічога не паробіш — трэба несці.

Алеолла ізноў зайшла ў невялікі калідор, які веў да залы з глыбай. Насамрэч, такіх калідораў-тунэляў было дванаццаць. Нібы промні ад сонца, разыходзіліся яны ад залы з глыбай да балкона. Дзяўчына выбрала найбліжэйшы — усё-ткі цягнуць на спіне футарал з сякерай не так лёгка — і паціху, абмацваючы сцяну рукой, накіравалася ў залу.

Раптам Алеолла пачула, як віцязь у гамаку закрычаў:

— Увага! Пад'ём! Рыхтуйся! Першая змена на тэрасу!

Алеолла зразумела, што тэраса — гэта і ёсць той грот з выхадам на балкон, і што хутка сюды прыбягуць віцязі. Яна стаілася ў сваім калідоры-тунэлі і стала назіраць.

Першым падняўся Ром Essential Ончар. За ім рушыў маг Ніціч. А потым адзін за адным прыбеглі яшчэ дзесяць віцязяў і пашыхтаваліся. Ром Ончар агледзеў сваю дружыну, ацаніў і, было падобна, што застаўся задаволены.

— Дазорца! — звярнуўся Ром Ончар да віцязя ў гамаку. — Удакладніце карціну!

— Караван ідзе па перавале ў Ледокскіх Гарах. Над імі толькі што прайшла сухая навальніца… Караван гружаны ядвабам, залатым посудам і дыванамі.

«Ага, — падумала Алеолла, — вось адкуль у іх столькі дываноў і шыкоўнага посуду».

— Людзей мала, таму досыць адной змены, — завяршыў даклад дазорца.

— Слухайце, волаты! Сквапных трэба прыстрашыць! — зычна выгукнуў Ром Ончар. — Старшым прызначаю Дэнэта!

— Увага! — Алеолла пачула голас мага Ніціча і асцярожна вызірнула са свайго тунэля.

Маг Ніціч ужо сядзеў у сваім крэсле, на глыбе. Над плеценым крэслам Ніціча Алеолла ўбачыла вялікае драўлянае кола. Ягоная вось была прымацаваная да цэнтра столі.

— Дазорца! — крыкнуў маг Ніціч — Сектар?!

— Дзесяць! — адказаў яму віцязь у гамаку.

Яшчэ Алеолла зазначыла, што падлога ў зале, дзе знаходзілася глыба, была прарысавана доўгімі пранумараванымі лініямі. Усё гэта нагадала ёй сонечны гадзіннік.

Кожная лінія паказвала на вызначаны калідор-тунэль. Алеолла ўбачыла, што тунэль, дзе яна знаходзіцца, пазначаны лічбай «11».

— Увага!

Перабіраючы рукамі па коле, маг Ніціч павольна разварочваў глыбу. Алеолла заўважыла, што з аднаго боку ў глыбы мелася завостраная дзюба. І вось гэтай дзюбай глыба ўказала, як стрэлкай, па лініі з лічбай дзесяць.

— На старт! — закрычаў маг Ніціч

Алеолла адчула, як нябачная хваля адкінула яе ад адной сценкі тунэля, у якім яна стаяла, да процілеглай.

— Забіраем праз суткі! — крыкнуў маг. — Усе запомнілі?

— Так! — крыкнулі віцязі.

— Для тых, хто спозніцца і параненых — паўторым яшчэ праз палову сутак. Ясна?

— Ясна! — адказалі дзесяць віцязяў.

— Пайшлі!

Віцязі па адным выбягалі на балкон, зрывалі са сцен свае шчыты, апраналі іх на плечы і па чарзе станавіліся на зубец балкона насупраць дзясятага тунэля. Затым тварам да неба падскоквалі ўверх і, падхопленыя нябачнай сілай, несліся ўдалячынь.

Усё адбывалася размерана, але хутка.

Калі знік у небе дзясяты віцязь Дэнэт, прызначаны старшым, на балкон выйшаў Ром Ончар. Ён зірнуў у вячэрняе неба, куды паляцелі яго віцязі, і крыкнуў:

— Давайце, хлопцы! Не ўпусціце перамогу!

— Не ўпусцяць, — адазваўся віцязь на гамаку.

— Мернеск, ты папільнуй за імі, пакуль можаш, і мне дакладвай...

— Ясна! — адчаканіў дазорца.

Ром Ончар прайшоў на балкон праз дзявяты тунэль, абышоў яго ўвесь і вырашыў вярнуцца ў залу праз адзінаццаты тунэль, у якім знаходзілася Алеолла. Як толькі яна заўважыла, што Ром Ончар ідзе ёй насустрач, спалохана выбегла ў грот і прагінаючыся пад цяжарам сваёй ношы, хуткім крокам накіравалася да лесвіцы. Яна думала, што ўнізе, у лабірынце яе будзе цяжка адшукаць.

— Гэй, Ніціч! — крыкнуў Ром Ончар. — Тут парушальнік!

— А, яснапанначка! — усклікнуў маг, калі заўважыў, што Алеолла выскачыла з адзінаццатага тунэля і рушыць уздоўж глыбы. — Вы што, звар’яцелі? А калі б нам трэба было адправіць дружыну праз адзінаццаты тунэль? Вас бы тут ужо не было! Вас магло б вынесці ў неба і вы б разбіліся! Божа мой! Вам проста пашанцавала!

Але Алеолла яго не слухала, яна, як магла хутка, ішла да лесвіцы.

— Вас што, пад замок пасадзіць?! — з тунэля данёсся разгневаны голас Рома Ончара.

Маг Ніціч хутка спусціўся па вяровачнай лесвіцы і апынуўся перад Алеоллай.

— А што гэта ў вас за спінай? Што гэта такое цяжкае? Няўжо сякера Бедалдая? — маг Ніціч зірнуў Алеолле ў вочы і зразумеў, што адбылося тое, чаго ён больш за ўсё баяўся.

Дзяўчына ўжо ведала, як можна паляцець з замка. І калі шчыт віцязя быў для яе цяжкаваты, то выкарыстаць цуд-сякеру Бедалдая яна цалкам змагла б. А разам з Бедалдаем яны здолелі б і скрасці рыцарскія шчыты…

— Стойце, яснапанначка, — непрыемным тонам загадаў маг Ніціч

— Можа, я паднясу вашую торбачку? Вельмі яна вам перашкаджае, — за спінай Алеоллы зароў Ром Ончар.

— Вы — разбойнікі! Налётчыкі! Рабаўнікі! — закрычала дзяўчына. — Я ўсё бачыла! Я чула, як вы загадалі абрабаваць караван! Вось адкуль у вас дываны, посуд, ежа! Схаваліся за магнітнымі сценамі і думаеце, што вас не дастаць!

— Не распаляйцеся, панначка, — падступаў да яе Ром Ончар.

У гэтае імгненне Алеолла ўбачыла адпаліраваны шост, які вісеў у цэнтры «студні», па баках якой ішла вінтавая лесвіца. Дзяўчына разбеглася і скокнула ў пройму. Схапіўшыся рукамі за шост, яна хутка спусцілася ўніз да лабірынта.

— Ром! — крыкнуў маг Ніціч. — Хутчэй паднімай астатніх віцязяў! Хай забіраюць да сябе шчыты. Кожны адказвае за іх галавой! Я — за ёй.

Маг Ніціч разагнаўся гэтак жа, як і Алеолла, скокнуў у «студню» і спрытна з'ехаў уніз. Але было позна — дзяўчына паспела схавацца ў цёмнай галерэі, і Ніцічу давялося паднімацца за паходняй.

У далёкай нішы, дзе Алеолла знайшла сваю нафтавую паходню, яна схавала футарал з сякерай Бедалдая — прысыпала яго пяском, а зверху — сажай, каб не было відаць, што тут нядаўна капалі.

Наступнай яе задачай было знайсці пакой Бедалдая. Па пакінутых раней знаках-плямінках сажы Алеолла знайшла спачатку свой пакой, а затым прынялася даследаваць усе найбліжэйшыя калідоры. І нарэшце, праз пэўны час, знайшла Бедалдая.

Кат сядзеў, схіліўшыся над сваім сталом. Алеолла паціху падышла і, каб зноў не памыліцца, зазірнула яму ў твар. Цяпер, без сумнення, гэта быў Бедалдай. Ён глядзеў на косці для гульні, раскінутыя па стале.

— Бедалдай!

— Так, — адказаў ён, не адрываючыся ад свайго занятку.

— Нам трэба ляцець да нашых сяброў!

— Так, — пацвердзіў Бедалдай.

— Гэта замак разбойнікаў! Яны рабуюць караваны! Яны трымаюць палонных! Я знайшла цара Ранеона… Вязня гэтага магнітнага замка.

— Так-так, — Бедалдай згроб у руку косці.

— І я ведаю, як нам паляцець! А ляцець нам трэба як мага хутчэй, бо калі сюды прыйдуць нашы сябры, яны таксама стануць вязнямі гэтага жудаснага замка. Гэтыя віцязі значна мацнейшыя за нас. А сысці пешкі з магнітнага замка немагчыма… — узбуджана казала Алеолла. — Я прынесла і схавала тваю сякеру, Бедалдай!

— Так-так, — зноў паўтарыў кат, а сам пачаў па адным кідаць кубікі.

— Паслухай мяне! Калі Арцін, мастак Дроздзіч і кот Міамурмарор патрапяць у гэтую магнітную пастку, то не будзе каму ісці да Паляндры! Зразумей, няма каму!

— О, «шэсць»! — усклікнуў Бедалдай.

— Ты разумееш?!

— Разумею, — сказаў ён, і кінуў яшчэ адзін кубік. — Эх, «двойка»…

— Бедалдай! Сякера ў мяне. Нам трэба сыходзіць у лабірынт, перачакаць, пакуль усё аціхне, а потым паспрабуем прабрацца на балкон! Мы накіруем «магнітычную» глыбу ў напрамак маёй краіны, у мяне нават карта ёсць, і паляцім з гэтага злашчаснага месца!

— Вядома, вядома… — Бедалдай паспрабаваў згрэбці кубікі, але Алеолла першая іх сабрала і сціснула ў руцэ.

— Ты чуеш? Нам трэба як мага хутчэй адсюль выбірацца, знайсці нашых сяброў, пакуль яны не наблізіліся да гэтага замка! Інакш усё прапала! — Алеолла спрабавала расштурхаць Бедалдая, і тут адзін кубік з яе рукі, быццам сам сабою, выскачыў і пакаціўся.

У гэты момант Алеолла адчула непераадольнае жаданне паглядзець — а што ж ёй выпала. Раптам там «шасцёрка»? А потым, калі выпадзе ўся камбінацыя — тады павінна адбыцца чараўніцтва.

Алеолла зірнула на кубік — і сапраўды — на ім была «шасцёрка»!

«Ого, выдатна! — падумала яна. — Трэба кідаць далей… Вось бы на другім кубіку была «пяцёрка».

І як па яе жаданні, выпала «пяцёрка».

— А цяпер, кубік, дай мне «чацвёрку»…

Да радасці Алеоллы выпала і «чацвёрка».

— Ну, а «троечка» прыйдзе? Раз два тры, — яна кінула кубік.

Яна і Бедалдай разам зірнулі на кубік — на верхняй грані кубіка злева направа стаялі тры кропкі…

— Ура! Ура! — ускрыкнула Алеолла.

— Ну што ж, цяпер «двоечка». Нас тут двое і патрэбна «двоечка»… — дзяўчына два разы дзьмухнула на чарговы кубік і кінула. Кубік закруціўся, пакаціўся, загрукаў куткамі і спыніўся. На ім, як на маленькай божай кароўцы, былі дзве кропкі.

— Не можа быць, — сказала сабе Алеолла.

— Не можа быць, — цяжка дыхаючы, стагнаў Бедалдай.

— Ну што, прашу «адзінку»? — зашаптала кубіку Алеолла. — На секунду ў яе перад вачамі прамільгнула выява вар'ята Ранеона — ён усміхнуўся бяззубай усмешкай…

«Нічога, — падумала Алеолла, — я выйграю… Мне трэба выйграць»…

Алеолла кінула апошні кубік — ён паскакаў па стале і раптам закруціўся. Калі б кубік зрабіў яшчэ адзін паварот, то выпала б «адзінка». Але, на жаль — на ім зноў былі дзве кропкі.

— Вось прыкрасць! Добра, я згуляю яшчэ разок, — сказала Алеолла.

— Не, цяпер мая чарга, — Бедалдай хутка згроб кубікі. — Будзем кідаць па чарзе, — рэзка прамовіў ён.

***Заканчэнне будзе.***



Наталля ГАЛАВАЧ

# ЯК МНЕ З ТАБОЮ ЛЁГКА БЫЦЬ ПАЭТАМ...



***Наталля Галавач нарадзілася 7 жніўня 1961 года ў вёсцы Русіўкі Бешанковіцкага раёна. Працуе выкладчыкам у Бешанковіцкай школе мастацтваў па класе фартэпіяна і кіраўніком «узорнага» ансамбля «Званіца». Друкавалася ў рэспубліканскіх выданнях, аўтар кнігі вершаў «На возеры Белым». На творчасць натхняе каханне, без якога жанчына не ўяўляе шчаслівага існавання.***

## ЗЯЛЁНАЕ

***(з нізкі вершаў «Вясёлка»)***

Я дастаю, нібы з нябыту,
З куфэрка памяці нямой
Свае каралі з малахіту,
Што падарыў ты мне вясной.

Зноў вечаровую сустрэчу
Люстэрка ладзіць мне з табой:
На аксамітавыя плечы
Кладзе каменьчыкі журбой.

Яны мне у вочы б’юць сафітам,
Душу пякеляць мне яны.
…Твае каралі з малахіту
На шыі, быццам валуны.

## СІНЯЕ

***(з нізкі вершаў «Вясёлка»)***

Сну няма. Варочаюся ў ложку.
Зноў бяссоннем ноч не абміне.
Моўчкі мне ўсміхаюцца валошкі
У празрыстай шклянцы на акне.

Што ж яны паглядам так трывожаць?
Што ж раптоўна так гадзіннік б’е?
Колерам на іх падобны, можа,
Вочы сіняватыя твае?..

Сну няма. Фінал бяссоннай ночы.
Той пагляд агнём усё пячэ.
Хай глядзяць валошкавыя вочы
На мяне дакорліва яшчэ.

## ЧЫРВОНАЕ

***(з нізкі вершаў «Вясёлка»)***

Забірай у нябыт, наваколле,
Скрушны крык звар'яцелага рання.
На гарачым, пякельным вуголлі
Пад прысудам нямое каханне.
Ні адзення на ім, ні абутку,
Счырванелі стамлёныя ногі.
Захлыналіся вочы ад смутку,
Патухала душа ад знямогі.
Рыхтавалі агонь да світання
Вартавыя ваўчынае зграі.
І спалілі святое каханне,
І пазбавілі сэрцайка раю.
Не крычаць ад пакутнай трывогі
Палачоў груганоўыя душы.
Толькі тыя згарэлыя ногі
Я ў снах бачыць провідных мушу.
Калі толькі закрыю я вочы —
Ва ўборах цнатлівых вясельных
Яны вальсам знявечаным ноччу
Па вуголлях кружляюць пякельных.

## ДОЖДЖ

Сумны восеньскі дождж.
У заўчаснай нудзе
На цябе ён падобны ў нечым.
Неспадзеў назначае сустрэчы.
І на плечы таемна мне рукі кладзе.
І з лістоты зжаўцелае тчэ дываны,
Бы якой каралеве пад ногі.
І не хоча прыспешваць дарогі
Да акрыленай шчаснай вясны.
Сумны роспачны дождж.
Ён ідзе і ідзе…
І ніколі не цешыцца сонцам.
Ты — як восеньскі дождж той бясконцы,
Ад якога схавацца не мушу нідзе.

## ЗОРЫ

Калі вечар запальвае зоры,
Каб уночы мне з вышы свяціць,
Нехта велічны з лёгкім дакорам
На мяне невымоўна глядзіць.
Галаву апускаю з пакорай,
Ды вышыняў мне тых не стае.
Бо здаецца, што зоры — не зоры,
А ўзнёслыя вочы Твае.

## НАПЯРЭДАДНІ ЗІМЫ

Бягу я ад сябе усё хутчэй.
Цікавіць мяне фініш майго кросу.
Пагляд самотных восеньскіх вачэй…
Банальна.
І на першы погляд проста.
Чаго чакаю?
Дзе прытулак мой?
І шчырасцю ці выстудзяцца вочы?
Не лечыць боль.
Не цешыць позірк твой.
І камянямі — восеньскія ночы.
Што забяру ў адвечную дарогу?
Якія скарбы ціхая душа
На суд прадставіць велічнаму Богу,
Калі міне апошняя імша?
Пра тое запытаюся я ў рэха.
Пушынкі у чарнявых валасах
Карункавым вядзьмарскім абярэгам
Даўно рыхтуюць нейкі мне пасаг.
Так страшна жыць з маною.
І без веры.
Злятаюць дні у сцішаны абшар.
Каторы дзень адчыненыя дзверы
У прадчуванні летуценных мар…

## КАВА

Па кухні сумнай, цішаю спавітай,
Прайшлася ноч. Нямое дэфіле.
Табою кубак кавы недапіты
Стаяць застаўся горка на стале.

Тваёй рукой фіранкі тут закрыты.
Я заўтра іх адвешаю, але…
Табою кубак кавы недапіты
Няхай стаіць таемна на стале.

**МАЛІТОЎНАЕ**

***(з нізкі вершаў «Рэквіем ненароджаным дзецям»)***

Дай, Божа Магутны, спакою іх душам
Знямоглым, пакутным і сумным.
Прасіць Цябе зноўку і зноўку я мушу
За матак усіх неразумных.
А вочкі з блакіту маркотна так свецяць,
Як зоркі у цішы да ранку,
Ніколі не ўцешацца гэтыя дзеці
Матулінай калыханкай.
З грудзей малака не пасмокчуць ніколі,
Не зведаюць водару хлеба.
Іх спрытныя бацькавы рукі міжвольна
Не будуць падкідваць у неба.
Не змогуць сказаць немаўляткі аднойчы
Галоўнае самае: «Мама!»
Табе ахвярую, Услаўлены Ойча,
Я водар свайго фіміяму.
Дай, Божа Магутны, спакою іх душам,
Знямоглым, пакутным і сумным.
Прасіць Цябе зноўку і зноўку я мушу
За матак усіх неразумных.

*** * ***

Ужо душа кладзецца трафарэтам
На нечую такую ж душу…
Як мне з табою лёгка быць паэтам!
Як я з табой вялікасна грашу!

І з тваіх жменяў прагна п’ю спакусу,
Смакчу пчалой гаркавых вуснаў мёд,
Якая апасля свайго укусу
Не зможа здзейсніць другасны узлёт.

Гарэць агнём саспелыя жаданні,
Збег у нябыт зняверанй спакой.
І ноч усю — да самага світання —
Мая падушка дыхае табой.



Мікола СЯНКЕВІЧ

# У АПЕРАЦЫЙНЫМ БЛОКУ ХОЛАДНА...

*Аповесць*



***Мікола Сянкевіч нарадзіўся 20 лютага 1957 года ў вёсцы Асіпавічы Драгічынскага раёна. Скончыў Брэсцкі педагагічны інстытут, працаваў настаўнікам пачатковых класаў, цяпер — асістэнт, старшы выкладчык кафедры беларускай і рускай моў з методыкай выкладання Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна. Выдаў кнігі мастацкай прозы «Усё як было», «Хутар Паянтрый», а таксама зборнік вершаў «Мае пракосы».***

***Заціснуты між быццём і бытам,***
***радасцю і нягодамі, днём і ноччу, святлом і цемрай... —***
***крычыць чалавек... Каму?! Да каго?!..***
***— Чуеце — чалавек крычыць?!***

Леанід ГАЛУБОВІЧ

— Памятаеш, Віталь, такое з бацькам аднойчы было?

— Добра памятаю...

— Ён прапаў тады на двое сутак. Я падняла на ногі родзічаў, абзваніла бальніцы... Але ж ён цвёрда абяцаў, і мы ведалі пра ўсе яго паездкі ў Мінск, у райцэнтры, у вёску...

— А ты ўпэўнена, што ён ездзіў, як казаў, у Мінск, ці ў той жа Пінск або Лунінец? Чытаў там свае апавяданні, даваў каштоўныя ўказанні?

— А чаму б і не.

— «И про отца родного своего, мы, зная всё, не знаем ничего...» — працытаваў Віталь. — Еўтушэнка. Вядомы беларускі паэт з Віленшчыны.

— Не лічы сябе разумнейшым за іншых. Знайшоў час.

— А што мне плакаць загадаеш?.. Вернецца, нікуды ён не дзенецца.

— А можа, у яго нешта з псіхікай?

— Не думаю. Калі ты пра дыялогі з яблынямі, то гэта не больш як жарт.

— І з самім сабою...

— А з кім яму яшчэ пагаварыць?! Спрабуе на слых маналогі для апавяданняў.

— Думаеш?.. А шкарпэткі на люстры, калготы на спінках крэслаў пазавязваныя?

— Сама вінавата. Не трэба раскідаць.

— Твайго там было не менш... А гэтыя біркі на сметніцы, на каструлі, на люстрах?.. «Вынесіце мяне!», «Памыйце мяне!», «Вытрыце з мяне пыл!»...

— Дзівацтва. Ды і калі тое было!..

— Два «дыпламаты» ў магазіне «пасеяў». А каўпак успомні...

— Пачакаем яшчэ дзень... Вернецца, — стараўся быць спакойным Віталь.
— Маці ўжо вярнулася...

* * *

Дарослыя брат і сястра сядзелі на падноўленай не так даўно самавукам-дызайнерам канапе і размаўлялі. Ілоне нядаўна споўнілася дваццаць тры гады. Яна закончыла ўніверсітэт і выкладала ў школе матэматыку. Віталь, маладзейшы за яе на чатыры гады, вучыўся на другім курсе філалагічнага факультэта. Бачыліся яны, нават жывучы ў адной кватэры, не кожны дзень. Сястра не так даўно выйшла замуж і, што казаць, малодшы брат быў цяпер у яе не на першым месцы.

Усё радзей Ілона заходзіла ў залу, якая лічылася цяпер братавым пакоем. Тэлевізар, камп'ютар, магнітафон у маладой сям'і былі свае, і толькі клопат двух апошніх дзён зблізіў брата і сястру, як і ў тыя першыя дні і месяцы, калі яны засталіся без маці.

Пяць і дзесяць гадоў таму яны сядзелі па краях гэтай самай канапы, матлялі нагамі і ў адзін голас канькалі-патрабавалі: «Што-о н-а-ам е-е-сці?» Бацька злаваў, больш на сябе, чым на іх, ішоў у краму, нешта купляў да стала.

— Ты не ведаеш, што ён пісаў апошнім часам? — спытаў Віталь памаўчаўшы.

— Прызнацца, яго «бабулі» ды «цёткі Ганны» мяне асабліва не цікавілі ніколі. Якая патрэба мне ведаць, пра што думае вясковы дзядзька, запрагаючы каня.

— У яго не толькі пра гэта. Але апошнім часам як завязаў. З надрукаванага — вясковыя анекдоты ў абласной газеце ды дзясятак абразкоў.

— Праўда, — пачала прыпамінаць сястра, — выціраючы пыл на паліцах, бачыла пакрэсленыя вершы, чарнавікі...

— ...Канверт з сардэчкамі без зваротнага адрасу, — упікнуў Віталь. — Гэта ж ты тады маці нашаптала.

— Дурная была... А пісьмы ён атрымліваў не адзін год. У іх з паштаркай нашай была дамова: бацька даваў ёй зарабіць на падпісцы, а яна яму ружовы канверцік ледзь не з паклонам...

— Мо паглядзім разам, што там у яго шуфлядах, — прапанавала Ілона і, не чакаючы адказу, паднялася з канапы. Праз хвіліну яна вярнулася з трыма пранумараванымі сшыткамі.

— Не будзе, думаю, вялікага граху.

— Ды неяк яно... як крадзеш.

— Не ведала, што ты зрабіўся такім правільным.

— Як сабе хочаш... Пакуль бацька жыве... (яго аж сцепанула, зразумеў, што сказаў не тое). Адным словам, дзённікі чытаць я не збіраюся. Ён меў (папраўіўся — «мае») права на асабістае жыццё. Гэта вам, жанчынам, дай толькі дапасці да замочнай шчыліны.

— Ну і сядзі, — пакрыўдзілася Ілона і, ужо выходзячы з залы, кінула: — Заўтра я, нікога не слухаючы, пішу заяву ў міліцыю. Няхай аб'яўляюць росшук.

Віталь патрымаў у руках стосік сшыткаў і, не раскрываючы, намерыўся пакласці ўсё на месца: «Не час яшчэ». Ён уключыў святло ў бацькавым пакоі, адкрыў ніжнюю шуфляду — і тут яму на вочы трапіў аб'ёмісты шырокафарматны сшытак. «ВЕРАНІКА» было напісана на светла-блакітнай цыратавай вокладцы вялікімі літарамі. Побач стаяў пытальнік і ўжо драбней унізе: «Незакончаная аповесць», «Зялёнае святло», «Дрэнныя вершы» (пэўна, магчымыя варыянты назваў). «Даліся яму гэтыя дрэнныя вершы», — усміхнуўся сам сабе Віталь, прыгадаўшы, як бацька,

распрамляючы спіну, іншым разам казаў: «Паважаны спадар X будзе мець да свайго юбілею ажно два нядрэнныя вершы. Добра, аднак, мы сёння з ім папрацавалі».

Бацька не мог даць у друк дрэнныя вершы, як не мог прайсці міма двух-трох радкоў, у якіх ён, выкладчык роднай мовы, літаратурны супрацоўнік газеты, нешта бачыў пад лінгвістычным, як жартаваў, мікраскопам. Таму і сядзеў-правіў вершы маладых, а бывала, і далёка не маладых аўтараў.

Віталь адгарнуў вокладку. На першай старонцы знаёмым почыркам было пазначана:

*01.06.199... г.*

*Няхай гэты дзень лічыцца пачаткам аповесці, заканчэнне якой я, на вялікі жаль, не магу нават прагназаваць.*

Паводле даты, бацька пачаў «Вераніку» чатыры гады таму. Загарнуць сшытак Віталь не мог. У ім ён спадзяваўся знайсці адказ як на галоўныя на цяперашні час пытанні: «Дзе бацька?», «Чаму ён пайшоў з дому?», так і на тыя шматлікія пытанні, якія ён, сын, не задаў роднаму чалавеку: не паспеў, не пасмеў, не выбраў зручнага моманту, адклаў на выручальнае «прыйдзе яшчэ час...» А мо яму цяпер вельмі патрэбна дапамога? Найперш іх, дзяцей, дапамога. І яго — сынава.

Хлопец уладкаваўся ў бацькавым крэсле, па звычцы ўключыў тэлевізар (не так самотна), але гуку не дабавіў. Лабасты вядучы, бы той певень, шукаў жардзіну, каб сесці і прарочыць нешта ў мікрафон, а то зноў ускокваў, чаўнаком снаваў паўз аранжавыя канапы, нацкоўваючы адно на аднаго ўдзельнікаў моднага шоу. «Столькі б перадач нічога не страцілі, калі глядзець іх зусім без гуку», — прыйшло ў галаву...

Бацька пісаў ад трэцяй асобы, як і раней, у сваіх апавяданнях і нешматлікіх аповесцях.

* * *

Сямён і Таццяна пражылі разам больш як пятнаццаць гадоў. Ці любіў ён сваю палавіну? У першыя месяцы і гады прымушаў сябе пра гэта думаць. Ды і што мог разумець у адносінах паміж мужчынам і жанчынай вясковы хлопец, які пасля першага ж нясмелага пацалунку адчуў сябе вінаватым немаведама за што, а пасля некалькіх месяцаў няхай і больш разняволеных, але ўсё ж нявінных абдымкаў у скверы ды ў апусцелым пад выхадныя студэнцкім інтэрнаце — абавязаным. Урэшце, ён канчаткова згубіў галаву, здольнасць цвяроза разважаць пра заўтрашні дзень. Як кажуць разумныя людзі: пабачыў чорную латку — і забыўся пра родную матку. Каханне, калі яно і было, дало глыбокую расколіну ўжо месяцы праз тры сумеснага жыцця. Сямён і цяпер памятае той дзень... Вярталіся з гасцей гарадскім аўтобусам. Ён, без усялякай патаемнай думкі, запыніў погляд на гурце дзяўчат, што ажыўлена абмяркоўвалі нешта ў вузкім праходзе. Яго Таццянка вытрымала толькі да першага прыпынку, пацягнула за рукаў:

— Іншым разам атрымаеш па мардасах! Вылупіў бельмы на даўганогіх!

Сямён разгубіўся. Спачатку не мог паверыць, што гэта кажуць яму. Нязвыклае «бельмы» ашаламіла мужчыну, адабрала мову, здольнасць разважаць, праняло холадам. Пакрыўджаная жонка, нічога не пачуўшы ў адказ, з высока ўзнятай галавою, не азіраючыся, зацокала абцасікамі па тратуары, а ён, зніякавелы, паплёўся следам. Не мацюкнуўся, не кінуўся ў супрацьлеглы бок, не пайшоў куды вочы глядзяць... І менавіта ў гэты момант Сямён зразумеў, што ён ажаніўся на сваёй мары, а жанчы-

на, якую хацелася бачыць самай мудрай, мілай, жанчына, якой ён прыпісваў высокае душэўнае хараство, — нічым гэтым не валодае. Была яшчэ надзея: паспрабаваць толькі дабром, адно толькі ласкаю?.. Што, няўжо і тады ў адказ грубасць, нянавісць, сліна з рота?! Не можа такога быць!..

Можа... Сямён, услед за легіёнам сваіх папярэднікаў, адкрыў гэтую невытлумачальную з пункта гледжання здаровага сэнсу заканамернасць сямейнага суіснавання. Папусціўшыся адзін раз, праз месяц-другі ён ужо быў і «паразітам» і «паскудай». Пратэставаў маўчаннем, не знайшоўшы нічога іншага. Трэба было неяк жыць. «Многія не лепш жывуць, — суцяшаў сябе. — Кватэра прыватная. Гаспадыня ледзь што — на дзверы пакажа». А так хацелася каб прыгожа, каб душа ў душу, як маці з бацькам. Гэта ж так лёгка — выслухаць, паставіць сябе на месца іншага, пастарацца зразумець...

«Паразітам» Сямён рабіўся кожны раз пасля таго, калі не па сваёй волі затрымліваўся на вытворчых нарадах, на дзяжурствах і бацькоўскіх сходах, калі траціў паўрубля на піва пасля працы. Слухаць такое было дзіка, а яшчэ балюча і горка. Сямён увогуле не разумеў, як чалавека, няхай чужога, тым больш неразумнае дзіця, можна абразіць, гледзячы яму ў твар, у вочы. На гэта трэба мець нейкую нечалавечую адвагу. Трэба зламаць у сабе духоўны пачатак, пазычыць вочы ў сабакі. Сказаць бліжняму «паразіт» у сто разоў цяжэй, чым «мілы», «дарагі»... Асабліва ў першы раз... Сказаць усвядомлена, з нянавісцю, з агідаю ў голасе... Як жа пасля гэтага без усялякіх прабачэнняў звярнуцца да яго па імені?! Неяк жа трэба звяртацца, калі жывеш пад адным дахам. З «мілага», «Сёмачкі» ён паступова ператварыўся ў Каваля. Таццянка ўсё часцей называла яго па прозвішчы, тым самым нібы падкрэсліваючы: я — гэта адно, а ты — зусім чужы чалавек, з якім, такая доля, прыходзіцца пакутаваць. Сямён махнуў рукой: Каваль дык Каваль. Мо, калі і ганарыцца будзеш, дурніца, што і ў тваім пашпарце гэтае прозвішча запісана. Жонка па-ранейшаму была для яго «Таццянкай», і ў гэтым слове чулася прымірэнчая нотка, нейкае шкадаванне і надзея на лепшае. Не было нянавісці, але не было і пяшчоты.

Сямён усё больш замыкаўся ў сабе, але нават не ўласцівая яму раней маўклівасць раздражняла Таццянку. І яна вынайшла спосаб, каб «завесці» яго, «выпусціць па́ру». Калі тры-чатыры дні запар было ціха, жонка з добрага, як у нас кажуць, дзіва тэатральна-здзекліва пытала: «Ну і як там жывы-здаровы твае прастытуткі?!» Выклік быў зроблены. Сямёна пачынала калаціць, і Таццянка адразу адчувала палёгку. Ніякіх «прастытутак» у яго, вядома, не было. З’едлівая палавіна, якая за пятнаццаць гадоў сумеснага жыцця вынішчыла нават спадзяванні на лепшае, была першай і адзінай у яго жыцці жанчынай. Ён спрабаваў казаць пра гэта — яна смяялася ў твар. Клясціся і бажыцца?.. Апусціцца да гэтага ён не мог. Замест «прастытутак» і «блуду» ў чалавека былі паўтары стаўкі на працы, чарнавікі сваіх і чужых апавяданняў ды маўклівае безграшоўе, якое іншы раз прымала памеры «беспрасвецця».

— Вось у маёй напарніцы муж! Вось дзе сапраўдны мужчына! Забяспечвае сям’ю «от и до». І ў жонкі футра, і дзеці ў лахманах не ходзяць, — «даставала» жонка. Сямён разумеў, што яе вуснамі прамаўляе сярмяжная праўда, але ад гэтага не было лягчэй. Колькі ні круціўся бедалага — «мапед» (малады педагог), а пасля дзесяці гадоў працы ў школе — усё яшчэ «малады» выкладчык інстытута і пачынаючы літаратар, — «от и до» ў яго не атрымлівалася. Скандалаў ён па-ранейшаму імкнуўся пазбягаць, добра ўсведамляючы, што яны нічога не вырашаюць. І яшчэ была адна істотная прычына, па якой ён баяўся гучных разборак — плакалі дзеці. «Ну чаму так? Чаму трэба смяшыць людзей, цешыць такіх жа як самі нашчасных!» — у які раз задаваў Сямён сабе пытанне і не знаходзіў адказу. Прыціснуўшы далонню рэб-

ры — балела сэрца — ён выходзіў на балкон ухапіць свежага паветра, а за спінаю чулася істэрычнае: «Адыдзі ад акна! Зноў выглядаеш, паразіт, сваіх прастытутак!»

Ішоў час, падрасталі дзеці. З'явілася кватэра ў новым мікрараёне. Пабялела галава ў гаспадара, і памутнелі некалі прыгожыя светла-шэрыя вочы ўсё яшчэ ягонай Таццянкі. А жыцця не было. Неяк раптоўна жонка перанесла гнеў на свякруху — аднаго мужа ёй было ўжо мала. Гадоў з дзесяць улетку жылі Кавалі з дзецьмі ў Сямёнавых бацькоў: дапамагалі старым, эканомілі адпускныя — і ўсе былі задаволены. А тут жонка паставіла ўльтыматум: не пушчу вас удвух з маці ў поле. Чаму? Ці яшчэ... Падавалі бацька з суседам-родзічам сена на вышкі. Сямён з маці прымалі яго на вілы, раскладалі, пакавалі. Прыбегла Таццянка, нервова, не ўмеючы, ухапіла вілы, раз-другі падняла якую жменю. Трэцім разам нізанула мужу ў лытку. Кінула вілы, галосячы, пабегла ў хату, ухапіла рэчы — і ў горад, не развітаўшыся ні з кім.

Было зразумела, што бясконца так працягвацца не можа. Саракагадовы мужчына адчуваў, што ў цяперашнім стане ўжо ўяўляе зацікаўленасць для псіхіятраў. Сямён цяжка засынаў, каб супакоіцца, яму неабходна было яшчэ нейкі час варушыцца, круціць галавою, імітаваць рухі маятніка, «круціць веласіпед»... Раніцай балелі сківіцы (у кароткія гадзіны нервовага сну моцна сціскаў зубы), бялкі вачэй наліваліся чырванню. Паводзіны свае Сямёну даводзілася пастаянна кантраляваць. Купляў у краме малако і ўсвядомлена ўключаў «службу кантролю»: «бяру кошык», «дастаю пакет з халадзільніка», «разлічвацца іду ў касу»... Жончыны «прастытуткі» ўсё яшчэ не пакідалі, ратавацца не было чым, і чалавек пайшоў на крайнія меры: прыдумаў спосаб, як абараніцца ад скандалаў, займець спакойныя гадзіны для працы. Кожны раз пры слове «прастытуткі» ён нацягваў на вушы старую паласатую шапку і ў адказ на жончыны кепікі выкрыкваў гартаннае: «Ур-р-р-а!». Пакіньце, маўляў, дурня ў спакоі...

І яго пакінулі ў спакоі, пакінулі зусім, з двума непаўналетнімі дзецьмі. Праўда, гэта здарылася крыху пазней, праз два гады. Няпростыя два гады жыцця і, як ні цяжка было, спадзяванняў на лепшае. Такімі спадзяваннямі жывуць жонкі безнадзейных алкаголікаў: адна маўчыць і чакае, другая «спавядае» мужа і чакае, а іншая ставіць побач з мужавай і сваю шклянку. Дзяцей пакінулі на яго, аказалі поўны давер. Ганарыся, чалавеча, і думай як не прапасці...

* * *

Віталь адарваўся ад сшытка, перавёў позірк на экран тэлевізара: грудасты расшпілены ўсявед усё яшчэ працягваў урокі жыцця. Успомнілася, як не любіў такія перадачы бацька. «Вокны! Дзверы!.. У шчыліны заглядваць!.. Голае вока ў дзюрцы — яшчэ большая срамата, чым падгледжанае за дзвярыма спальні». Віталь выключыў тэлевізар і задумаўся. Прататыпаў аповесці няцяжка было пазнаць. Праўда, месцамі занадта змрочна ўсё. Былі ж у бацькоў і светлыя гадзіны, і сямейныя святы.

Апошнія словы напісанага бацькам навялі на ўспаміны. Тут, у паўзмроку бацькавага пакоя, які ён паўжартам называў «кабінетам», Віталю яскрава ўявіўся *той* дзень. Мінула больш як дзесяць гадоў... На месцы цяперашняй кніжнай шафы і пісьмовага стала тады стаяў велізарны ложак з тумбачкамі па баках. На матчыну тумбачку абапіраўся самаробны іканастас. Тут жа ляжалі «Жыціі» святых, іншыя царкоўныя кнігі і календары. Ладную частку пакоя займала шафа для адзення — шырокая, на чацвёра дзвярэй, з антрэсолямі пад самую столь. Вольным заставаўся толькі вузкі праход уздоўж сцяны на зашклёны балкон... Маці толькі што вярнулася з чарговай паездкі па манастырах, якая доўжылася ўсё лета. Яна вельмі змянілася:

пастарэла, схуднела, прыціхла. Прыгожыя і мяккія нядаўна рукі цяпер былі агрубелымі, з пазбіванымі пазногцямі, усе ў застарэлых рубцах. Змрочнае адзенне пахла нечым незнаёмым, непрыемным... На гэты раз маці не прывезла ніводнай цукеркі. Яму так хацелася, каб яна пасядзела побач, паслухала яго, звадзіла ў цырульню перад школьнай лінейкаю. Яны ж не бачыліся так доўга!.. Віталька нават не пытаўся б у яе ні пра што... А маці старалася не глядзець яму ў вочы, гаварыла як з чужым чалавекам. Хлопчык ніяк не мог злавіць яе позірк. Адчуваў, што губляе маці, што з наступнай паездкі яна можа не прыехаць. І што тады?.. Ён застанецца адзін... А яна ж там, у сваім манастыры, гатуе есці чужым людзям, корміць іх, мые чужое адзенне. Якое яны ўсе маюць права?! Яна ж — яго маці, толькі яго, і ён нікому яе не аддасць!..

Маці спачатку доўга стаяла на каленях перад абразамі. Хлопчык крадком зазіраў у пакой, як адчуваў, што павінна нешта здарыцца. Наблізіўся да дзвярэй: маці перахрысцілася на пусты іканастас, паварушыла вуснамі і ўзялася за ручку агромністага скуранога чамадана. У імгненне Віталь бухнуўся на калені ў вузкім праходзе, расставіў рукі ўшыркі. Спачатку ён толькі прасіў, пасоўваючыся на каленях да маці:

— Хто мне будзе пячы дранікі? Ма-а-ма? Хто мне будзе варыць суп?

— Бацька будзе. — Маці глядзела на дзверы паверх яго галавы. — Адыдзі, інакш я цябе здам у міліцыю!

З чамаданам і тоўстай дарожнай сумкай цераз плячо маці паспрабавала праціснуцца ўздоўж сцяны. І тады Віталька заплакаў, закрычаў, загаласіў што ёсць сілы:

— Не пушчу-у-у!!!

Нешта грымнула ў зале, і за сынавай спінай у тую ж хвіліну стаў бацька.

— А паспрабуй толькі, сучка, пераступіць цераз дзіця! — выгаварыў ён ледзяным, не сваім голасам. — Толькі паспрабуй!

Яшчэ хвіліну пастаяў, мацюкнуўся і грымнуў дзвярыма.

Маці адступіла, села на ложак. Засталася... Яшчэ на чатыры дні. Яе рэчы знікалі паступова. Віталька гэта заўважаў і пра ўсё расказваў бацьку. Той маўчаў і гладзіў сына па галаве.

Маці знікла назусім за дзень да пачатку заняткаў у школе. У той дзень бацька знайшоў яго на сажалцы за мікрараёнам. Падышоў, узяў за руку: «Пайшлі, сірата, дамоў», — і больш ні слова за ўсю дарогу.

Бацька рабіў усё, каб яны з сястрой не адчувалі сябе сіротамі. Ніколі не было, а тут раптам пачаў «спраўляць» імяніны, сам прапанаваў запрашаць у дом сяброў. А яны, сорам прызнацца, карысталіся «сіроцкім» становішчам. Не прасілі — патрабавалі: «Нам трэба!», «Ва ўсіх ёсць — у нас няма!», «Не буду насіць гэтыя бамжацкія джынсы!» Віталь злавіў сябе на думцы, што нават цяпер, студэнтам, ён успамінае маці нават часцей, чым у першыя гады пасля яе ад'езду. І ў гэтым найперш бацькава заслуга. Была крыўда, але не было адчування страты, адчування адзіноты.

* * *

Вераніка з'явілася ў жыцці Сямёна выпадкова, яшчэ за два гады да канчатковага жончынага ад'езду, хоць і кажуць мудрыя людзі, што нічога выпадковага ў гэтым свеце няма. *Яна* прыйшла ў яго думкі з першымі жончынымі «прастытуткамі» і ўжо болей не пакідала яго. Мужчына дакладна ведаў, што ў *яе* светлыя вочы, адкрытая, непадробная ўсмешка і абавязкова роўны, вельмі прыемны, мілагучны голас. Ён шукаў *яе* ў аповесцях і паэмах любімых аўтараў, размаўляў з ёю ў снах...

Вераніка сядзела за першым ад кафедры сталом у студэнцкай аўдыторыі. Яна была ягонай вучаніцай, старастай групы ў завочнікаў. Слухала заўсёды ўважліва,

старанна запісвала, час ад часу падымаючы на выкладчыка светла-блакітныя вочы. Калі Вераніка падносіла на подпіс журнал, Сямён бачыў, як прыкметна ружавелі яе шчокі, адчуваў водар жытнёвых, не папсаваных фарбаю валасоў, сабраных у тугі вузел на патыліцы. Толькі тонкія кудзеркі прыкрывалі скроні і шыю, незагарэлую, безабаронную дзявочую шыю.

Вераніка, нядаўняя выпускніца педагагічнага каледжа, добра ведала мову, выручала групу на практычных занятках.

— Наш дэканат ведае, што робіць — прызначае старастамі самых прыгожых дзяўчат. Паспрабуй тут утрымацца, не паслухацца, — пажартаваў неяк выкладчык, калі Вераніка прасіла паставіць «хоць якую адзнаку» аднаму з двух у групе хлопцаў, якія, як прывыклі казаць, апошні год стаялі ў чарзе па дыплом. Яна вінавата апусціла вочы. Пэўна, Сямён быў не першым мужчынам, які падкрэсліваў яе прывабнасць.

У тую ж памятную перадапошнюю сесію Сямён неяк запытаў:

— А ці не піша хто з вас, паважаныя калегі, вершаў? Гісторыя не даруе мне, калі выявіцца, што выкладчык роднай мовы своечасова не разгледзеў паэтычны талент.

Трыццаць пар вачэй глядзела на старасту, і «начальства» зачырванелася да кончыкаў вушэй.

— Прынясіце, калі ласка, — папрасіў Сямён. — Не саромцеся. Мне чамусьці здаецца, што вы не можаце пісаць дрэнных вершаў.

Прамовіў — і сам захваляваўся.

На наступны дзень Вераніка знайшла яго і аддала тоўсты агульны сшытак. Вершы не абрадавалі, хутчэй расчаравалі: прыблізная рыфма, імкненне гаварыць квяціста — звыклыя вучнёўскія практыкаванні. Але месцамі прарываліся свежыя радкі, праступалі невыразныя абрысы вобразнасці. Сямён пазначыў дужкамі ўдалыя строфы, адзін з вершаў паправіў і прапанаваў у літаратурную старонку.

Пасля заняткаў у апусцелай аўдыторыі выкладчык і студэнтка-выпускніца гаварылі пра вершы. Дакладней, гаварыў ён. Вераніка маўчала, згаджалася з усім, а то і нагаворвала на сябе — і гэта засмучала Сямёна...

* * *

Жонка кідалася з адной крайнасці ў другую... Пасля нейкага жаночага застолля, дзе зашмат і са смакам гаварылася пра здатных палюбоўнікаў ды рагатосцаў-мужоў, Таццяна раптам запанікавала, што не за гарамі сорак, а яна не паспела ўзяць ад жыцця ўсё, што магла. Жанчына запознена зайздросціла тым аднакурсніцам, што — не раўня ёй! — і «выгуляцца» паспелі, і мужа «адхапілі» — будзь здароў.

Таццяна пачала настойліва «даганяць» маладосць — насіла вузкія і кароткія спадніцы, празрыстыя блузы, вышуквала ў камісійных крамах модныя і недарагія туфлі. У садку «памаладзелая» ў адзін момант выхавальніца імкнулася «прыручыць» каго з бацькоў сваіх гадаванцаў. Іншы раз ёй гэта ўдавалася, Сямёну сігналізавалі «добразычліўцы», але ён толькі даваў зразумець, што ведае пра гэта паскудства, ды пераходзіў спаць у залу. Іншым разам з Таццянкай прыходзілі сямейныя пары. На стале з'яўлялася гарэлка, жонка ўключала павольную музыку, помсцячы мужу немаведама за што, «законна» сплятала рукі на шыі запрошанага на «дамскі» танец кавалера. Падпітая кавалерава жонка, для раўнавагі, цягнула з-за стала Сямёна. Усё гэта было прыкра, непрыемна. І гэтыя жонкі, адна ў адну, былі нейкія недагледжаныя, тупаватыя і таўстабокія. Аднойчы гаспадар ўсё ж не вытрымаў. Таццянка, зусім п'яная, па трэцяму разу ўключыла «Яблоки на снегу», блытаючыся ў словах, аб'явіла дамскі танец і павісла на мужы сваёй новай прыяцелькі.

— Мы нічога не робім дрэннага. Мы проста танцуем. Чаму вы не танцуеце? (Да мужа і сяброўкі.)

Сямён не рэагаваў.

Пара «датанцавалася» да выключальніка. Таццяна выключыла святло.

— Тата! Яны цалуюцца! — прыбегла дачка з калідора.

Сямён грымнуў аб падлогу прайгравальнікам, матлянуў дзвярыма:

— А задушыцеся вы тут усе разам!

— Ізверг пракляты! — заверашчала пранізлівa жонка. У два галасы закрычалі дзеці. А ён, не аглядваючыся, збягаў па прыступках лесвіцы.

Да раніцы прахадзіў Сямён па начным мікрараёне, шкадуючы, што няма чалавека, перад якім можна выгаварыцца, з якім можна супакоіць душу, урэшце, напіцца да забыцця.

Тыдні са два мужчына грэбаваў нават загаварыць са сваёю палавінай. Яна ж нічога. А мо толькі выгляд рабіла? «Напэўна ж, сорамна перад дзецьмі, не на месцы душа?» — суцяшаў сябе Сямён. А п’яныя істэрычныя маналогі жонкі ў спальным пакоі працягваліся амаль штовечар.

«Мо не варта было ўсё пускаць самацёкам?» — задаваў сабе пытанне Сямён і не знаходзіў адказу. Не так даўно дачка прымусіла задумацца: «Сам вінаваты, трэба было па-мужчынску, пабіць раз-другі, каб ведала. Тады ў нас, як і ва ўсіх, была б маці, а ў цябе жонка на старасць». — «Не хацеў бы я, дзіця, каб на цябе падымалі руку», — падумаў Сямён, а ўслых выказаўся:

— Маці ў вас не стала, калі твой брат выбраўся з пялюшак, жонкі ў мяне — яшчэ раней. Я ўдарыў па твары чалавека, не слабейшага за сябе, усяго адзін раз у жыцці. Не было іншага выйсця. Ударыць вашу маці?.. Кім бы я быў тады?.. Крычаў, гарачыўся — было. Але гэта ад бяссілля. А ўдарыць?..

— Затое баялася б.

«Свет перавярнуўся, — разважаў Сямён над словамі Ілоны. — Ужо і самі жанчыны, самастойныя і дарослыя, не толькі яго “малая”, прызнаюць правамернасць такога сямейнага выхавання. Што ж тады застаецца мужыкам? Таўчы?..» У цягніку ненарокам падслухаў узаемную споведзь дзвюх сяброўак. Першая:

— Іван пабіў мяне ўсяго два разы за ўвесь час, як жывём разам. І варта было. Дала сабе слова перш думаць, чым ляпаць нешта языком.

Другая:

— І я два тыдні хадзіла ў сіняках, затое заракласся лезці не ў свае справы.

«Муж — свая кроў, няхай б’е здароў... Жорсткай бывае іншым разам народная педагогіка», — разважаў Сямён. Але ж як пасля гэтага жыць пад адным дахам, спаць у адным ложку?..

* * *

«Дагнаць» маладосць не ўдалося, і Таццяна неспадзявана павярнулася ў супрацьлеглы бок — да царквы. У гэтым Сямён не бачыў нічога дрэннага, па першым часе нават быў рады: атабарыцца, думаў, жанчына, супакоіцца. Колькі ж можна?!

— «Кожная жонка няхай пабаіцца мужа свайго», — неяк пасля черговай сваркі (а яны і цяпер не спыняліся) Сямён намерыўся заклікаць сабе на дапамогу Святое Пісанне. — «Над мужам — Бог, над жонкай — муж», — дабавіў ён, упэўнены, што насуперак гэтага нічога сказаць нельга.

— А ты мне не муж! — секанула Таццянка. — Мы не венчаны.

— А хто тады я?

— А ніхто...

Працягваць высвятленне адносін не мела сэнсу. І так усё зразумела: яго жыццё, яго існаванне не цікавяць жонку ні на ёту...

Дабаўлялася абразоў у спальні. Тры, чатыры разы на тыдзень — а ў суботу і нядзелю двойчы на дзень — Таццяна ішла з дому. Жонку Сямён губляў паступова і ў той жа час адчуваў, што яму прыемна заставацца аднаму. Калі прыходзілі пасты — муж і жонка асобна снедалі і вячэралі, спалі па краях шырачэзнага ложка кожны пад сваёю коўдраю. Яна — не адзяваючы начной сарочкі, не пераапранаючыся нанач. Сямён, далёка не стары мужчына, фізічна адчуваў, што не жадае блізкасці з жанчынай, на шыі якой, акрамя нацельнага крыжыка, яшчэ адзін ці два абразкі, а то і нейкае загаворанае зелле ў зашмальцаваным палатняным вузельчыку-кулоне, з жанчынай, якая так рэдка шуміць вадою ў ванне, не расчэсвае, як некалі, перад люстэркам валасы.

Першыя паездкі ў манастыры называліся экскурсіямі, але, дачакаўшыся летняга адпачынку, жонка прапала адразу на два месяцы.

Сямён, як звычайна, паехаў з дзецьмі ў вёску.

— А дзе ж твая Таццяна? — здзівіўся бацька.

— У манастыр паехала.

— Што ёй там рабіць?

— Будаваць пасабляе.

— А дзеці?

— Пакінула на мяне.

— Гэта нядобра, — неяк асцярожна, заклапочана сказаў бацька.

— Ат, неяк перажывём. Прасілася вельмі. Я не пускаў, дык пакінула запіску і паехала, — як апраўдваўся перад бацькам Сямён. — Хай здаволіцца. За так яе карміць ніхто не будзе.

— Глядзі, сынку. У цябе дзеці...

Таццяна вярнулася на два тыдні пазней абяцанага, схуднелая, спрацаваная, але задаволеная паездкай. Дома яна цяпер амаль не бывала зусім — збірала са скрыняй (гэтага вельмі саромеліся дзеці) грошы на карысць манастыра ці ішла куды па іншых царкоўных патрэбах. Сям'і ў яе ўжо не было. Сямён гэта разумеў, але нічога не мог зрабіць, каб нешта перайначыць. Праўдзівей, не вельмі намагаўся гэта зрабіць.

* * *

Студэнты-выпускнікі запрасілі Сямёна Пятровіча спачатку на ўручэнне дыпломаў, а пасля і на вячэру ў рэстаран, і ён, упершыню за час працы ў інстытуце, не адмовіўся. Вераніцы сапраўды нельга было адмовіць.

Месца каля старасты, бліжэй да краю стала, было вольным.

— Сёння я адпачываю, — неяк па-свойску паведаміла Вераніка. — Тамада з мяне нікудышны. Знойдзецца каму.

Папрасіў не звяртаць на сябе ўвагі і выкладчык. Сёння іхні, выпускнікоў, дзень. Дзяўчаты і маладыя жанчыны папрыгажэлыя, святочныя. Некаторых і пазнаць цяжка. Сямён падумаў пра тое, што ні на занятках, ні нават на курсавых экзаменах амаль не бачыў сваіх студэнтак пасля цырульні, з прыстойным макіяжам. У асноўным, відаць, з вёсак. Пасвяткуюць дзяўчаты ды паедуць да сваіх «сотак», да сям'і, да добрых ці апастылых мужоў, запрагуцца ў паўтары-дзве стаўкі — і закончылася для многіх з іх усялякая адукацыя разам з апошнім экзаменам. А некаторыя падрыхтаваны вельмі і вельмі пасрэдна.

Сямён паступова хмялеў, з кожнай выпітай чаркай адчуваў сябе ўсё больш лёгка і раскавана. Дзяўчаты за сталом перасталі ўспрымацца ім як былыя вучаніцы. Сямёну здавалася, што ён вярнуўся ў пару маладосці, і гэта смяшлівыя аднакурсніцы сабраліся на шумную вечарыну далей ад пільных вачэй дэканата, не пакінуўшы без увагі і яго, старасту.

Нядаўнія студэнткі каяліся за сваю ляноту, прызнаваліся, што часам заслугоўвалі добрага лупцавання, выдавалі сакрэты. Спісаць на экзаменах у яго, аказваецца, было можна, але ж неяк сорамна. Вераніка больш маўчала. Ад выпітых некалькіх кропель віна твар і шыя яе зрабіліся ружовымі, адкрыты лоб пакрыўся дробнымі кропелькамі поту.

— Дастаткова. Мне больш нельга, — адвяла яна руку, калі Сямён прапанаваў выпіць за разуменне дома і на працы.

Канца застолля яны не чакалі. Не захацела заставацца і сяброўка Веранікі, чарнавокая гаваруха Галіна. Праз пяць хвілін Сямён ужо ведаў, што тры дні таму яна, «жанчына не першай маладосці», размяняла ажно чацвёрты дзясятак гадоў. (Побач са старэйшымі маладыя жанчыны не заўсёды хаваюць свой узрост. У гэтым свая стратэгія і тактыка).

— Ты, дзіця, — жартаўліва звярнулася Галіна да сяброўкі, — толькі ў піянерскім гальштуку фарсіць пачынала, калі цётцы Галі атэстат сталасці выпісвалі.

З дапамогай нескладаных арыфметычных дзеянняў Сямён вылічыў узрост Веранікі — дваццаць тры. Яму было на дваццаць гадоў больш.

Калі ўсе трое падышлі да прыпынку, з-за паварота, як чакаў, выкаціўся запознены тралейбус, і Галіна папрасіла адпусціць яе дамоў.

— Не сумуйце без мяне, — памахала рукою з дзвярэй.

Сямён і Вераніка засталіся адны познім чэрвеньскім вечарам у цэнтры горада. Сямён узяў Вераніку за руку, і яна не спрабавала яе вызваліць... Ішлі сцішанай вуліцай. Былы выкладчык з гумарам расказваў, як прасілі ў дэканаце за адну з цяперашніх выпускніц. Матывацыя была не абы-якая: жанчына няшчасная, муж б'е, а калі да ўсяго яна не здасць экзамены — заб'е зусім. Сітуацыя трагікамічная...

Ужо і калегі, яны гаварылі пра вучняў і бацькоў, пра ўласных дзяцей. У Веранікі — у гэта не верылася — іх было двое, як і ў яго. Яна выйшла замуж у шаснаццаць, у сельсавеце распісалі, бо павінна было нарадзіцца дзіця. Успамінала жанчына нехаця, са скрухай у голасе.

Сямён і Вераніка падышлі да кватэры, якую студэнтка-завочніца на працягу пяці гадоў здымала на перыяд сесіі.

— Святло на ўсю вуліцу палае, — Вераніка кіўнула на ярка асветленыя вокны на першым паверсе. — Мае старыя не стамляюцца жыць на белым свеце.

— Сямейнае свята? — пацікавіўся Сямён.

— О-о-о! — губы Веранікі смешна акругліліся. — У маёй Глебаўны, як прыходзіць яе Коля, заўсёды свята.

Сказала без ценю асуджэння, мо нават з пачуццём лёгкай зайздрасці.

— Колькі ж ім?

— Глебаўне ўвесну шэсцьдзесят, а яму праз тры гады восемдзесят будзе. Але ж выглядае нашмат маладзей. «Дзед» — гэта пра некага іншага, толькі не пра яго. З імі цікава, — яшчэ больш ажывілася Вераніка. — Глядзіш, колькі ў людзей планаў, колькі любові да жыцця, якія яны ўважлівыя адно да аднаго, — і ў самой на душы ўзгараецца радасць. Глебаўна — святы чалавек. За пяць гадоў хоць бы раз упікнула за нешта. Я ў яе, калі прыязджаю, — поўнасцю за гаспадыню.

— Дык чаго ў такім разе мы тут стаім?! — загарэўся Сямён. — Шампанскае і цукеркі за мой кошт! Гуляць дык гуляць! Скажаш, што я лепшы сябар моладзі.

Вераніка заўсміхалася:

— А я і не здагадвалася, што вы бываеце і такім.

— Якім?

— Такім як цяпер.

У краме на рагу вуліцы начныя візіцёры набылі шампанскага і бутэльку гарэлкі з разлікам на мужчын (Іванавіч, папярэдзіла Вераніка, «шыпучкі» не прызнае)...

Сямён адчуваў сябе так, быццам мноства гадоў быў знаёмы і з Глебаўнай, і з Іванавічам, які, нібы той зух-кавалер, падміргваў гаспадыні і Вераніцы, не стамляўся сыпаць анекдотамі і прыгаворкамі, пільна сачыў, каб чаркі ў маладзейшых не былі пустымі...

— Было гэта ў Нямеччыне, у тую вайну (чарговы тост Іванавіч пачынаў з абавязковай прадмовы). Служыў я ў баўэра. Не тут расказваць, што такое палон. Праца — не забава, але ж з голаду не пухлі. Быў я маладым, жаданні, самі разумееце, на твары напісаны, толькі парадак у немца строгі: застукаюць з каторай фраў — пятлю на шыю. Тут табе і капут. Так што на конт гэтага асцерагаліся (Іванавіч блазнавата зірнуў на гаспадыню). Аднойчы вечарам (гаспадара на той час не было дома) баўэрша паклікала мяне да стала. Ужо забыў, з якой нагоды. Наліла мне адну чарку, другую ды і просіць — ведала, што ўмею — сыграць нешта нашае. Я ёй «Гурочкі» — на душы паскудна, нават і чарка не памагае. Даслухала, а пасля, шэльма, знакамі паказвае (рукі на талію, плечыкамі ўлева-ўправа), каб весялейшае нешта. Ну я тут — ат, было не было! — і ўдарыў:

Пані кахана,
Пані вяльможна!
Я бы пані з...ў,
Кабы было можна.

— Пасаромеўся б маладых, — ажно зачырванелася Глебаўна.

— Што праўда — тое не грэх, — не супакойваўся Іванавіч.

— Ну і што? — спытаў Сямён, — спадабалася фраў ваша песня?

— Яшчэ б!.. Зразумела, пэўна, усё. Пальчыкам гэтак строга: «Но-но!» А сама задаволеная такая, свежая, што тая трускалачка (Іванавіч зноў хітравата зірнуў на гаспадыню).

— Яшчэ адно тваё слова — і будзеш прылюдна пабіты, — як быззлавала Глебаўна!

— Усё, больш не буду.

— Тота ж!.. Не пагляджу на твае медалі.

Абое засмяяліся, памаладзелыя, шчаслівыя.

— О-о-о! То я ж пра што хацеў сказаць... — спахапіўся Іванавіч. — Даражэй за ўсё і саладзей за ўсё воля. Чалавек павінен быць свабодным, не прыдушаным, не зашораным. І зусім не важна, колькі яму гадоў. Давайце за гэта і вып’ем...

Было за поўнач, калі Вераніка папрасілася спаць.

— Дагаварыце без мяне. Сёння я і так замнога выпіла, — прамовіла яна са шкадаваннем...

Калі Сямён, з «аглаблёвай» у руцэ, прызнаваўся гаспадарам у шчырай любові, у галаве ўжо добра шумела. З калідора ён зазірнуў у бакавы пакой, з якога праз шчыліну дзвярэй прабівалася цьмянае святло. Не разумеючы, навошта ён гэта робіць, Сямён нячутна ўвайшоў і прычыніў за сабою дзверы. Вераніка спала. Вызваленыя нанач валасы былі рассыпаны па вышытай падушцы. Адзіная лямпачка пад шкляным абажурам мякка асвятляла яе твар і плечы. Выключальніка ў пакоі не было.

Сямён ціха, стараючыся не парушыць сон Веранікі, падставіў крэсла, абматаў руку крысом знятай кашулі і выкруціў лямпачку з патрона. Святло пагасла, і толькі самотны ліхтар за акном, што схаваўся ў кроне маладзенькай галінастай бярозы, не даваў цемры запаланіць пакой. Сямён падышоў да ложка, сеў на край, з заміраннем сэрца дакрануўся вуснамі да шчакі Веранікі. Жанчына не спалохалася, не ўздрыгнула — павольна расплюшчыла вочы, абхапіла Сямёнаву шыю гарачымі рукамі... Тут, у гэтым утульным пакоі, яна была жанчынай, маладой і неўтаймоўнай. Здавалася, да гэтага часу, да гэтай хвіліны Вераніка стрымлівала сябе, мучыла душу і цела, але нарэшце кінула выклік зямлі і небу. Яна тактоўна падказвала і дзякавала, мякка дакранаючыся да яго вуснаў. Маладая, гнуткая, з распушчанымі валасамі да пояса, Вераніка была незвычайна прыгожая, жаданая. Ён слухаў яе цела і разумеў, што толькі пачынае жыць, толькі-толькі ўваскрасае як мужчына, яшчэ зусім не стары, не бяссільны.

— Мілая! — вырвалася ў яго ўпершыню за нудныя, бясколерныя гады жыцця.

Слёзы, ён разгледзеў нават у паўзмроку, выступілі на вачах Веранікі.

— Мілая! — паўтарыў ён з удзячнасцю.

Гэтай ноччу яны так і не заснулі... У пакоі пасвятлела, і Вераніка заўважыла Сямёнаву трывогу.

— Я зараз... — на пальчыках яна прабралася да халадзільніка, вярнулася з кубкам таматнага соку. — Выпіце. У мяне бацька такім чынам галаву папраўляе, а сёння, мабыць, і самой не зашкодзіла б.

— Спачатку ты.

Вераніка адпіла некалькі глыткоў:

— Астатняе ваша. Я больш не хачу.

Яна ўзяла з яго рук пусты кубак, паставіла на тумбачку.

— Не перажывайце, — сарамліва падняла на Сямёна вочы. — Усё было цудоўна. Я даўно хацела гэтага, думала пра гэта...

Сямён праводзіў Вераніку на першы ранішні цягнік. Азіраючыся па баках, бы тыя змоўшчыкі, яны цалаваліся ў тамбуры.

— Я напішу, — паабяцала Вераніка на развітанне. — Можна мне напісаць?

— Напішы абавязкова, — папрасіў Сямён, жадаючы і баючыся працягу. З дня на дзень павінна вярнуцца жонка.

Цягнік знік з вачэй, і Сямён заспяшаўся дамоў. Хутчэй, пакуль спяць дзеці. Ачомаюцца — а бацькі няма... Яшчэ ж і ў краму не забыць забегчы. Зноў будуць енчыць: «Што нам есці?»

* * *

Таццяна вярнулася як па раскладзе. Акурат у той дзень Сямён прынёс у дом кветкі, што падарылі студэнты з нагоды Дня настаўніка, павіншаваў жонку, выхавальніцу дзіцячага садка, са святам. Таццяна моўчкі паставіла ў вазу яго любімыя позне хрызантэмы і, нічога не гаворачы, працягвала ўкладваць у цэлафанавы пакет спецыі і сёе-тое з кухоннага начыння.

— А я думаў, што ў нас будзе святочная вячэра, — сказаў Сямён нібыта і жартам.

— Мне трэба памагчы бацюшкавай гаспадыні. Заўтра ў іх будзе шмат гасцей. Чакаюць самога Уладыку. Прыйду раніцай, — давяла да ведама Таццяна.

На гэты раз Сямён змоўчаў, не жадаючы скандалу. А так хацелася ўкалоць: «Хто ж для тваіх дзяцей насмажыць-напячэ, матуля?»

Таццяна прыйшла вечарам наступнага дня і зноў некуды зазбіралася.

Сямён ведаў, што «нарываецца», правакуе скандал, але крыўда раздзірала душу, і ён не стрымаўся:

— Чаму ж гэта там, дзе ты была, не далі нашым малым па якому піражку ці хоць бы праснаку жытняму?

— Змоўкні, не даставай мяне!

— Няўжо там не ведаюць, што ў цябе ёсць дзеці?! Можа, не зарабіла за суткі? — не сунімаўся Сямён.

— Як ты смееш, антыхрыст?! Як у цябе толькі язык паварочваецца такое казаць?! — кіпяцілася, тупацела нагамі Таццяна. — Пра такое нават і думаць грэшна!

— Які то грэх — перадаць дзецям цукерку?! — Сямён прыдуркавата паціснуў плячыма.

— Ты ведаеш, паразіт, якіх людзей мне выпаў гонар абслугоўваць?! Не табе раўня!

— А мне хоць самога Папу Рымскага! — падкладваў дровы ў агонь Сямён. — Мае дзеці таксама просяць есці.

— Ды ты!.. Ды табе!.. — кіпела, насілася па кухні, не знаходзіла слоў жонка. На вочы ёй трапілі белыя хрызантэмы. Умомант яны былі абезгалоўлены і запхнуты ў сметніцу.

— Што я такога сказаў?.. — прыкідваўся прастаком Сямён, а ў глыбіні душы святкаваў перамогу: перагарыць, супакоіцца жонка, а пасля і задумаецца. Ва ўсім павінна быць нейкая мера.

Гэтую і наступныя ночы Таццяна не начавала дома. Дні праз чатыры ў паштовай скрыні Сямён знайшоў запіску: «Мяне не шукаць! На працу не званіць! Хто спытае — маўчаць, вы не ведаеце! Мы ўсе паехалі на юбілей айца Дамаскіна ў К..і манастыр. Будзе многа людзей. Прыеду праз два тыдні».

* * *

Таццяны не было каля месяца. Метадыстка і каляжанка-зменшчыца званілі штодня. Патэлефанавала і загадчыца:

— Мне ўсё гэта надакучыла! Няхай ваша жонка выбірае... Калі яна не выйдзе на працу праз два дні — будзе звольнена па загадзе.

Вярнулася Таццяна не адна. За рулём мікрааўтобуса сядзеў бацюшка, гадоў пад пяцьдзясят, светлатвары, з акуратна падстрыжанай чорнаю барадою, густымі, амаль не кранутымі сівізною валасамі.

«Напэўна, гэта і ёсць сам ігумен, — здагадаўся Сямён. — Усё ў іх прадумана найлепшым чынам. На зваротным шляху за тыя грошы, што жонка і яе каманда збіралі па кватэрах, бацюшка закупіць крупы, муку, цукар і, прыхапіўшы з сабою новых дармовых работнікаў, — у зваротны шлях. Няўжо так абяднела пскоўская зямля на рабочую сілу і крупы, што абавязкова трэба паліць бензін, гнаць машыну за сотні кіламетраў?»

— Прасі ў бацюшкі благаславення, — вымучыла ўсмешку жонка.

Сямён разгублена лыпаў вачыма; святар таксама адчуваў сябе ніякавата.

— Ці добра даехалі? — запытаўся Сямён, каб не маўчаць.

— З Божаю дапамогай...

Таццяна была ў завязанай па старэчы хустцы, доўгай і цёмнай, нягледзячы на добрае надвор'е, спадніцы і грубаватых напаўмужчынскіх ботах на нізкіх абцасах. Трэцяй прыехала незнаёмая жанчына няпэўнага ўзросту, паўнаватая, сутулая, без

усякага густу апранутая, у груваcткіх, з тоўстымі лінзамі акулярах, дужкі якіх для надзейнасці сцягваліся гумкаю на патыліцы.

Прыезджыя, а з імі і гаспадар, падняліся на пяты паверх. Жонка забегала па кухні, забразгацела вечкамі пустых каструль.

«А трасцу табе! — злараднічаў Сямён. — У халадзільніку тры апошнія сардэлькі».

— Пакажы, Сёмачка, айцу Дамаскіну беларускія газеты і часопісы, раскажы, над чым цяпер працуеш. — Гаспадыня была сама ветлівасць.

«Ужо і пабег!..» — натурыўся гаспадар у душы, але што зробіш, хочаш не хочаш, а давядзецца займацца шаноўным госцем, дэманстраваць шляхетныя манеры. Становішча абавязвае, як кажуць разумныя людзі. З хаты не пойдзеш, раз ужо так атрымалася.

Мужчыны прайшлі ў спальню. Бацюшка з увагаю зірнуў на самаробны іканастас, перахрысціўся і прысеў на край ложка. Сямён прыладзіўся на адзіным крэсле, абшчапіў рукамі калена, уважліва прыгледзеўся да госця... Няблізкая дарога не стаміла айца Дамаскіна. Вочы жывыя, адзенне дагледжанае (ці не жончына работа?), ні пылінкі на ім. Чорная тканіна — не да месца падумалася Сямёну — можа быць прыгожай, калі яна дарагая, не выцертая, калі пасуе чалавеку. Адзенне святара ідэальна спалучалася з яго смаляною барадой і валасамі, бледнаватым тварам. Пачуўся — ці мо падалося — лёгкі водар мужчынскай парфумы. Сямёну чамусьці ўспомнілася, як усяго некалькі гадоў таму ён, настаўнік амаль з дзесяцігадовым стажам, правяраў на святло лямпачкі ў гэтым самым пакоі якасць толькі што адпрасаваных штаноў. На адпаведных месцах святло праходзіла без перашкод. Насіць такую адзежыну даводзілася крайне асцярожна, з тым каб не нарабіць людзям смеху...

— Я даўно хацеў запытацца ў каго з дасведчаных людзей (Сямён намагаўся скінуць з твару маску абыякавасці), за што праваслаўная царква адлучыла Льва Талстога.

Гаспадар спадзяваўся, што падрабязны і павучальны расповед (як кажуць на Украіне) зойме нямала часу і можна будзе не думаць, чым заняць госця далей. На бяду, адказ святара быў лаканічным:

— Ёсць грахі, за якія даравць нельга. Хула на Святога Духа — адзін з найцяжэйшых грахоў. І душа Льва Талстога — бацюшка са шкадаваннем правёў указальным пальцам зверху ўніз — прамым шляхам у пекла...

Таццяна не забавілася, неўзабаве паклікала да стала, і гэтаму былі рады і госць, і гаспадар.

Бутэльцы дэфіцытнага французскага шампанскага Сямён крыху здзівіўся, але выгляду не падаў. Здзівіўся таксама неблагой, на хуткую руку падрыхтаванай перакусцы: і рыба — глядзі ты! — чырвоная, і шпроты прыбалтыйскія... А яшчэ кажуць...

Святар абвёў вачыма кухонны пакой, не знайшоў абразоў і перахрысціўся на кут.

— Колькі свайму не кажу — ці паслухае! — апраўдвалася Таццяна.

За сталом размова таксама не клеілася, усе адчувалі сябе скавана, і абед не заняў шмат часу. Адразу пасля застолля — пэўна, усё было дамоўлена загадзя — госці пачалі збірацца ў храм. Сямёну не прапанавалі.

«Ну то і дзякаваць Богу, — парадаваўся ён. — Некалькі шпротных хвастоў засталося. Будзем працягваць банкет. Чым мы горшыя за астатніх?!»

Сямён прынёс з залы прыхаваную бутэльку гарэлкі, наліў у фужэр з рэшткамі шампанскага, выпіў адным махам. «Белы мядзведзь» — успомніў ён назву немудрагелістага кактэйлю. Акурат тое, што трэба. Галаву імгненна затлуміў рой бязладных

думак. Якую працу выконвала жонка *там*? Ці праўду казалі людзі, што ў Дамаскіна яна за дамашнюю гаспадыню: гатуе ежу, прыбірае, мые бялізну... Прыслужвае... Што ёй так люба менавіта ў гэтым, да ўсяго мужчынскім, манастыры? Ну няхай ён няўдаліца, не ўмее забяспечыць сям'ю. А чым вінаватыя дзеці?.. Што яму, мужу, думаць, калі ў гадзіну ночы ў кватэры раздаецца міжгародні тэлефонны званок, жонка без памяці, не ўключаючы святла, збіваючы на хаду крэслы, кідаецца да апарата.

— ...Вашымі малітвамі...

— Куды нам, грэшным!..

— Як здароўе бацькоў?...

— Куды ўжо нам!..

— І я таксама...

— І я таксама...

* * *

Пісьмо ад Веранікі прыйшло праз тыдзень.

Добры дзень, паважаны Сямён Пятровіч! — пісала былая студэнтка. — Калі шчыра, хацелася б пачаць гэты ліст крыху інакш. Не ведаю, што мяне стрымлівае...

Я так удзячна за той апошні вечар, за нашу ноч! Паўтару яшчэ раз, што сказала раніцай: я чакала *ўсяго* гэтага даўно, з самай першай лекцыі. А яшчэ мне вельмі хочацца сказаць, што ў тую ноч я была вельмі шчаслівая, упершыню за апошнія гады. Мне і на другі дзень хацелася быць з вамі, я магла яшчэ затрымацца, але пабаялася...

Бачыла, як вы глядзелі ўслед цягніку. Усю дарогу думала толькі пра вас і напісала, не паверыце, чатыры вершы...

Узнаўляю да драбніц нашу першую сустрэчу... Я затрымалася ў дэканаце, а, зайшоўшы ў аўдыторыю, сустрэла ўважлівыя, добрыя, нечым заклапочаныя вочы. Слухала, думала пра вас, а калі іншы раз праходзілі побач ці пра нешта пыталіся, то ўспыхвала, сэрца білася хутка-хутка...

Пасля было многа заняткаў, ніводныя з якіх я прапусціць не магла, бо хацела вас бачыць і чуць. І нішто, аніякая прастуда (ці памятаеце, як тактоўна, але настойліва вы хацелі адправіць мяне дамоў лячыцца?) не магла мяне спыніць.

Вы хвалілі мяне за курсавыя працы, за почырк, за добры адказ на экзамене, ставілі ў прыклад. Я чырванела, як першакурсніца, мне было так прыемна, што ў вас святлелі вочы, і я... — прабачце мне мой грэх — думала пра вас як пра мужчыну.

Я раўнавала вас да калег, да маіх аднакурсніц. Мяне вельмі цешыла тое, што пра вас (ці не адзінага з выкладчыкаў-мужчын) не хадзілі пагалоскі і плёткі наконт «нестатутных» адносін са студэнткамі. Так што, не ведаючы гэтага, вы ўсе пяць гадоў былі толькі «маім» выкладчыкам. Ад самай першай устаноўчай сесіі і да апошняга дзяржаўнага экзамена.

Напішыце мне, калі ласка, пісьмо. Я буду вельмі чакаць. Адрас даю сяброўчын, у нас з ёю няма сакрэтаў.

Спадзяюся на сустрэчу. Вераніка

Сямён некалькі разоў перачытаў ліст. Няўжо ён, старэйшы на цэлае пакаленне мужчына, усё яшчэ можа быць цікавым маладой жанчыне не толькі як выкладчык? Ён ніколі не дазваляў сабе вольнасці на занятках — ні ў словах, ні ў думках, — але,

выяўляецца, усе пяць гадоў была ў аўдыторыі пара вачэй, якія глядзелі на яго не так, як усе іншыя. «З самай першай *лекцыі*...» Яна да гэтага часу адчувае сябе студэнткай, маючы дваіх дзяцей і інстытуцкі дыплом. І яшчэ не мог не адчуць вопытны настаўнік, што Вераніка — чалавек адзінокі, як і ён сам.

Два вершы, з дзясятка дасланых у лісце, былі прысвечаны «С. П.» «Дажыўся, — іранізаваў Сямён. — Даследчыкі жыцця і творчасці некалі напішуць у манаграфіях: «Маладыя таленавітыя паэткі прысвячалі яму свае вершы...» А чаму б і не? — цешыў самалюбства. — Хто табе сказаў, што ты горшы за іншых? Хто табе дазволіў махнуць на сябе рукою? Жабрацкая зарплата ды скавытанне чалавека, які воляй лёсу жыве побач — яшчэ не ўсё, яшчэ не прысуд.

Сямён са шкадаваннем прызнаўся сабе, што даўно не думаў пра тое, як выглядае збоку, які ён у вачах іншых людзей. Недарагі касцюм, некалькі палінялах кашуль на будні і свята, яшчэ савецкая электрабрытва, традыцыйная «канадка» ў таннай цырульні... Тым не менш маладая жанчына звярнула ўвагу зусім на іншае — і гэта было прыемна адчуваць. А пра імідж, ці як яно там цяпер называецца, мо і варта было б падумаць — прыгледзецца, як апранаюцца маладзейшыя выкладчыкі, набыць той жа «жылет» ці новы гарнітур.

Зваротны ліст Сямёна заканчваўся словамі:

«Дзякуй...Ты дапамагла мне хоць на кароткі час адчуць сябе дужым і шчаслівым. Удзячны лёсу, што так атрымалася. Сорамна перад тваёй маладосцю, але не мы ў гэтым вінаватыя...»

У наступным лісце Вераніка даверліва распавяла пра свае жыццёвыя клопаты. Яна шукала працу бліжэй да дому, уладкоўвала дзяцей у яслі, капала бульбу, клапацілася пра будаўніцтва новай хаты, і яшчэ, і яшчэ...

«Вёска, прырода, свежае паветра!.. — злаваў Сямён немаведама на каго... — Пачытаеш у літаратурнай старонцы выдатную падборку вершаў маладой аўтаркі, чакаеш цуду — а чалавек знікае. Муж, дзеці. І праца, праца... З ранку да вечара, у любую пару года. Ці не такое чакае і яе, Вераніку?» Асцярожна пра гэта і яшчэ пра многае іншае напісаў выкладчык у далёкую палескую вёску.

Вераніка парадавалася найперш таму, што пісьмо было вялікае, ажно на шэсць старонак.

...Я была бясконца радая, — пісала яна, — калі сяброўка перадала мне такое вялікае пісьмо (як і прасілі, пераходжу на «ты», але па імені называць не магу, даруйце.) Чакала і не верыла... Твая праўда: гэты дзень у нас ніхто не адыме, не сатрэ з памяці, не перакрэсліць. Як бы ні павярнулася жыццё...

Мае вершы пакуль што слабыя. Крытыкуй. Я не пакрыўджуся. Добра? А наконт таго, што спяшаюся пісаць і жыць — я згодная. Гэтаму ёсць прычыны, але не апраўданне. Табе не трэба ўсяго ведаць. Хоць з часам — магчыма...

Імкнуся пісаць шчыра, разумею, што многае даецца Небам, але і ад мяне многае залежыць. Я буду вельмі старацца. Вы ж любіце старанных студэнтак (Вераніка зноў збілася на «вы»)? Я пачала пісаць, бо не было каму расказаць пра свае думкі, адкрыць душу. Вы першы, хто сказаў добрае слова пра маю «творчасць». Пачала адразу з аповесці. «Якое шчасце — жыць!..» — так назвала. Гэта было на другі дзень пасля таго, як (наступны радок быў акуратна закрэслены фламастарам) аднойчы захварэла. У гэтай аповесці — маё жыццё, хоць і пражыла я вельмі мала. Пра многае хочацца сказаць. А перачытаю іншы раз напісанае — усё не тое, не маё. Зайздрошчу тым, хто ўмее пісаць праўдзіва...

А яшчэ ў мяне з'явілася прычына, каб прыехаць у Н. Разумею, як мне будзе цяжка, але ўсё роўна — калі не ў гэтым годзе, то ў наступным — буду паступаць у аспірантуру. Мне абавязкова трэба планаваць нешта важнае і абавязкова на некалькі гадоў наперад. Інакш — пустата. Раней — курсавыя, кантрольныя, канспекты, падручнікі... Вучоба была маім выратаваннем...

Хачу і баюся цябе ўбачыць. Каб не Галіна тады, я не ведала б, пра што гаварыць і што рабіць.

Хочацца быць птушкай, матыльком,
Кратаць недасяжныя галіны...
Толькі ў ніжнім голлі павуціна —
У верхнім голлейку — зялёнае святло.

Гэта з майго апошняга верша. Крытыкуй...

Я абавязкова прыеду, і мы сустрэнемся. Магчыма, раней, чым ты атрымаеш гэты ліст. Будзь такім добрым і ўважлівым, якім я цябе ведала заўсёды. Яшчэ раз да спаткання, мой... любы і жаданы выкладчык. Абяцаю асцерагацца «скразнякоў і дрэнных людзей...»

* * *

«Сястрычка» Тамара, жончына сяброўка па К...м манастыры, жыла ў кватэры трэці тыдзень. Жанчына без сям'і, дзяцей, уласнага кутка, яна вольна падарожнічала па манастырах, лічыла незаганным падоўгу жыць у чужых людзей. Тамара не ўмела нічога гатаваць, акрамя варанай бульбы ды салаты з сырых буракоў, таму і дапамогі ад яе чакаць не прыходзілася. Раздражнялі Сямёна неверагодных памераў, парудзелыя ад гаспадарчага мыла, трусы няпрошанай кватаранткі, якія яна развешвала ў ванным пакоі, яе пазбіваныя ўсесезонныя боты ў пярэднім пакоі, шаргаткая балоневая куртка на вешалцы.

Тамара з жонкай пасяліліся ў зале: чыталі, «прымалі сясцёр», там жа і спалі ўдвух на раскладной канапе. Часцей за іншых да іх далучалася «сястра» Анастасія, сярэдніх гадоў жанчына-гарбун з нейкаю дуркаватай усмешкай на дробным, як у дзіцяці, твары. Анастасія была замужняя. Сямёну іншы раз даводзілася бачыць яе з мужам і трыма дзецьмі (хлопчыкамі-пагодкамі і крыху старэйшай дзяўчынкай) на аўтобусным прыпынку. Мужчына — збеднены, недагледжаны, дзеці — дрэнна апранутыя, замурзаныя, а яна, шчаслівая, наперадзе. Анастасія нядаўна нарадзіла чацвёртае дзіця, дзяўчынку. І тут не вытрымаў муж — запіў, пайшоў з дому. У маці з'явіўся невырашальны клопат: на каго пакінуць шасцімесячнае немаўля, якое перашкаджала служыць Богу. Жанчына знайшла выйсце: ідучы з дому, яна прыбірала ў дзіцячым пакоі ўсё, што можа ўпасці, парэзаць, укалоць, рассцілала на падлозе коўдру, зачыняла дзверы на замок і пакідала малое «на Божую Маці».

Сямёну была непрыемна гэтая троіца, што, нацягнуўшы на лоб хусткі, ішла па кватэрах збіраць грошы для «дзетак-сірот», забываючыся, што ёсць яшчэ і ўласныя дзеці, прынамсі, у дваіх з іх. Ці маральна такою цаною выслугоўваць «дабравесце», і ці патрэбна Богу такая ахвярнасць? Сямён на гэтае пытанне адказваў адмоўна.

Непрыемнымі былі іх «навуковыя» спрэчкі пра канец свету. Думкі дамарослых філосафаў-багасловаў нярэдка падзяляліся. Жонка давала свету шанц да двухтысячнага года, астатнія — на некалькі дзесяцігоддзяў больш. Можна было заўважыць, што вышэйшая адукацыя Таццяны ў гэтых спрэчках не была аргументам.

— Вось вы кажаце, не было знамення?! — гарачылася Сямёнава палавіна. — А ці трымала каторая з вас у руках новы пашпарт?

— А што? — затрывожылася Анастасія.

— Няўжо ты нічога не чула?

— Не.

— Цяпер выдаюць пашпарты, у якіх нумар складаецца з трынаццаці лічбаў.

— Гэта ад сатаны. Гэта перад канцом свету! — жахнулася Тамара.

— Асабіста я такі пашпарт у рукі не вазьму, — запэўніла сясцёр Анастасія. — І дзеці мае не возьмуць, і муж...

— А калі загадаюць?..

Працівіцца ўладзе было нельга, і сяброўкі доўга абмяркоўвалі, як і ўладу не пакрыўдзіць, і адначасова антыхрысту не дагадзіць, выратаваць душу... Таццяна прапанавала ўзяць пашпарт левай рукою і тройчы сплюнуць праз левае плячо.

Сямён не ўтрываў:

— Як трэба не паважаць сваю вышэйшую адукацыю, каб чаўпці такое глупства!

— Закрый рот! Тваімі вуснамі гаворыць нячысты, — адмахнулася жонка.

Нарэшце «сястра» Анастасія прапанавала рашэнне, якое задаволіла ўсю троіцу: запытацца пра пашпарт у бацюшкі, лепш у самога Дамаскіна. Ён адзін можа параіць, што рабіць.

— Была б мая воля, я гэтую Анастасію перацягнула б кіем па спіне, каб выпрасталася, — заявіла дачка Ілона, калі сутыкнуліся аднойчы на вуліцы і «сястра» засвяцілася, заўсміхалася як ад бязмежнага шчасця.

— Што ты сабе дазваляеш?! — цыкнуў Сямён на дачку, а сам падумаў: «Калі ў дзіцяці нехта забірае маці, яму што, дзякаваць за гэта трэба?»

Мужчына ўзненавідзеў «сясцёр», начныя званкі, аблупленую скрыню на тумбачцы каля тэлефона і не ведаў, як паводзіць сябе, у каго пытацца парады. Ён намагаўся нешта гаварыць, але размаўляць са «звар'яцелым» — лічыла яго палавіна — толькі браць грэх на душу.

* * *

З аспірантурай — гэтага трэба было чакаць — у Веранікі нічога не атрымалася. Месцаў на кафедры педагогікі не прадбачылася, і загадчык, прафесар Варановіч, нават не абнадзеіла.

— Праз тры, пяць гадоў, але вучыцца я ўсё роўна буду! — стаяла на сваім Вераніка, і Сямён верыў ёй.

Яны дамовіліся сустрэцца ў Глебаўны (Вераніка, клапоцячыся пра яго спакой, забараніла прыходзіць да цягніка).

Абедзве жанчыны шчыравалі на кухні. Глебаўна чакала свайго Колю, Вераніка — Сямёна.

— Ці не магу я чым дапамагчы? — спытаў Сямён больш для ветлівасці: бачыў, што яго дапамога тут лішняя.

— Дзякую. З такою памочніцай можна за дзве гадзіны на вяселле нагатаваць, — зрабіла камплімент Глебаўна.

— Не разумею я гарадскіх, — як не чула Вераніка. — Муж з працы, а яна з суседняга пакоя: «Есці будзеш?.. Вазьмі разагрэй у каструльцы. Не забудзь толькі памыць за сабой». А то яшчэ: «Абяры, коцічак, пару бульбін. Я таксама галодная».

Мая бабуля, няхай яна будзе здаровая, у такіх выпадках заўсёды гаварыла, што не будзе есці капусту, якую мужчына зварыў. Мне яна мужчынскімі нагавіцамі пахне. Я, пэўна, у яе ўрадзілася.

Сямён уважліва назіраў, як спрытна жанглюе Вераніка вечкамі ад каструль, як смешна зводзіць бровы, калі дзьме на страву ў лыжцы — спрабуе на соль, — як лоўка ўпраўляецца з кухонным нажом і таркамі, — і яму вельмі захацелася, каб гэта ўсё адбывалася на яго занядбанай кухні.

— Перш за ўсё мужчыну трэба накарміць, — працягвала Вераніка, напрактыкаванымі рухамі скідаючы з патэльні на талерку апетытныя катлеты. — Асабіста я ніколі не пытаюся ні ў мужа, ні ў бацькі, ці будуць яны есці. Здаровы мужчына заўсёды хоча есці. Ці не праўда?

Як было не пагадзіцца.

— Гэта прыносіць мне задавальненне, — разгаварылася Вераніка. — Прырода ўсё прадугледзела, калі выпраўляла мяне на свет жанчынай. Няхай нават чалавек падзякаваць забудзе ці пасаромеецца, але я душой адчуваю, што ён пра мяне думае ў той момант, калі падсоўваю талерку...

Прываблены пахам свежаніны, на парозе кухні з'явіўся рыжаваты сабака, каратканогі і віславухі.

— А мой ты старэнькі! — пашкадавала Глебаўна. — Ёсць для цябе сёння смачнейшае. Госці ў нас.

Глебаўна паклала на талерачку ў кутку катлеціну, скрылік доктарскай каўбасы.

— Ведаеце, дзеці (Сямёну падабалася, што Глебаўна — мо знарок? — не бачыць розніцы ва ўзросце яго і Веранікі), колькі гадкоў нашаму цуцыку?

Абое пакруцілі галовамі.

— Дзевяноста восем!

— Ну што вы, Глебаўна!.. — засумнявалася Вераніка. — Выходзіць тады, што ён у паўтара разы за вас старэйшы?

— Чаму ж?.. — гаспадыня заставалася сур'ёзнай. — Усё вельмі проста. Тузіку нашаму чатырнаццаць. Каб параўнаць з чалавечым векам, трэба памножыць на сем. Вось і атрымліваецца.

— То вы, Глебаўна, і юбілей адзначаць будзеце? — пажартаваў Сямён.

— Не дацягне, бедны, зусім слабы стаў. Упадзе і прытомнасць губляе. Па некалькі разоў на дзень... А шкада жывую душу.

«Пэўна ж усяго пазнала ў жыцці гэтая дабрадушная і зычлівая жанчына», — падумалася Сямёну. Ён глянуў на Вераніку. Яе блакітныя вочы нібы прамаўлялі: «А што я табе казала? Глебаўна ў нас — чалавек!»

У дзверы пазванілі, і гаспадыня заспяшалася адчыняць.

— Мой Іванавіч ніколі не прымушае сябе доўга чакаць.

Вераніка адбеглася на хвілінку, памяняла дамашні халацік на модную прыталеную сукенку.

— Падабаецца? — павярнулася на адной назе.

— Выдатна! На ўсе васямнаццаць!

— Не хачу на васямнаццаць!.. — прытворна надула губы. — А здагадайся, чаму менавіта ў гэтай сукенцы я прыехала?

— Твая любімая.

— Не зусім так.

— Здаюся.

— Яна не камечыцца, ці мала што... — і засмяялася, маладая, жаданая, прыгожая.

— Ах ты спакусніца! — Сямён намерыўся ўшчыкнуць Вераніку за талію, але яна ў імгненне вока апынулася ў зале.

Праз хвіліну налілі па першай чарцы.

«Лепшыя прадстаўнікі кожнага з чатырох пакаленняў сустрэліся за сталом у паважанай Надзеі Глебаўны,» — падрыхтаваў тост Сямён і тут жа адмовіўся ад яго («Эгаіст няшчасны! Самому час унукаў гушкаць, а ўсё чужыя гады лічыш»).

На гэты раз доўга не заседзеліся. У хуткім часе старэйшыя надумалі «падыхаць свежым паветрам». Сямён дапамог Вераніцы хуценька прыбраць са стала. Яны занавесілі вокны і засталіся адны ў гэтай прыветнай кватэры, ва ўсім белым свеце...

Вечарам Сямён правёў Вераніку на цягнік. Адпускаючы яе гарачыя рукі, Сямён са шкадаваннем падумаў, што дамоў Вераніка патрапіць далёка за поўнач і наўрад ці будзе ў яе час, каб хоць на гадзіну заплюшчыць вочы...

У ванным пакоі мужчына зірнуў у люстэрка: на плячах і спіне ружавелі выразныя палосы ад пазногцяў. Правёў вільготным ручніком па адным і другім плячы — і адчуў, які салодкі гэты боль, гэтае дрыготкае смыленне... Аказваецца, бывае і так. Зусім не абавязкова адчуваць сябе ідыётам... «Табе б толькі сваё справіць...» — успомнілася незадаволенае жончына «пасляслоўе». А яму здавалася: «Доля бабская... Капейкі няшчасныя прыносіць у дом, а яшчэ, паразіт, хоча нечага». Пра тое ж гаварылі яе нежывыя рукі і калені, да раздражнення роўнае дыханне. Адвярнуўшыся, паправіўшы акуляры на носе, яго палавіна шукала згубленую старонку ў кнізе, якая з вялікай неахвотай некалькі хвілін таму была адкладзена на тумбачку.

* * *

...А малайчына наша Глебаўна! — хваліла Вераніка гаспадыню ў наступным лісце. — Я ўжо па тэлефоне падзякавала ёй за «свежае паветра». Адчувала, як ты хваляваўся ў прадчуванні *нашага* вечара, можа таму і не спыняла, калі дапіваў да донца. Ты болей так не будзеш?.. Вось і добра... Гэтыя лекі не параўняюць наш узрост, ды гэта і не трэба. Таму што... Ты мне патрэбен такім, як ёсць: разумным, добрым, зычлівым і спагадлівым. А ўсё астатняе?.. Хоць, урэшце, якая з мяне прапаведніца.

Хочацца быць побач, адчуваць твае рукі, пацалункі. Спадзяюся, што мая адкрытасць цябе не палохае. Не ўсё, што напісала, змагла б сказаць.

Я ўпэўнена, што наша сустрэча не была апошняй, што мы яшчэ неаднойчы пабачымся. Мне гэтага вельмі хочацца. Яшчэ будзе мая бэзавая кашуля і доўгія валасы. Я не буду іх болей стрыгчы, калі табе падабаецца. Пастараюся... Мне іх падрэзалі незадоўга да нашай сустрэчы. Доктар параіў...

Учора ездзіла да маці. Гадзіну сядзела над тэлефонам і не адважылася пазваніць: а раптам падымеш не ты, а раптам перашкоджу працаваць...

Перачытала, падумала: не тое напісала, але тут жа сябе супакоіла: што ты мяне абавязкова зразумееш...

Сумуй па мне. Успамінай хоць зрэдку...

* * *

«Ну вось, — усміхнуўся Віталь, — і Сямён Пятровіч туды ж: “бэзавая кашуля”, “доўгія валасы”, “сумуй па мне”... Колькі ўжо пра гэта пісана-перапісана!.. Бацьку няцяжка зразумець. Напісаў, каб зняць цяжар з душы, паспавядацца перад чыстым лістом паперы. Сямён Пятровіч, Таццяна, айцец Дамаскін... — прататыпаў дзеючых

асоб шукаць не трэба. Але пры чым тут Вераніка? Можа, бацьку спатрэбілася яшчэ адна сюжэтная лінія, каб заінтрыгаваць чытача, ажывіць твор, не збіцца на мемуары?» «А чаму ты адмаўляеш яму ў праве на каханне?» — не згаджаўся ўяўны апанент. «Імя таксама не абавязкова было пазычаць у класіка» — даводзіў Віталь. «А ён і шукаў, — нагадаў суразмоўца. — Прасіў падказаць жаночае імя абавязкова на чатыры склады. Не спадабалася Ангеліна, Аўгусціна... А ўспомні, як гадзінамі стаяў ён ля акна з раскрытым канвертам. Можа, усё гэта разам і называлася Веранікай?» — «Што ж... — паступова здаваўся Віталь. — Быў, памятаецца, адзін дзіўны званок. Прыемны малады голас у адказ на "Вас слухаюць!" запытаў: "Як жывеш? Ці не крыўдзяць дзеці?" Пасля таго, як адазваўся, на тым канцы войкнулі і паспяшаліся пакласці трубку».

Хлопцу зноў успомнілася маці. У раннім дзяцінстве, калі толькі пачынаў усведамляць сваю прысутнасць на свеце, Віталька вельмі любіў яе. Мама з жаданнем чытала яму па некалькі разоў пра Піліпку-сынка і Бураціна, купляла «фанту» і незвычайна смачнае марожанае з арэхамі. У дзіцячым садку мама надзявала высокую белую шапку і бездакорна белы халат, усе дзеці слухаліся яе і пыталі: «Гэта твая мама?», і Віталька з гонарам адказваў: «Так. Гэта мая мама».

А яшчэ ён вельмі перажываў, калі яна сварылася з метадысткай ці трэнерам па гімнастыцы. Плакаў, крычаў, лупіў кулачком па сцяне, калі маці крычала на бацьку. Тады яна ішла спаць у дзіцячы пакой, а ён не пускаў, патрабаваў, каб спалі разам, нават не абавязкова з ім пасярэдзіне.

Віталька больш за ўсё не любіў класныя сходы, на якіх разам з бацькамі прысутнічалі дзеці. Пасля такіх сходаў самыя дарагія яму людзі доўга не размаўлялі, не ўсміхаліся, адварочваліся адно ад аднаго. Бацька быў Віталькавым настаўнікам і класным кіраўніком, і маці не было аніякай неабходнасці ісці ў школу. Але яна прыходзіла, сядала на адну з апошніх парт, задавала пытанні. Часта пасля таго, як настаўнік ужо расказаў, чым радуе яго кожны вучань і чым засмучае, у бацькі, як у зусім староннята чалавека, маці пыталася:

— Што вы можаце сказаць пра Каваля Віталя?

Віталь чырванеў як той рак, а бацька звычайна гаварыў:

— Добра вучыцца. Малайчына.

Жанчыны — Віталька чуў не раз — недаўменна перашэптваліся пасля:

— Яны што, не жывуць разам?.. Пятровіч гуляе?

Дома бацька тлумачыў, што яму непрыемна, калі за яго спінаю перашэптваюцца ў настаўніцкай. На гэта маці заяўляла:

— Няхай ведаюць... Наогул ты не маеш права мне забараніць. Я маці — і я маю права.

— Юрыдычнае...

Пачыналася сварка.

Памяць выхоплівала і шчаслівыя моманты, калі ўсе чацвёра былі разам...

Віталь з бацькам чакаюць на першым паверсе лазні, калі «дзяўчаты», маці і сястра, выйдуць з жаночага аддзялення. Бацька купляе ў буфеце марожанае для ўсіх, а сабе — законны куфаль цёмнага піва. Ён са смакам адпівае да паловы і прапануе піва маці. Тая робіць некалькі глыткоў, крывіцца і вяртае куфаль бацьку.

Іншым разам пасля лазні ішлі ў цырульню. Незнаёмыя людзі ў чарзе абавязкова казалі бацькам: «Якія прыгожыя ў вас дзеці!» І ўсе чацвёра былі шчаслівымі. Вітальку хацелася абняць бацькоў, адразу абодвух, сказаць добрыя словы людзям, якія прыйшлі ў цырульню, каб стаць яшчэ прыгажэйшымі...

Успомнілася: пасля першай паездкі ў манастыр маці расказвае ўсім (і бацька слухае таксама), як яны з сяброўкамі дрэнна паводзілі сябе ў трапезнай — нязлосна пацвельваліся з даўгалыгага клінабародага акуратыста-кухара. Той, малады паслушнік, смешна злаваўся і крыўдзіўся. І яны, як тыя шкодлівыя малыя ў дзіцячым садку, прасілі ў яго прабачэння, абяцалі больш «ніколі-ніколі», а самі пырскалі са смеху...

Усё гэта было так даўно... А каб *яна* вярнулася цяпер, праз дзесяць гадоў? Ці даравaў бы ён, студэнт, дзевятнаццацігадовы дарослы чалавек?.. Задумацца над адказам падштурхнуў тэлефонны званок незнаёмай жанчыны: «Ці змог бы ты, Віталь, — трэба ж, і імя ведае! — зразумець маці і дараваць ёй?..» А ці хоча гэтага бацька? Яму вырашаць, калі аднойчы *яна* з'явіцца на парозе са сваім жабрацкім скарбам. Ён, Віталь, нічога не адказаў на тое настойлівае пытанне. Прамаўчаў. На тым баку, пэўна, прынялі ягонае маўчанне як станоўчы адказ, прапанавалі праведаць маці ў манастыры. Вельмі, маўляў, сумуе яна, моліцца за ўсіх і хоча пабачыць найперш дзяцей.

— Я не гатовы... Пакуль што не гатовы, — ветліва адказаў ён і акуратна паклаў трубку...

Дзесяць год як не гатовы... А можа «стары» — так іншым разам між сабою называлі яны з сястрой бацьку — і сам кінуўся ў той бок? Біблію калі-нікалі бярэ ў рукі, да ўсяночнай іншы раз іх, дзяцей, падахвочвае, хоць сам, здаецца, — ні нагой... Усё спадзяванне на «Вераніку».

Віталь заглыбіўся ў рукапіс.

* * *

Сямён не пазнаваў Веранічын голас у тэлефоннай трубцы:

— Вельмі прашу цябе!.. Заўтра ты атрымаеш па пошце ліст. Не чытай яго. Парві і выкінь.

— Што здарылася. Я магу дапамагчы?

— Не пытайся...

— Ты каешся ва ўсім і просіш прабачэння?

— Не, зусім не...

— У такім разе ці не ты казала, што я стары і мудры? — Сямён стараўся адвесці Вераніку ад нейкіх непрыемных і цяжкіх для яе думак.

— Што «стары» — ты сам прыдумаў, я не казала.

— Не хвалюйся. Былі б толькі ўсе жывыя — астатняе можна паправіць, — пачаў супакойваць Вераніку Сямён, яшчэ не ведаючы, што магло здарыцца. Здагадваўся, што ў пісьме жанчына адкрылася, зняла камень з душы, расказала, спадзеючыся на яго параду і спачуванне, пра нешта вельмі асабістае, інтымнае, але спахапілася, пашкадавала, пакаялася ва ўчыненым. Сямён быў настойлівым: — Даверся мне. Я зразумею ўсё... Пастараюся зразумець.

Вераніка здалася:

— Добра, калі ты так хочаш...

Сямён з трапяткім хваляваннем чакаў ліст ад Веранікі. Ён адчуваў, што з кожным днём усё больш і больш думае пра гэтую маладую, усё яшчэ загадкавую для яго замужнюю жанчыну...

Гэта быў не ліст — крык неабароненай, адзінокай, збалелай чалавечай душы.

...Чацвёртая гадзіна ночы, а я яшчэ не клалася спаць. Думкі не даюць спакою. Ніколі не скардзілася, бо і няма каму. Маці?.. Шкада яе, і так пасівела без пары. Яшчэ толькі маіх праблем ёй не хапала!.. Хоць перад лістом выгаваруся. Няўжо гэта

ўсе жывуць так?.. Муж заканчвае працу ў пяць гадзін вечара, дамоў з'яўляецца ў дзесяць-дванаццаць і «для прафілактыкі» б'е жонку «па мардасах». Збівае яе, адводзіць душу, а потым «задзірае» ногі (не знайду іншага слова), як нічога і не здарылася глядзіць тэлевізар, з жывёльным крыкам на ўсю хату адкідае ад сябе малых: «Сучка! Ты іх прыбярэш?!» Не магу, не ўкладваецца ў галаве. Сяджу і думаю, чым я не дагадзіла яму, што яшчэ трэба?.. Прыбіраю, вару, даглядаю дзяцей, выпрасілавымаліла ў сваіх бацькоў дапамагчы грашыма на новую хату, сама пайшла з дэкрэтнага раней, каб лішнюю капейку зарабіць, маўчу, калі позна прыходзіць... За любое слова — «па мордзе». І не ведаеш, што яшчэ трэба, каб у сям'і ўсё добра было. У судзе не разводзяць, бо дзецям няма яшчэ трох гадоў. Свякруха насміхаецца, не заступіцца ніколі, падтрымлівае сына. Маўляў, няхай ідзе, каму яна трэба з дзецьмі! Хочацца памерці. Не разумею, навошта я езджу, лячуся. Дзеці... Толькі яны ўтрымліваюць мяне ад апошняга кроку.

Я здрадзіла яму, ён заслужыў. Не падумай толькі, што і ў першы раз я рабіла гэта з-за помсты. Усё зусім не так. Павер мне! Я ніколі ў жыцці не сустракала такога чалавека, такога мужчыну, як ты.

Паплакалася... Але ты пражыў больш за мяне. Скажы: няўжо так жывуць усе? Ты калі-небудзь біў жонку «проста для прафілактыкі»? Я не хачу, каб мяне шкадавалі. Не трэба. Я проста хачу зразумець, чаму і за што можа Бог так караць?

Яшчэ год таму мая сяброўка казала: «Мы з мужам разумеем адно аднаго з паўслова, без яго я не пражыла б і дня». Я сядзела і плакала. А нядаўна сустрэліся: што маё, тое і ў яе — балота.

Так хочацца простай чалавечай ласкі. Але адкуль усё гэта ўзяць? Ледзь не тое — зубатычына... І вось ужо ляціш на ложак, цябе гвалтуюць, а пасля ад бяссілля і болю ты не ведаеш, што рабіць: крычаць, біцца галавой аб сцяну. А наступным днём чуеш мальбу пра дараванне і думаеш: а можа, дзеля дзяцей варта пацярпець, мо з часам усё стане на сваё месца?

Не ведаю, навошта пра ўсё пішу. Магчыма, прачытаўшы гэты ліст, ты проста не захочаш мяне бачыць. А ў каго яшчэ запытаць парады?.. Як мне жыць? Што рабіць? Няма сілы ўсё цярпець і хаваць у сабе. Дачка старэйшая, ёй чатыры ўсяго, пытае: «Мама, а за што цябе тата біў? Чаму ў цябе кроў?» Што я магу сказаць ёй?.. Разам і плачам. А малодшая дзяўчынка наогул пужацца стала. Як толькі падыму ў яе над галавою рукі, каб паправіць бант — уздрыгне ўся, сціснецца...

Як мне яго паіць, карміць, мыць яму?! Ведаю, што грашу, а ў душы толькі нянавісць...

Узыходзіць сонца. Хутка прачнуцца дзеці, *ён* прачнецца... Прабач. Табе таксама не соладка, а тут яшчэ я са сваёй споведдзю. Але так хочацца верыць, што ты мяне выслухаеш і зразумееш. Ты сам многае перажыў-перадумаў...

Тады, на вакзале, я не пасмела сказаць, што баюся цябе згубіць. Ты мне вельмі патрэбны. Толькі не перажывай: я ніколі і нічога не буду прасіць, не буду прымушаць. Калі ўсё пройдзе — скажы. Значыць, так і трэба. А боль — ты, напэўна, зразумеў — я цярпець умею...

Сямён разумеў усё. Ён ужо ненавідзеў чалавека, што адчувае за сабою права гвалціць Вераніку, прымушае дагаджаць яму, чалавека, не здольнага зразумець маці ўласных дзяцей, якая шаснаццацігадовай вясковай дзяўчынкай даверылася яму, на восем гадоў старэйшаму — прыгожаму, рашучаму, незалежнаму.

Сямён добра ўсведамляў, што не зможа заступіцца за жанчыну фізічна. Хто ён такі ёсць?.. Ды і не для таго яна пісала, каб прыехаў і навёў у чужым доме парадак.

Смешна падумаць... Да таго ж у Веранікі не стары яшчэ бацька, малодшы брат, спецназавец, толькі што вярнуўся са службы... Няўжо яны не бачаць? Няўжо ён, бацька, абыякава глядзеў бы на даччыны сінякі?! Яна сама не хоча перакладваць уласныя клопаты на плечы родных людзей...

Уночы Сямёну снілася Вераніка. Яна клікала на дапамогу. Ён імкнуўся насустрач, але ногі, аслабелыя ўмомант, не падпарадкоўваліся яму, падгіналіся ў каленях. Сямён з усіх сіл намагаўся вымавіць яе імя і прачнуўся, не разумеючы, ява гэта ці сон.

— Пралюбадзей няшчасны! І ноччу сатана не дае спакою, — перахрысціла мужа Таццяна і адсунулася на самы край ложка. — Адны толькі «прастытуткі» на ўме...

Не было дня, каб Сямён не думаў пра Вераніку. Як цяжка ёй, не па-вясковаму кволай, нават фізічна! Адна праца падганяе другую, і канца-краю не відаць. А паспрабуй прыпыніцца, перавесці дух!.. Бяда таму, каго заўважаць злыя языкі на лаўцы з кнігаю, калі градка не даведзена да ладу. Не адмыешся пасля, як ні намагайся... У Сямёна з памяці не выходзіў крывава-сіні рубец на правым плячы Веранікі. Дадумацца толькі: цягнула — спачатку да аўтобуса, пасля да цягніка — торбу маладой бульбы са свайго агарода, пуды два («У вас у горадзе ўсё трэба купляць, а якая ў Глебаўны пенсія!..»)

Сямён пісаў «доўгія», як і прасіла Вераніка, лісты, расказваў пра смешныя здарэнні, ніколі не ўпамінаў пра ўласны клопат. Вераніка адказвала. Іншы раз нахапкам, на ўроку, трымаючы напагатове — каб толькі дырэктар не «застукаў» — адкрытую шуфляду.

«Звані, а то памру ад суму, і ты будзеш вінаваты», — прасіла жанчына, і Сямён радаваўся, што здольны адарваць яе ад невясёлых думак.

Адных лістоў і тэлефонных размоў ім ужо не хапала. Неабходна было бачыцца, хоць зрэдку. І тады Вераніка прыязджала «па справах аспірантуры», у яго планавалася чарговая «камандзіроўка» ў райцэнтр. Сустракаліся іншы раз і на нейтральнай тэрыторыі, у доме словаахвотлівай, але надзейнай сяброўкі Галіны, той самай «цёткі Галі», якая «разменяла чацвёрты дзясятак». Кожная наступная сустрэча не была падобная да папярэдняй, і пасля кожнай з іх можна было працяглы час жыць аднымі ўспамінамі, хваляваццца ў чаканні новых спатканняў...

Пераканай мяне, што мінулы раз я рабіла ўсё правільна, — перажывала Вераніка. — Мучуся думкаю, ці не замнога сабе дазволіла. Узважваю кожнае сказанае табе слова, кожнае слова, пачутае ў адказ. Некаторы раз баюся саму сябе. На працы трэба быць добрым настаўнікам і разважлівым чалавекам, а дома — клапатлівай маці і... жонкай. Супакой! Ты не толькі мой мужчына, не пабаюся гэтага слова, каханак. Ты мой псіхолаг і па-ранейшаму — настаўнік...

«Псіхолаг»-самавук настойліва шукаў і знаходзіў, яму хацелася ў гэта верыць, патрэбныя словы. Ён супакойваў Вераніку, што ўсё было як найлепш — прыстойна і прыгожа, што яна разумніца і малайчына. Праходзіў тыдзень, другі, і Вераніка прасіла зноў «нешта прыдумаць». Ён прыдумваў — і з гэтага часу яны зноў жылі будучай сустрэчай.

Знаёмыя не пазнавалі Сямёна Пятровіча — памаладзелага, свежага. Сутулаваты, маўкліва-засяроджанны, ён «разгарнуўся» і разгаварыўся. З маладзейшымі каляжанкамі цяпер вітаўся першым, не лічыў за лішняе адкрыта пахваліць жанчыну за тое, што рабіла яе прыгожай: новыя строі, прычоску, удала падабраны колер валасоў. Ён зразумеў, як прыемна пачуць добрае слова маладым асістэнтам. Нават Таццяна

заўважыла перамену ў паводзінах мужа, праўда, патлумачыла для сябе гэта звыкла: чарговая «прастытутка». Адна тонкая акалічнасць ніяк не магла прайсці міма жончынага погляду: на маладзейшых жанчын яе муж — заўважыла спрактыкаваным поглядам раўнівіцы — пазірае не гэтак, як заўсёды, не так уважліва, не так салодка... Нельга сказаць, што зусім абыякавы, што зусім з галавы дурное выкінуў — «магіла выправіць!», — але ж іншымі вачыма, нягодны, глядзіць.

У рэдакцыі газеты дасведчаныя людзі хвалілі Сямёнавы новыя апавяданні, адно з іх зусім нечакана перамагло ў рэспубліканскім конкурсе. З выдавецтва прыйшоў станоўчы водгук на яго першую кніжку прозы — і ўсё гэта за апошні год.

Перамянілася і Вераніка. Бачыў муж, нельга было не заўважыць, як свяціліся яе вочы пасля кожнай «адлучкі».

Абое сямейныя, Сямён і Вераніка не будавалі планаў на будучае. Яны жылі цяперашнім.

* * *

Як хутка ляціць час! Кожны некалі робіць сам для сябе гэтае банальнае адкрыццё, лічыць яго адкрыццём уласным і не дае веры таму, што не арыгінальны...

На балконе Сямёнавай кватэры вывеліся ластавяняты. Нават не заўважыў, як яны пасяліліся тут. Было вельмі душна, і гаспадар тыдзень-другі не зачыняў балконнага акна нават уночы. Неяк пачаў развешваць кашулі, глянуў — у самым куце прыладжана гняздзечка-рукавічка. Сямён падзівіўся птушынай знаходлівасці, прывязаў раму да сцяны, каб не зачыніла яе ветрам, не раздзяліла шкляная перагародка жаўтаротых малых і нястомных працаўнікоў-бацькоў. Шчаслівая птушыная сям'я адчувала сябе спакойна: ні дажду, ні ветру, кот-пралаза не дабярэцца. Сямён не аднойчы назіраў, як на захадзе сонца птушкі ўладкоўваліся на ноч, уяўляў, як цёпла і ўтульна ім у гняздзечку. Птушынае ціўканне ніколі не было трывожным. «Шчас-лі-вы?» — «Шчас-лі-вы», — перагаворваліся паміж сабою крылатыя суседзі, і Сямён думаў: няхай хоць у іх будзе ўсё добра.

Ластавяняты хутка падрасталі і, неразумныя, ніяк не маглі трапіць у адзіную адчыненую раму: нямоцна — не было дзе набраць разгону — стукаліся грудкамі ў шкло і ссоўваліся ўніз, забіваліся ў куток пад старую канапу. Сямён адпускаў птушак з рук і заўсёды хваляваўся, адчуваючы, як моцна б'юцца іхнія сэрцайкі. А птушкі, удзячныя, праносіліся міма акна, мацуючы маладыя крылы, удзячна ціўкалі і, налётаўшыся, вярталіся да гнязда. Птушкі рыхтаваліся да далёкага пералёту. Заканчвалася яшчэ адно лета.

* * *

Гэты вечар мог пасварыць Сямёна і Вераніку назаўсёды, але лёс распарадзіўся інакш: яны пасталелі на яшчэ адзін няпросты роздум над Яго Вялікасцю Жыццём і зрабіліся больш блізкімі адно аднаму...

Вераніка зусім нечакана патэлефанавала ад Глебаўны:

— Я ў горадзе. Зможаш прыехаць?

Сямён памаўчаў, адказаў не адразу. Было зразумела: нешта яго даймае.

— Прыеду, — адказаў ён, мо, нават шкадуючы, што Вераніка завітала так хутка, не дала магчымасці падумаць над тым, што адбылося, разабрацца ў сабе самім.

Сямён ехаў на спатканне, дакараючы і нішчачы сябе за нерашучасць, за нядаўнюю ўступку жонцы, на якую ён пайшоў, баючыся парваць апошнюю нітку, што

звязвала яго з Таццянай. Каб жа ведаць, што гэтаю згодай ён вырак уласных дзяцей на сіроцтва!.. Сямён і Таццяна павянчаліся. Як зразумеў Сямён потым, новы статус даваў жонцы права спавядацца ў святых старцаў, атрымала яна праз гэта і яшчэ нейкія важныя прывілеі... Ён жа, дурань, паверыў, ухапіўся за саломіну — і атрымаў што заслужыў: Таццяна і раней часта ад'язджала з дому, цяпер жа рабіла гэта кожны раз, як толькі выпадаў вольны ад працы ў дзіцячым садку дзень. Нярэдка брала адпачынкі за свой кошт.

А пачыналася гэтая «вянчальная» гісторыя так.

* * *

Таццяна прыехала з аддаленага манастыра. Яна была сцішаная і ўважлівая, называла мужа па імені, павярнулася да дзяцей. Як хто падмяніў жанчыну. Так працягвалася тыдзень, другі, трэці... «Знялі нейкае закляцце? — губляўся ў здагадках Сямён. — У наш час чаму толькі не паверыш... А можа, трапіла на споведзь да мудрага духоўнага настаўніка? Зміласцівіўся Усявышні...

Дрэннае забываецца хутка. Памяць паслужліва вяртала светлыя імгненні жыцця...

— Мы будзем жыць так, каб усе нам зайздросцілі, праўда? — папрасіў-запытаў ён перад вяселлем.

Яна горача пацалавала яго ў губы ў знак згоды.

— І дзеці ў нас будуць такія прыгожыя, як тата.

— Як мама, — не згадзіўся ён.

— Але разумныя, як тата, — не адступала Таццяна...

Два гады яны чакалі свайго Юрку, які аказаўся да немагчымасці крыклівай дзяўчынкай. Таццяна, бледная і шчаслівая, паказвала з акна радзільнага дома закручанае ў пялюшкі дзіця — а ён усё не верыў, што стаў бацькам. З радзільнага дома Сямён нёс немаўля да машыны, а іх Ілонка, іх «выліты тата», заварушылася на руках — і ён уздрыгнуў ад нязвыклага бацькоўскага пачуцця, прытуліў да грудзей безабаронны камячок...

Праз чатыры гады нарадзіўся Віталька. Маладая сям'я, пакуль не падышла чарга на кватэру, гадавала дзяцей на цесных «метрах» чужой «жылплошчы» — аднагоадзінага пакойчыка з прагарэлай грубкай і гнілой падлогай. Расколіна паміж мужам і жонкай, што пагрозліва распаўзалася ўглыб і ўшыркі, паступова зацягвалася, гаілася. А мо толькі здавалася так?..

Праз сем гадоў у маладой сям'і з'явілася, нарэшце, уласная трохпакаёвая кватэра...

* * *

Віталь знарок марудзіў перагортваць густа спісаную старонку. Прыемна было ўспамінаць тыя шчаслівыя для ўсіх дні... Ён, непаседа, носіцца, шчаслівы, па прасторных пакоях яшчэ не застаўленай мэбляю кватэры. Маці і сястра мыюць шырокае, на ўсю сцяну, акно. Бацька толькі што памяняў у дзвярах звычайнае шкло на ўзорыстае, абапёрся плячом на вушак, і падбароддзе яго дрыжыць. Потым бацька падыходзіць да маці, бярэ яе за руку, абдымае, і яны плачуць абое. Віталька нічога не разумее: столькі прасторы, столькі святла, а бацькі не радыя, шкадуюць цесную старую кватэру...

А як прыемна было засынаць на новай канапе перад тэлевізарам!.. Засынаў у зале, а прачынаўся ў ложку. Аднаго разу, хітрун, знарок прыкінуўся, што спіць, і адчуў, як асцярожна нёс яго бацька па калідоры, стараючыся не зачапіцца, не спалохаць...

Віталю закарцела перачытаць лісты з радзільнага дома, што бацька аддаў яму тры гады таму, у дзень атрымання пашпарта. Тым днём «стары» добра «ўзяў на грудзі» з хросным і быў непрыемна шматслоўны, слязлівы.

— Усё можа здарыцца, — працягнуў канверт. — Гэтыя пісьмы *твая* маці, Бог ёй суддзя, пісала ў першыя пяць дзён пасля твайго нараджэння. Мне яна цяпер — старонні чалавек. Вам жыць, самі думайце што і да чаго.

Мужчыны яшчэ не раз падымалі чаркі, спявалі «Распрагайце (то: запрагайце) хлопцы коні...», хросная, цётка Надзея, падцягвала ім высокім голасам, час ад часу жартуючы: «Хлопцы, перастаньце мучыць скаціну», а ён, Віталь, зачыніўся ў дзіцячым пакоі...

— Ці не прапаў канверт разам з бацькам? — спахапіўся Віталь.

Ён не паленаваўся схадзіць у залу, зняў з паліцы «Выбранае» Еўтушэнкі.

Что знаем мы про близких, про друзей?
Что знаем о единственной своей.
И про отца родного своего
Мы, зная всё, не знаем ничего...

(Выпадкова ці не, але менавіта на гэтым месцы ляжалі пісьмы з радзільнага дома.) Віталь прачытаў па памяці апошнія радкі. Паэтава праўда... Што ён, Віталь, ведаў пра Сямёна Пятровіча Каваля, выкладчыка, літаратара, бацьку, чалавека? «Ведаючы ўсё — не ведаем нічога»... Лепей не скажаш. Ці думаў у дзяцінстве — ды і пасля, — што ў яго абавязкова павінна быць асабістае жыццё. Інакш нельга, бо чалавек, які зусім не дбае пра сябе, па добрай волі ўзвальвае на плечы чужы клопат, служыць маланкаадводам, дагаджае нечай амбітнасці — ніколі не карыстаецца павагай нават у тых, каму ён дагаджае.

У кватэру надзвычай рэдка прыходзілі жанчыны. Яны з сястрой дамовіліся не спаць і крычаць, калі нехта затрымаецца нанач, праўда, крычаць не давялося ніводнага разу. Ратавалі бацьку з іншай нагоды: малазнаёмыя родзічы неаднойчы мелі намер пазнаёміць яго з жанчынай-«ягадкай» ці «вішанькай»-маладзіцай. Маўляў, і кватэра ёй твая не трэба, і дзяцей дагледзіць... «Мы не пусцім!» — сястра цягнула за адну руку, ён за другую. І не пусцілі. Хоць, праўду сказаць, ён асабліва і не рваўся нікуды.

Лісты са школьнага сшытка ў клетачку ляжалі на сваім месцы. Віталь, не спяшаючыся, расклаў іх на стале ў адпаведнасці з датамі. Роўна дзесяць лісткоў-запісак. Бацька знаходзіў час, каб прыходзіць *да яго* па два разы на дзень.

*«Добры дзень, наш дарагі татачка! Учора прыносілі сына карміць і ён у сне ўсміхнуўся чатыры разы...»*

*«...Мы сёння з сынам спалі абняўшыся...»*

*«...Хутчэй бы дамоў, да свайго таткі!»*

Віталь дастаў з тумбачкі цыгарэты — бацька трымаў «для гасцей» — і выйшаў на балкон. Стаяла ціхая ноч, свяціліся некалькі акон у доме насупраць, ды цьмяны ліхтар са скрыўленым верхам кідаў чырванаватае святло на пясочніцу, у якой нейкая малеча забыла вядзерца і рыдлёвачку.

На гэтым месцы на балконе часта стаяла маці, апранутая як для вуліцы, прыгожа расчэсаная. Віталька цягнуў яе ў пакой, намагаўся распрануць, бо ведаў, што

будзе пасля. Заўважыўшы бацьку, маці стрымгалоў ляцела з кватэры да ліфта і трымала кнопку.

(Таццяне важна было выйсці з ліфта акурат у той момант, калі Сямён чакаў яго ўнізе, і з высока паднятаю галавою, пагардліва прадэфіляваць міма. На яго пытанне: «Куды так позна?» яна, не паварочваючы галавы, кідала: «На б......ход»).

Пагасла святло ў апошнім акне, і Віталь заспяшаўся да стала: неабходна дачытаць бацькаву аповесць сёння, каб паспець да раніцы ўсё абдумаць і ўзважыць.

* * *

— Сёмачка! — Таццяна ўпала перад мужам на калені. — Давай з табою павянчаемся. — Паспрабавала абняць мужа за ногі.

Ці мог ён адштурхнуць жанчыну, маці?!

— Я не збіраюся спавядацца ні перад кім, — адказаў Сямён абыякава.

— Цябе ні пра што не спытаюць. Я папрашу.

— Не хачу, каб твае бабулі глядзелі на мяне як на таго іншапланецяніна.

— У храме нікога не будзе. Толькі мы і бацюшка.

— Не разумею, што гэта дасць.

— Грэшна жыць нявенчанымі.

— Гэта будзе прызнаннем таго, што столькі гадоў мы, як ты кажаш, пралюбадзейнічалі, жылі незаконна, і дзеці нашы незаконныя. Так атрымліваецца?

— Так, — прамовіла Таццяна, крыху памаўчаўшы. — І Бог адвернецца ад іх, калі мы не павянчаемся. Я ніколі цябе не прымушала ісці са мною да царквы. Дзеля нашых дзяцей ты можаш паступіцца сваімі прынцыпамі... Ніхто не будзе ведаць. Абяцаю.

Сямён вагаўся.

— У нас усё пойдзе па-іншаму. Вось пабачыш. Прашу цябе. — Таццяна не ўставала з каленяў...

І ён згадзіўся.

Сямёна здзівіла, што ў падрыхтаваны звечара цэлафанавы пакет жонка паклала бутэльку дарагога шампанскага, кавы, цукерак, яшчэ нечага.

— Я нікому нічога не буду перадаваць, — заўпарціўся Сямён. — Няўжо і там нельга без гэтага.

— Не злуйся, — паслужліва згадзілася жонка. — Я ўсё сама. Так трэба...

Абрад прайшоў хутка. Ад выпітага царкоўнага кагору прыемна кружылася галава. Пажылы, заклапочаны бацюшка віншаваў Таццяну і Сямёна шчыра, нетаропка. Не настаўляў — разумна і мудра разважаў пра настаўніцкую працу, пра сям'ю, пра бацькоўскія абавязкі. Сямён нават дакараў сябе ў думках, што столькі часу ўпарціўся немаведама чаго. Каб яшчэ не бабуля «цырымоніймайстар», чацвёрты лішні тут чалавек, усё было б яшчэ лепш. А гэтая, падобна таму вясельнаму аператару, забягала то з правага боку, то з левага, гучна падказвала Сямёну на вуха, дзе яму стаць, калі перахрысціцца.

Бацюшка павёў мужа і жонку вакол алтара. Полымя Сямёнавай свечкі трапятала, нібы на ветры, і на трэцім крузе свечка пагасла. Мужчына разгубіўся, не ведаючы як паводзіць сябе ў падобных абставінах. Тыкнуўся падпаліць ад жончынай свечкі — не атрымалася... Выпала з памяці: ці то бабуля-памочніца падала іншую запаленую свечку, ці то ўсё ж прыпаліла ад жончынай. Дзіўна, але напярэдадні ў Сямёна было прадчуванне, што ўсё здарыцца менавіта так: яго свечка пагасне на

другім ці трэцім крузе. Нібы падказваў нехта нябачны: марна ўсё гэта. Язычнік па натуры, Сямён страшыўся горшага — праз два гады дагарыць свечка ягонага жыцця. Адбылося па-іншаму: на трэцім крузе, крыху больш як праз два гады, Сямён застаўся адзін з двума дзецьмі...

Добра запомнілася іх апошняя ноч. Муж і жонка леглі спаць разам, кожны пад сваёю коўдраю. Таццяна была ўжо не яго. Маўкліва — не мелася пра што гаварыць — яны ляжалі на шырокім ложку. Уночы, перамагаючы нешта ў сабе, Сямён падсунуўся да разагрэтай Таццянкі. Яна прытулілася да яго, пацалавала ў шыю. Сямён, усхваляваны, пяшчотна прашаптаў на вуха: «Танечка, ты прыехала назаўсёды... праўда?» Яна перапалохалася, ускочыла, пабегла з падушкай у дзіцячы пакой. Выходзіць, абдымала ўсё ж такі не яго. Каго яна абдымала?..

Наступныя двое сутак Таццяна не выходзіла з дзіцячага пакоя. Удзень, унураная, безгалосая, яна сядзела моўчкі на канапе ці чытала. Сямён спрабаваў загаварыць з жонкай, падсесці да яе, абняць — Таццяна працівілася, плакала, ішла ў другі пакой.

* * *

Вераніка прыехала праз некалькі дзён пасля вянчання, калі з памяці Сямёна яшчэ не сцерліся лікі святых на сценах храма, роўны і даверлівы голас бацюшкі.

— Калі табе на цягнік? — спытаў Сямён, спадзеючыся, што Вераніка тут праездам.

— Заўтра, — у голасе жанчыны адчуваліся ноткі прытоенай радасці. Гэтая радасць вось-вось павінна ўспыхнуць блакітным святлом вачэй у адказ на яго шчаслівае: «Малайчына!» Але Сямён маўчаў, і блакітныя іскрынкі паступова патухлі. — Толькі не кажы, што ў цябе неадкладныя справы!.. — нічога не разумела Вераніка.

— Сёння не лепшы дзень... У жонкі юбілей, саракоўка... — не ведаў Сямён, што сказаць. — Прыехалі яе родзічы...

— Прыдумай што-небудзь.

— Сёння нельга. Павер мне...

— Чаму нельга?

— Мне трэба застацца дома.

— У цябе нехта ёсць акрамя жонкі?

— Ёсць ты, ёсць двое дзяцей. Больш, дарэчы, не прадбачыцца, — пажартаваў Сямён зусім няўдала.

— Ты так упэўнены?.. — Вераніка заплакала наўзрыд. — Каб ты толькі ведаў, чаго мне каштавала вырвацца! Чаго я толькі не пляла мужу і свекрыві! А ты баішся пакінуць яе толькі на адну ноч.

— Вераніка, мілая, — супакойваў Сямён, — зразумей!.. Ты жывеш з мужам, і я не лічу гэта здрадай.

— Я хачу быць у цябе толькі адна. Разумееш?.. Адна. А ўвогуле... Я ведала, на што ішла...

Глебаўна паклікала да стала. Іванавіч адкаркаваў бутэльку гарэлкі:

— Ну, дзеці мае, за яшчэ адну сустрэчу ў гэтым доме. Каб даў Бог здароўя ўсім вам у ручкі, у ножкі ды яшчэ пасярэдзіне трошкі...

Другую пілі, каб жыць у пары, трэцюю — «Бог любіць тройцу», наступную — «воза на трох колах не бывае...», і Сямён «не пакідаў у хаце зла». Гарэлка хоць неяк ратавала яго ад прыкрага адчування віны перад Веранікай. Ён падліваў жанчыне, і яна не прасіла, як заўсёды: «Не паі мяне, калі ласка!» або гулліва, каб чуў толькі ён адзін: «Не лі болей. Лічы, што я вельмі п’яная і на ўсё згодная».

Ад выпітага ў Веранікі хутка закружылася галава, і яны выйшлі на вуліцу. Абое адчувалі сябе ніякавата, адчужана маўчалі. Пачуццё віны, агіды да самога сябе не пакідала Сямёна, і ён настойваў яшчэ на «ста грамах каньяку». У летнім кафэ, добра падпіты, мужчына слёзна жаліўся на долю, шукаў спагады, а Вераніка, пакрыўджаная, захмялелая сама, толькі паўтарала:

— Так табе і трэба! Таго ты і заслужыў!

Сямён быў згодны, таму і не злаваўся.

Зайграла музыка, але яны не зрушыліся з месца.

— Налі мне яшчэ, — папрасіла Вераніка ўпершыню.

— Табе нельга шмат.

— Мне наогул нельга, але ты налі. Я і цыгарэту яшчэ папрашу ў людзей.

Сямён наліў палову кілішка. Вераніка выпіла каньяк адным махам. А праз хвіліну гнятлівага, цягучага маўчання...

— Госпадзі!!. Ну чаму гэта я?! Чаму ты выбраў маё жыццё?! — разанула па сэрцы галашэнне Веранікі. Тое, з чым жыла, што столькі часу хавала ад іншых, у чым баялася прызнацца нават сабе, цяпер выплеснулася, вырвалася з грудзей жанчыны.

— Хачу яшчэ віна! Купі мне самы дарагі торт і шампанскае! — Вераніка ўжо дрэнна кантралявала сябе. — Хачу, каб ты патраціў усе грошы і твая манашка выгнала цябе з дому... Божа, чаму гэта павінна быць я? — паўтарала Вераніка яшчэ і яшчэ... — Яе худзенькія плечы калаціліся пад накінутым на іх пінжаком. — Мне ж толькі — дваццаць чатыры! Разумееш?.. Усяго дваццаць чатыры гады ад нараджэння!

Сямён правадзіў Вераніку да Глебаўны. У пакоі дапамог зняць абутак, угаварыў легчы, накрыў цёплым пледам. Вераніка цяжка дыхала. На шыі, на грудзях выступілі нездаровыя барвовыя плямы. Сямён расчыніў акно, прысеў на табурэце ля ложка. Ён гатовы быў сядзець так да самай раніцы, але Вераніка, сагрэўшыся і супакоіўшыся, ужо засынаючы, прашаптала:

— І напраўду ідзі. Ужо вельмі позна... Я не злуюся... Мне зусім нельга піць...

Сямён пайшоў. У нейкай начной забягалаўцы перакуліў яшчэ шклянку гарэлкі і, не маючы капейкі на таксі, амаль подбегам папраставаў начнымі вуліцамі да свайго мікрараёна. На бяду, мост праз раку быў перакрыты на рамонт, і Сямёну давялося ісці лішніх кіламетраў пяць па набярэжнай да бліжэйшай пераправы. Дамоў вярнуўся толькі з узыходам сонца. Жонкі дома не было. Па-праўдзе, ён да гэтага ўжо даўно прывык.

* * *

Сямён чакаў ліста. «Пералякаўся, святоша, за сваю шкуру! — бязлітасна нішчыў сябе. — Ну што ж... Вары, целяпень, дзецям кашу, дыхай па начах водарам гаспадарчага мыла і воску ды любуйся на тое, як твая жонка ходзіць са скрыняю па пад’ездах...»

Пісьмо, хутчэй запіска, прыйшло вечарам гэтага ж дня...

Прачнулася ў пяць гадзін ночы. Паспрабавала ўстаць, а галава баліць — няма сіл трываць. Ніяк не магу супакоіцца. Я ніколі столькі не піла. Сорамна перад табою, бо не памятаю нават, як пайшоў. Сорамна і крыўдна... Чаму я не магу быць адзінай і жаданай?..

Няхай праз два дні доктар за аперацыйным сталом памыліцца...

Наступны ліст Сямён атрымаў праз тыдзень, з Мінска. Доктар не меў права памыліцца. Ён зрабіў усё што мог... Вераніка пытала пра дзяцей, пра здароўе, прасіла асцерагацца «скразнякоў і благіх людзей», і Сямён зразумеў — даравала. Таго цяжкага вечара, той п’янай ночы проста не было.

Вераніка вярталася з Мінска, і яны, як звычайна, сустрэліся ў Глебаўны.

— Раскажы, як гэта было, — папрасіў Сямён, калі яны засталіся адны.

Вераніка пакруціла галавою:

— Навошта табе? Мне зусім не хочацца ўспамінаць. Мо калі-небудзь іншым разам. — Каб перамяніць размову, яна села яму на калені, правяла далонню па гузіках на кашулі. — Абдымі мяне моцна-моцна. Я засумавала па тваіх руках.

— А доктар?..

Вераніка згодна кіўнула.

— Усё?..

«А-га», — яна адказала аднымі губамі.

— Вядома, балела. Што тут казаць... — разважаў Сямён услых, пяшчотна тулячы Вераніку да грудзей.

— Цяпер *гэта* робяць вельмі акуратна... Доктар кажа: «Навошта вам шрам на целе, калі ў вас усё жыццё наперадзе. Можна зрабіць так, што праз месяц і следу не застанецца. Я згадзілася. Давялося, праўда, паўтары сотні даплаціць за прыгажосць.

— Паглядзець можна?

— Ні ў якім разе! Забудзь! Нічога не было... Ідзі да мяне хутчэй і не думай пра гэта.

Не думаць ён не мог, і на гэты раз быў асабліва пяшчотны і ласкавы. Вераніка адказвала тым жа.

Усё ж Сямён адчуваў, што не ўсё так проста, як хоча падáць Вераніка. Ён заўважыў гэта, калі дапамагаў ёй збірацца на цягнік. Ніколі раней Вераніка не абувалася седзячы. Цяпер на нізкае крэсліца апусцілася павольна, нібы прыслухоўваючыся да нечага. Устаючы, прытрымалася за вешалку. Толькі крыху, як бы ненарокам...

* * *

Вераніка па-ранейшаму пісала часта, і Сямён, каб паддобрыцца да паштаркі, выпісваў газет і часопісаў столькі, як усе суседзі разам. Веранічыны «Прывітанне!!!» ці «Добры дзень!!!» (з трыма клічнікамі) прымушалі забывацца на ўсё, думаць толькі пра яе. Ніколі, нават у хвіліны блізкасці — колькі ні прасіў, — Вераніка так і не адважылася назваць яго па імені, як бы пакідаючы гэта на пасля. За радкамі лістоў Сямён бачыў клопат маладой жанчыны, яе нячастыя радасці, расчараванні і надзеі, яе жыццё, яе лёс, да якога ён дакрануўся і за які цяпер быў у адказе... Лісты кранала шчымлівымі словамі даверу...

Добры дзень! Спадзяюся, што ён у цябе добры. А ў мяне зноў цёмная паласа. Дзеці хворыя, будоўля спынілася. Куды ні ступіш — праблемы. Адно ратаванне — твае званкі... Напішы мне адразу многа пісьмаў, а пасля, пры сустрэчы, усе аддасі. Я буду чытаць і з табою гаварыць. Не лянуйся. Я думаю, што ты часта казаў так сваім вучням. Пастараюся табе пазваніць. Толькі ж сам ведаеш. Калі побач будзе *ён* ці яшчэ нехта....

Дзякую табе за «запрашэнне» на семінар. А ты малайчына! Такое ўражанне, нібы ўсё жыццё цыркуляры складаў. Вельмі хочацца прыехаць, але, пэўна, Бог ці карае, ці выпрабоўвае нас часам... Сына вылечыла, а ў дачкі — бранхіт. Не хочацца канфліктаваць са *сваім*. «Сядзі дома! Куды перціся мужняй бабе?!» Праўда, учора прачытаў мой верш у газеце: «Дзяцей далечыш — адпушчу на твой семінар. Але каб раніцай туды, а вячэра па распарадку». Абставіны бываюць мацнейшымі за нас, і цяжка што-небудзь зрабіць. Праз дзяцей не пераступіш. Мы не героі. І ўсё ж... Я пастараюся прыехаць, калі ты абяцаеш вельмі мяне чакаць...

Пішу, каб пагаварыць з табою. Не паспела прыехаць з Н., як зноў чакаю таго дня, калі будзе магчымасць сустрэцца. Нават не заўважылі з Вольгаю (журналістка з раёнкі, у дарозе пазнаёміліся), як праляцелі чатыры гадзіны. Нават дзіўна, што столькі падобнага можа быць у лёсах дзвюх жанчын. У дваццаць гадоў яна адна — крыху, праўда, дапамагае маці — гадуе дваіх дзяцей, працуе ў газеце і падзарабляе ў школе, завочна паступіла ў інстытут. Грэшна, але я пазайздросціла. Яна незалежная. У яе ўсё наперадзе. А мне?.. Дактары далі два гады... Прайшло чатыры. Стараюся пра гэта не думаць, і ўсё ж... Лёс можа быць вельмі жорсткім.

У сямейным жыцці — пустата. Учора была сур'ёзная размова з «дзяўчынай» майго мужа. Сёння яна едзе да маці ў свой Саратаў. Хай сядзіць там і дурыць галовы жанатым ды халастым, а сюды больш не з'яўляецца. Нават жадаць не буду ёй таго, што вытрывала сама. Яна паедзе, але боль у душы застанецца назаўсёды. Ці не з мужавай «дзяўчыны» і пачалася ўся мая бяда...

Як мне не хапае цябе побач! Так хочацца цеплыні, узаемаразумення, якое так цяжка знайсці і якое я знайшла. Чаму ты так далёка?.. Ты мне вельмі і вельмі патрэбны...

Са святам цябе! Нашы Дзень настаўніка адзначалі ў лесапарку, у альтанцы. Сёння ізноў збор: як часта бывае ў такіх выпадках, «многа ўсяго засталося». Я не пайшла, бо мне не цікава.... Хутчэй бы прабеглі гэтыя чатыры тыдні! Цяжка без цябе. Толькі ты мяне заўсёды зразумееш, параіш. Мне так хочацца ўзаемнасці. Я хачу адчуваць сябе патрэбнай. На большае не маю права. Я мужняя, у мяне дзеці. Спадзяюся, у любым выпадку мы будзем больш, чым сябрамі. Не адштурхоўвай мяне...

Як тваё здароўе? Не хварэй, табе нельга. Я буду хвалявацца. Не сварыся з дзецьмі...

Яго дзеці... Не раз і не два думаў Сямён пра тое, ці ўсё ён — бацька і маці ў адной асобе — робіць, каб не сорамна было за іх перад людзьмі. Як няпроста было гадаваць малых аднаму!.. Можа, і таму яшчэ, што ад самай калыскі вельмі нячаста чулі Віталька і Ілона з вуснаў маці, што іх бацька самы добры, самы разумны... Цяпер трэба пераконваць, што ніякі ён не «паразіт» і найперш дбае пра іх, жадае ім дабра... Цяперашнія дзеці лянуюцца разумець бацькоў. Узяць хоць бы гэтае... Праз дваццаць гадоў пасля заканчэння інстытута сабраліся Сямёнавы аднакурснікі адзначыць круглую дату. Гаварылі пра сям'ю, пра дзяцей. Святлана, былы камсамольскі сакратар, з гумарам: «Мы з дзецьмі прагналі бацьку. Старэйшы сын у мяне майстар спорту па боксе»... Паскудна зрабілася на душы. Не трэба вялікай мудрасці, каб прагнаць бацьку, калі ў хаце сіла. Усе свае, усе на месцы. Змовіліся і прагналі... Не дай Божа апынуцца на месцы таго бацькі.

Зноў хварэюць дзеці, а ў бальніцу класціся няма ніякага жадання. Дома — абы-што. Пасля ад'езду «дзяўчыны» муж не ведае, да чаго прычапіцца: не так села, не

так міску паставіла... Пэўна, знайшоў сабе іншую забаўку. Трэці дзень прыходзіць раніцай і нічога не тлумачыць. Спытала: «А як жа дзеці?», ён: «Прычым тут дзеці? У дзяцей ёсць маці». На тым размова і скончылася.

Вельмі цяжка цягнуць усё на сваіх жаночых плячах: праца, дом, дзеці... Муж ёсць, але ён як бы ні пры чым, сам па сабе. У яго кожны дзень свята, якое заканчваецца бліжэй да апоўначы...

А я дажылася, як гаворыць мая бабуля. Дома няма дроў. Не хопіць на зіму. Няма гаспадара, то давядзецца самой ехаць у лес па дровы. Добра вам, гарадскім. А ў нас нават вады халоднай у калодзежы кропля засталася...

Пахвалі мяне. Ёсць за што. Я запісалася на курсы аўтааматараў. Пабудую дом, куплю дарагую машыну і буду ездзіць у твой горад на рынак за пакупкамі. Магчыма, і цябе пакатаю, калі будзеш добра сябе паводзіць (жартую, вядома. Стары бацькаў «Масквіч» — адзінае, на што магу разлічваць).

Учора дзеці дабраліся да маёй кніжнай паліцы і скінулі фотаальбом, дзённікі, пісьмы. Пакуль збірала — пра многае ўспомніла. Няўжо самае добрае ў мінулым?.. Іншы раз прыходзіць адчай. Няма веры, што некалі будзе вальней, лягчэй. Святлей на душы. Ізноў хочацца сарвацца, кінуцца ў бездань. Але дзеці...

Я прыеду праз некалькі дзён. Хоць на дзве гадзіны. Я знайду прычыну. Што могуць значыць тры сотні кіламетраў, калі мне неабходна пабыць з чалавекам, які адагрэе душу, засцеражэ ад дурноты.

Беражы сябе і да сустрэчы. Я па табе сумую...

Паклала дзяцей спаць і прачытала твой ліст. Як добра, што ў мяне ёсць ты!..

А я ізноў расхварэлася. Калі казаць праўду, то мне вельмі страшна. Куды страшней, як год таму. Страшна ад таго, што хутка не змагу ўбачыць цябе, сваіх сяброў... А самае галоўнае — не здолею гадаваць дзяцей.

Я ніколі і нікому пра гэта не гаварыла. Пры маці, бацьку, мужу, пры ўсіх родных стараюся трымацца, бадзёрыцца, быць спакойнай... А на душы?.. Праз два тыдні, хутчэй за ўсё, ізноў на аперацыю, якая нашмат складаней за папярэднюю... Разумееш?.. Не хачу, каб мяне зноў рэзалі, а боль невыносны. Буду гаварыць са сваім доктарам. Можа, абыдзецца без скальпеля. Хоць наўрад ці...

Хутка ўнутраны экзамен у аўташколе, а я яшчэ як след нічога не вучыла. Праз дзесяць дзён экзамен на першую настаўніцкую катэгорыю. Завуч не вылазіць з класа. Добра, калі за гадзіну папярэдзіць, а часцей са званком: «Я да вас на ўрок». Нікому няма справы да таго, ці заснула я сёння...

Прахадзіла ўвесь дзень па бальніцах, ледзьве прысунулася дамоў. Каб хоць неяк сябе супакоіць, перачытваю твае лісты, праглядваю здымкі. Жыву адным днём. Не ведаю, што чакае мяне заўтра...

Хутка прачнуцца дзеці — укладваю днём, каб зрабіць сёе-тое. Дапішу ліст і адразу вазьмуся за вячэру. Мужчыны прыйдуць з будоўлі стомленыя, галодныя. Трэба карміць, трэба быць каля стала, усміхацца, «не сядзець як з крыжа знятаю», каб не падумалі, што гаспадыня занадта ганарлівая...

Як проста і адкрыта я табе пра ўсё расказваю!.. Ужо і прывыкла...

«А ёй жа баліць! — трывожыўся Сямён. — Чаму яны там не разумеюць, што ёй баліць?!» Ліст быў пакамечаны і зноўку распраўлены. Пэўна, Вераніка сумнявалася,

ці варта яго адпраўляць... У некалькіх месцах чарніла расплылося — сляды ад слёз. Вераніка заўсёды, нават спяшаючыся, пісала прыгожым каліграфічным почыркам. На гэты раз рука дрыжала, радкі ішлі няроўна, а словы і нават цэлыя сказы былі густа затушаваны.

Заўтра ты будзеш званіць (ліст дайсці не паспеее), а мяне не будзе на працы. Да канца гэтага і ўвесь наступны тыдзень — зноў у Мінску. На дзясятыя суткі выпішуць, калі ўсё абыдзецца. Страшна, але чула, што з дапамогай лазера робяць усё хутка і не так балюча, тым больш пад наркозам. Стамілася. Няма сілы змагацца са сваімі бядотамі. Гэтая чорная паласа, здаецца, ніколі не кончыцца. Застаецца цярпець і спадзявацца. Якое крохкае чалавечае жыццё!

Як змагу, заеду на зваротным шляху. Хоць не буду наперад загадваць.

Аддаю ліст сяброўцы, яна адправіць. Не забывай пра мяне... У любым выпадку... На хуткую руку — зноў будзеш сварыцца — дапісала аповесць «Якое шчасце — жыць!..» Заканчэнне ў яе шчаслівае. У жыцці і так мала светлага...

Гэта другі ліст да цябе за апошнія суткі. Ноч не сплю. Хутка на цягнік. Так хочацца, каб нехта сказаў добрае слова на дарогу!.. Муж маўчыць, праўды не ведае. Дай Божа, каб не даведаўся ніколі. Ты не ўяўляеш, як хочацца жыць, калі ўвесь час думаеш пра смерць. Ад думак гэтых не магу пазбавіцца з таго самага чорнага ў маім жыцці дня. Толькі ты адзін ведаеш пра ўсё. Чакаць засталося вельмі мала. Цяпер які тыдзень і ў лістападзе тыдні два, а там будзе бачна, што ад мяне застанецца.

Вельмі цяжка, што цябе няма побач, што не патрымаеш на развітанне руку. Калі мне будзе вельмі дрэнна, я напішу ці прадыктую медсястры. Успамінай і думай пра мяне. Да хуткай, спадзяюся, сустрэчы. Калі ты будзеш чакаць, то я выберуся і на гэты раз.

У пісьме ляжаў каляндарык на наступны год. Мілае, безабароннае кацяня смешна прысела на заднія лапкі. «Ты мне патрэбен!» — было выдаўлена шарыкавай ручкай на прамавугольнічку глянцавага кардону. Сямён акуратна склаў ліст, намерыўся пакласці яго назад у канверт, і толькі цяпер заўважыў у куточку канверта аркушык паперы памерам з візітоўку, чатыры вершаваныя радкі.

Зязюлек *па той бок* аб летах не спытаю.
Цяпер прыціхлі, не чуваць нідзе.
Жыццё пахілай свечкай дагарае,
А цені ўсё гусцей, усё гусцей...

Вераніка «выбралася». Сямён у гэта верыў. Але... Праўду сказаць, усё ж баяўся, што паштарка аднойчы перадасць яму ліст з бараўлянскім штэмпелем і незнаёмым почыркам на канверце.

Пісьмо з Ясенеўкі прыйшло праз два тыдні.

У Мінску (Вераніка ніколі не ўпамінала сумнавядомую назву) увесь час думала пра цябе. Гэта дапамагло мне не звар'яцець у чаканні аперацыі. Цяпер цяжкавата і хадзіць, і працаваць, але за мяне гэтага ніхто рабіць не будзе. Застаецца адно: нос даверху — як жартуе Лявон Міхайлавіч, мой доктар — і наперад.

Калі шчыра, пасля лазернага сячэння нікому не хачу паказвацца на вочы. Таму і не заехала, хоць магла. Я страшная. Але спадзяюся... Ты мой добры анёл, ты не дасі пагаснуць свечачцы ўнутры мяне. Зноў перачытваю твае пісьмы — яны былі са мною ў Мінску — і робіцца лягчэй на душы.

Напісала б пра многае, але, можа, табе пра *гэта* лепш не ведаць. Спадзявалася, што абыдзецца без аперацыі, а выйшла яшчэ горш... Зноў скарджуся, але каму я яшчэ магу пра гэта расказаць!..

На гэты раз Сямён напісаў Вераніцы на яе хатні адрас, прыкрыўшыся імем прыдуманай ім Святланы Паўлаўны, сяброўкі па інстытуце. Яму карцела расказаць Вераніцы адну нярадасную жыццёвую гісторыю, якая, аднак, закончылася шчасліва.

Кафедра святкавала юбілей былой каляжанкі. Гэта быў адзін з тых нямногіх юбілеяў, якія пакідаюць святло ў душы, а не толькі хворую галаву ды горкі асадак ад вымушанага красамоўства на раніцу наступнага дня. Шэсцьдзесят ці семдзесят пражытых гадоў пры хлебнай пасадзе, ціхім сямейным шчасці ды ніштаватым здароўі — невялікая твая заслуга, шаноўны юбіляр. Другое — Ніна Дзянісаўна. На пенсію яна пайшла роўна ў пяцьдзясят пяць, не трымалася да апошняга, як гэта часта бывае ў людзей з вучонымі званнямі і ступенямі. Жыла актыўна, не прапускала аніводнай выстаўкі, тэатральнай прэм'еры. Многае змяніла ў жыцці Ніны Дзянісаўны невылечная хвароба, што напаткала яе ў самым росквіце жаночага веку. Вераломная, яна адступіла амаль на паўтара дзесяцігоддзя, а бліжэй да шасцідзесяці зноў напомніла пра сябе пякельным болем...

На сваім вечары Ніна Дзянісаўна выглядала прыгожа, неяк нават велічна: высокі прамы стан, прадуманая прычоска, строгі, добрага крою касцюм, прыветная ўсмешка жанчыны, у якой яшчэ многае наперадзе... А ўсяго некалькі месяцаў таму яна стаяла над безданню і глеба пад нагамі асоўвалася.

— Восем месяцаў, — цяпер юбіляр магла гаварыць пра гэта спакойна, — я праляжала ў казематах анкалагічнай бальніцы. У палаце — ніводнага ўмывальніка. На ложку побач бабуля ляжала вясковая, гадоў сямідзесяці. Добра, кажа, што ў ганкалогію трапіла (анкалогію, значыць), бо калі ў ракавую — збірайся ў дарогу, чалавеча. У ракавую, гаворыць, я нізашто не пайшла б... Колькі я пабачыла, колькі перажыла — аднаму Богу вядома... Узялі неяк пасля абходу санітаркі пад пахі, паставілі на вагі — сорак пяць кілаграмаў. Гэта пры маіх ста васьмідзесяці росту... Тут яшчэ такая гісторыя выйшла... Прызначылі мне адразу ж пажыццёвую групу інваліднасці. А месяцы праз тры перасталі плаціць. Пазваніла, як толькі здолела дабрацца да тэлефона, пытаю, чаму столькі часу не пералічылі пенсію. А мне ў адказ: «Як! Вы яшчэ жывая?! У нас з першай групай пры вашым дыягназе больш як тры месяцы не жывуць». Прабачце, кажу, што пабіла вышы рэкорды. — «Калі ласка». Як нічога і не здарылася... Быў момант — развітвалася з жыццём. Доктар мне: «Дайце руку, Ігнацюк». У мяне ж няма сілы нават руку падняць. Слёзы з вачэй ручаём, а выцерці, да ручніка дацягнуцца, — не магу... Галоўнае, я вам скажу, не паміраць раней самой смерці.

Жанчына памаўчала, як бы ўзважваючы, ці трэба казаць усё да канца, і працягвала з ноткаю горычы, нават слязіна заблішчала ў куточках вачэй:

— Пасля таго, што здарылася, я зусім па-іншаму гляджу на жыццё. Амаль незнаёмыя людзі з нашай ветэранскай арганізацыі пазычылі вялікія грошы на лекі, мала спадзеючыся на тое, што я некалі вярну доўг. Адкрылі на маё імя рахунак у банку. Хадзілі па ўстановах. Сто дваццаць кропельніц па сорак долараў кожная!.. Мне такія грошы і не сніліся. А яшчэ кажуць, што здароўя не прыкупіш...

Пра ўсё гэта як бы між іншым напісаў Сямён у лісце да Веранікі. Калі б гэтага юбілею не было, яго варта было б прыдумаць. Пра адно толькі змаўчаў — пра грошы. Веранічынай настаўніцкай зарплаты, дарэчы, як і яго выкладчыцкай, хапіла б не болей як на тры кропельніцы.

* * *

Вясна падарыла ім дзесяць пагодлівых дзён. Вераніка прыехала на курсы павышэння кваліфікацыі. Сямён амаль штодня чакаў яе пасля заняткаў каля ўвахода ў гарадскі парк. Стаяла першае цяпло. Жартаўніцы-вавёркі бегалі па камлях залатаствольых сосен, рунела маладая трава на дагледжаных газонах, цвілі цюльпаны. Сямён і Вераніка сядзелі на дальняй лаўцы і слухалі вясну.

— Раскажы мне пра сябе, — папрасіла Вераніка.

Ён усміхнуўся:

— Ты падбіваеш парушыць аднойчы дадзены зарок.

— Які?

— Не гаварыць пра сябе нічога добрага.

— Чаму нельга гаварыць?

— Вельмі простая філасофія: суразмоўцу гэта заўсёды раздражняе, і ён церпіць толькі да пары.

— А дрэннае пра сябе гаварыць можна?

— Дрэннае? Колькі заўгодна.

— Таксама філасофія?

— А як жа. Чалавеку прыемна. Цешыцца, што не адзін ён такі.

— Ніколі не думала пра гэта. І ўсё ж раскажы...

— А хочаш, пакаюся перад табою за адзін даўні ўчынак.

— Я не святая. Але цікава.

— У студэнцкія гады было... — Сямён, узважваў кожнае слова. — Мы працавалі ў будаўнічым атрадзе, замацоўвалі рэчышчы меліярацыйных каналаў. Хлопцы забівалі па́лі, мацавалі да іх фашыны. Дзяўчаты ўкладвалі дзёран. Цяпер тыя каналы даўно заплылі, пазарасталі хмызам... Але не пра тое гаворка... Было ў нашым атрадзе двое самадзейных гітарыстаў, адзін, з гарадскіх, на ўдарных бомкаў. Камандзір тэксты кляпа́ў. Усё нейкія жаласлівыя... «Скалацілі» мы па тагачаснай модзе свой ВІА — вакальна-інструментальны ансамбль. Назву прыдумалі патрыятычную, «Рытм», здаецца. Парэпеціравалі хлопцы адзін, другі раз ды і пачалі ладзіць па вечарах танцы на пляцоўцы перад вагончыкам прараба. Свае збіраліся, з вёсак моладзь падцягвалася. І ўсё ладам ішло, пакуль камандзір не дадумаўся перанесці музыку ў мясцовы дом культуры і браць грошы за ўваход. «Білетамі» служылі квадрацікі каляровай паперы, на якіх з дапамогай звычайнага канцылярскага трафарэта адбівалі чатыры лічбы — першыя, што прыйшлі ў галаву. З загадчыкам клуба камандзір наш дамовіўся, і бізнес патроху пайшоў. Спачатку, праўда, сёй-той з мясцовых праўдашукальнікаў пабурчаў: незаконна, маўляў, начальству вашаму камсамольскаму варта далажыць... Нашыя заступнікі, з вясковых, правялі з кім трэба «растлумачальную работу» — і канфлікт быў вычарпаны. Праўда, мы і самі крыху пабойваліся: дойдзе да райкама — у лепшым выпадку выгавар па камсамольскай лініі забяспечаны. Каб не наклікаць бяду, грошы за «білеты» бралі невялікія, капейкі нейкія. Усё было ціха-мірна. Пасля танцаў музыканты, камандзір — ён жа адміністратар — ды білетныя кантралёры рабілі застолле. Перападала і не музыкантам. Але аднойчы паспрачаліся мы, мужчыны — галоўная, як лічылі сябе, рабочая сіла, — з нашымі будатрадаўскімі дзяўчатамі. Не спадабалася, што яны больш увагі ўдзялялі мясцовым кавалерам, чым сваім «рабацягам». Камандзір, ён цяпер недзе ідэалогіяй кіруе, вырашыў дапячы жаночай палове. І што прыдумаў?.. За «халтурныя» грошы ўласнаручна купляў у буфеце і ставіў на «мужчынскі» стол («пакрыўджаныя» селі асобна) па шклянцы смятаны на брата ды па пульхнай булцы. І ўсе елі: і камандзір

еў, і чацвёра «цяжкіх» падлеткаў, замацаваных за атрадам, елі... і я еў. Разумееш?.. Старэйшы, пасля войска мужчына еў смятану з булкаю на вачах у васямнаццацігадовых дзяўчынак!.. Таксама помсціў... І булкі тыя не заселі ў горле!..

— Ты больш так не рабі! — «паўшчувала» Вераніка пасля хвіліннага маўчання.

— Ніколі не буду.

— Выбачаю і дазваляю.

— Ты ўпэўнена, што бацюшка так гаворыць?

— Не ведаю, ніколі не хадзіла да споведзі. Крывіць душой, каяцца за нашы сустрэчы, каб зноў чакаць іх... Ці гэта не большы грэх?..

— Я таксама пра гэта не аднойчы думаў...

— Учора забыла табе паказаць, — спахапілася, палезла ў сумачку Вераніка і дастала апошні выпуск гарадской газеты. — Колькі ў людзей можа быць зла, нянавісці!.. Няўжо за грошы цяпер можна друкаваць нават такое?..

Сямён прачытаў падкрэсленыя радкі.

«Людмілу Вадалея, а на самай справе Змяю Падкалодную, з вуліцы Міцкевіча (называўся і нумар дома) віншую з днём нараджэння. Жадаю табе і ўсёй тваёй сям’і такога шчасця, якое прыносіш іншым. На чужой бядзе ў рай не заедзеш!»

Сямён добра ведаў «Людмілу Вадалея». Даўно, яшчэ ў маладыя гады, яна, настаўніца музыкі, у прысутнасці жонкі запрасіла калегу на танец. Працуючы ў другой школе, раз-другі павіншавала яго з днём нараджэння. Мінулым летам употай ад жонкі Сямён дапамагаў Людмілінай дачцэ рыхтавацца да ўступных іспытаў у інстытут. І ніякага «службовага рамана» за ўсе гады.

— Твая?.. — заўважыла яго хваляванне Вераніка.

— Яна. Нічога святога не засталося за душою.

— Табе не пазайздросціш...

Як некалі ў студэнцкія гады, Сямён браў білеты ў кіно на апошні рад. Яму было прыемна трымаць руку Веранікі ў сваіх далонях. Яны кармілі лебедзяў у парку, ласаваліся марожаным з арэхамі, смакавалі чырвонае віно, цалаваліся на развітанне ў скверы каля інтэрната ці ішлі да мілай Глебаўны, каб развітацца ўжо пад раніцу. Дзесяць дзён прамінулі як адзін. У апошні вечар Сямён і Вераніка абмяняліся падарункамі. Ён падарыў Вераніцы касметычны набор, яна — сціплую карціну, ранішні пейзаж. «Не забывайся пра мяне. Я буду прыходзіць да цябе з першымі промнямі ўзыходзячага сонца,» — прачытаў Сямён на зваротным баку.

Каб далей ад жончыных вачэй, Сямён схаваў падарунак у шуфляду пісьмовага стала. Дастаў аднойчы ў смутную хвіліну, паклаў на пісьмовы стол, доўга разглядаў ранішнія блікі сонца на азёрнай роўнядзі. Закарцела нешта запісаць у блакнот. Сямён пацягнуўся да паліцы, незнарок абапёрся на рамку — тонкае шкло хруснула ў яго пад рукою. Ніколі не верыў у прыкметы, а тут расхваляваўся... Раніцай пазваніў Вераніцы на працу. «Нічога новага, — у голасе Веранікі ўсё ж адчувалася трывога. Вось толькі... Напэўна, табе не цікава гэта. Франтон на доме, што будуюць мае мужчыны, рассыпаўся. І ветру не было, і цэменту, казалі, клалі як для сябе, а раніцай прыйшлі — рассыпаўся да апошняй цагліны. Цяпер робяць усё спачатку... Не гаспадарыць, пэўна, мне ў новай хаце. — Вераніка цяжка ўздыхнула..

— Выкінь з галавы, — супакоіў яе Сямён. — Твае мужчыны перасушылі раствор, цэглу клалі без адвеса, ці яшчэ якое ліха. Так-такі і прызнаюцца. Калі верыць усяму, то і жыць не захочаш.

Пра карціну Сямён не сказаў нічога.

Паштарка пазваніла праз тры дні пасля ад’езду Веранікі.

Дзякуй табе за ўсё, — пісала былая студэнтка. — Тыя курсы ўдасканалення мала далі мне як настаўніку, але яны выратавалі мяне ў прамым сэнсе. Так гэта і разумей. Няўжо апошні вечар быў развітаннем назаўсёды?!.. Чаму табе захацелася паглядзець на фотаздымак майго мужа? Пра што ты думаў у гэты час і як разумець тваё маўчанне?..

Ты паехаў, спяшаўся, а я засталася на прыпынку. Зноў адчула сябе самотна-адзінокаю, і калі б Бог не даў чалавеку слёз, то я, пэўна, схаваўшыся ад людзей, крычала б да бяспамяцтва.

Я не хачу з табою развітвацца. Пакінь у сваім сэрцы для мяне хоць куточак. І няхай ён будзе толькі маім. Цяжка пра гэта прасіць... Ніколі не думала, што змагу зноў, як у першы раз, закахацца. Скажаш: неразумная, дурненькая... З тваіх вуснаў усе словы гучаць пяшчотна.

Напішы мне вялікі ліст. Я буду чакаць.

Твая Вераніка.

Сямён спыніўся на апошнім радку. «Твая» — з’явілася ўпершыню. І ўпершыню за час іхняга блізкага знаёмства. Сямён прызнаўся сабе, што не пакрывіць душою, калі адкажа тым жа. Не толькі ён ратаваў Вераніку ад здрадлівых думак. Вераніка таксама была патрэбна яму. Яна, жывучы за некалькі соцень кіламетраў, абараняла яго ад непатрэбных і нікчэмных людзей, якія пасля ад’езду жонкі спрабавалі далучыць да сваёй кампаніі. Яна, маладзейшая, вучыла даражыць імгненнямі жыцця. Вераніка прыадкрыла яму таямніцы жаночай душы — удзячнай, спагадлівай, даверлівай, крохкай, усёдаравальнай.

«Вераніка дарасла б да высокай паэзіі, — пераконваўся Сямён, — каб хоць трохі ласкавейшай была доля». Амаль у кожнай з дасланых яму «на крытыку» падборак меліся вершы, вартыя газетнай старонкі.

...Нябёсаў вялікшая воля —
Каханне з гаркотаю, з болем.
Настой палыновае долі
Спрабую, а смак берагу...

Вершы для Веранікі — добра разумеў яе былы выкладчык — выратавальны круг. Іх, падрыхтаваных да друку, назбіралася дзясяткі два, тым не менш Сямён усё часцей гаварыў пра зборнік, пра новыя вершы. «А для гэтага ёй проста неабходна жыць...»

* * *

Ілона і Віталь прыйшлі са школы ўсхваляваныя. Яшчэ з пярэдняга пакоя Сямён пачуў:

— Ты пісаў заяву на матэрыяльную дапамогу?

— За мяне напісалі.

— І ты дазволіў? Навошта?

— Не бачу ў гэтым нічога дрэннага. Маю зарплату вы добра ведаеце. — Сямён стараўся гаварыць спакойна.

— Хто цябе прасіў? Мы не хочам, каб нас шкадавалі як сірот.

— А што мне застаецца рабіць? Чым вас карміць, у што апранаць?.. Які добры дзядзька будзе плаціць аліменты? — Апошняе пытанне было рытарычным. Сямён добра ведаў, што ніякіх аліментаў ён дамагацца не будзе, ды і ў каго? Яго дзеці —

самому і круціцца. Ні жончына сястра, ні яе састарэлая маці тут ні пры чым. Уцякачку пашкадуюць, а яго, ягоных дзяцей?.. Ён, атрымалася, зрабіўся першым ворагам, бо і «лупіў», і «дома не начаваў», і «грошай нават дзецям на малако не даваў» (трэба ж такое прыдумаць!). Не з дабра, — упікала былая цешча па тэлефоне, — мая дачушка сцуралася дзяцей, пабегла, не аглядваючыся, у белы свет. Не з дабра!..

«Павінна ўсё ж такі існаваць нейкая справядлівасць на белым свеце! — не знаходзіў заспакаення Сямён. — Жонка ўцякла ад мужа — што ні робіцца, усё да лепшага. Свет не перавярнуўся, хутчэй наадварот... І тое праўда, што яна была, што яе не было... Маці ўцякла ад дзяцей — гэта зусім іншае. Ім, асабліва малодшаму, маці яшчэ доўга будзе патрэбна. Урэшце, існуюць жа нейкія законы ў абарону дзяцінства... Ці толькі на паперы ўсё? І царква... Яна таксама павінна аберагаць дзяцей, сям'ю...»

Сямён купіў некалькі царкоўных газет, прагледзеў іх, выпісаў тэлефонныя нумары. Дабіваючыся праўды, ён, мо і не зусім паважліва, гаварыў з сакратарамі саноўных асоб, са святарамі, што мелі не самыя высокія чыны ў царкоўнай іерархіі — да святароў вышэйшага рангу дазваніцца было немагчыма. Яго ўважліва слухалі і накіроўвалі далей па крузе. Падобныя праблемы, складвалася ўражанне, нікога не цікавілі, а вось «чысціня мундзіра» (у дадзеным выпадку расы) адстойвалася з зайздроснай упартасцю.

Звярнуцца ў раённы аддзел міліцыі прымусілі старэйшыя сёстры Таццяны. Сямён згадзіўся для таго толькі, каб супакоіць сумленне. Дзеці падрастуць — тлумач тады, чаму сядзеў і не варушыўся. А жончына радня будзе сваю праўду гнуць: выгнаў з дому і радуецца, пальцам не паварушыў, каб вярнулася.

— Што ў вас? — спыніў дзяжурны сяржант на ўваходзе.

Сямён падаў загадзя падрыхтаваную паперыну. Той прабег вачамі:

— Кабінет налева ў канцы калідора...

— Чаго канкрэтна вы хочаце ад нас? — лысы, у акулярах капітан не выказаў ніякай зацікаўленасці, нібыта гараджанкі касякамі ішлі ў расійскія манастыры, зракаючыся малалетніх дзяцей, і падобныя заявы ляжалі ў яго на стале стосамі.

— Каб знайшлі (у голасе Сямёна не адчувалася ўпэўненасці)... Каб вярнулася да дзяцей.

— Знайсці паспрабуем. Вярнуць.... У органаў няма такога права.

— Але ж па нашых законах бацькі павінны клапаціцца пра выхаванне дзяцей? — шукаў праўды Сямён.

— Дык вы настойваеце, каб мы вашу жонку ў наручніках да яе ўласных дзяцей даставілі, — занерваваўся міліцэйскі капітан. — Вы чалавек адукаваны і павінны добра разумець: свабода перамяшчэння, свабода сумлення...

— ...І свабода ад выхавання ўласных дзяцей?

— Бягуць, зязюлькі, — не запярэчыў афіцэр. — Ваш выпадак, вядома, некалькі выбіваецца, але чаго толькі не пабачыш!.. Пастараемся нешта прыдумаць. Здымак захапілі?

— Так.

— Не будзеце супраць, калі мы яго растыражуем і перадамо па сваіх каналах?

— Чаго ўжо там...

— Пазваніце нам... месяцы праз два. Не раней.

Сямён не пазваніў. Яму не пазванілі таксама. Такім чынам, «меры былі прынятыя». Настойвалі, каб ён звярнуўся ў міліцыю, — ён і звярнуўся.

Таццяна адазвалася праз месяц:

— Перадай праз нашых цёплую вопратку. Я іду ў О-ую пустыню.

Ні «добры дзень!», ні «як дзеці?», ні «да пабачэння!»... Можна было здагадацца, што жонку патрывожылі ў К-м мужчынскім манастыры і яна збіраецца падацца яшчэ далей. Шмат манастыроў на святой Русі.

«А што калі звярнуцца да Архіепіскапа?» — прыйшла ў галаву Сямёна дзёрзкая думка. Па словах тых жа «сястрычак», не даваў Уладыка Таццяне блаславення на манаства, наказаў спачатку дзяцей на ногі паставіць. Выходзіць, не паслухалася Самога... Ці вядома яму пра гэта? Як адрэагуе? Што параіць?..

Сямёну не так важна было вярнуць жонку — якая з яе цяпер маці! — як дабіцца справядлівасці, ці хоць бы пачуць слова спагады. «А можа, на гэты выпадак у царквы маюцца спецыяльныя фонды, — наіўна думалася яму. — Можа, нейкая дапамога дзецям прадугледжана.

Сямён выбраў дзень візіту, наперад абдумаў, што і як будзе гаварыць саноўнаму святару. Мужчына ўсё ж хваляваўся: не ўмее як след перахрысціцца, а тут сам Архіепіскап. Але няхай паслухае горкую праўду, няхай даведаецца, як богабаязныя ігумены адбіраюць у малалетак маці. Хіба ж не зразумела, што аднаго слова Дамаскіна хапіла б, каб маці засталася з дзецьмі.

Стаялі пагодлівыя восеньскія дні. У двары храма раскашавалі буйныя, адна ў адну, чырвоныя і белыя астры. Архіепіскап Канстанцін сядзеў на лаўцы ля невялікага драўлянага доміка, які стаяў крыху воддаль ад цэнтральнай сцяжыны да храма. Уладыку было гадоў пад дзевяноста, а то і ўсе дзевяць дзясяткаў. Белабароды, з сухім прасветленым тварам, навіслымі белымі брывамі, ён меў воблік біблейскага старца. Уладыка Канстанцін абапіраўся двума рукамі на посах, глядзеў на кранутыя восенню галіны маладзенькіх ліп уздоўж алейкі і думаў пра сваё. Справа і злева ад яго сядзелі двое бязвусых хлопцаў у адзенні паслушнікаў. Сямёна ніхто не спыніў, калі ён з дарожкі накіраваўся да Уладыкі, толькі хлопцы-паслушнікі запытальна пераглянуліся між сабою. Сямён, не ведаючы як прынята паводзіць сябе ў падобных выпадках, павітаўся па-свецку, прабачыўся за турботы і папрасіў дазволу выказацца. Уладыка кіўнуў у знак згоды. Адзін з маладых людзей паслужліва прынёс табурэцік.

Канстанцін уважліва выслухаў Сямёнаву споведзь, памаўчаўшы, спытаў па-чалавечы проста:

— А ў яе з галавою ўсё нармальна?

— Як бы... — зусім разгубіўся праўдашукальнік. Ніяк не чакаў такога пытання.

— Не верыцца, каб такога хлопца і пакінулі, — у вачах сівабародага засвяціліся і пагаслі ледзь прыкметныя хітрынкі.

— Дык што мне рабіць? Парадзьце! — папрасіў Сямён.

Архіепіскап Канстанцін маўчаў. Сцішанае маўчанне доўжылася хвіліну-другую. Сямён пачынаў адчуваць віну перад гэтым паважаным, аўтарытэтным не толькі ў горадзе чалавекам за прынесены яму клопат. Невядома з якой прычыны ўставіў:

— Мы павенчаны.

Няёмкае маўчанне цягнулася і далей.

— Чакаць? — спытаў-падказаў Сямён няўпэўнена і ціха.

— Чакаць... — са шкадаваннем паўтарыў святар, змоўк, і было бачна, што сказаць болей ён нічога не хоча.

Назаляць чалавеку пытаннямі Сямён палічыў нетактоўным.

— Дзякую вам! Заставайцеся здаровыя? — развітаўся ён, збіраючыся адыходзіць.

Напэўна ж, трэба было перахрысціцца, нахіліць галаву, і Сямён, не задумваючыся зрабіў бы гэта, каб ведаў што і як.

— Назавіце хоць ваша імя, — папрасіў Уладыка.

— Сямён.

Святар перахрысціў яго на адыход.

Нічога не вырашылася, але крыўда ў душы — адчуў мужчына — усё ж утаймавалася. Было чаму. Па-першае, ён знайшоў спачуванне ў аўтарытэтнага чалавека. Ад яго, Сямёна, — і такое ж магло быць — не адмахнуліся ветліва: «На ўсё воля Божая», «...і не судзімы будзеце»... Па-другое, яго не папракнулі за нежаданне маўкліва і пакорліва, не скардзячыся і не наракаючы ні на што, несці свой крыж. Нарэшце, яго пахвалілі, усцешылі ягоную мужчынскую годнасць. А якую параду ў падобных абставінах мог даць староннi чалавек, нават вышэйшага царкоўнага сану? Што ён, Сямён Каваль, мог бы параіць у такім выпадку другому?.. Можа, гэтае: «Прыслухайся да голасу ўласнага сэрца»... Агульныя, заштампаваныя словы... Але, калі скінуць з іх налёт псеўдапаэтычнасці, асэнсаваць глыбінную сутнасць?.. «Прыслухайся да голасу ўласнага сэрца»... Асабліва, калі гэтае сэрца выхавана змалку на законах чалавечай любові, на спагадзе да слабейшага, на павазе да жанчыны-маці... На ўсіх тых высакародных пачуццях, што не стынуць у вяках (бо самі ратуюць) і, прасеяныя пакаленнямі, жывуць, у найчысцейшым выглядзе перадаюцца нашчадкам.

Сямёнава сэрца не маўчала. Яно жыло трывогай за тых, каму ён быў асабліва патрэбны ў гэтым свеце ў гэты час: уласным дзецям і яшчэ ёй, Вераніцы.

* * *

Што змянілася ў сям'і Кавалёў з адыходам маці? Амаль што нічога. Як неаднойчы заўважаў Сямён, жонка навучыла яго і дзяцей клапаціцца пра сябе самім.

У дом прыйшлі дзіцячыя святы. Былая жончына каляжанка, увішная суседка па пляцоўцы ды жартаўлівая кума, забяспечвалі малых піражкамі ды салатай. Цешыў разнасоламі «дарослы» стол на кухні. Сямёну верылася і не верылася, што цяпер можна жартаваць, прамаўляць кампліменты і тосты, не азіраючыся па баках, не баючыся жончыных слёз і істэрыкі, абавязковых начных падрахункаў у спальні, «пакоі допытаў». Ён быў упэўнены, што не кіне малых, не папоўніць кампанію заўсёднікаў бліжняй, праз дарогу, чарачнай. Міжволі цягнула да людзей. Хацелася выгаварыцца, паспавядацца ў кампаніі мясцовых літаратараў, не зіркаючы на гадзіннік, не накручваючы тэлефонны дыск у чаканні чарговага наганяю. Некалькі разоў, грэшны чалавек, ён усё ж неразумна абышоўся з абрынутай на яго свабодай. Прымусіў дзяцей пахвалявацца...

Юбілей абласной газеты адзначалі спачатку ў рэстаране, а пасля, на другі дзень, — у парку. Адвячоркам таго ж дня ўзброеная «Бярозавай» мужчынская кампанія — у тым ліку і Сямён, рэдактар літаратурнай старонкі — «арэндавала» кватэру ў «добрага хлопца» Віктара з аддзела рэгіянальных навін. Яго халасцяцкая (нядаўна развёўся) аднапакаёўка ў самым цэнтры горада была ўзорам аскетызму і поўнага ігнаравання ўсіх вартасцей цывілізацыі. Кватэра не зачынялася на ключ. На гэта, па словах гаспадара, меліся тры важкія прычыны: па-першае, так зручней — эканоміцца час, не трэба праціраць кішэні ключамі; па-другое, сапраўднаму злодзею ніякі замок не перашкода; і трэцяе, асноўнае, — з кватэры няма чаго выносіць.

Красці сапраўды не было чаго: адсутнічалі карнізы, фіранкі, паліцы (кнігі на разасланых газетах у кутку), нават ручкі на дзвярах... Замест халадзільніка — ванна

(гарэлку астуджалі пад халодным струменем вады). Сувязь са светам — кіпа газет на падаконніку і пажаўцелы дапатопны «Сож» на сцяне ў калідоры. Між тым падлога была памытая, у ванне мыла, чысты ручнік на цвіку. Адзіная каструля і стары чайнік — у ідэальным парадку, «малінкоўскія» шклянкі — што той крышталь... У кватэру кожны дзень прыходзіла жанчына, рыхтавала — а часцей прыносіла — есці, мыла посуд і падлогу. Сямён піў гарэлку і думаў, наколькі вялікую сілу мае някідкая з выгляду Віктарава сяброўка. Калі яна пойдзе адсюль — таленавіты журналіст сап'ецца, згубіцца ў жыцці; калі пажадае — усё будзе выдатна. На тое яна і жанчына... Першымі рэчамі, што прынесла Кацярына Міхайлаўна — так яе звалі — былі посуд і падушка. Пройдзе няшмат часу — і тут з'явяцца звыклыя для гарадской кватэры рэчы, званок і замок на дзвярах. А тады... Сямён, ужо на добрым падпітку, шкадаваў, што побач няма Веранікі. Няхай бы ўсе пабачылі, якая яна прыгожая, гаспадарлівая і добразычлівая, і выпілі за яе здароўе...

Позні госць пераначаваў на кухні на паржавелай раскладушцы, а раніцай наступнага дня з хвораю галавою дабіраўся дамоў першым рэйсам пустога «кругасветнага» тралейбуса. Упіўся вачамі ў бруднае аконнае шкло. Накрапваў шэры дакучлівы дождж. Вузкаплечыя помнікі прыціснулі рукі, угнуліся ад ветру і дажджу. Сямён выйшаў на два прыпынкі раней. Не хапала паветра і святла. Хацелася прыўзняць гэты груваства-цяжкі нябесны купал і ўздыхнуць на поўныя грудзі.

* * *

— Можаш мяне павіншаваць ці выказаць спачуванне. *Яна* паехала далёка і назаўсёды, — сумна пажартаваў Сямён, як толькі пачуў у трубцы голас Веранікі.

— Ты перажываеш?

— Зусім не думаю пра гэта.

— Усё да лепшага. Ты вытрываеш.

— Абавязкова... Калі ты мне дапаможаш.

— Чым змагу...

Ні пра свой зварот у міліцыю, ні пра размову з Уладыкам Сямён Вераніцы не распавёў, палічыў непатрэбным. Цяпер пасля ўцёкаў жонкі ён яшчэ часцей думаў пра Вераніку. Лісты прыходзілі розныя. Сямён чытаў іх доўга, спыняўся на кожным радку, імкнучыся за словам улавіць настрой, душэўны клопат адрасанткі...

У суботу я прыязджала ў Н. на вучэбнай машыне. Трыста кіламетраў асіліла за тры з паловаю гадзіны. Інструктар адно прасіў не абганяць. Яшчэ хваліў, што не баюся дарогі. Дарогі я і сапраўды не баюся...

Шкада, што не знайшла цябе ў аўдыторыях, інакш павазіла б па горадзе, паглядзеў бы, як у мяне атрымліваецца...

У навагоднюю ноч чытала, перачытвала твой апошні ліст. То плакала, то смяялася. Загадала, каб ты абавязкова ўспомніў пра мяне акурат апоўначы. Як зразумела з твайго званка — спраўдзілася... Яшчэ падумала, што, каб мы былі ў гэты вечар разам, цябе, магчыма, не так раздражняла б ёлачная мішура ды кукурузная салата з гастранома...

Сядзела на занятках у аўташколе з зусім маладым хлопцам. Ён бачыў, як я прачытала і схавала твой ліст, і ні з таго ні з сяго, як той празорца: «Хоць ты і не зусім верыш, што можаш стаць шчаслівай, але ты абавязкова будзеш шчаслівай»... Быць

шчаслівай — быць побач з табою. Уздрыгваю, як успамінаю дотык тваіх рук у тую першую ноч. Усміхаюся, уяўляючы, як перад гэтым ты выкручваў лямпачку. Табе ж, напэўна, пякло?..

Ніжэй звыклага «да сустрэчы» дзіцячымі каляровымі алоўкамі быў зроблены малюнак: ружовае сэрца ўсміхалася блакітнымі вачамі і пунсовымі вуснамі. Побач адбітак яе такіх знаёмых вуснаў.

«Дзіця!» — падумаў-парадаваўся Сямён... У сямнаццаць нарадзіць, узваліць на свае кволыя плечы абавязкі маці і гаспадыні!.. Што добрага яна бачыла ў гэтым жыцці?! Колькі перажыла, колькі недаатрымала чалавечай ласкі і цеплыні!.. А ён так і не сказаў ёй, што кахае, усё падбіраў нейкія іншыя словы. Таксама добрыя, але ж...

Калектыў збіраецца адзначаць жаночае свята. Сёння ў школе «агеньчык», дакладней — выпіўка. Угаворвала: свята ўсё ж такі, давайце нешта прыдумаем акрамя застолля. У адказ: «Скінемся па мінімуму. З закускі кожны нешта сваё прынясе. Пасядзім... Што там галаву дурыць»...

Хачу да цябе. Папраўляй здароўе, каб было на «пяцёрку» без усялякіх мінусаў, бо з маім жаданнем... Прачытай вершы. Крытыкуй....

Верш заканчваўся радкамі:

Мой каханы і адзіны,
Мой заветны і чудны.

Уразіла Веранічына «чудны», якое стаяла побач з недарэчным тут русізмам. На Палессі гэтым словам супакойваюць дзяцей, што беспадстаўна пакрыўдзіліся на дарослых. Так некалі супакойвала маці: «Чудны ты, Сёмачка. У тыя грыбы трэба пешшу ісці дзесяць кіламетраў па балоце, па купінах. Ты ж знясілішся, ногі натрэш. Чакай нас дома. Я хачу як лепш. Не плач, *чудны* ты», — і гладзіла яго па стрыжанай галаве.

Доўга не пісала. Ізноў хварэюць дзеці. Пра сябе ўжо маўчу... У два бліжэйшыя месяцы не прыеду дакладна. А прыехаць хочацца, як ніколі. Спецыяльна бяру клас развіццёвага навучання, каб паслалі «ўдасканальвацца». Аспірантура застаецца ў сіле. Мне нельга супакойвацца. Інакш... Ну, ты ўсё сам разумееш. А пакуль што павіншуй мяне з першай настаўніцкай катэгорыяй. Праўда, мяне ёсць за што пахваліць?..

Ты малайчына, што прыехаў. Я прадчувала. Нарабіла ў гэты дзень шмат глупстваў, але не шкадую. Перш за ўсё, не папярэдзіўшы дзяжурнага доктара, я пакінула бальніцу, дзе ляжала з малым. А яшчэ... Ты чуў музыку і песні на балконе другога паверха гасцініцы? Здзівіўся, чаму прабіраліся ў яе з тылу, па-партызанску... Дык вось... Жаніўся наш родзіч, і мае бацька і маці былі там. Але мне надакучыла баяцца...

Ляжала ў бальніцы, цяпер зноў на працы. Не званіла, бо вельмі дрэнна адчувала сябе пасля кропельніц. Усё больш-менш наладзілася. Праз два тыдні зноў на лячэнне...

Так добра на вуліцы, а я ў палаце. Бясконцая бальніца. Як яна надакучыла, як абрыдла!..

Даруй за почырк. Пішу на каленях, седзячы на ложку. Тут нават тумбачак няма, адны паліцы ўздоўж сцяны. Што зробіш. Раз ім усім (кажу пра дактароў) яшчэ не надакучыла са мною мучыцца, то што застаецца мне рабіць?! Месяц, другі... Колькі іх наканавана?.. А мой Лявон Міхайлавіч пераконвае, угаворвае згадзіцца на яшчэ адну, апошнюю, аперацыю. Пасля яе чатыры гады трэба лячыцца медыкаментамі. Доктар абяцае «выбіць» нейкія грошы. Прыгожы чалавек (не ўздумай толькі раўнаваць). Выклікаў майго мужа, растлумачыў яму, што ўвесь гэты час я не маю права быць жанчынай.... Не ведаю, ці буду пісаць табе, але сустракацца мы не зможам... Даруй.

Баліць сэрца, у прамым сэнсе. Спаць не клалася. Боль і страх...

Узяла аркуш паперы. Слёзы з вачэй ручаём, а я ў слупок стаўлю «плюсы» і «мінусы». Апошніх больш. Хачу быць шчаслівай, а няўдачы перавешваюць. Куды падзеліся мой аптымізм, упэўненасць!.. Яны ў кнігах. Дрэнных, як мае вершы. Мне сёння вельмі цяжка. Ад думак губляю розум. Можна легчы нанач і больш не падняцца з ложка.... Ніколі... Ніяк не магу адбіцца ад думак. Успамінаю як жыла, каюся, выбачаю сама і прашу даравання ў іншых. І ў які раз, грэшная, задаю сабе адно і тое ж пытанне: «Навошта мне Бог даў жыццё? Чаму я?..» Іншы раз так і хочацца закрычаць: «Дапамажыце!» Ды хто паможа? Ды і навошта? Яшчэ адна аперацыя — і зноў усё спачатку... Думкі пра дзяцей — апошні выратавальны астравок у маім жыцці.

Прабач за почырк. Дрыжыць рука, нават пад коўдрай не магу як след сагрэцца. У аперблоку холадна....

* * *

Гэтымі словамі абрываўся рукапіс «ВЕРАНІКІ». Бацька, па ўсім відаць, за апошнія гады некалькі разоў вяртаўся да аповесці, спрабаваў нешта дапісваць (чарнілы розныя) і тут жа крэсліў, густа, надзейна, ніводнага слова не разбярэш. Ліст ці два вырваны зусім... Напэўна, ён чакаў, што жыццё само дапіша мастацкі твор? Напэўна...

Чым жыў «стары» гэтыя чатыры гады? Пісаў ды так і не дапісаў падручнік для студэнтаў, правіў чужыя рукапісы, летам кожную вольную хвіліну прападаў на сваім агародзе. З выгляду спакойны, а ледзь што — нервы, узрыў, а то яшчэ, бывае, расчуліцца праз нейкую дробязь, як дзіця малое. Незадоўга перад «прапажай» званіў у вёску. «Як там баба з дзедам?» — больш для ветлівасці запытала Ілона. «Добра жывуць. Дзед Пятро прыйшоў з працы. Бабуля Жэня яго корміць. Разумееш?.. Ёсць яшчэ такія сем'і», — прамовіў і надоўга змоўк. А то яшчэ: выходзіць з пакоя, на вачах слёзы, а ў руках часопіс з «Ave Марыяй!», шамякінскай аповесцю...

Незакончаная «Вераніка», разумеў Віталь, не давала адказу на асноўнае пытанне. «Стары» мог паехаць да маці, ці нават па маці. Надакучыла аднаму, дараваў... Але ж не... Успомніць толькі, як ён абышоўся з мацерынай віншавальнай паштоўкай да Вялікадня... Паклікаў іх, дзяцей. Злосны, сам не свой... Пашкуматаў, парваў паштоўку, выкінуў у сметніцу.

— Жывая, здаровая матуля, чаго і вам жадае. Хадзіла нядаўна вакол дома, малілася на вокны. А вы, дурні, спалі і не адчувалі, як моцна ў яе баліць за вас сэрца...

Віталь перагарнуў сшытак да канца. Пад вокладкай ляжала свежае пісьмо без канверта. Прыгожы жаночы почырк, спецыяльны, для пісьма, ліст паперы з відарысам чарніліцы з гусіным пяром і разгорнутай кнігі... У правым верхнім кутку стаяла дата — пісьмо прыйшло тры дні таму. «Ну вось, цяпер у нас ёсць заканчэнне «Веранікі», — затрывожыўся Віталь...

Ён упершыню чытаў не сваё пісьмо і хваляваўся як ніколі. Не было сумнення, што менавіта аўтарка ліста была гераіняй бацькавай аповесці, нават імёны сугучныя. «Вера» — стаяла ўнізе. Віталь добра ўсведамляў, што пісала Вера не Сямёну Пятровічу, літаратурнаму персанажу, чалавеку знаёмаму і незнаёмаму, пісала «дарагому Сяргейку», яго бацьку. І калі пісьмы Веранікі маглі быць літаратурным прыёмам, то тут...

*Я пачынаю жыць. Ты некалі казаў: «У свеце больш добрых людзей, чым дрэнных. Проста яны не крычаць пра гэта на ўсіх скрыжаваннях». Дарэмна я сумнявалася...*

*Дактары ўсё ж угаварылі мяне яшчэ на адну аперацыю. Мае «тры працэнты» аказаліся шчаслівымі. Лячылася за мяжой, таму і не пісала, не напамінала пра сябе. Апошнія два гады яшчэ і працавала, атрымлівала нядрэнныя грошы. Паняю за гэты час не зрабілася, а мову нямецкую вывучыла дасканала. А яшчэ я займела ўласнае жыллё і цяпер прыехала па дзяцей. Яны жылі ўвесь гэты час з маці.*

*Прыязджай, вельмі цябе чакаю. На гэты раз мы здымем самы лепшы нумар у той самай гасцініцы. І сцеражыся (жартую), цяпер мне ўсё можна....*

Віталь не стаў чытаць далей, паклаў ліст на месца, загарнуў сшытак. «...Не знаем ничего». Праўду сказаў вядомы паэт. І каб не «Вераніка», пра многае не даведаліся б ніколі...

Думкі перабіў міжгародні тэлефонны званок.

— Нічога не здарылася... — бацькаў голас быў усё ж крыху ўсхваляваным. — Мы з Верай Мікалаеўнай хутка заедзем. Ненадоўга. Тут, на месцы, і пагаворым. Пра ўсё. А пакуль што... У шуфлядзе ляжыць адна мая незакончаная рэч. Прачытайце з сястрой. Магчыма, вы шмат што зразумееце. Дарослыя людзі, што і казаць...



*Алесь ЖУК*

# НАПІСАНАЕ ЗАСТАЕЦЦА ЖЫЦЬ

Цёплая працяглая восень на развітанне падарыла сонечны ласкавы дзень, ці не апошні перад надыходзячымі дажджамі, калі пачнецца слата, загуляюць вільготныя шчыльныя вятры, якія абтрасуць на зямлю цяжкае ад вільгаці лісце. Ад былой восеньскай прыгажосці застанецца толькі чорнае набрынялае голле ды суровая кудлатая зелянiна бору, насупяцца і зусім пазмрачнеюць ельнікі.

А пакуль было сонечна, здаецца, падвысілася чыстае неба. І яшчэ цешыла вока аксамітнаю маладою зелянінаю зарунелае поле, невялікае, аблямаванае, затуленае лясамі. Там, у канцы яго, светла жаўцеліся ў сонечным святле бярэзнікі, такія выразныя сваёй чысцінёй, што нават цераз поле было бачна, як узляцела над вершалінамі чародка цецярукоў і потым рассыпалася па бярозах, нават здалёк чарнеючы камякамі.

Пад соснамі, на узгорку, на другі бок поля ля вялікіх камянёў, якія зусім крыху не дараслі да валуноў, гарэла вогнішча. Пахла прыгрэтаю баравою сасной, а далей ад поля, ужо праз некалькі дзясяткаў метраў у глыб лесу, трымаўся густы грыбны водар.

Тут пад адной з сосен яго чакала грыбнікова ўдача — крамяны баравік, пах якога кружыў галаву. Удача паспрыяла яму, грыбніку і вогнепаклонніку, і таму прыемна было сядзець на цёплым камяні пры дагараючым вогнішчы, глядзець на рунь, адчуваць тварам і рукамі сонечную цеплыню, і, магчыма, думаць пра кнігу, якая пісалася ўжо ў галаве, успамінальна сумнаватая, з гарчынкаю болю па сябрах, што адышлі, пражытым жыцці, перажытым у ім, адсвяткаванай радасці і скрусе.

**Амаль для двух пакаленняў некалі папулярныя ў маладога чытача творы Валянціна Блакіта аказаліся тэра-інкогніта**

Усё напісанае Валянцінам Блакітам, мастакоўскае бачанне і мастацкае адлюстраванне свету, пражытага і перажытага, адбітак часу не ў адзін дзясятак гадоў, якія цяпер ужо бачацца нам гісторыяй, на што мы глядзім ужо зусім іншымі вачамі і да разумення чаго падыходзім з новымі меркамі... Гэта датычыцца найперш сацыяльна-палітычных рэалій, вострых праблем і калізій мінулага, якія прысутнічаюць у аповесцях Блакіта. Але, як у кожнага сапраўднага пісьменніка, яны, гэтыя праблемы і калізіі, ствараюць толькі фон, даюць падсветку невычэрпным тэмам сэнсу жыцця і смерці, дабра і зла, кахання і абавязку, чалавечай дабрыні і гонару, духоўнай спадчыны і адказнасці за мінулае, сённяшняе, будучыню, тэмы, якія спасцігае, імкнецца зразумець, дадаць нешта сваё непаўторнае кожнае пакаленне, кожны індывід, і гэта заўсёды было ў цэнтры ўвагі сур'ёзнай літаратуры.

Амаль усе творы Валянціна Блакіта без перабольшвання адпавядаюць гэтым крытэрыям. Па незразумелых прычынах (ці не доля віны тут і самога аўтара) большасць аповесцей не перавыдавалася, і таму амаль для двух пакаленняў некалі папулярныя перш за ўсё ў маладога чытача творы Валянціна Блакіта аказаліся тэра-інкогніта. Выхад у свет кнігі для многіх чытачоў, думаю, будзе новым, мо нават нечаканым адкрыццём аўтара і яго светлых па настрою аповесцей, «населеных» актыўнымі, дынамічнымі характарамі, якія шукаюць ісціну, існасць быцця, адстойваюць чалавечую годнасць, праўду, справядлівасць, іншыя спрадвечныя маральныя вартасці. Даюцца ім гэтыя пошукі няпроста, балюча, часам з выдаткамі і стратамі. На фоне сённяшняй

татальнай нізкапробнай дэтэктыўшчыны, крымінальшчыны, амаральнасці і распусты, вострасюжэтныя, глыбокія па сэнсе, думцы, высокіх ідэалах і актыўнай жыццёвай пазіцыі творы Валянціна Блакіта, несумненна, будуць глытком гаючага паветра. Нeяк адзін з расійскіх крытыкаў (амаль усе аповесці Блакіта перакладаліся на рускую мову і выходзілі ў маскоўскіх выдавецтвах) прылічыў іх да той літаратуры, якая рыхтавала «перабудову» ў свядомасці людзей, а выхаваўчы патэнцыял мастацкай літаратуры, як вядома, ніколі не абмяжоўваецца адным ці некалькімі пакаленнямі.

Валянцін Блакіт (Валянцін Уладзіміравіч Болтач) нарадзіўся 7 кастрычніка 1938 года ў вёсцы Вострава Шчучынскага раёна. Пасля сканчэння Скідзельскай сярэдняй школы працаваў літсупрацоўнікам шчучынскай раённай газеты, потым служыў у арміі, пасля дэмабілізацыі завочна скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, працаваў у шчучынскай, жалудоцкай, воранаўскай раёнках, уласным карэспандэнтам абласной «Гродненской правды». Потым была партыйная работа ў Гродзенскім абкаме, вучоба ў ВПШ пры ЦК КПСС, праца ў апараце ЦК КПБ, дзе загадваў сектарам тэлебачання і радыё, а з 1987 года больш як трынаццаць гадоў быў галоўным рэдактарам часопіса «Вожык», потым намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Нёман».

Валянцін Блакіт пачаў пісаць рана, яшчэ школьнікам, яго вершы і нататкі друкаваліся ў раённым і абласным друку, першае апавяданне з'явілася ў «Вожыку», там жа выйшла ў 1974 годзе і першая кніжка гумарыстычных апавяданняў «Вынаходнік».

Аповесць «Час прылёту жуpавоў» была першай спробай пяра ў жанры сур'ёзнай прозы. Як прыгадвае аўтар, задума напісаць нешта, «засвяціць» трывожную небяспечную з'яву, якую сарамліва не рашаліся нават называць сваім іменем карупцыя, выспявала даўно, але не ведаў, з якога боку да яе падступіцца. Хочаш ці не хочаш, а гэта выклік, падкоп пад адзін з краевугольных пастулатаў ідэалогіі: усё шкоднае, кепскае ў нашым жыцці — перажыткі, радзімыя плямы праклятага мінулага, толькі сацыялістычны лад здольны генерыраваць перадавое, станоўчае, прагрэсіўнае. Задуму рэалізоўваў праз

А выхаваўчы патэнцыял мастацкай літаратуры, як вядома, ніколі не абмяжоўваецца адным ці некалькімі пакаленнямі

герояў-змагароў, якія, амаль асязальна адчуваў, павінны вось-вось з'явіцца ў жыцці, каб разварушыць застаялае балота, дзе ўжо завяліся, плодзяцца, жыруюць сацыялістычныя гады, і пераканаsuccessfully быў, што гэтыя смелыя і самаадданыя змагары з'явяцца найперш у тэлежурналістыцы і праваахоўчых органах. Галоўнымі героямі аповесці сталі лейтэнант міліцыі Васіль Гарноська і маладая тэлежурналістка Надзея Хадасевіч, у нечым наіўнавата-рамантычныя, але здольныя на ўчынкі...

Мусіць, і аўтар адчуваў, што разам з героямі сам пачынае ўпадаць у ілюзіі, паколькі выдатна разумеў, што сацыяльна-палітычнае надвор'е робіцца не ў гэтых сферах, не адчайнымі рамантыкамі-адзіночкамі, а самаахвярная барацьба, іхнія канфлікты яшчэ доўга, калі не заўсёды, будуць заставацца на перыферыі рэальнага. У наступнай аповесці «Адчай» ён працягвае тэму барацьбы са злом, але ўжо на іншым узроўні, у іншым вымярэнні, куды больш сур'ёзна і глыбока. Лакальны, на першы погляд, канфлікт паміж дырэктарам буйнога прадпрыемства, амаль што ўжо Героя Сацыялістычнай Працы, і сакратаром парткама перакідваецца ў высокія абкамаўскія, саюзна-міністэрскія кабінеты, перарастае ў непрымірымае супрацьстаянне двух стыляў, метадаў кіраўніцтва: аўтарытарна-дыктатарскага і дэмакратычнага. Але «Адчай» цяжка, толькі з вялікімі агаворкамі, можна аднесці да модных тады вытворчых раманаў, якія альбо зусім не мелі, а калі і мелі, то вельмі кволенькую маральную падсветку, пазбягалі неадназначнасці, ускладнёнасці, шматтанальнасці. У аповесці на першы погляд вытворчы канфлікт паміж галоўнымі героямі Радзівонам Салавейчыкам і Віктарам Былічам ускладняецца, пераходзіць з вытворчай у маральна-псіхалагічную сферу.

Безумоўнай вартасцю «Адчаю» з'яўляюцца рэльефна выпісаныя характары, асобы са сваімі слабасцямі і вартасцямі, з непадулад-

**Мусіць, і аўтар адчуваў, што разам з героямі сам пачынае ўпадаць у ілюзіі, паколькі выдатна разумеў, што сацыяльна-палітычнае надвор'е робіцца не ў гэтых сферах**

най часу праблематыкай не толькі маральна-этычнага, але і сацыяльна-палітычнага кшталту. У аповесці багата нетрадыцыйнага, нечаканага. Хоць бы тое, што, бадай, упершыню ў савецкай літаратуры выведзены такі непрыцягальны, адмоўны вобраз партыйнага функцыянера высокага ўзроўню (Смаляр). Можна толькі падзівіцца, як такое патрапіла ў друк задоўга да «перабудовы», калі нават сёння некаторыя рэдактары трымаюць табу на паказ у непрыцягальным святле персон рангу сакратароў абкама.

Пасля гэтых аповесцей можна было меркаваць, што аўтар вызначыўся з асноўнай праблематыкай сваіх творчых інтарэсаў, у цэнтры якіх маладаследаваная нашай літаратурай сучасная тэма чалавека і ўлады. Аднак наступным творам была аповесць «Вяселле ў Беражках», якая і па тэматыцы, і па стылёвай пластыцы непазнавальна адрозніваецца ад папярэдніх. У ёй значныя сацыяльныя праблемы адсутнічаюць ці кранаюцца толькі мімаходзь. У цэнтры аповесці — каханне. Дакладней, выпрабаванне каханнем. Пісьменніка вабіць роздум над жыццём, адказнасцю перад людзьмі і самім сабою, жаданне спасцігнуць духоўны свет. Ён звяртаецца да вытокаў, да вёскі, таму і дзея адбываецца ў вёсцы. Гэта вымагала новай стылістыкі, выкарыстання свежых мастацкіх прыёмаў, і Валянцін Блакіт адкрывае новыя магчымасці свайго таленту, удасканальвае пісьменніцкае майстэрства, пашырае абсягі бачання і спасціжэння навакольнага свету і чалавека ў ім. Усё гэта кідаецца ў вочы ўжо з першых абзацаў:

«Дзень быў ціхі і хмуры. З самага ранку вісела беспрасветна-шэрая, нудная смуга. Такая смуга бывае хіба толькі глыбокай восенню. І каб не сярэдзіна студзеня ды не ўляжалы снег пад нагамі, можна было б падумаць, што на дварэ яшчэ канае ды сканаць ніяк не можа сыры азызлы лістапад. Але к абеду ўзяўся парывісты сярдзіты сіберны ветрык, і неўзабаве разгуляўся, завіхурыў снег, дробны, спорны — за два крокі нічога не разгледзіш.

Гадзіны дзве вар'яцела снежнае пекла, пра якое кажуць: ваўкалак з вядзьмаркаю жэняцца. А потым нечакана ўсё аціхла. Нізкія хмары сталі выцягвацца, утвараючы бледна-сінія прагаліны, неўзабаве засталіся ўжо не хмары, а толькі іхнія ашмоткі фіялетавыя, з рудымі грывамі, а праз нейкую гадзіну неба зусім ачысцілася, быццам хацела выставіць напаказ, як за лес садзіцца расчырванелае ад холаду сонца».

На гэтым фоне разварочваецца немудрагелісты сюжэт аповесці. Ідзе вяселле ў вёсцы. А хто з былых вяскоўцаў, цяперашніх гараджан, не любіць зрабіць вяселле ў вёсцы? Але з самага пачатку ўзнікае адчуванне, што штосьці не заладжваецца гэтае вяселле, вёска не ўспрымае яго. Гэта адчуваюць усе, а найперш малады, Міхась, пачынае раскайвацца, што пагадзіўся з Любай на такое вяселле, хоць ягоныя бацькі былі катэгарычна супраць.

Справа ў тым, што ў Міхася колькі гадоў таму тут ужо было вяселле. А яшчэ раней мелася быць і ў Любы, але замест вяселля вымушаны былі спраўляць памінкі: напярэдадні трагічна загінуў яе жаніх Віктар.

Цяпер, калі Міхась разышоўся з былой жонкай, якая стала калекай пасля аўтаавары, пакінуўшы ёй маленькую дачку, быццам наперакор некаму і нечаму, яны пачыналі з Любай сумеснае жыццё. Гэтак ім хацелася. Але ў час вяселля кожнаму даводзіцца нанава вярнуцца ў пражытае, зразумець тое, што не хацелася разумець, што хацелася назаўсёды выкрасліць з памяці...

Спачатку не вытрымлівае Люба. Яна знікае з вяселля, заходзіць ноччу на Віктараву магілу, пакідае на ёй свой вясельны вэлюм, развітваецца назаўсёды, апантана мчыць да шашы ў надзеі злавіць якую позню спадарожную машыну, дабрацца да горада, упэў-

**Дзе трэба праскоквае дабрадушная ўсмешка і іронія, народныя выразы кшталту «вароты пірагом падпёрты»...**

неная, што трэба пачынаць жыццё інакш, без фальшу. Міхась кідаецца дагнаць, вярнуць, але па меры аддалення ад вёскі пачынае ўсё больш сумнявацца, ці варта...

Ад аповесці да аповесці расце майстэрства пісьменніка. Калі ў «Вяселлі ў Беражках» ён дэманструе ўменне тонка і дакладна выпісваць псіхалагічны стан героя ў і тым самым кранае чытача, падводзіць яго да самастойных разваг і роздуму, то ў наступнай «Шануй імя сваё» асабліва яскрава назіраецца пластычнасць пісьма, дакладнасць фразы, уменне абыходзіцца без лішніх слоў. Матэрыял гэтай аповесці літаральна выпакутаваны, блізкі сэрцу аўтара, ягоным уяўленням пра шляхі развіцця і будучыню вёскі. Яго, гараджаніна ў першым пакаленні, павязанага з вёскай пупавінай, надзвычай хвалююць, кранаюць, выклікаюць занепакоенасць і трывогу працэсы, якія прыводзяць да страты адвечных сялянскіх каштоўнасцей і традыцый. Знешне канфлікт аповесці разварочваецца вакол аб'яднання двух калгасаў, а па сутнасці ён зусім не ў дзелавой, гаспадарча-эканамічнай сферы, а куды глыбей. А менавіта: у розных падыходах да спрадвечнай хлебаробскай справы, сакральным стаўленні да зямлі-карміцелькі і сучасным, дакладна сфармуляваным адным з галоўных персанажаў аповесці Сурмілам, чалавекам гарадскім, маладым кандыдатам сельскагаспадарчых навук, з «валасатай» рукой і хваткай у барацьбе за ўладу, асноўным апанентам «патрыярхальшчыка» Кунцэвіча, чый заможны калгас намерыўся прыбраць да рук: «Што такое зямля? Сродак вытворчасці! Як станок, канвеерная лінія і не болей. Усё астатняе пустая, беспадстаўная балбатня інтэлігенцікаў ды дрымучыя прымхі, забабоны патрыярхальных мужычкоў». Праблемы, узнятыя аўтарам, і сёння нема крычаць у дэградуючай вёсцы. Адметнай якасцю аповесці з'яўляецца жывая мова, дзе трэба праскоквае дабрадушная ўсмешка і іронія, народныя выразы кшталту «вароты пірагом падпёрты»... Пасля прачытання аповесці ў душы застаецца галоўнае, пра што разважаў пісьменнік, — сутнасць жыцця на сваёй зямлі.

Аповесць Валянціна Блакіта «Усмешка Фартуны». У цэнтры аповеду даследаванне, як не абдзелены Богам і таленатамі вясковы хлопец Андрэй Чарапіца, каб зачапіцца пасля ўніверсітэта ў сталіцы, жэніцца «на прапісцы» ды па патрабаванні цесця-пампадура мяняе прозвішча, робіцца не проста Бяскуднікавым, але і «графам Паскуднікавым».

У артыкуле-аглядзе прозы пачатку 80-х гадоў «Диалектика души и духовности» ўдумлівы рускі крытык Галіна Ягоранкава асабліва вылучыла гэты твор, слушна зазначыўшы, што «пільны псіхалагічны аналіз ва "Усмешцы Фартуны" В. Блакіта мае сваёй эстэтычнай мэтай выкрыццё маральнай дэградацыі і апашлення душы чалавека». Дэградацыя і апашленне душы героя пачаліся не з вяселля, нават не са здрады свайму роду. Хутчэй гэта заканамерны і лагічны вынік. Маральную дэградацыю аўтар прасочвае са школьных гадоў захваленага «юнага генія», падобныя на даносы творы якога адштурхнулі ад яго школьных таварышаў, а духоўная ізаляцыя ўмацавала ўпэўненасць ва ўласнай выключнасці і абранасці. Потым пацягнуўся ланцужок дробных і нядробных паскудстваў — здрада любай дзяўчыне, падножка бруднай ананімкай таленавітаму саперніку на пасаду… І вось, прыгадваючы сваё нядоўгае, але насычанае, як ён лічыць, незаслужанымі крыўдамі і выпадковымі паражэннямі жыццё, Андрэй прылічае сябе да «Гулівераў духу», якіх губіць шэрасць і пасрэднасць, што на ягоную думку запаланіла газеты, часопісы, выдавецтвы. Менавіта яе Андрэй лічыць прычынай свайго няўдалага творчага і асабістага лёсу. Сумленне так і не прачынаецца, і гэта страшней, чым смерць. Варта адзначыць, што пісьменнік выбраў далёка не самую простую форму для «распранання» сучаснага «Гулівера духу». Яе складанасць не цяжка патлумачыць, бо прататып, які апранае тогу непрызнанага героя, дастат-

**Можна толькі падзівіцца, як такое патрапіла ў друк задоўга да «перабудовы», калі нават сёння некаторыя рэдактары трымаюць табу на паказ у непрыцягальным святле персон рангу сакратароў абкама**

Хто з былых вяскоўцаў, цяперашніх гараджан, не любіць зрабіць вяселле ў вёсцы? Але з самага пачатку ўзнікае адчуванне, што штосьці не заладжваецца гэтае вяселле

кова складаны, да сённяшняга дня эстэтычна мала засвоены нашай літаратурай.

Як я адзначаў, кожная новая аповесць Блакіта не паўтарае папярэднія, падымаецца на новы ўзровень эстэтычнага асэнсавання і мастацкага ўвасаблення. Аўтар шырока і дасканала бярэ на ўзбраенне мастацкае абагульненне, сімволіку, прытчавасць. Асабліва гэта прыкметна ва «Усмешцы Фартуны», а яшчэ больш у наступнай аповесці «Вырай», якую няшчодры на пахвалы Пімен Панчанка назваў «сапраўднай творчай удачай».

Блакіт зноўку звяртаецца да любай сэрцу вёскі. Але тут няма нават блізкага падабенства да ранейшай «Шануй імя сваё». У «Выраі» паказаны ўчарашняя і сучасная вёска, якая адыходзіць у небыццё, як Атлантыда. Калі можна так сказаць, то «Вырай» — своеасаблівы шчымлівы рэквіем па гэтай Атлантыдзе.

«Вясною, як толькі пачынаецца цяпло, Антось вяртаецца дадому. Угледзеўшы на вуліцы ягоную маленькую жвавую фігурку, абвешаную клункамі, вяскоўцы лагодна і жартаўліва ўсміхаліся:

— Ну во, і Антось прыляцеў з выраю...

Ён і ўзапраўду быў нечым падобны да стомленага настальгіяй і доўгім пералётам старога бусла».

На долю Антося і ягонага пакалення выпаў неймаверна цяжкі час. Герой прайшоў і праз польскую дэфензіву, і праз гестапа, і праз сталінскі ГУЛАГ, куды патрапіў з-за любові да бацькі-Сталіна. Усё жыццё займаўся ён сялянскай справай, выгадаваў чацвярых дзяцей, якія разляцеліся па свеце і да вялікага непаразумення і крыўды Антося не вяртаюцца са свайго выраю.

Антось адыходзіць у свой апошні вырай на вясковыя могілкі, і добра, што не ўбачыць яму, як дзеляць спадчыну наследнікі, пілуючы ліпу, на якой спрадвеку сяліліся буслы — сімвал вёскі.

«Буслы кружылі і кружылі ў сваім рытуальным карагодзе, бласлаўляючы зямлю, што плыла пад іхнімі крыламі. Толькі чатыры буслы два старыя і два маладыя паводзілі сябе неяк нязвыкла. Яны ні з таго, ні з сяго пікіравалі над вёскай, скіроўваючыся на Антосеву сядзібу, садзіліся на страху, затрывожана клекаталі, здзіўлена глядзелі на паваленую ліпу, на разбураную буслянку. Рэзкімі ўзмахамі крылаў узляталі ізноў, набіралі вышыню, далучаліся да сваіх суродзічаў, і трывога перадавалася ўсёй чарадзе. Сваімі зоркімі позіркамі буслы бачылі, трывожыліся, што згублены нейкі важны арыенцір на шляху, па якім вясною давядзецца вяртацца да роднай зямлі, да родных вытокаў.

Са сваёй вышыні буслы, канечне ж, бачылі, не маглі не бачыць “Жыгулі”, што імкліва, кідаючыся туды-сюды, імчалі на ўсіх газах ад вёскі, пакідаючы за сабой рэдзенькі пыл. Сваім буслінным розумам яны, вядома, не разумелі, куды спяшаецца, на якія арыенціры мчыць гэтая, з іхняй вышыні зусім маленькая, як прыгожая цацка, шустрая жалезная кузюрка, напакаваная такімі ж малюсенькімі чалавечкамі...»

Аповесць «Вяртанне на Саарэмаа», якая з’явілася пасля амаль чатырнаццацігадовага маўчання празаіка, напісана ў жанры так званай лірычнай ці вольнай прозы, дзе адсутнічае адзін акрэслены сюжэт, дый тое, што называецца фабулай, не зусім вытрымана. Гэта кампенсуецца памкненнямі аўтара да гранічнай дакладнасці ў самых дробных дэталях, дакументальнасці, пазнавальнасці, танальнасці аповеду.

«Шмат што не хочацца прыгадваць, узнікае жаданне нешта прыхарошыць, нечаму знайсці апраўданне, але яно не хоча выкрэслівацца, прыўкрашвацца, шчымліва смыліць у душы, вяртаецца ў снах, пачынае, як сёння, пракручвацца ў памяці “карцінкамі”, ды такімі яркімі, аб’ёмнымі, што праз столькі год яскрава, бы жывыя, стаяць перад вачамі, а ў вушах гучаць галасы, якія беспамылкова пазнаў бы ў невядома якім шматгалоссі».

І цяпер няспешны апавед-успамін беларускага хлопца Бакульчыка пра сваю пагранічную службу на эстонскім востраве Саарэмаа ў канцы пяцідзясятых гадоў. Канешне ж, ён узгадвае і дробнае армейскае тупое дубалом-

ства кшталту пахавання па трывозе пасярод ночы, і знойдзенага на тэрыторыі недакурка, але больш за ўсё ягоныя згадкі пра лёс эстонцаў, дакладней эстонак, якія толькі і засталіся ў вёсках, калі практычна ўсё мужчынскае насельніцтва пасля вайны і амаль дзесяцігадовага ўзброенага супраціву збегла на шведцкі востраў Готланд.

Бакульчык — камандзір пражэктарнага разліку, у якім сабралася пяць нацыянальнасцей, нясе службу ў адной з такіх вёсак, удалечыні ад пагранзаставы, штодня назірае недарэчнасць суцэльных абмежаванняў для мясцовага насельніцтва, якое, жывучы на самым беразе, не мае права наблізіцца да мора. І стаўленне да вайскоўцаў адпаведнае — яны для іх акупанты, пра што адкрыта гавораць ім у вочы.

Але жывое бярэ сваё: нягледзячы на строгія загады начальства, маладыя хлопцы ў вайсковых робах і эстонскія дзяўчаты з абезмужчыненай вёскі не могуць размінуцца. Ды і сам, напачатку прынцыпова настроены, камуніст Бакульчык на сваё сумленне і рызыку часам ігнаруе дурныя загады і інструкцыі, робіць паслабленні мясцовым жыхарам, збліжаецца з дзяўчынай Айнай і гатовы нават ажаніцца з ёю...

Служба заканчваецца, у мінулым застаецца рэдкі па прыгажосці, працяты салянаватымі марскімі вятрамі лапік зямлі сярод Балтыкі, хлопцы-саслужыўцы і эстонскія дзяўчаты, стары рускі інтэлігент, які ў вялікай нэндзе дажывае тут свой век, маючы багатую бібліятэку з забароненымі кнігамі Ясеніна, Белага, Буніна, Клюева, Севяраніна, дзе ёсць і прысвечаныя яму аўтографы гэтых аўтараў, і пагранічны сабака Тубік, якога ў спешцы забыў забраць з сабою... І даўнія падзеі паўстаюць у праекцыі на наша сённяшняе жыццё, у якім сапраўднаму чалавеку трэба ўмець жыць так, каб адкрыта глядзець у вочы людзям, думаць пра тое, што некалі адбудзецца з кожным — «суметь удержать лицо перед Господом», паміраючы.

Васіль Быкаў ва ўступным артыкуле да маскоўскай кнігі з дзвюх сельскіх аповесцей Блакіта пісаў: «У прозе Валянціна Блакіта, апроч добрага ведання жыццёвых канфліктаў, падкупляе дакладна выражаны аналітычны пачатак, аўтарская непрадузятасць да літаратурных персанажаў, калі

**Маральную дэградацыю аўтар прасочвае са школьных гадоў захваленага «юнага генія», падобныя на даносы творы якога адштурхнулі ад яго школьных таварышаў, а духоўная ізаляцыя ўмацавала ўпэўненасць ва ўласнай выключнасці і абранасці**

амаль кожнага з іх аўтар імкнецца падаць знутры, разабрацца ў дыялектыцы ягонага характару. Разумеецца, у кожным асобным выпадку гэта атрымоўваецца неаднолькава: іншы раз з большым, іншы раз з меншым поспехам, тым не менш чытач знойдзе цікавыя вобразы маладых людзей і людзей старэйшых, створаныя на аснове аўтарскага разумення жыцця і шматгадовых назіранняў за жыццём сяла. Гэты рэалізм у стварэнні жыццёва ёмкіх вобразаў разам са значнасцю праблематыкі аповесцей Валянціна Блакіта робяць іх надзвычай надзённымі ў беларускай літаратуры».

Ад сябе дадам: гэтая ацэнка не састарэла ні на ёту, а творы таленавітага пісьменніка, абдзеленыя ў свой час увагай крытыкі, нясуць у сабе вялікі патэнцыял дабрыні і гуманізму, чакаючы новага чытача і сур'ёзнага прачытання крытыкай.

Сведчаннем таму — апошняя кніга Валянціна Блакіта «Уваскрасенне ўчарашняга дня», карэктуру якой ён паспеў яшчэ пабачыць.

Не думаў ён тады, седзячы пры вогнішчы, што нібы ў прадчуванні бяды, апошняя яго восень выдалася такой жа цёплай і ласкавай, але на дзіва бязгрыбнай. Не будзе ў ёй прынёманскага лесу, не будзе грыбной удачы. Будзе бязлітасная хвароба, якая спаліць літаральна за тры месяцы. Каб прарвацца скрозь яе, заставалася толькі аперацыя. Ён быў упэўнены, што прарвецца, але ўсё ж ва ўступным слове да кнігі на ўсякі выпадак напісаў і такія шчымлівыя словы: «...Шчыра выбачаюся перад усімі, да каго калі-небудзь быў несправядлівы, каму прычыніў боль. Паверце, тое было альбо па неразуменні, альбо па глупству».

Васіль МАКАРЭВІЧ

# ПА ТОЙ БОК ВЯСЁЛКІ…

***Здаецца, добра ведаў калегу, не аднойчы сустракаўся з ім, дзяліўся навінамі, радаваўся яго ўдалым радкам і новым кніжкам, ды выпадкова даведаўся пра незвычайны ўчынак, які ён зрабіў у школьныя гады. Нават не верыцца, што гэты разважлівы і памяркоўны творца быў здольны на такое.***

Уявіце сабе выхаванага ў інтэлігентнай вясковай сям'і падлетка не баявога складу, які завітаў у раённы ваенкамат з заявай паслаць яго, васьмікласніка, добраахвотнікам у В'етнам. Ваенкамаўскі маёр быў здзіўлены і нават збянтэжаны. Ён не ведаў, як паводзіць сябе з падлеткам. Што магло падбіць яго падацца ў добраахвотнікі? А калі ў гаворцы высветлілася, што падлетак друкуе на старонках раёнкі вершы, што маці яго сельская настаўніца, а бацька памёр ад ваенных іспытаў, глянуў ваенкам на «шкаляра» па-іншаму — і… параіў паступаць у грамадзянскую ВНУ.

Хто гэты загадкавы валанцёр? Вядомы паэт Генадзь Пашкоў, першы сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі, аўтар каля двух дзясяткаў кніг паэзіі і дакументальнай прозы.

Усё атрымалася, як параіў маёр-ваенкам. Паступіў Генадзь Пашкоў у БДУ на факультэт журналістыкі. Пасля працаваў на Беларускім радыё, а потым пайшоў па службовай лесвіцы. Яго запрасілі ў рэдакцыю часопіса «Полымя», спачатку на пасаду літаратурнага супрацоўніка, потым адказнага сакратара, намесніка галоўнага рэдактара.

Настаўнікам для маладога паэта быў Анатоль Вялюгін. З асаблівай бацькоўскай прыхільнасцю ставіўся ён да Генадзя Пашкова. Не менш пашанотна адносіўся да старэйшага калегі і малады паэт. Звяртаючыся да Вялюгіна, ён пачціва, але неяк нязвыкла, называў яго: «Учитель». Вялюгін адно толькі ціха пасмейваўся, атрасаючы попел з цыгарэты, што звычайна трымаў у руцэ, ды чакаў ад свайго выхаванца новых, як ён казаў, «пшанічных» радкоў, дзе прывык сустракаць паэтычныя залацінкі.

Паэт імкнуўся гаварыць вобразна і запамінальна, коратка і сцісла. Яскравым прыкладам з'яўляецца першы паэтычны зборнік «Кляновік». Кляновік, як тлумачыў паэт, — першы і самы салодкі вясновы сок.

Як прызнанне маладога паэта свайму паэтычнаму настаўніку эпіграфам да кнігі ўзяў страфу з яго вядомага верша: *«Беларусь… Я не помню, якою парою навек палюбіў: калі верасам сінім гарэлі трывожна лясы, калі першы кляновік з лядзінкамі першымі піў, калі скублі заснежаны стог у зарэччы ласі…»* Амаль такімі ж лірычна прачулымі і пранізанымі любоўю да роднай зямлі радкамі пачынаецца і верш маладога аўтара, што стаўся запеўкай да кнігі: *«Зямля, дзядоў маіх зямля, прызнанне гэта не для клятвы. Ты рукі мне перапляла трыпутнікам і дзікай мятай».* Трапная і пераканаўчая заява маладога паэта падкупіла як мэтраў, так і равеснікаў аўтара. Нават сёння, калі патрыятызм некаторыя лічаць чымсьці ўстарэлым і архаічным, радкі гучаць свежа і душэўна: *«Прашу цябе, зямля, дазволь быць каласком у роднай ніве».*

Раннія вершы Генадзя Пашкова з двухтрох строф, якія былі, здаецца, створаны на хаду, экспромтам, нагадваюць яркія накіды ці замалёўкі, зробленыя з натуры, дзе маецца агульны фон і на ім узнаўляюцца такія дэталі, што кідаюцца ў вочы і запамінаюцца. З асаблівай увагай і пэўнай прыдзірлівасцю мы знаёмімся з радкамі Пашкова і з палёгкай пераводзім дыханне: дэбютант ні на ёту не паўтарае настаўніка, гаворыць па-свойму і робіць пэўнае паэтычнае адкрыццё: *«Нясе кляновік ранняю вясну усім пупышкам, бліз-*

*кім і аддаленым».* Праўда, калі развaжаць лагічна, то на самай справе адбываецца наадварот: ранняя вясна абуджае ў клёнах сок і нясе іх «пупышкам, блізкім і аддаленым». Але паэзія, як гаварыў Маякоўскі, такая «пресволочнейшая штуковина», што здольна вырабляць неверагодныя кульбіты, і тое, пра што ідзе гаворка ў вершы Пашкова, выглядае жыццёва праўдзівым. У другой страфе верша настолькі густое метафарычнае сіло, што можна дзіву дацца, як малады аўтар змог саўладаць з тым хітрасплячэннем слоў, дзякуючы якому мы маем выдатны эцюд: *«А пад карой трашчыць напяты луб, вось ля галінкі бліснуў, нібы вочка, і прыпадае льдзінкамі да губ сцюдзёнага кляновіка падсочка».* Сказана так, што і мы адчуваем халадок таго кляновіка. Разам з гэтым паэт смела пераасэнсоўвае слова «падсочка». Мы прывыклі, што падсочваць, гэта значыць, падразаць сосны, каб з іх цякла смала-жывіца. А што датычыць кляновіка, то яго падпускаюць, робячы на дрэве засечку ці надрэз. А вось паэт ужывае слова-вобраз «падсочка». Калі як след задумацца, то выходзіць, што па гучанні «падсочка» больш стасуецца да падпускання сока-кляновіка. Хіба не чутно, як перагукваюцца паміж сабой словы «падсочка» і «сок»? Магчыма, так гавораць у родных мясцінах паэта альбо гэта слова прыйшло да яго ў час творчагага пошуку. Цікава і тое, што льдзінкі, якія піў герой верша Вялюгіна, з'ўляюцца і ў вершы Пашкова. Але яны выступаюць ужо ў зусім іншай інтэрпрэтацыі. Пашкоў гаворыць: *«Прыпадае льдзінкамі да губ сцюдзёнага кляновіка падсочка».* Ёсць розніца? Ды яшчэ якая! Вучань, здаецца, ускладніў і заглыбіў паэтычны вобраз.

Папаўняючы творчы набытак, Пашкоў звяртаўся да чэпкай памяці, што берагла ў сваіх глыбінях малюнкі прыроды, якія ён бачыў у маленстве, жывучы на хутары, вывучаючы паводзіны і звычкі птаства і звяроў, скавытанне ветру і завірухі. І варта было сканцэнтравацца на нечым цікавым, як малюнкі тых ваколіц паўставалі і ажывалі пад пяром у дзівосных праявах. Гляньце, як пададзена карцінка летняга досвітку: *«Сцяжынак прамураўленыя ніці, смалля на ўзлеску выстаены дым, пявун крылом дрымоту сціпла выцяў, і рэха шышкай грукнула ў бары...»* Іншаму паэту хапіла б і таго, каб сказаць: «Сцяжынак ніці». А вось для Пашкова гэтага замала. Таму ён і ўдакладняе: «Сцяжынак **прамураўленыя** ніці». Што гэта значыць? А тое, што ў дадзеным выпадку ён знаходзіць наватвор, які дапамагае наблізіць да нас сцяжынку настолькі, што мы, здаецца, наяве бачым не толькі яе, але і кожную травінку-муравінку. Далей: *«**Смалля** на ўзлессі **выстаены** дым, пявун **крылом дрымоту сціпла выцяў**».* Каго не ўсцешаць гэтыя ўзятыя з народнага фальклору важкія, каларытныя словы, а таксама выкарыстаная метафара пра певуна, якой няма цаны — бо звычайную з'яву кукарэкання курынага верхаводы яна дапамагла перадаць надзвычай дакладна. Так мог сказаць толькі паэт, які адчувае слова, ведае яго мастацкія магчымасці, умее абнаўляць фарбы і адценні, не парушаючы сінтаксічныя і іншыя моўныя законы.

Пасля каларытнай і самадастатковай страфы, у якой гаворыцца пра досвітак, аўтар палічыў патрэбным дадаць штрышок, які ўдакладняе ўсё сказанае: *«Мне сёння зноў прыснілася чамусьці».* На першы погляд радок нагадвае сабой звычайную «адбіўку». Аднак, учытаўшыся ў верш, няцяжка зразумець, што ён нясе немалы сэнс, і пры кожным паўторы становіцца музычным акордам, які настройвае чытачоў на пэўны лад.

У наступнай страфе падаецца тое, што адбываецца раніцай у лесе: *«Гарбузікаў лычастых з вадапою ажыннікам калючым пад дубкі вядзе сякач з дзічыхай у суполлі, і звоняць па карэннях капыткі».* І зноў перад намі карціна, якая нагадвае гравіроўку на камені ці разьбу па дрэве. Не так сабе малых лясных парасятак паэт называе «гарбузікамі». Калі гэта не прыдумка творцы, то, відаць, так называюць іх леснікі і паляў-

**З асаблівай увагай і пэўнай прыдзірлівасцю мы знаёмімся з радкамі Пашкова і з палёгкай пераводзім дыханне: дэбютант ні на ёту не паўтарае настаўніка**

## Калі разважаць лагічна, то на самай справе адбываецца наадварот: ранняя вясна абуджае ў клёнах сок і нясе іх «пупышкам, блізкім і аддаленым»

нічыя. Услед за страфой ідзе паўтор радка: *«Мне сёння зноў прыснілася чамусьці»*. Паэт пацвярджае: яму прыснілася менавіта тое, пра што сказана ў папярэдняй страфе, і адначасова папярэджвае, пра што пойдзе гаворка ў наступнай. Таму радок нясе двайную функцыю. Гэту вынаходлівасць нельга не заўважыць.

Не менш цікавая і заключная страфа: *«Лапоча туга корба каля брамы, нырцуе сонца і вядро ў ваду»*. Прымушаюць засяродзіць увагу і тыя радкі, дзе гаворка ідзе пра маці: *«А я не пазнаю хаду, пярэпінкі на твары тваім, мама»*. Нельга не здзівіцца, што аўтар заўважае тое, што, здаецца, цяжка і заўважыць, а іменна «**пярэпінкі**», адмецінкі, якія сведчаць пра ўзрост і не вельмі лёгкае жыццё жанчыны.

Як мы ўжо ведаем з біяграфіі Генадзя Пашкова, у дзяцінстве ён жыў на хутары, якія абступалі балота і сасьнякі. Там ноччу ў Піліпаўку вылі ваўкі, кугалі совы, трубілі ласі. Будучы паэт меў магчымасць убіраць у сябе галасы і фарбы пор года. Яму рупіла падзяліцца ўражаннямі, перадаць дзівосы, што адбываюцца вакол. Робіць ён гэта акварэльна-размашыстымі, пластычнымі мазкамі: *«Варочаюцца скразнякі у кроквах, шашалем пабітых. Над азярынай сасьнякі журбою выраяў спавіты»*. Усё тое, што трапляе на вока паэта, жыве і варушыцца, дыхае і трапеча, ззяе і праменіцца, знаходзіцца ў руху і дзеянні. Нават неадушаўлёныя рэчы і прадметы ажываюць пад пяром паэта, як вось у гэтым выпадку: *«І шыба з-пад брыва страхі ў цяжкім* ***сінее*** *задуменні»*. Нават тады, калі паэт усяго толькі канстатуе нейкі факт, ствараецца ўражанне, што нешта адбываецца, дзеецца: *«На дрэвах* ***светлыя*** *вярхі, спакой* ***мурожны*** *ў загуменні»*. Як ні дзіўна, гэтыя прыметнікі ствараюць ілюзію чароўнага жыцця, мігцення фарбаў, адчування вераснёвых пахаў. І на заканчэнне твора аўтар прыпасае самую каштоўную і зіхоткую знаходку, якая нагадае гравюру філіграннай шліфоўкі: *«А глянь пад елачкі: брыдзе баразной баравік баравінны з бараўняткамі ў барадзе»*. Не кожнаму ўдаецца падгледзець такое дзіва.

Па-добраму здзіўляюць і тыя вершы, дзе некаторыя з'явы прыроды выступаюць у нязвычнай для сябе ролі. Хто мог не толькі дадумацца, але і адважыцца сказаць пра зімовыя маразы так, як гэта зрабіў Пашкоў: *«Цецерукамі маразы на такавішчы адвячорка, дзе купкі стылае лазы бягуць да праламкі з пагорка»*. Паэзія для таго існуе, каб ламаць стэрэатыпы і прывучаць да новага мыслення. Хоць малюнак таго, як трашчаць-такуюць маразы, абстрактны, але мы, здаецца, бачым яго, і здзіўляемся цуду, які побач. У канцы верша аўтар зноў звяртаецца да гэтага вобраза: *«Твае да раніцы сляды пазанясе, пазамятае, і больш ніхто не памятае, дзе такавалі халады»*. І мы яшчэ раз пераконваемся, што вобраз не выглядае надуманым і штучным, далёкім ад жыццёвай праўды. Ён па-мастацку апраўданы ўсёй логікай разгортвання паказу зімовай пары праз асобныя дэталі, пададзеныя буйным планам. А што да страфы, то яна падобна да заключных акордаў элегічнага музычнага скерца ці санаты.

У шэрагу твораў, багатых на моўную палітру, маляўнічыя фарбы і адценні, Пашкоў імкнецца падмеціць самае дробнае, здавалася б, неістотнае, і паглядзець на яго, як праз павелічальнае шкло, каб яно прыняло новую форму і заззяла ўсімі колерамі вясёлкі. Паэт дэманструе віртуознае валоданне родным словам. Хоча здзівіць зелянінай, у якую вясной апранаецца ўсё жывое ў полі і лесе, — кажа, што *«зялёнай веяй ляда замяло»*. Яго востры зрок здольны заўважыць амаль незаўважнае, напрыклад, як *«скрозь дзеразу прабілася травінка і выпрастала лісціка крыло»*. У другім выпадку ад яго не схавалася і тое, што *«ручаінка на глыбокім донцы хавае кветкі сонечны спакой»*, бачыць, як *«апошняю расінкаю дрыжыць пад елачкаю ранні светаяннік»*. Для паэта гэта кветка

больш, чым звычайная кветка. І ён ўсклікае: *«...А светаяннік — светлая праталінка зялёнай веі выспелых бароў».* Згадзіцеся, што вобраз атрымаўся вытанчаны, магчыма, нават крышку ўскладнёны. Дык, можа, паэта трэба папракнуць за празмернае захапленне вобразнасцю? Навошта? Паэзія — гэта не толькі лірыка, якая, як зазначаў класік, не павінна прыгажуням «ухо ласкать в завиточках-волосках», але адначасова і тое дзіва, да якога «подползают поезда лизать… мозолистые руки». Да ўсяго яна павінна яшчэ і вучыць думаць.

Час ад часу верш для Генадзя Пашкова становіцца палігонам, дзе свае метафары ён выпрабоўвае на трываласць і даўгавечнасць. Хто з сучасных вершатворцаў не паставіў бы сваё прозвішча пад гэтымі радкамі: *«Галінку на сасне пакратай — пачуеш водгулле грамоў», «Як леснічанчына акно, у соснах маладзік іскрыцца», «Кладзецца першы-першы след, дзе столькі зім і столькі лет пераплято трывогай веціе».* А вось вобразы, створаныя пры дапамозе сінтаксічна-сэнсавай будовы вершаваных радкоў і строф: *«Зарэчча сакаўны мурог ад раніцы напоўніў соты», «Карчэўе чорнае ляшчын нанізвае кругі усплёскаў, дзе крутабокія ляшчы заварушыліся, як вёслы», «Вудзільны кінула ў віры кустоўе гнуткіх вербалозаў», «Застыў зялёнай хмарай воз, задышны храп звялі аглоблі», «І не пазнаць: віры ці броды — расшчадраваўся так мароз, што нават пень чорнабароды калючым інеем аброс».* Каб сказаць вось так густа і каларытна, трэба мець багатае ўяўленне і талент.

Генадзь Пашкоў пільным вокам глядзіць вакол сябе, разважае пра ўласнае жыццё, нават пра службовыя калізіі, і, здаецца, нейкая незадаволенасць сама сабой з'яўляецца ў душы. Можа, таму нараджаецца адкрытае прызнанне: *«Бунтуе кроў агнём юначым, а я міжволі пазнаю у зманным поспеху няўдачу і ўсю няўпэўненасць сваю...»* Справа ў тым, што «зманны поспех» паэт успрымае як поспех несапраўдны, міражны ці, горш таго, хлуслівы, і ў такім выпадку, зразумела, што гэта — няўдача, якая ідзе ад юначай нявопытнасці і няўпэўненасці. Няхітрая і просценькая з выгляду страфа, падобная да звычайнага запісу, а выклікае вунь колькі асацыяцый.

Нешта падобнае ёсць і ў радках, дзе гаворка вядзецца ад імя аўтара ў выглядзе прызнання і адначасова звароту да сябра ці нават да каханай: *«У лёса я не папрашу спагады, як скруха скрух світанак дзень пазначыць але, мой друг, калі ты друг, то значыць, здалёк прыдзі і вернасцю парадуй».* Страфа ўяўляе сабой разгорнутую фразу, дзе не зусім новая думка пра жыццёвае бытаванне пададзена пры дапамозе такой расстаноўкі слоў, што ўражвае і прымушае звярнуць на сябе ўвагу. Пра што гэта гаворыць? Ды пра тое, што паэзія — гэта чараўніца, якая мае безліч магчымасцей і сродкаў высвеціць для ўсіх вядомае і нейкім чынам так, што яно здзіўляе і выглядае, як пэўнае адкрыццё.

Ніхто не скажа, што ў адрозненне ад радкоў, прысвечаных прыродзе, нечаканым стала з'яўленне верша пра лазню, у якім мы пазнаем многае з таго, што робіцца і адбываецца падчас мыцця, гэтага паганскага занятку, які нагадвае абрад ці рытуал. Лазні прысвячалі радкі выдатныя майстры паэтычнага слова А. Твардоўскі і Б. Слуцкі, знаходзячы яркія фарбы і колеры. У Пашкова вобразы лазні без перабольшвання падобны да самацветаў, якія так і сыплюцца з-пад пяра, балююць, радуюць душу і зрок. Прадметы і з'явы ў вершы жывуць, мігцяць, свецяцца, не могуць утаймавацца ад вар'яцтва, што пануе ў лазні, калі паддаюць пары: *«Ляціць з кадушкі вечка пад лаву ў душны змрок, раз'юшаная печка хапілася за бок».* У такім хапатліва-нястрымным рытме перадае паэт усё тое, што бачыць і што адбываецца ў лазні. Для яго «чырвоныя каменні» печкі не проста каменні, а «сквірчлівыя хрaшчы». І палок, на якім парацца і хвошчуцца дзецюкі, *«ажно трашчыць, шукаючы збавення».* Пругкая рытміка дапагае паэту ў поў-

**Паэт дэманструе віртуознае валоданне родным словам. Хоча здзівіць зелянінай, у якую вясной апранаецца ўсё жывое ў полі і лесе, — кажа, што «зялёнай веяй ляда замяло»**

**Пасля каларытнай і самадастатковай страфы, у якой гаворыцца пра досвітак, аўтар палічыў патрэбным дадаць штрышок, які ўдакладняе ўсё сказанае**

най меры ўзнавіць лазневую крутаверць і шаленства: *«І твар, і медны таз ірдзеюць, нібы грыўня».* Пашкоў не прамінае выпадку, каб адным скупым, але кідкім мазком удакладніць, у які час адбываецца гэта стаўпатварэнне: *«А печ — лінуў якраз — здаецца, ў космас рыне».* Космас — адзнака таго, што верш ствараўся ў той час, калі чалавецтва паспяхова асвойвала міжзорную прастору. Паэт настолькі выразна выпісвае асобныя дэталі і малюнкі, што міжволі мы становімся не толькі сведкамі, але і ўдзельнікамі лазневай эпапеі. Дзеянне развіваецца з дакладнай паслядоўнасцю: *«Ахутае зняцку рабінавы туман. Парыльшчык-атаман рукой вушак намацаў».* Як нам хочацца, каб свята гукаў і фарбаў працягвалася як мага даўжэй. Але для ўсяго прыходзіць завяршэнне. І мы з палёгкай уздыхаем, нібы разам з аўтарам выскокваем з парыльні, прачытаўшы апошнюю страфу: *«Завешана акенца воблакамі сну, і, як дразды ўвясну, пяюць шчаслівa сенцы».*

Пасля вось такой паспяховай заяўкі, зробленай у першай кніжцы, калегі па пяры і прыхільнікі паэтычнага слова Генадзя Пашкова, безумоўна, чакалі ад яго новых твораў і былі ўпэўнены, што знойдуць у іх густую і да неверагоднасці ўскладнёную і вынаходлівую вобразнасць, якой пад сілу сваімі чарамі запалоніць і прывесці ў захапленне любога паэтычнага сноба і гурмана. Але ён пайшоў крыху іншым шляхам. Яго вершы, хоць і не згубілі свежасці і метафарычнасці, што пацвярджаюць нават назвы наступных зборнікаў «Дыстанцыя небяспекі» і «Гравюры дарог», сталі больш простыя, даступныя, празрыстыя, лірычныя і меладычныя. Аднак разам з гэтым хочацца спытаць: а, можа, паэт усё-такі хоць троху здаў свае ранейшыя пазіцыі, зрабіў крок назад? Ні ў якім разе! А тое, што стаў пісаць крышку інакш, то хіба падобных выпадкаў не было ў паэзіі раней? Напрыклад, Пастарнак, якога ў свой час заўважыў і пахваліў Маякоўскі за незвычайна густую метафорыку, праз некалькі гадоў пасля выхаду ў свет першага зборніка ўзяў і перагледзеў свае адносіны да ранейшай ускладнёнай формы. Ёсць і бліжэйшы да нас прыклад. У паэме «Праз горы і стэп» Пятрусь Броўка, узнаўляючы нялёгкі пераход кавалерыі праз пяскі, дайшоў да такой гіпербалізацыі, што ў яго творы конскія слёзы «зрывалі супоні». Аднак ён своечасова спахапіўся і стаў пісаць так, што яго радок зрабіўся просты і шматмерны, як у гэтай страфе, што стала класічнай: *«Возера глыбокае, як памяць, ад вады узняўся сіні дым. І кусты шырокімі лістамі пляскаюць далонямі над ім».*

Што датычыцца творчасці Генадзя Пашкова, то ў яго новых радках хапала вобразнасці і экспрэсіўнасці ды іншых мастацкіх якасцей, якія не з меншай эмацыянальнай сілай перадавалі тое, пра што гаварыў паэт. А гаварыў ён пра тую самую прыроду, якая па-ранейшаму хвалявала і непакоіла яго. З'яўляюцца эцюды і замалёўкі, нацюрморты і накіды ў выглядзе мазаікі, што ўрэшце перарастала ў маляўнічае пано. Паэт імкнецца ґаварыць немнагаслоўна, афарыстычна: *«Згодна зімовае квоты — сонца і сіні мароз».* Услаўляючы геаграфічныя мясціны роднага краю, у прыватнасці, возера Палік, ён не толькі звяртаецца да гісторыі: *«Тут даўней была крутая сеча»,* але не прапускае выпадку ўспомніць і яе насельнікаў, робячы гэта жыва і з добрай прыдумкай: *«Сігане стаянкай партызанаў маскхалат заечы праз сумёт».* І мы разумеем, паэт ішоў да прастаты, а не да спрошчанасці. Ён настолькі ўражаны і ўсхваляваны прыгажосцю і чысцінёй зімы, што, імкнучыся як мага паўней перадаць і данесці ўсё гэта дзіва да нас, выкарыстоўвае гукапіс: *«Сум і сон… І толькі ён, як грэшнік, распусціўшы голле ля вады, зацвітае зазімкам арэшнік, гледзячы на злыя халады».* Снежнай светлынёй і лірычнай шчырасцю напоўнены скупыя радкі, дзе перадаецца душэўнае трапятанне і здзіўленне, калі чалавек выходзіць раніцай на падворак і не пазнае яго — такія змены прынесла зіма: *«Ступаць у чысты снег ні боязна, ні смела. Ён на алтар вядзе —*

*вядзе душу і цела».* Сказана па-малітоўнаму мякка, абачліва і неяк маўкліва-прытоена, нібы паэт баіцца лішнім словам ці гукам парушыць цішыню і снег, што не толькі акрыў падворак, але і павіс на голлі дрэў, і які можна спалохаць, патрывожыць і ён, не дай Бог, абрушыцца долу. А тым часам у паэта нараджаюцца новыя асацыяцыі ў сувязі з такой зімовай з'явай, як снегапад: *«На скроні, далані — нябеснае прычасце. Ідуць Хрышчэння — дні мароз, агонь і шчасце».* З урачыста-святочнай са спавядальнай інтанацыяй замалёўкай суседнічае знешне празаічны і будзённы малюнак, напоўнены душэўным узрушаннем: *«Скупое студзеньскае сонца — ледзь узышло — і ўжо няма! — падсвеціць рыбаку ў палонцы, што ён на лёдзе нездарма, як зазвініць тугая леска і ўспыхне ў снезе вугалёк — трапечыцца зямлі палескай чырвонапёры акунёк!»* Хто не заўважыць, што ў прыведзенай фразе ўмясціліся дзве страфы? Але дзеянне, пра якое гаворыцца ў іх, свабодна пераліваецца з радка ў радок, і перад нашымі вачыма ўстае дзівосная карціна рыбацкага промыслу, менавіта таго асаблівага і запамінальнага для ўсіх рыбакоў моманту, калі на лёсцы з-пад лёду вылятае чырванапёрая ўдача. І паэт здолеў сказаць пра яе з такім захапленнем, што яно міжволі перадаецца і нам. Такога эфекту ён дасягнуў дзякуючы жывой размоўнай інтанацыі, якая прымушае чытачоў засяродзіцца на тым, пра што вядзецца гаворка. Немалаважнае значэнне мае і тое, што ў радках мы не знойдзем прыблізных і выпадковых слоў, якія можна замяніць іншымі.

Вершы, прысвечаныя каханню, падобны да запісаў і занатовак, накіданых наспех, відаць, для таго, каб перадаць у іх першапачатковае пачуццё, што ўспыхнула ў душы, знешне яны нагадваюць сабой дзённік, які паэт вёў на працягу некалькі гадоў, у якім можна прасачыць узаемаадносіны двух закаханых асоб, аўтара і нарачонай. Каханне ў вершах Пашкова гарачае і цнатлівае, сарамлівае і пяшчотнае, святое і грахоўнае. Калі паэт гаворыць нават пра самыя інтымныя моманты, то робіць гэта, хоць і размашыста, але асцярожна і далікатна: *«І Сусвет дрыготкі — у руках. Абсыпае зорамі і стогне ад шчаслівай мукі хмельных слоў двух агнёў, абнятых трапятаннем. ...Паміраем! Ажываем зноў! ...Божы дар, свяшчэнны дар — каханне!»* Безумоўна, сказана пра міг апафеозу гарачага пачуцця, якое ўзнікае паміж дзвюмя маладымі асобамі. Але ж яно кожны раз пачынаецца неяк неўпрыкметку. А ўслед за гэтым выспявае, мацнее і, набываючы крылы, выклікае столькі эмоцый і хвалявання, што навакольны свет для паэта робіцца незвычайным, ледзь не казачным: *«Ты на тым баку вясёлкі. Я на гэтым».* Паступова да яго прыходзіць развага і ўсведамленне, што ім трэба быць разам: *«Без цябе стаміўся так! У адчаі над вясёлкай, быццам знак, — лямант чаек».* Каб больш ярка і выразна перадаць незвычайны стан лірычнага героя, паэт «ломіць» радок, разнастаіць рытміку невялічкага па сваім памеры верша. Робіць гэта і ў апошняй страфе:

«*Светлаззянне… Прэч, туга! Іду прама. Каляровая дуга — наша брама!..*»

Звяртаючыся да суджанай, Г. Пашкоў ласкава гаворыць, што для яго *«мілы тварык, тварык нязменны, як для стронгі зорная рака».* Не, яна і на кроплю не падобна да някрасаўскай гераіні, што «коня на скаку остановит, в горящую избу войдет». Аднак бачна, што гэта свавольніца і гарэза ўмее быць гордай і незалежнай, іншы раз можа паказаць сябе і ганарліўкай. І ўсё ж яна ведае, калі трэба быць ласкавай і паслухмянай, а ў які час — строгай і непадступнай. І мы не надаём асаблівага значэння, калі паэт нечакана пытаецца ў самога сябе: «За мукі, за слёзы каго мне ўшчуваць…» Але ўслед за гэтым нас прымушае насцярожыцца, а пасля і збянтэжыцца яго роспачна-ўзрушанае прызнанне: *«Рызыкую быць пабіты камнямі, бо каму такое па душы? — дзвюх жанчын люблю — і паміж намі, паміж мной і кожнай — жар душы!»* Іншым разам такія радкі можна было б успрыняць, як жарт. Але толькі не тут. Бо ўжо ў наступным вершы паэт

**Нават тады, калі паэт усяго толькі канстатуе нейкі факт, ствараецца ўражанне, што нешта адбываецца, дзеецца**

прыводзіць словы жанчыны, якую кахае без памяці: *«Я не хачу цябе любіць... — пусціла дым замілавана. — Я не магу, калі баліць душа развержанаю ранай. Я не магу цябе любіць: любоўю змучана нямала»*. Можна падумаць, што жанчына не толькі не хоча адказваць узаемнасцю на яго пачуццё, але і баіцца яго. І ўсё ж справа тут зусім у іншым. Яна, відаць, перажыла не адну сямейную драму і лічыла сябе галоўнай віноўніцай кожнай з іх. Таму і не хоча новага знаёмства, загадзя ведаючы, што і яно не прынясе шчасця. Любоўная інтрыга закручваецца ў нас на вачах. І не толькі інтрыга, але і чарговая драма як паэта, так і лірычнай гераіні. І тым не менш ён не адступае ад свайго, бо ўпэўнены, што звёў іх не выпадак, а лёс: *«Хоць позна перасеклі мы жыцця зямныя пуцявіны, але чаму глушыць грамы у сэрцах зблізжаных павінны?»* Паэт гатоў даравань каханай усё тое, што было з ёй раней: *«Твой альбом захацеў пагартаць. Ты рашуча альбом адабрала. Ну і што і навошта хаваць? І чаму наляцела, як хмара?»* Гэта сведчыць пра тое, што мінулае гераіні не было ідэальным. Але ён разважае пра яго нават з пэўнай доляй іроніі, як толькі можа разважаць безаглядна закаханы чалавек, што пабычыў на сваім вяку нямала добрага і дрэннага: *«Мы з табою — жывы шэпт лісця. А* ***былыя*** *твае — гербарый»*. Пасля таго, як гераіня дзеліцца з ім пра **былых і былое**, ён спакойна прызнаецца: *«Ды дзіва! Злосці — ні следу! Не дакараю марна, іначай бы і не ўведаў, што гэтакі самаахвярны»*. І ўсё ж сяды-тады яго апаноўвае роздум і ён з горыччу ў галасе канстатуе: *«Ты была першароднай крыніцай. Ды, напэўна ж, ужо не адна. Я прыпаў у дарозе напіцца. Схамянуўся, не ўбачыўшы дна»*. Здаецца, хапіла б і такога балючага прызнання. Але рэўнасць горкім комам падступае да горла, і ён ледзь не пераходзіць на роспачны крык: *«Столькі розных з цябе папіла, прагна, похатна, як арда. Прахадным называлі — "мілай", покуль звонкай была вада»*. Відаць, не лёгка лірычнаму герою ўзяць сябе ў рукі, прыйсці да развагі: *«Страшна боязна мне напіцца: канчаткова б не замуціць...»* І далей ён ужо гаворыць шчыра і пяшчотна: *«Я цябе прыняў такой, як ёсць. Ты мяне — таксама без аглядкі»*. Змірыўшыся са сваім становішчам, паэт імкнецца абнадзеіць жанчыну, пераканаць: *«Я з табою не ў амурным блудзе, я з табой адкрыты. Без прыкрас. Ты баішся: як жа далей будзе?.. Хто і дзе падсцерагае нас?..»* І, каб супакоіць канчаткова, дае клятву: *«Ты не бойся, што ў парыве веснім я ў жыцці такога накручу!.. Трэба будзе, наступлю на песню! І сябе самога растапчу!»* У тым, што лірычны герой зможа наступіць на песню, ніхто не сумняваецца. А вось растаптаць самога сябе… Хочацца думаць, што гэта гіпербала. Але ў рашучасці, якая чуецца ў абяцанні, угадваецца нешта надта знаёмае. Ці не яна прысутнічала ў заяве дзевяцікласніка, які прасіў паслаць яго добраахвотнікам у В'етнам?

Увогуле, цыкл вершаў, прысвечаны каханню, чымсьці падобны да паэмы. А ў некаторых паэмах Генадзя Пашкова ў сваю чаргу можна заўважыць пэўную прысутнасць асобных частак, падобных да разгорнутых вершаў, уманціраваных у агульны тэкст. Калі згадваць паэмы паэта, то лепшай з іх з'яўляецца «Дзяўчынка з блакітным мячыкам», дзе гаворка ідзе пра трагедыю Пампеі. І яшчэ пра тое, што падобная катастрофа можа адбыцца кожную хвіліну і кожны дзень з усім зямным шарам і чалавецтвам. Гісторыя чалавецтва ўяўляецца паэту безабароннай дзяўчынкай, якая забаўляецца з блакітным мячыкам, што падобны да зямнога шара. Апынуўшыся на развалінах Пампеі, паэт прыслухоўваецца да цішыні, і яму здаецца: *«У камянях уздыбленых, няйначай, імгненні затаіліся жыцця. Чуваць: нібыта побач скача мячык... Чуваць: смяецца жвавае дзіця»*. Але ўсё гэта, безумоўна, слухавы падман, бо на месцы былой Пампеі: *«Ну хоць бы дзе галінка ці сцябло ці хоць бы ўбачыць парасончык кропу»*. Паэт жахаецца гэтага страхатлівага відовішча: *«Аж па спіне*

**Дык, можа, паэта трэба папракнуць за празмернае захапленне вобразнасцю? Навошта? Паэзія — гэта не толькі лірыка**

*пабеглі мурашы. Хутчэй, хутчэй — дзе з лабірынту выйсце? Хутчэй туды, дзе чуцен гул шашы, дзе людзі, дзе шуміць пад ветрам лісце».* І ён выходзіць на такое месца, дзе *«нехта за вуглом, на тратуары, бесклапотна скача…»* І адразу ажывае навакольны свет. Аказваецца, што гэта дзяўчынка, і гуляе яна ў цікавую для сябе гульню на камені, які *«размалявала крэйдай на квадраты».* Генадзь Пашкоў выкарыстоўвае прыём кантрасту і падае постаць дзяўчынкі так, што малюнкі нагадваюць кінематагратфічныя кадры: *«Адна… Адна… Абуднаю парой — нібы пылінка у далоні веку — была яна. І цэлы свет над ёй ускінуў думна сонечныя вейкі».* Высвятляецца, што дзяўчынка не адна: *«Яе паклікаў нехта: — Наталет!.. А ёй, маленькай шчабятусе, смешна. З дзвярэй выходзіць прыбіральшчык-дзед, зграбае смецце з камянёў няспешна».* Можна спытаць: чаму столькі ўвагі ўдзяляе паэт дзяўчынцы з Пампеі? Па-першае, яна для яго — своеасаблівы сімвал жыцця на тым месцы, якое калісьці спапяліў землятрус. А па-другое, блізкая яшчэ і тым, што нагадвае родную дачушку. Да іх ён і звяртаецца: *«Абедзвух вас у сэрцы калышу, маёй Зямлі маленечкія птушкі!»*

Дзве дзяўчынкі і блакітны мячык, з якім яны гуляюць і які падобны да зямнога шара, увесь час застаюцца ў цэнтры ўвагі паэта, і вакол іх вядзецца гаворка пра мірнае жыццё і прыгажосць зямлі, згадваюцца нелюдзі, што развязваюць войны, і тое, чым яны для іх канчаюцца: *«Гісторыя, ты помніш! Там, дзе жыў вар'ят, там сёння дом адчынен для вар'ятаў».* Незвычайную маштабнасць набывае дзіцячы мячык, з якім не расстаецца малая Наташка нават падчас падарожжа, у якое яна выпраўляецца з бацькамі па Прыпяці. І калі загрымела навальніца, то пачалося неверагоднае: вецер *«падхапіў і кінуў мяч дзіцячы у вадавей, у кіпень, у прастор, дажджом замглёны громагалосы, дзе неба, Прыпяць, разгайданы бор — усё сякуць маланак вострых косы».* Менавіта ў гэтыя хвіліны зазначае паэт: *«Думаў я, што гэтак жа прад намі не толькі можа счэзнуць мяч малы — мацерыкі, абмытыя марамі, сагрэтыя праменнем і травой, дзе вольніца норд-остам і пасатам…»* Генадзь

## Прадметы і з'явы ў вершы жывуць, мігцяць, свецяцца, не могуць утаймавацца ад вар'яцтва, што пануе ў лазні, калі паддаюць пары

Пашкоў звязвае трагедыю Пампеі з тым, што можа адбыцца ў свеце, і пытаецца: *«Няўжо над вулкай выпаленай магмай галактыкаю рэха паплыве апошнім словам чалавецтва: "МА-МА…" Ты чуеш? Чуеш, як вулкан раве?»* Але ён верыць, што такое не адбудзецца: *«Скрозь веснавое сонечнае мліва ахутвае блакітам гарады. А мне дзяўчынкі бачацца шчаслівыя праз мроіва, праз белыя сады».* Хто яны, гэтыя дзяўчынкі, мы ўжо ведаем. Імёны іх гучаць і ў заключным радку паэмы: *« Наташка з італійкай Наталет».*

Цікава, што пад гэтым лірычна-публіцыстычным творам стаіць паметка «Мінск — Рым — Пампея — Мінск». Думаецца, гэта не даніна модзе, а сведчанне, што паэма, магчыма, не поўнасцю, а часткова, стваралася ў дарозе. І гэта акалічнасць надае ёй асаблівую вагу і каштоўнасць.

У заключэнне хочацца сказаць, што нярэдка крытыкі і літаратуразнаўцы, ацэньваючы творчасць паэтаў-сямідзясятнікаў, да якіх належыць і Генадзь Пашкоў, не абыходзяцца без пэўных закідаў — маўляў, яны нічым не вызначыліся, не зрабілі важкага ўнёску ў паэзію, як, напрыклад, іх папярэднікі-«шасцідзясятнікі». Але не трэба забываць, што кожнаму часу свае песні! І не паэты робяць час, а час робіць паэтаў. Што да Генадзя Пашкова, то ён працаваў у традыцыйнай манеры пісьма, граніў і шліфаваў слова, пашыраў яго мастацкія магчымасці, рабіў больш гнуткім, маляўнічым і шматфарбным, імкнуўся надаць яму новае значэнне і гукапіс, і пад пяром паэта яно час ад часу свяцілася і ззяла, асобныя вобразы і метафары станавіліся блізкімі да крылатых выразаў і афарызмаў, пацвярджаючы ісціну, што моўнае і фальклорнае наша багацце і запасы бязмежныя і невычэрпныя, хаваюць і тояць у сваіх артэзіянскіх глыбінях залатыя россыпы народнай мудрасці, досціпу і песеннай меладычнасці.

Уладзімір КАРОТКІ,
Жанна НЕКРАШЭВІЧ-КАРОТКАЯ

# МОЎНАЯ СІТУАЦЫЯ НА БЕЛАРУСІ Ў ЛЮСТЭРКУ ГІСТОРЫІ ЛІТАРАТУРЫ: «ПАРАДЫ МУДРЫХ ЛЮДЗЕЙ» І «НАВУКА ДОБРЫХ ЛЮДЦОЎ»



*Жанна Некрашэвіч-Кароткая і Уладзімір Кароткі.*

Культурную спадчыну старажытных народаў нельга даследаваць без уяўлення пра тое, што яны ўкладвалі ў паняцці «мова», «слова», «язык», якія гісторыка-філалагічныя сентэнцыі меліся на ўвазе пры выкарыстанні гэтых тэрмінаў. Актуальным з'яўляецца пытанне пра выбар мовы тым ці іншым пісьменнікам, пра матывацыю такога выбару. Гэты комплекс пытанняў вырашалі і вырашаюць гісторыка-філалагічныя навукі розных нацыянальных школ Еўропы, паколькі шматмоўнасць была характэрнай рысай развіцця ўсіх даўніх літаратур (за выключэннем, бадай што, рускай). Разам з тым даволі доўга айчынная філалогія, філасофія і эстэтыка не «абцяжарвалі» сябе пытаннем пра моўны дыяпазон старажытнага пісьменства Беларусі. Спецыфіка беларускай культурнай сітуацыі заключалася ў тым, што ў савецкія часы першасным фактарам непрызнання іншамоўнай літаратуры як беларускай быў комплекс міфаў, створаных у адпаведнасці з партыйна-класавым прынцыпам, русацэнтрычным або польскацэнтрычным падыходам. Першапачаткова ж вялікі ўплыў на культурную свядомасць беларускай інтэлігенцыі зрабіла пазіцыя некаторых дзеячаў беларускага нацыянальнага адраджэння пачатку XX стагоддзя — Яўхіма Карскага, Максіма Гарэцкага ды іншых. Яны не лічылі мэтазгодным уключаць іншамоўныя творы ў кантэкст гісторыі беларускай літаратуры. Адпаведныя дыскусіі час ад часу ўзнікаюць і ў нашы дні.

Іншамоўнымі прызнаваліся і прызнаюцца тэксты, створаныя на польскай і лацінскай мовах. Роля царкоўнаславянскай мовы — асобае пытанне. У часы Сярэднявечча ў арэале *Slavia Orthodoxa* царкоўнаславянская мова (якая ў творах тагачасных пісьменнікаў выступала пад назвай «словенская» або «славенская») была магутным аб'яднаўчым фактарам культур усходніх славян. Менавіта лінгвонім «словенский язык» аж да XVIII стагоддзя (а часам і пазней) вызначаў літаратурную мову Маскоўскай Русі. Царкоўнаславянская мова прызнавалася адзіна магчымай для стварэння пісьмовых

помнікаў у большасці жанраў, асабліва кананічнага і богаслужбовага характару. На працягу некалькіх стагоддзяў актыўнага літаратурнага выкарыстання царкоўнаславянская мова настолькі прыжылася ў культурнай свядомасці жыхароў Маскоўскай Русі, што часам прадстаўлялася мовай паўсядзённых зносін. Так, Фёдар Палікарпаў у прадмове да кнігі «Лексикон треязычный» (1704) пісаў: «Што за карысць нам ад замежных моў? Ці не дастаткова адной нашай славенскай для моўных зносін?..» Народна-размоўная мова, хаця і пранікала паступова ў сферу пісьмовасці, ніколі не атрымлівала, аднак, афіцыйнага статусу літаратурнай мовы.

Моўная сітуацыя ў Вялікім Княстве Літоўскім (тэрытарыяльным ядром якога былі землі сучаснай Беларусі) развівалася іначай. Тут на грунце беларускіх гаворак вакол Вільні паступова склалася новая літаратурная мова — так званая «проста мова», якую сучасныя беларускія гуманітарыі называюць старабеларускай. Як адзначае Ніна Мячкоўская, яна зрабілася «сродкам наддыялектных пісьмовых зносін на ўсёй тэрыторыі княства, уключаючы букавіна-малдаўскія і перамышльскія землі». У помніках зафіксаваны і іншыя назвы гэтай мовы: «русский языкъ», радзей — «простый языкъ», «русский діялектъ», «руская мова».

У эпоху Адраджэння старабеларуская мова пачала выкарыстоўвацца як сродак папулярызацыі гуманістычных ідэй. Найбольш паспяховым быў мастацкі вопыт Францыска Скарыны. Звернем, аднак, увагу на тое, што пытанне пра мову скарынаўскай «Біблії» не адносіцца да шэрагу лёгкіх. Высновы пра стварэнне Скарынам «тыпу гібрыднай царкоўнаславянска-беларускай пісьмовай мовы» (А. Жураўскі) рабіліся найперш на падставе цытаты з прадмовы да «Псалтыра», дзе першадрукар піша пра свой намер «Псалтырю тиснути рускыми словами, а словенскым языком». У сувязі з гэтым умацавалася думка пра тое, што Скарына «ўсведамляў ужыванне на Беларусі яго часоў дзвюх пісьмовых моў — беларускай і царкоўнаславянскай (па тагачаснай тэрміналогіі — “рускай” і “славянскай”)» (А. Жураўскі). Аднак, калі прааналізаваць ужыванне двух гэтых тэрмінаў у тэкстах прадмоў да пражскіх выданняў Скарыны, то выявіцца, што тэрмін «словенскі», акрамя вышэй прыведзенага кантэксту, больш нідзе ў прадмовах Скарыны не сустракаецца! Як жа перакласці скарынаўскі пасаж «рускыми словами, а словенскым языком»? Падобную сінтаксічную канструкцыю сустракаем у прадмове да кнігі Юдзіф: «еврейскими словами, но халдейским языком», што азначае, бясспрэчна, «на яўрэйскай мове, але для халдзейскіх народаў» («языком» тут — форма давальнага склону множнага ліку, а не творнага склону адзіночнага ліку). Значыць, «рускыми словами, а словенскым языком» правільней будзе перакласці «на рускай мове, для славянскіх народаў».

Францыск Скарына ставіць сябе ўпоравень з апосталамі асветы грэчаскага праваслаўя і лацінскага каталіцызму. Аднак, у адрозненне ад іх, ён выдае большасць кніг «людем посполитым», што значыць «для ўсіх людзей». Варта адзначыць, што ўсходнеславянскі першадрукар нідзе не гаворыць пра славянскую мову як пра мову свяшчэнную і не ставіць яе ў адзін шэраг з сакральнымі мовамі апостальскіх часоў, з ліку якіх дастаткова рана была выключана старажытнаяўрэйская мова. Яе, між іншым, не называе ў ліку сакральных моў і вядомы польскі тэолаг-прапаведнік Пётр Скарга ў сваім трактаце «Пра адзінства касцёла Божага пад адзіным пастырам» (1577). Сярод новых свяшчэнных моў Скарына называе «рускую» мову, гэта значыць, беларускую. Прывядзём хаця б адзін класічны прыклад з прадмовы да «Кнігі Ісуса Навіна»: «Ісус же, сын Божий, был ест царь іюдейскый, яко о том напис, иже был написаный на животворящем кресте его, светчить словы еврейскими: “Егошуа Ноцьри мелех егудим”, словы греческими — “Ісус Оназореос овасилефс тон іудеон”, словы латинскими — “Езус Назоренус рекс юдеорум”, по-руски ся сказует — “Ісус Назорянин, царь іюдейский”». Цытата з прадмовы да кнігі «Левіт» дапамагае зразумець і для каго друкаваліся кнігі Бібліі Скарыны: «Тако ж и мы, братия, не можем ли во великих послужити посполитому люду рускаго языка, сие малые книжки праци нашее приносимо им». Відавочна, што Скарына не меў на ўвазе інтэлектуальную эліту, паколькі для адукаванага чытача не было сэнсу тлумачыць значэнне асоб-

ных тэрмінаў, слоў грэчаскага, лацінскага ці яўрэйскага паходжання. Разам з тым кнігі Бібліі, выдадзеныя Францыскам Скарынам, былі непрыдатнымі для літургічнай практыкі. Іх прызначэнне іншае: прыватнае чытанне, індывідуальная інтэрпрэтацыя, прагматычна-дыдактычнае выкарыстанне. Такая творчая ўстаноўка аўтара, відавочна, мела на ўвазе свецкага чытача. Адсюль становяцца зразумелымі апеляцыі Скарыны ў яго прадмовах да «людей простых», гэта значыць, мірскіх.

Сфера ўжывання старабеларускай мовы, такім чынам, была даволі абмежаванай: яна выкарыстоўвалася найперш у дзяржаўным справаводстве, у летапісанні і ў публіцыстыцы. І нават калі гаварыць пра выкарыстанне старабеларускай мовы ў беларуска-літоўскіх летапісах і хроніках, то ў эпоху Адраджэння гэта было вынікам наследавання імітацыйнага стылю сярэднявечных літаратур усходніх славян. Заўважым, што і «Беларуска-літоўскі летапіс 1430—1446 гг.», і «Хроніка Літоўская і Жамойцкая», і «Хроніка Быхаўца» бытавалі як рукапісныя помнікі. Тым часам друкаваная «Хроніка» (1582) Мацея Стрыйкоўскага стала сведчаннем пачатку новага этапу ў развіцці гістарычнай прозы, і гэты новы этап характарызуецца зменай моўных прыярытэтаў. Стрыйкоўскі піша свой гістарычны твор на польскай мове, але ў прадмове выказвае намер выдаць яго і па-лацінску, «каб і да тых краін, якіх з прычыны аддаленасці граніц зброя і стрэлы літоўскія дасягнуць не маглі, дайшла слава подзвігаў такіх заможных князёў, паколькі амаль па ўсім свеце выкарыстоўваецца лацінскае пісьмо». Пра старабеларускую мову, як бачым, гаворка наогул не ідзе. Што да паэтычных твораў, то часцей за ўсё на старабеларускай мове пісаліся эпіграмы — панегірычныя вершы на магнацкія гербы, якія ўваходзілі ў так званы прадмоўна-пасляслоўны комплекс друкаванага выдання. Так, у прадмоўным комплексе «Статута Вялікага Княства Літоўскага» 1588 года ёсць эпіграма на герб Льва Сапегі, складзеная Андрэем Рымшам. Разам з тым, старабеларуская мова не лічылася прыдатнай для «высокіх» жанраў літаратуры — гераічнай паэмы, трагедыі.

Наогул, збіранне корпуса твораў на старабеларускай мове ў пераважнай большасці выпадкаў — плён самаахвярніцкай пошукавай працы айчынных даследчыкаў. Так, ва ўсе анталогіі і хрэстаматыі старабеларускай паэзіі ўключаны верш Яна Казіміра Пашкевіча «Полска квитнет лациною, Литва квитнет русчизною...», які, на думку М. І. Прашковіча, з'яўляецца «сапраўдным гімнам роднай мове і роднай культуры». Падкрэслім, аднак, што адзіны спіс гэтага верша захаваўся ў першай рукапіснай рэдакцыі згаданага вышэй Статута 1588 года. Толькі ў XX стагоддзі гэты верш дачакаўся друкарскага станка. Падобным чынам, застаўся рукапісным у свой час арыгінал прадмовы да «Евангелля» Васіля Цяпінскага; толькі ў XX стагоддзі шырокі чытач змог пазнаёміцца з перакладамі на старабеларускую мову рыцарскіх раманаў «Трышчан» і «Бава», гістарычных раманаў «Александрыя» і «Троя».

Затое ў поўнай меры скарысталіся з вынаходніцтва Іягана Гутэнберга тыя аўтары, якія пісалі свае творы па-лацінску. Лацінская мова, якая працягвала паўнакроўнае існаванне сярод народаў новай Еўропы як сакральная мова хрысціянства, мова культуры, навукі і адміністрацыі, ажно да XIX стагоддзя была мовай міжнародных зносін, рана пачала адыгрываць прыкметную ролю ў культурным кантэксце Беларусі. Гэтая акалічнасць стала рухавіком фарміравання на Беларусі той спецыфічнай культуры, якую прынята называць *latinitas*[1]. Калі дамінантаю нашага літаратурнага развіцця ў XI — першай палове XV стагоддзя была арыентацыя на царкоўнаславянскую, балгарска-візантыйскую традыцыю, то пачынаючы з канца XV стагоддзя *latinitas* стала той інтэлектуальнай субстанцыяй, якая да пачатку XIX стагоддзя выконвала ролю сацыяльнага, грамадзянскага і культурнага маркёра для многіх адукаваных беларусаў — грамадзян Вялікага Княства Літоўскага.

Лацінская пісьмовая культура актыўна культывавалася на Беларусі ў XVI стагоддзі найперш дзякуючы распаўсюджанню ў арыстакратычных колах легенды пра паходжанне шляхты і магнатаў Вялікага Княства Літоўскага ад рымскіх патрыцыяў. У канцы

[1] *Latinitas* — «сапраўдная, чыстая лаціна», а таксама «лацінская культура».

XVI стагоддзя пэўная частка літоўскіх і беларускіх арыстакратаў прызнавала вышэйшы гнасеалагічны і аксіялагічны патэнцыял лацінскай мовы ў параўнанні з царкоўнаславянскай. Міхал Літвін[1] у сваім трактаце «Пра звычаі татараў, літвінаў і маскоўцаў» (1615) пісаў: «Мы вывучаем маскавіцкія пісьмовыя помнікі, якія не ўтрымліваюць у сабе нічога старажытнага і не маюць аніякай карысці для духоўнага фарміравання, хаця спосаб маўлення русінаў чужы для нас, літвінаў, гэта значыць, італійцаў, што паходзяць ад італійскай крыві».

Але, нават калі адукаваны беларус у XVI стагоддзі не падзяляў такіх «экстрэмальных» меркаванняў, то лацінскай мовай ён часцей за ўсё валодаў дасканала. Вядомы дзеяч рэфармацыйнага руху Андрэй Волан у адной са сваіх прадмоў пісаў: «Лацінскай мовай у нашым народзе карыстаюцца настолькі часта, што ў будучым вельмі мала знайшлося б такіх, якія, чытаючы напісанае па-лацінску, не маглі б зразумець гэтага». Словы пісьменніка захавалі сваю актуальнасць нават у XIX стагоддзі, калі ўжо зараджалася сучасная беларуская мова. Ураджэнец Наваградчыны Адам Міцкевіч, які выкладаў у Коўне лацінскую мову, а ў Лазане чытаў курс па старажытнарымскай літаратуры, у 1854 годзе, з нагоды перамогі французска-англійскага флоту ў пачатковай фазе Крымскай вайны, напісаў алкеевай страфой па-лацінску верш «*Ad Napoleonet III Caesarem Augustum, ode in Bomersundum captum*» («Да Напалеона III, аўгусцейшага імператара, ода на ўзяцце Бамерзунда»). Шматлікімі лацінскімі выразамі насычана гаворка беларускай шляхты ў творах пісьменнікаў XIX стагоддзя. Героі аповесці «Полацкая шляхта» (1885) Вайніслава Казіміра Савіча-Заблоцкага — беларусышляхцічы, якія жывуць на Полаччыне, каля мяжы з Масковіяй, — дастаткова свабодна валодаюць лацінскай мовай. У эпілогу аповесці ўяўны аўтар Павел Завіша абураецца рэдактарскімі праўкамі, унесенымі ў ягоны рукапіс. «Трэцяга дня, — даводзіць ён, — узяўся я праглядаць прэсу. Гляджу — аж паміж газетамі ляжыць кніга “Апавяданні Паўла Завішы”. Са злосці я пачаў яе *legere*[2]. Чытаю, чытаю — што гэта такое? Гэта ж не мае словы! Цэлыя *capita*[3] пазмяняныя! Ледзь не пры кожным слове — тлумачэнні: “архаізм”, “старажытная форма”, “па-лацінску”! Дык што ж гэта такое! Нашто ж гэта каню пятая нага? Хіба ж можа быць такі чалавек, што не разумее лаціны?»

Цалкам заканамерна, што лацінамоўнае пісьменства адносіцца да найбольш значных феноменаў старажытнай культуры Беларусі. Змястоўныя прыярытэты лацінамоўных паэм Яна Вісліцкага, Мікалая Гусоўскага, Яна Радвана, Хрыстафора Завішы, Язафата Ісаковіча былі звязаны з задачай мастацкай прэзентацыі ключавых для гістарычнага кантэксту Беларусі падзей і асоб, важных для фарміравання дзяржаўна-патрыятычных ідэй. У гэтым — спецыфіка нашага культурнага развіцця і нашая адрознасць у параўнанні з Захадам, нават з суседняй Польшчай. Неўзабаве пасля таго, як П’ер Рансар выдаў гераічную паэму «Франсіяда» (1572) на французскай мове, а Ян Каханоўскі па-польску апісаў маскоўскую экспедыцыю Крыштафа Радзівіла ў паэме «Паход на Маскву» (1583), Ян Радван у гераічным эпасе «Радзівіліяда» (1592) стварыў мастацкую панараму беларускай мінуўшчыны ў лацінскіх гекзаметрах. Вось, напрыклад, як ён апісаў склад войска Стэфана Баторыя:

Волаты з даўняга Полацка крочаць,
    магутныя сэрцам,
Слаўнага Мінска сыны,
    жыхары старадаўняй Гартыны[4],
Тыя, хто з Ліды паходзяць,
    хто бачаць празрыстую Ваку,
Іншыя — Марсаў народ —
    Эрдзівілавы нівы[5] абходзяць,

[1] Даследчыкі атаясамліваюць гэты псеўданім або з Міхалам Тышкевічам, або з Венцлавам Мікалаевічам.

[2] *legere* (лац.) — чытаць.

[3] *capita* (лац.) — раздзелы.

[4] *Гартына* — Гродна.

[5] *Эрдзівілавы нівы* — Наваградак.

Землі твае, Магілёў,
ды суседняга краю прасторы.
Там на адных пазіраюць аршанскія дахі,
на іншых
З вежаў сваіх чатырнаццаці годна глядзіць
Азярышча:
Воды яго атачылі,
зусім непрыступным зрабіўшы.
Я не забуду сказаць пра муры
і гасцінцы старыя Даўняга Брэста,
а з ім і маленькую Рэчыцу ўспомню.
Гомельцы ў войску,
мазырцы, ды іншыя ратнікі разам: <…>
Тых гадавалі прасторы Мсціслаўля, тых —
Ула, якая
Поўніла хуткія воды крывёю маскоўцаў,
а гэтых —
Землі Іванска,
збялелыя скрозь ад касцей чалавечых;
Крэва яшчэ —
напамін пра забітага Кейстута. Побач
Слонімскіх волатаў раць,
жыхары Ваўкавыска і русы…

Той факт, што гераічны эпас у старажытнай літаратуры Беларусі прадстаўлены ў лацінамоўнай абалонцы, нельга ацаніць са знакам «плюс» або «мінус». Прынцыповае значэнне тут мае метадалагічная заўвага нямецкага літаратуразнаўца Ганса Роберта Яўса, што «літаратура і мастацтва толькі тады паўстаюць у якасці гістарычнага працэсу, калі шэраг твораў разглядаецца з пункта гледжання не толькі таго суб’екта, які іх прадукуе, але і таго, хто іх акцэптуе, — ва ўзаемадзеянні аўтара і чытацкай публікі». Айчынныя ж чытачы ў XVI стагоддзі былі выдатна абазнаныя ў мастацтве лацінскага вершавання, і творы на гэтай мове адпавядалі «гарызонту чакання» адукаваных беларусаў.

Заўважым, што пачатковы этап распаўсюджання латыні на землях Беларусі быў звязаны з канфесійным фактарам, з трывалым існаваннем на землях нашых продкаў асяродкаў рымска-каталіцкай веры. Аднак пачынаючы з сярэдзіны XVI стагоддзя паходню лацінскай асветы на Беларусі падтрымалі пратэстанты, пазней — уніяты. І калі ў творах праваслаўных пісьменнікаў акрэсленага перыяду мы сустракаем крытычныя выпады супраць «латины», то гэта пераважна таму, што ў праваслаўнай традыцыі было прынята называць каталікаў і ўніятаў «латынамі», «лацінікамі» або «рымянамі», кананічную літаратуру каталіцкага Касцёла — «кнігамі лацінскімі» і, нарэшце, саму каталіцкую веру — «лацінскай верай» або нават проста «лацінай». Яскравы доказ таму — назвы ананімных праваслаўных трактатаў антыўніяцкага характару «На богомерзкую, на поганую латину… сказание», а таксама «Послание до латын из их же книг». Аднак да лацінскай пісьмовай культуры як такой далёка не ўсе праваслаўныя дзеячы ставіліся варожа. Так, аўтар праваслаўнага трактата «*Lithos*, або камень з пращчы праўды…» (1644) пісаў: «Лацінская мова патрэбна, каб нашую бедную Русь не называлі дурной Руссю, прастакамі, і каб бедны русін на соймах, сойміках і судах разумеў, у чым справа, ды не траціў праз сваё няведанне лаціны (*bez łaciny płaci winy*); мовы грэцкая або славянская не могуць замяніць лацінскай, тым больш што кніг лацінскіх у галінах розных навук многа».

Змена ў эпоху Рэнесансу культурнага вектара з усходняга на заходні спрыяла працэсу адмірання сярэднявечных традыцый у духоўнай культуры ўсходніх славян. Сакральная царкоўнаславянская мова ў яе ізводах, якая выконвала ролю літаратурнай, прадуктыўна дапаўнялася сакральнай мовай каталіцкага Захаду — лацінскай. З фармальнага боку, лацінская мова была такою ж мёртваю, як і царкоўнаславянская. З функцыянальнага — атрымліваецца зусім іншае. Адукаваны заходнееўрапейскі чытач разам з лацінскай мовай засвойваў і мастацкую антычную спадчыну, спасцігаў духоўнае багацце культуры Старажытнай Грэцыі і Рыма. Літургічна-сакральнае прызначэнне лацінскай мовы дапаўняла агульнакультурны кантэкст, а не дамінавала ў ім. У творах жа на царкоўнаславянскай мове і на яе ізводах дамінавала рэлігійна-культавая тэматыка з яе службова-цырыманіяльным прызначэннем.

Творчасць на лацінскай мове ў эпоху Рэнесансу — не проста працяг сярэднявечнай традыцыі, — гэта выклік на спаборніцтва, спаборніцтва роўнае для беларуса, чэха, італьянца, француза. Па сваёй сутнасці элітарнае мастацкае слова на лацінскай мове патрабавала адпаведнай эрудыцыі, умення спалучыць прыродны талент з высокай адукаванасцю, а таксама пачуцця ўласнай годна-

сці з уменнем яе адстойваць. Дэкларатыўныя ўстаноўкі пісьменнікаў-новалаціністаў звычайна адпавядалі манеры іх паводзін, смеласці ў выбары тэматыкі, трактоўцы тых ці іншых падзей. Беларускі рэнесансны паэт, герой яго твораў, на шчасце, быў пазбаўлены вядомага комплексу «дзядзькі ў Вільні». Грамадзянін Еўропы, беларус XVI стагоддзя менш за ўсё клапаціўся пра тое, што пра яго нехта скажа ці падумае. Ён смела абіраў тэматыку для сваіх твораў, даваў свае трактоўкі і ў сваёй творчасці зыходзіў з аднаго пастулата — прыналежнасці да рыцарскага кодэкса гонару. Вось чаму старадаўні Рым для беларускага лацінамоўнага паэта Мікалая Гусоўскага — гэта перш за ўсё цэнтр хрысціянства, і пакланяецца паэт не Рыму і рымлянам, а тым святыням, што знаходзяцца ў вечным горадзе. Прызнанне ж паэта, што ён «няроўны рымскім пісьменнікам», напоўнена пазітыўным сэнсам: «няроўны» — значыць, лепшы, дасканалы, здольны расказаць праўду адукаваным жыхарам Захаду пра магутную цывілізацыю ў цэнтры Еўропы.

У адрозненне ад гуманістаў пачатку XVI стагоддзя, дзеячы Рэфармацыі, Контррэфармацыі і Контрправаслаўя зноў апынуліся ў стане карпаратыўнага творцы. І Сымон Будны, і Васіль Цяпінскі, і Грыгорый Хадкевіч, і Мялецій Сматрыцкі імкнуцца не толькі «просветить», але і выправіць чалавека, наставіць на праведную сцязю шляхам далучэння да хрысціянскіх ісцін. Пры гэтым ім недастаткова, каб чалавек быў хрысціянінам. Для выратавання душы ён павінен быць артадаксальным хрысціянінам-праваслаўным, хрысціянінам-каталікам або хрысціянінам-пратэстантам. Вось чаму не моўны аспект цяпер з'яўляецца першасным, а дыдактычна-тэалагічны. Мова — толькі сродак для дасягнення адпаведнай мэты. Так, Грыгорый Хадкевіч, падтрымліваючы выданне «Евангелля вучыцельнага» 1568 года, меў намер «перакласці гэтую кнігу на простую мову дзеля таго, каб зразумелі яе простыя людзі…» «Аднак **параілі мне людзі мудрыя**, — працягвае мецэнат, — [і папярэдзілі] што пры перакладзе з даўніх моў на новыя чыняцца шматлікія памылкі, якія і цяпер знаходзяць у новаперакладзеных кнігах. З тае прычыны і загадаў я надрукаваць гэтую кнігу, якая даўно была пісана, але не закрыта для кожнага, не цяжкая для зразумення і карысная для чытання». Як вынік заблудаўскае «Евангелле вучыцельнае», падрыхтаванае да друку Іванам Фёдаравым і Пятром Мсціслаўцам, было выдадзена на царкоўнаславянскай мове.

Беларускія культурныя дзеячы другой паловы XVI стагоддзя арыентуюцца не на народную мову (яна — ненавуковая, непрыдатная для навуковага пазнання свету), а на славянскую. Для іх выданні Скарыны, яго арыентацыя на нацыянальную мову не маюць богапазнавальнай вартасці. Скарынаўская традыцыя замяняецца кірыла-мефодзіеўскай. Успомнім хаця б звароты да гісторыі славянскіх перакладаў у прадмове Васіля Цяпінскага. Вось чаму большасць кірылічных твораў гэтага перыяду надрукавана не на старабеларускай, а на царкоўнаславянскай мове. Патранат беларускіх князёў, для якіх беларуская мова ў пачатку XVII стагоддзя не з'яўлялася самадастатковай каштоўнасцю, практычна адсутнічае ў дачыненні да беларускамоўных выданняў. «Простай», зразумелай мовай становіцца польская мова, а мова беларуская — «падлейшай». Тут мелася на ўвазе, што беларускай мовай карысталіся прадстаўнікі ніжэйшых саслоўяў. У літаратуры першай паловы XVI стагоддзя мы не сустракаем падобных сцвярджэнняў.

Адной з прычын звароту да польскай мовы (нават такіх вядомых беларускіх праваслаўных дзеячаў, як Лявонціій Карповіч або Мялецій Сматрыцкі) з'яўляецца мецэнацтва, апякунства вядомых саноўных асоб. Так, Лявонцій Карповіч у прысвячэнні Крыштафу Нарушэвічу, земскаму падскарбію, пісару і лоўчаму Вялікага Княства Літоўскага «Казанне на пахаванне Васіля Галіцына» (1618) піша: «З прычыны таго, што сваё сачыненне я прысвячаю майму вяльможнаму пану, мне давялося падаваць яго ў друк не на рускай, а на польскай мове, якая для Вашай міласці з'яўляецца больш прывычнай».

Польская мова ва ўмовах федэратыўнай Рэчы Паспалітай абедзвюх дзяржаў (Вялікага Княства Літоўскага і Польскай Кароны) паступова заваёўвала свае пазіцыі як мова літаратурная і размоўная.

Заклік Сымона Буднага да маладых князёў Радзівілаў, «каб вашы княжацкія міласці жадалі любіць мову таго народа, у якім даўнія продкі і іх княжацкія міласці паны бацькі вашых княжацкіх міласцей слаўна займаюць найвышэйшыя пасады» (прысвячэнне да «Катэхізіса» 1562 года), застаўся толькі сведчаннем гуманістычнай праграмы самога пісьменніка-рэфарматара, які лічыў, што развіццё нацыянальнай мовы і культуры звязана ў першую чаргу са стаўленнем да іх нацыянальнай эліты. Разам з тым, гэты заклік не адлюстроўваў рэальнай моўнай сітуацыі ў асяроддзі буйнейшых арыстакратаў дзяржавы. Віленскі кашталян Януш Радзівіл (1579—1620) пісаў (па-польску) свайму брату Крыштафу ў адным з лістоў: «Хоць я сам нарадзіўся літвінам і літвінам мне памерці давядзецца, аднак мы ў нашай Айчыне мусім карыстацца польскай мовай».

Адпаведную моўную сітуацыю ў даследаваннях па гісторыі айчыннай культуры звычайна акрэсліваюць як «апалячванне». Варта заўважыць, аднак, што вядомы загад пра забарону ўжывання беларускай мовы быў прыняты на Варшаўскім сойме толькі ў 1696 годзе, прычым забарона датычыла толькі сферы афіцыйнага справаводства. Ніхто не забараняў гэтай мовы, фактычна, на працягу ўсяго XVI і XVII стагоддзяў. Наадварот, у Статуце Вялікага Княства Літоўскага 1588 года (калі беларускія магнаты, захоўваючы сваю «літвінскасць», карысталіся пераважна польскай мовай) меўся спецыяльны пункт (раздзел 4, артыкул 1) адносна ўжывання ў справаводстве старабеларускай мовы: «Земскі пісар павінен пісаць усе дакументы, выпіскі і выклікі рускімі літарамі і рускімі словамі, а не іншай мовай і не іншымі словамі». Не было ніякай афіцыйнай забароны на ўжыванне беларускай мовы як сродку камунікацыі, як мовы прыгожага пісьменства. Аднак... Ужо Фёдар Еўлашоўскі, які жыў на мяжы XVI і XVII стагоддзяў, пісаў на «мяшанай» беларуска-польскай мове, характэрнай для сярэдняй і дробнай шляхты. Тым часам буйная шляхта і магнаты размаўлялі выключна па-польску.

Наўрад ці можна растлумачыць паступовае выцясненне старабеларускай мовы з літаратурнага ўжытку толькі працэсамі «акалічвання» і «апалячвання». Культурнае будаўніцтва не вычэрпвалася ў тыя часы (і не вычэрпваецца ў наш час) выданнем літаратуры на роднай мове. На пачатку XVII стагоддзя асаблівую вастрыню набывае праблема «навуковасці» слоўнай творчасці. Калі ў эпоху Кірыла і Мяфодзія было дастаткова, каб богаслужэнне адпраўлялася на славянскай мове, то цяпер пытанне ставілася намнога шырэй. Горкай праўдай прагучалі словы Пятра Скаргі, выказаныя ім у вышэй згаданай кнізе «Пра адзінства Касцёла Божага...» і звернутыя да праваслаўнага насельніцтва Рэчы Паспалітай абедзвюх дзяржаў: «Ніхто і ніколі не можа зрабіцца вучоным пры дапамозе славянскай мовы. Яе ўжо цяпер амаль што ніхто не разумее дасканала. Бо няма на свеце той нацыі, якая размаўляла б на ёй так, як напісана ў кнігах. Гэтая мова не мае таксама і ўжо не можа мець сваіх правілаў, граматык і слоўнікаў для перакладу. І з гэтай прычыны вашыя папы, калі хочуць зразумець штосьці па-славянску, павінны звяртацца за тлумачэннем да польскай мовы».

Задачу стварэння стройнай, навукова абгрунтаванай лінгвістычнай сістэмы ў дачыненні да свяшчэннай мовы праваслаўнай Царквы паставіў перад сабой Мялецій Сматрыцкі. Ён выдаў у 1618—1619 гадах граматыку царкоўнаславянскай мовы, якую Міхаіл Ламаносаў называў «вратами» сваёй вучонасці. Разам з тым, адпаведныя захады ўсходнеславянскіх вучоных сутыкаліся з асаблівай эстэтыка-тэасофскай дактрынай праваслаўя. Так, выдатны праваслаўны пісьменнік Іаан Вішанскі (каля 1550 — пасля 1620) пісаў: «Дзякуючы д'ябальскаму насланню славянская мова зрабілася прыкрай для многіх: яе не любяць і зневажаюць; але яна з'яўляецца надзвычай пладаноснай, дадзеная Богам чалавечай мовай менавіта таму, што няма на ёй ні граматыкі, ні рыторыкі, ні дыялектыкі, ні іншай падступнасці д'ябальскай пыхі. Гэтая мова прыводзіць да Бога простым старанным чытаннем без усялякай мудрагелістасці, яна стварае ў нас прастату і пакорлівасць... Ці не лепш табе вывучыць Часасловец, Псалтыр, Актоіх, Апостал, Евангелле і быць простым богаўгоднікам, а потым здабыць вечнае жыццё, чым спасцігнуць Арыстоцеля, Платона і лічыцца ў гэтым жыцці мудрым філосафам, а потым

адысці ў геену? Разваж сам: лепш ні аза не ведаць, аднак Хрыста дасягнуць».

З гэтай інвектывы лягчэй за ўсё зрабіць выснову, што сярэднявечныя ўсходнеславянскія кніжнікі пакутавалі на славутую адсталасць. Між тым у наш час агульнапрызнаная іх высокая адукаванасць, якая была ўласціва таксама Іаану Вішанскаму. Аднак, з яго пункта гледжання (ён цалкам згаджаецца з сярэднявечнай праваслаўнай аксіяматыкай), інтэлект і маральныя заслугі — розныя з'явы. Веды самі па сабе нічога не значаць, паколькі ад іх не залежыць выратаванне душы.

Царкоўнаславянская мова прызнавалася ў праваслаўным свеце карыснай і ўспрымалася як знак барацьбы за праваслаўе. Аднак у Вялікім Княстве Літоўскім сфера ўжывання гэтай мовы фактычна не выходзіла за межы царкоўнай літаратуры, у адрозненне ад Маскоўскай Русі, дзе ўплыў царкоўнаславянскай мовы адчуваўся ў самых розных жанрах літаратуры аж да пушкінскай эпохі. Пісьмовая культура Маскоўскай Русі не мела, фактычна, іншай альтэрнатывы, як паступова (прычым пакутліва) мадэрнізаваць царкоўнаславянскую мову, што, уласна кажучы, і рабілі Ламаносаў, Трэдзіякоўскі ды іншыя перадавыя дзеячы расійскай культуры.

Такі шлях культурнай эвалюцыі быў немагчымы для нашых продкаў. Уплыў ідэалогіі гуманізму, распаўсюджанне адукацыі еўрапейскага ўзору на землях Беларусі ў XVI—XVII стагоддзях паўплывалі на змяненне культурных і эстэтычных прыярытэтаў, ад якіх залежала сацыяльнае *status quo* грамадзяніна ў дзяржаве. Погляды, дэкляраваныя Іаанам Вішанскім і яго паслядоўнікамі, катэгарычна выключалі любую магчымасць інтэграцыі з інтэлектуальнай прасторай Заходняй Еўропы, а значыць, не маглі быць успрыняты большасцю тагачасных беларусаў. Следам за царкоўнаславянскай мовай праваслаўе ў каталіцкай сістэме вартасцей пачало ўспрымацца як пеяратыўная адзнака культурнасці. Шляхціц-русін саромеецца сваёй веры, сваіх звычаяў, увогуле свайго русінскага паходжання, якое «перашкаджае» яму заняць годнае месца ў грамадстве. Прывядзём сведчанне вядомага беларуска-ўкраінскага пісьменніка-палеміста, тэолага Касьяна Саковіча, якое ўказвае на генезіс гэтай праявы: «Дзеткі рускай шляхты, якія вучацца ў школах і акадэміях, у каталіцкіх калегіях, прывыкаюць да набажэнства рымскага Касцёла. Скончыўшы школу, адзін ідзе на вайсковую службу, другі на двор якога-небудзь пана-каталіка (бо ў рускага шляхціца ён ніякай службы не знойдзе), і тады ён павінен ісці разам з панам у Касцёл; таксама з таварышамі па вайсковай службе ён павінен быць разам і ў набажэнстве, і за абедзенным сталом. А потым, прызвычаіўшыся да рымскага набажэнства, ён адвыкне ад свайго рускага; звыш таго, хтосьці з іх, хто служыць пры двары або ў войску, ужо і не рады будзе, калі яго назавуць русінам, і тады ўжо з усёй неабходнасцю яму прыйдзецца застацца ў каталіцкім набажэнстве. А калі яшчэ пабярэцца з жонкай полькай, тады нават адрозненні ў постах і ў святах прымусяць яго да еднасці з жонкай у каталіцкай веры. Дапаможа яму ў гэтым і ксёндз, які прыйдзе наведаць сваю авечку, а ў той самы час, магчыма, і поп завітае. І вось ксёндз задасць якое-небудзь пытанне папу-прастаку, а поп не зможа на тое пытанне адказаць або спляце якое-небудзь глупства. Тады і поп, і пан адчуюць вялікі канфуз. І пасля гэтага пан, падумаўшы, застанецца каталікам. З ласкі Божай, ёсць вельмі многа прыкладаў таму».

Да канца XVII стагоддзя працэс «моўнага развядзення» жанраў айчыннага прыгожага пісьменства атрымаў лагічнае завяршэнне. Жывая гутарковая мова беларусаў у канцы XVII — пачатку XVIII стагоддзя гучала ў ананімных парадыйна-сатырычных вершах, у інтэрмедыях школьнага тэатра, народных батлеечных прадстаўленнях. Літаратурнае развіццё Рэчы Паспалітай абедзвюх дзяржаў у XVIII стагоддзі адзначана моцным уплывам літаратуры Заходняй Еўропы, што звязана было як з асаблівасцямі палітычных умоў, так і са спецыфікай культурнага развіцця краіны. Зварот да заходнееўрапейскага мастацтва ў XVIII стагоддзі стаў агульнай тэндэнцыяй культурнага развіцця ўсходнеславянскіх народаў. Працэс засваення мастацкай традыцыі Францыі, Італіі, Германіі і Англіі, які пачаўся яшчэ ў XVI стагоддзі, цяпер дасягае найвышэйшай ступені развіцця і асабліва яскрава прадстаўлены ў культуры прыдворнага тэатра на Беларусі.

Прыдворная драматургія, з’яўляючыся феноменам нацыянальнай культуры, існавала, тым не менш, у польскамоўнай абалонцы. Ва ўмовах тэатральнай «варварызацыі» каралеўскай і магнацкай сцэны, дзе акцёры размаўлялі па-французску і па-італьянску, п’есы на польскай мове варта разглядаць як прагрэсіўную мастацкую з’яву. Менавіта з такіх пазіцый належыць ацэньваць творчасць беларускіх драматургаў XVIII стагоддзя Францішкі Уршулі Радзівіл, Мацея Радзівіла, Міхала Казіміра Агінскага.

Іншым шляхам пайшлі некаторыя драматургі школьнага тэатра. У інтэрмедыях іх п’ес гучыць беларуская мова. Але з якімі мэтамі яна выкарыстоўвалася? Сяляне, носьбіты беларускай мовы, звычайна выступаюць у інтэрмедыях у пары са служыцелямі царквы, студэнтамі, чортам, якія размаўляюць на польскай мове. Звяртаючыся да сваіх суразмоўцаў, беларускамоўныя сяляне вельмі часта ўжываюць такія выразы, як «міласцівы пане», «мосць пане», «панічку». Відавочна, што аўтары інтэрмедый імкнуліся падкрэсліць не толькі і не столькі розум і дасціпнасць мужыка. Паслядоўна ў інтэрмедыях беларускамоўны персанаж выступае як асоба, што мае ніжэйшы сацыяльны і эстэтычны статус, паколькі яна даволі абмежавана ў сваіх жыццёвых запатрабаваннях.

Беларускамоўныя персанажы ў драматургіі XVIII стагоддзя займалі ніжэйшую прыступку ў мастацка-стылёвай іерархіі. Беларуская мова ўжывалася як сродак сацыяльнай маркіроўкі і, у адпаведнасці з ёю, дээстэтызацыі персанажаў. Арыентацыя на батлеечныя і інтэрмедыйныя традыцыі прывяла да замацавання камедыі як найбольш нацыянальна арыентаванага жанру беларускай драматургіі. Крытэрый беларускамоўнасці стаў вызначальнай мераю ідэйна-мастацкіх вартасцей п’есы. У адпаведнасці з гэтым крытэрыем кола персанажаў драматургічнага твора звычайна абмяжоўвалася прадстаўнікамі сялянскага або дробнашляхецкага асяроддзя.

У XIX стагоддзі элітарная літаратура працягвае сваё існаванне (і па-ранейшаму ў небеларускамоўнай абалонцы), але паступова, у сувязі з распаўсюджаннем народніцкіх ідэй, узмацненнем цікавасці да народнай культуры дэмакратычная літаратура пачынае свой шлях «праз церні да зор». Пісьменнікі XIX стагоддзя, якія нарадзіліся на Беларусі, не толькі праяўляюць цікавасць да беларускага фальклору, але і прадпрымаюць першыя спробы вершавання на беларускай мове (вершы Яна Чачота, Яна Баршчэўскага, Уладзіслава Сыракомлі). У канцы XIX стагоддзя некаторыя пісьменнікі-народнікі ажыццяўляюць спробу «ўшляхетніць» польскую мову за кошт беларускай і даказаць, што беларуская шляхта ставіцца з павагай да мовы свайго народа. Пра гэта яскрава сведчыць фрагмент з ужо згаданай вышэй аповесці «Полацкая шляхта» Вайніслава Савіча-Заблоцкага, у якім апісваецца, як маршалак двара ў маёнтку Арлаполь пан Мікіта Грамадны вітаў гасцей свайго пана Януша Паўла Арлалёта:

*Ледзь хто пад’язджаў — пан Грамадны ўжо ведаў, хто гэта, і пачынаў: «Слава Табе, паночку, калі не забыліся нас!», дадаваў тытул, ушанаванне, потым гаварыў пабеларуску: «Просім, просім! Чым хата багата, тым рада! Хлеб да соль да панава сэрца Вам, людзі!» і праводзіў госця ў сенцы.*

*На іншых дварах рэдка ўжывалася мова простага люду, але ў Арлаполі пан Грамадны вітаў на ёй гасцей і прамаўляў ад імя вялікага двара, як у даўнія вякі, і ўслед за ім не саромеліся гэтай мовы прыдворныя. «То каралеўскі язык, Літоўскага Двару гадка!», — казалі яны; і паны ў згодзе схілялі на гэта свае галовы.*

Падобнымі настроямі прасякнута і вядомая дэкларацыя Францішка Багушэвіча з яго прадмовы да «Дудкі беларускай», якую, аднак, часцей за ўсё зводзяць да канспектыўнага выказу: «мова наша такая ж людская, як і іншая якая». Цалкам жа адпаведны пасаж выглядае так: «Я сам калісь думаў, што мова наша — “мужыцкая” мова, і толькі таго! Але, паздароў Божа **добрых людцоў, як навучылі** мяне чытаць-пісаць, з той пары я шмат гдзе быў, шмат чаго відзеў і чытаў: і пераканаўся, што мова нашая ёсць такая ж людская і панская, як і французская, альбо нямецкая, альбо і іншая якая». Ці магчыма паверыць у тое, што Францішак Багушэвіч, які скончыў Віленскую гімназію і Нежынскі юрыдычны ліцэй, мог лічыць беларускую мову мужыцкай, мог не ведаць пра багатую літаратурную традыцыю на гэтай мове? Зразумела, не. Аднак многія канцэпцыі нацыяналь-

нага адраджэння пачыналіся з «нулявога варыянту»: для таго, каб распачаць працэсы нацыянальнага будаўніцтва, трэба «расчысціць пляцоўку» — адмовіцца ад любых, нават самых значных духоўных набыткаў мінуўшчыны, якія не звязаны з дэмакратычнай культурай, найперш — з дэмакратычнай літаратурай. На фоне «сівой» шматмоўнай элітарнай літаратуры яна, напісаная па-беларуску, выглядала даволі прывабна. Гэтаксама прывабна выглядала і беларуская мова, набываючы арэол гераічнай рамантыкі на старонках «Мужыцкай праўды» Кастуся Каліноўскага.

Пачынаючы з канца XIX стагоддзя ў беларускай літаратуры замацоўваецца прыярытэт героя з дэмакратычнага асяроддзя, пераважна — селяніна, вобраз якога і ўсё з ім звязанае (нават самыя дробныя побытавыя дэталі) дасягаюць найвышэйшай ступені эстэтызацыі («Я — мужык-беларус, пан сахі і касы»). Важна было паказаць нежыццяздольнасць старой арыстакратыі («Маліся ж, бабулька, да Бога, каб я панам ніколі не быў») і неактуальнасць старой культурнай традыцыі. Так, Янка Купала даводзіў у сваім вершы, які быў напісаны ў 1905—1907 гадах і меў характэрную назву «Я не паэта»:

Кожны край мае тых, што апяваюць,<br>Чым ёсць для народа ўпадак і хвала,<br>А беларусы нікога ж не маюць,<br>Няхай жа хоць будзе Янка Купала.

Успомнім тут уяўна «цемрашальскую» дэкларацыю Іаана Вішанскага. Ці насамрэч думаў Купала, што беларусы «нікога ж не маюць»: ні Францыска Скарыны, ні Мікалая Гусоўскага, ні Адама Міцкевіча? Зразумела, не. Але, сцвярджаючы сябе «беларускай песні ўладаром», ён меў на ўвазе і сябе канкрэтна, і паэта-адраджэнца ўвогуле — песняра адроджаных да новага жыцця беларусаў, якія гатовы былі заплаціць адмаўленнем ад традыцый элітарнай культуры за права «людзьмі звацца».

Адваротным бокам гэтай сітуацыі стала тое, на што звярнуў увагу Аляксей Пяткевіч: «Доўгі час многія духоўныя здабыткі беларусаў — у першую чаргу найбольш развітыя, прафесійна-мастацкія формы духоўнай дзейнасці — катэгарычна далучаліся да гісторыі культуры іншых народаў. Беларускай жа культуры пакідалася пераважна "побытавая" роля. Маўляў, яна, гэтая культура, не ўзвышалася над фальклорам, аберагаючы такім чынам свае традыцыйныя, прыгожыя, але мала развітыя каштоўнасці». На доўгі час беларуская паэзія, проза і драматургія адмежаваліся ад сюжэтаўтваральных калізій, звязаных з асобамі каралеўскага, вялікакняжацкага або магнацкага колаў. Фактычна да канца XX стагоддзя развіццё нацыянальнай драмы і трагедыі было штучна замаруджана: на сцэне нацыянальнага тэатра панавала бліскучая купалаўская «Паўлінка», якая, аднак, належыць да «нізкага» жанру камедыі; аўтарскае ж пазначэнне жанру «сцэны са шляхецкага жыцця» заклікана было яшчэ больш падкрэсліць сатырычную накіраванасць твора. Толькі дзякуючы тытанічным намаганням беларускіх гісторыкаў, філолагаў-адраджэнцаў другой паловы XX стагоддзя ў пісьменніцкім асяроддзі абудзілася цікавасць да нацыянальнай культурнай мінуўшчыны. З'явіліся творы Уладзіміра Караткевіча, Леаніда Дайнекі, Вольгі Іпатавай, Алеся Дударава, Уладзіміра Арлова, Сяргея Кавалёва, Андрэя Курэйчыка. Усе яны аднаўлялі страчаныя вектары культурнага развіцця і актуалізавалі знакавыя постаці айчыннай гісторыі.

Успомнім вядомае з антычных часоў выказванне: няма прарока ў сваёй Айчыне. Мудра, хаця і з доляй іроніі. Заўсёды былі, ёсць і будуць прарокі ў Айчыне. Трэба толькі іх заўважаць, а, заўважыўшы, з пільнасцю слухаць, імкнуцца зразумець і захаваць іх інтэлектуальны скарб, не наракаючы па прывычцы на загадкавых безназоўных ворагаў: «Яны ж як захочуць, так і зробяць…» Ніякі чужынец не зможа давесці да нас і нашых дзяцей урокі нашай гісторыі, сфарміраваць уяўленне пра самабытнасць і самадастатковасць нашай культуры. Не дапамогуць у гэтым і мала эфектыўныя спробы яе лакалізацыі «на скрыжаванні», «на памежжы», «на ўскрайку» або «паміж … і …». А «каб не ўмёрлі» (успамінаючы Багушэвіча), трэба, па-за «парадамі мудрых людзей» ды «навукаю добрых людцоў», мець не чужую, а сваю Бацькаўшчыну, ганарыцца яе героямі, шанаваць продкаў, якія не толькі на сваёй, але і на замежных мовах здольны былі заставацца сабою, пакідаючы нашчадкам свой неацэнны духоўны скарб.





# ЛАЎРЭН ЮРАГА. ЛІТАРАТУРНЫ ТВОР І МОВА

***Назваўшы Лаўрэна Юрагу «творцам гістарычных стылізацый», «Маладосць» не аднойчы гэтыя стылізацыі на сваіх старонках прадстаўляла. Таму нам падалося слушным, каб у нумары часопіса, прысвечаным мове, менавіта гэты аўтар падзяліўся сваімі думкамі наконт ролі мовы ў літаратурным творы: логіка вымагае задаваць такія пытанні чалавеку, які не ходзіць кругам па ўтаптаных сцежках «прыгожага пісьменства», але вышуквае, вынаходзіць і вырабляе з мастацкімі тэкстамі нешта адмысловае.***

**— Раскажы, як ты пачаў выкарыстоўваць у гістарычных апавяданнях адпаведна стылізаваную мову?**

— Мне здаецца, што нашыя меркаванні, а таксама рашэнні, якія мы прымаем у тых ці іншых жыццёвых сітуацыях — у тым ліку ў творчасці, — вельмі моцна залежаць ад перажытага досведу — станоўчага ці адмоўнага. У маім выпадку такім досведам стала няўдалая спроба чытання гістарычнага рамана аднаго беларускага аўтара. У гэтай кніжцы князь на першай старонцы яшчэ намагаўся прамаўляць ці то па-стараруску, ці то па-царкоўна-славянску, але праз некалькі абзацаў, стаміўшыся, кінуў высільвацца і загаварыў на «нармальнай» беларускай мове. Мяне гэта тады настолькі ўразіла, што жаданне чытаць пра прыгоды такога непаслядоўнага князя адразу ж знікла, і я закінуў гэтую кніжку ў далёкі кут. А для сябе вырашыў, што калі буду пісаць гістарычную прозу, то прыкладу намаганні, каб мае героі размаўлялі, прынамсі, увесь час на той самай мове, а ў ідэале гэтая мова павінна адпавядаць часу, які апісваецца. На жаль, мае апавяданні, напісаныя да згаданага моманту, не вылучаліся стылізаванай гаворкай.

Пазней я зразумеў, што мова гістарычных твораў таксама не павінна быць цалкам аўтэнтычнай, перацягнутай, скажам, з актаў XVI ці XVII стагоддзя, — бо сучасны чытач будзе з цяжкасцю «прадзірацца» праз яе «гушчары». У якасці прыкладу такога злоўжывання даўнімі словамі і актавымі формуламі магу назваць сваё апавяданне «Кашпар Эйсымонт». Задача аўтара гістарычнай прозы не ў пісанні на тагачаснай гаворцы — ён проста павінен так «прышчапіць» даўнія словы да галінкі сучаснай беларускай мовы, каб яны на ёй закрасавалі.

**— У рэдакцыйным партфелі «Маладосці» знаходзіцца адзін твой твор, мова якога хоць і выглядае таксама архаічнай, але, наколькі я ведаю, пачэрпнута не з гістарычных дакументаў — я маю на ўвазе аповесць «Меч маладзіковага промня». Ці не хацеў бы ты сказаць колькі слоў на гэты конт?**

— «Меч...» — гэта адна з першых маіх спроб сваіх сіл у літаратуры, а разам з тым — і ці не першы мой «экзэрцыз» у кірунку моўных эксперыментаў. Самае цікавае, што ў сваёй пачатковай версіі гэтая рэч пісалася па-руску. На пачатку 1990-х у Беларусі выходзіў рускамоўны часопіс фантастыкі «Фантокрим — МЕГА». Здаецца, у 1990-м ці ў 1991-м годзе яго рэдакцыя абвясціла конкурс на лепшае апавяданне пра зачараваны меч. Я даведаўся пра тое крыху са спазненнем, але ўсё ж вырашыў паўдзельнічаць, прыдумаў нейкі сюжэт і засеў за яго. Я тады

яшчэ толькі пачынаў пісаць, доўга разважаў над кожнай сцэнай, увесь час перарабляў паасобныя старонкі — ажно ўрэшце тэрмін конкурсу скончыўся, а апавяданне так і не было завершана. Паколькі кідаць пачатае не хацелася, а рускамоўным літаратарам я сябе не бачыў, ды змарнаванага часу было шкада, то найбольш слушным мне здалося перастварыць (падкрэслю — менавіта перастварыць, а не проста перакласці) напісанае па-беларуску.

Але акурат тут я сутыкнуўся з іншай праблемай: беларуская лексіка, прадстаўленая ў нарматыўным на той час акадэмічным слоўніку пад рэдакцыяй Кандрата Крапівы, ніякім чынам не надавалася для стварэння мастацкіх твораў у жанры *fantasy*! Бо мне трэба было, каб апавяданне мела посмак архаічнасці ці «казачнасці», а «крапівінскі» слоўнік дадаваў толькі прыпах канцыляршчыны. Давялося абкласціся літаратурай і пачаць вывучаць мову больш глыбока. У выніку я адабраў тры слоўнікі, якія здаліся мне найбольш прыдатнымі для такой працы: акадэмічны слоўнік 1953 года пад рэдакцыяй Якуба Коласа, «эміgranцкі» слоўнік Станкевіча і, нарэшце, слоўнік Ластоўскага, лексіка з якога, на маю думку, і надала аповесці «фэнтэзійнае» гучанне.

На жаль, вынік майго эксперымента быў дастаткова сумны: літаратурныя часопісы не хацелі друкаваць гэты твор ані тады, калі ён быў толькі скончаны, ані пасля пэўнай перапрацоўкі яго ў 2006 годзе. Сёння, аднак, «Маладосць» разглядае магчымасць апублікавання аповесці, і як аўтар я адчуваю сябе шчаслівым, што «Меч…», быць можа, убачыць свет. Хоць разам з тым, канешне, вельмі шкада, што ён не трапіў да чытача дваццаць гадоў таму, калі кніжны рынак Беларусі не быў яшчэ настолькі насычаны рускамоўнай фантастыкай як сёння.

**— А як увогуле здарылася, што ты — гарадскі хлопец, які вырас у рускамоўным асяроддзі — раптам усё ж пачаў гаварыць і пісаць па-беларуску?**

— У дзяцінстве, дый падлеткам, мне неяк усё не сядзелася на месцы, і я часта падарожнічаў у суседнія з Беларуссю рэспублікі колішняга СССР: на Украіну, дзе ў мяне сваякі, а таксама ў Літву — каб паглядзець на архітэктуру і наведаць музеі Вільні, Коўна ці Трок. Тады гэта было прасцей і танней, чым сёння: увесь час арганізоўваліся нейкія экскурсіі ці са школы, ці з «Інтэграла», дзе працавала мая маці. Можна было паехаць і самому: купіў квіток на «дызель» — і праз 3-4 гадзіны ты ўжо ў Вільні без аніякай візы.

Падчас такіх паездак ува мне заўсёды разгаралася «белая зайздрасць»: ва ўсіх людзей усё як у людзей — яны гавораць на сваёй мове, шануюць сваю даўніну, а мы, беларусы, нейкія няправільныя — размаўляем па-руску, паруйнавалі ледзь не ўсе цэрквы і касцёлы, у музеях паказваем не рыцарскі рыштунак ці старадрукі, а амаль выключна дасягненні сацыялізму! Натуральна ж, хацелася быць не горш за іншых (як сказаў класік, «людзьмі звацца»), і таму, прыехаўшы ў Кіеў ці Вільню, я намагаўся — хоць, праўда, з пераменным поспехам — гаварыць па-беларуску.

Ды яшчэ калі я вучыўся класе ў пятым, мая цётка — Ларыса Налівайка — пачала паволі «падсаджваць» мяне на беларускую літаратуру. Яна працавала ў адным з акадэмічных інстытутаў і, будучы ў курсе тагачаснага літаратурнага жыцця, падкідвала мне для чытання цікавыя навінкі — Караткевіча, Шамякіна... Так пакрысе мая беларушчына і выгадоўвалася.

Затое ўжо будучы старшакласнікамі, мы з сябрамі любілі шакіраваць сталічную грамадскасць, гучна размаўляючы на вуліцы ці ў транспарце па-беларуску. У той час сустрэць беларускамоўную «асобіну» ў Мінску па-за сценамі пэўных «рэзервацый» (гуманітарныя інстытуты Акадэміі навук, СП ці рэдакцыі некаторых часопісаў) было з’явай насамрэч незвычайнай, і наша гамонка найчасцей выклікала ў прысутных адну рэакцыю — аслупяненне. Часам, праўда, можна было сутыкнуцца з каментарамі кшталту «понаехали тут» (у сэнсе — з вёскі), але тады мы «дзеля прыколу» пераходзілі на літатурную рускую і са смехам назіралі, як выцягваецца твар у «беларусафоба». Толькі ўжо пасля войска я з вялікім здзіўленнем даведаўся, што насамрэч мы былі не адны такія — беларушчына прарастала ў сталіцы як трава скрозь асфальт...

**— Вяртаючыся да тэмы нашай размовы, хачу задаць табе пытанне наконт мовы тваіх «негістарычных» апавяданняў: яна ж таксама адрозніваецца ад мовы шэрагу іншых нашых аўтараў, і часам давол істотна. Як так сталася і чым гэта выклікана?**

— Мне заўсёды рэзаў слых і вока той варыянт беларускай мовы, які бярэ за ўзор мову рускую. Хацелася свайго сапраўднага, адметна беларускага. Для сябе я прыняў такое правіла: калі на маё вуха слова гучыць па-беларуску, я яго ўжываю — незалежна ад таго, ёсць яно ў «нарматыўным» слоўніку ці няма. А калі слова для мяне гучыць па-руску, я стараюся яго не ўжываць і адшукаць больш адпаведны варыянт. Хоць, натуральна, ёсць словы, якія гучаць падобна ў абедзвюх мовах, і на гэта таксама трэба зважаць. Галоўнае, каб яно нязмушана ўпісалася ў беларускамоўны тэкст.

А чым выклікана — адразу, мабыць, не скажаш. Відаць, тым, якія кніжкі я чытаў, і з якімі людзьмі кантактаваў. У студэнцкія часы я трапіў у асяродак, вядомы як «Талака». Суполку стварыла ў сярэдзіне 1980-х неабыякавая студэнцкая моладзь (гісторыкі, філолагі, мастакі), якая хацела дапамагаць у аднаўленні гістарычных помнікаў — адсюль і назва з алюзіяй да народнай традыцыі дабрачыннай суседскай працы.

Праводзіліся «Талакой» і пасяджэнні, на якіх агучваліся рэфераты па беларускай гісторыі, ладзіліся сустрэчы з цікавымі людзьмі ды культурныя імпрэзы. На гэтыя пасяджэнні збіраліся не толькі сябры суполкі, але і прадстаўнікі іншых моладзевых аб’яднанняў, і, так бы мовіць, проста «беспартыйныя». Кажучы сучаснай мовай, гэта была «беларуская тусоўка».

На «Талацэ» панаваў культ добрай беларускай мовы — той, не сапсаванай яшчэ «хрушчоўскай» рэформай. Там чыталіся кнігі і часопісы, якія ў БССР знаходзіліся «па-за законам» — напрыклад, заходнебеларускія і эміграцкія выданні. Большасць гэтай літаратуры на той час у Мінску дастаць было амаль немагчыма, бо яна знаходзілася пераважна ў спецсховах. Аднак моладзь адшукала выйсце: у прыватнасці, такія выданні можна было адносна вольна ўзяць у віленскіх або львоўскіх бібліятэках і зрабіць з іх копіі. Падтрымліваліся кантакты з віленскімі беларусамі — Юркам і Лявонам Луцкевічамі, Зоськай Верас; і шмат што для чытання бралася ў іх — памятаю, як студэнт тэатральна-мастацкага інстытута Алесь Костка цэлымі гадавікамі прывозіў ад Зоські Верас заходнебеларускія часопісы. Нейкім незразумелым чынам трапляў да нас нават выданні беларусаў ЗША і Канады: напрыклад, у таго ж Косткі я браў пачытаць «на адну ноч» «Гараватку» Кастуся Акулы.

Асабіста мне ў доступе да літаратуры дапамагала і мая бібліятэчная адукацыя: дзякуючы сяброўству з супрацоўнікам Урадавай бібліятэкі Валерам Герасімавым я атрымліваў магчымасць чытаць выдаваны Ластоўскім «Крывіч» і некаторыя іншыя беларускія перыёдыкі ды кнігі міжваеннага перыяду.

Для мяне і маіх сяброў менавіта такія выданні стваралі альтэрнатыву той зрусіфікаванай і найчасцей безаблічнай мове, якой тады характарызавалася беларуская савецкая літаратура; менавіта пад іх уплывам кшталтаваліся нашы погляды і светаўспрыманне. Натуральна, што калі крыху пазней я сам паспрабаваў пісаць мастацкія рэчы, то гэтыя ўплывы не маглі ў іх не праявіцца.

**— Не сакрэт, што ў нашай сітуацыі дзвюхмоўнасці грамадства пісьменнік мусіць рэгулярна звяртацца да руска-беларускіх слоўнікаў, бо «быціе кшталтуе свядомасць». Якімі слоўнікамі ты карыстаешся найчасцей?**

— Я аддаю перавагу згаданаму вышэй «коласаўскаму» слоўніку 1953 года, паколькі і з «крапівінскага», і з яго пазнейшых акадэмічных «рэінкарнацый» выкінута ў выніку палітычна абумоўленых рэформ шмат самабытных беларускіх слоў, у жыццёвасці якіх я неаднойчы пераконваўся. Вось, для прыкладу, слова «асадка», якое прысутнічае ў «коласаўскім» слоўніку, але ўжо адсутнічае ў «крапівінскім». Я чуў яго ў жывой гаворцы нават на зрусіфікаванай Міёршчыне. Дык ці варта пазбывацца слова, якім карыстаюцца дагэтуль? Таксама мне вельмі падабаецца выдадзены, на жаль, толькі некалькі гадоў таму, слоўнік Некрашэвіча і Байкова — у ім можна знайсці сапраўдныя дыяменты нашай мовы!

Увогуле ж, я лічу, што пры папаўненні ўласнага лексікона не варта абмяжоўвацца той ці іншай крыніцай. Часам цікавыя словы проста чуеш у размове або сустракаеш у нейкім артыкуле ці мастацкім творы. Я мяркую, што ў нашай сітуацыі нельга цурацца і наватвораў — канешне, пры ўмове, што яны адпавядаюць гукаваму ладу мовы. Гэтым шляхам пайшлі, напрыклад, сучасныя італьянскія лацiністы, якія, прагнучы ў нашыя дні размаўляць на старажытнай мове, мусілі падабраць або ўтварыць адпаведнікі для назвы сучасных з'яў і прадметаў. Зрэшты, гэтым шляхам пайшлі і нашы адраджэнцы як у 20-я, так і ў 80-я гады XX стагоддзя. Дарэчы, такім чынам было адшукана або падабрана шмат цікавых слоў, якія, баюся, не ўдасца знайсці ні ў вадным выдадзеным асобнай кнігай слоўніку: напрыклад, «спартовікі» на азначэнне красовак, «заплечнік» на азначэнне рукзака, «стужачнік» на азначэнне гальштука.

**— Пры гэтым, згадзіся, беларускім тэкстам часам вельмі пасуюць словы польскія і нават лацінскія — пачынаючы, напрыклад, з такога шырокаўжывальнага слова, як «бульба». Ці не так?**

— Ну, бульбу мы ўжо даўно засвоілі, стала спажываем, і сёння не кожны беларус здагадаецца пра лацінскае паходжанне гэтай назвы. Але калі казаць пра словы, што некалі прысутнічалі ў айчынных тэкстах, але ў сучаснай беларускай мове сустракаюцца рэдка, то яны выклікаюць актыўны супраціў рэдактараў, а часцяком і прафесійных мовазнаўцаў. Тым не менш паланізмы і лацінізмы — гэта памяць пра нашу гісторыю. Мы даволі працяглы час жылі ў адной дзяржаве з палякамі, і шэраг слоў, запазычаных з польскай, уліваюцца ў беларускі тэкст цалкам. Я мяркую, што ў гістарычнай прозе іх можна і трэба ўжываць самым шырокім чынам. Гэтаксама і лацінскае слова нярэдка пачувае сябе ў беларускім тэксце (і кантэксце) абсалютна нармальна, асабліва калі тэма твора — гістарычная. Бо і ў літаратуры XVI—XVII стагоддзяў (пакуль яшчэ існавала традыцыя пісання на старабеларускай мове), і ў тагачасных актах такія словы выступаюць абсалютна арганічна. Таму, на маю думку, няма ніякай падставы выключаць іх і з пісьменніцкага лексікону.

**— Ці пагодзішся ты са сцвярджэннем, што адказнасць за смак пісьменніцкай мовы ў значнай ступені ляжыць на рэдактарах: многія з іх любяць выкалупваць з булкі разыначкі, нават не падазраючы, што здзясняюць злачынства.**

— Так, на маю думку, у тым, што мова шмат якіх нашых твораў з'яўляецца шэрай і безаблічнай, часта вінаватыя менавіта рэдактары. Нярэдка так здараецца, што калі нават пісьменнік і ўжыве нейкае «незвычайнае» слова, то рэдактар у лепшых савецкіх традыцыях замяняе яго на «больш слоўнікавае». Галоўны аргумент «правільшчыкаў»: «такога слова няма ў слоўніку»! Пад тым азначэннем разумеецца толькі слоўнік «нарматыўны», ухвалены «наверсе». А калі ты пачынаеш пярэчыць і спасылацца на Ластоўскага, Насовіча ці Некрашэвіча з Байковым, то на цябе глядзяць як на вар'ята.

У выніку такога кшталту рэдагавання тэксты «выроўніваюцца», робяцца аднолькавымі, — і ўжо немагчыма адрозніць кнігу аднаго пісьменніка ад другога. Стылістычна быццам бы ўсё правільна і гладка, прычапіцца нібы няма да чаго, але мова атрымліваецца нейкая ўсярэдненая, без аўтарскай адметнасці, па-просту ніякая. У савецкія часы літаратарам, якія пісалі пра вёску, калі-нікалі ўдавалася вырывацца з рэдактарскіх цугляў дзякуючы «дыялектызмам» (у двукоссях, бо такім чынам ратаваліся адметныя словы, якіх не было ў тым самым «Слоўніку»). Сёння ж, у эпоху буяння «гарадской літаратуры», гэтая «адмазка» ўжо не спрацоўвае.

Але ж у кожнага народа ва ўсе часы літаратурную мову развівалі менавіта пісьменнікі. Нейкія словы яны пазычалі з чужынскіх гаворак, іншыя бралі са старажытных тэкстаў або складалі на сваю патрэбу наватворы. Так мова ўзбагачалася. Мова ж не можа — і не павінна — спыняцца ў сваім развіцці! А тым больш гэта датычыць мовы літаратурнай, якая сілкуецца намаганнямі мастакоў слова. Сёння можна пачуць нараканні на тое, што ў беларускай мове — у параўнанні з іншымі — замалы лексічны запас, закароткія сінанімічныя рады. Дык

***— Давай пагаворым пра слушнасць або няслушнасць ужывання некаторых слоў. Жыд, яўрэй, гебрай… Ніводнае з азначэнняў гэтага народа не павінна ўспрымацца як абраза. Але ж успрымаецца…***

*— Сапраўды, абсалютна слушна, што «жыд» — гэта даўняе беларускае слова, якое ўвесь час ужывалася нават і самімі прадстаўнікамі гэтага народу. Узгадайма, напрыклад, Самуэля Плаўніка, які ўвайшоў у гісторыю нашай літаратуры пад псеўданімам Змітрок Бядуля. Сваю кніжку «Жыды на Беларусі» ён выдаў, не маючы намеру ані самазневажацца, ані крыўдзіць сваіх аднакроўцаў, бо для яго гэта азначэнне не мела пеяратыўнага значэння. Слова ж «яўрэй» запазычана з рускай мовы, менавіта пад уплывам якой слова «жыд» пачало ўспрымацца ў нас як абразлівае.*

*Слова «гебрай», або «габрэй», традыцыйна выкарыстоўваецца для азначэння «Народу Ізраіля» біблейскіх часоў. Сёння яго часам ужываюць і як эўфемізм, замену для вышэйзгаданых назваў, — але, на маю думку, няслушна.*

*У сваёй літаратурнай працы я мушу выкарыстоўваць тую лексіку, якой вымагае гістарычная праўда — нават усведамляючы, што нехта можа яе ўспрыняць іначай, чым я таго хацеў бы. Сітуацыя няпростая, але, спадзяюся, што для таго «яўрэя» / «жыда», які будзе чытаць мае апавяданні, гэтае слова не стане перашкодай.*

адкуль жа брацца тым сінонімам, калі мы ўвесь час нешта выкрэсліваем, зводзячы да «адзінаправільнага» сярэднеарыфметычнага! Такім чынам можна стварыць толькі мову канцылярыі, але ніяк не мову мастацкай літаратуры.

**— Ты распавядаў, што, пішучы гістарычныя апавяданні, адмыслова дзеля гэтага выпісваў са старажытных тэкстаў даўнія словы. У сувязі з гэтым я не магу не запытаць: скажы, калі ласка, а ці кожны пісьменнік павінен мець уласны «творчы» слоўнік?**

— Я мусіў звярнуцца да складання такога слоўнічка папросту з прычыны адсутнасці падобнага выдання ў нашых кнігарнях. У нас ёсць некалькі слоўнікаў старабеларускай мовы, але для пісьменніка яны, на жаль, малакарысныя. Напрыклад, «Гістарычны слоўнік беларускай мовы» так яшчэ і не даведзены да канца (выйшаў, здаецца, толькі 32 том), астатнія ж — змяшчаюць больш спецыфічную лексіку (напрыклад, рэлігійную) і не ахопліваюць усяго масіву тагачаснай мовы. Але галоўны мінус наяўных слоўнікаў для літаратара ў тым, што старабеларуская лексіка ў іх тлумачыцца сучаснай, а не наадварот. Гэта, канешне, зручна для навукоўца, але пісьменніку для яго працы патрэбен адваротны кірунак перакладу.

Напрыклад, напісаў ты апавяданне — і раптам заўважаеш: вось гэтае слова «выпадае»! Занадта яно па-сучаснаму гучыць, або выбіваецца з кантэксту — карацей, штосьці трэба з ім рабіць. Канешне, калі чытаеш старадаўнія тэксты, то спакваля тагачаснай мове вучышся. Але ў галаве звычайна застаюцца толькі самыя прыгожыя або незвычайныя словы — усё ў памяці не ўтрымаеш. І выйсце з такой сітуацыі толькі такое: бярэш і перачытваеш зборнікі актаў у пошуках аднаго-адзінага слова, аж пакуль не знойдзеш. І вось тады, страціўшы некалькі дзён на падобныя вышукі, ты аднойчы сядаеш і пачынаеш метадычна выпісваць для сябе запар усё тое, што, на тваю думку, можа некалі спатрэбіцца — проста вось так, наўздагад. Праз нейкі час глядзіш — вось ужо слоўнічак і гатовы...

Што датычыць пытання пра «творчы» слоўнік для кожнага асобна ўзятага пісьменніка… Напэўна, такое пытанне і трэба скіроўваць да кожнага пісьменніка асобна. Насамрэч, гэта залежыць ад стылю працы: камусьці хапае наяўнага запасу слоў, а нехта наадварот — заўсёды ў пошуку. Увогуле ж, я думаю, што калі чалавек адчувае ў нечым патрэбу, то яму не шкада пакласці на гэта працу, а калі сіл не шкадуеш, то і вынік лепшы.



***Запісала Святлана ДЗЯНІСАВА, фота Юліі САВІЦКАЙ***

Нэлі КСЯНЕВІЧ



# БРЫДКАСЛОЎЕ

***З пакалення ў пакаленне перадаецца стаўленне да мату як да нечага непажаданага ў чалавечых стасунках. Чаму? Якую небяспеку нясуць у сабе гэтыя словы і словазлучэнні? І чаму такія жывучыя? Што даюць і што адбіраюць? Хачу выказаць на конт гэтага сваю асабістую думку.***

## КАДЗІРОЎКА

Як бы вы паставіліся да чалавека, які жадае вам смерці? А, можа, вам падабаюцца людзі, якія лічаць усіх прадажнымі? Ці вы адчуваеце сімпатыю да асоб, якія мараць узнагародзіць вас язвай страўніка? Правільна, у здаровым розуме і пры добрай памяці ніхто не пажадае мець нешта агульнае з асобамі, што нясуць смерць, хваробы і распусту. Тады чаму вы размаўляеце з брыдкасловамі?

Мат ужываецца бяздумна, нават не як разрадка. Для звязкі слоў, ад малога розуму. Можа, па гэтай прычыне так памаладзела імпатэнцыя? Можа, таму ў мужчын і жанчын сустракаюцца запаленні мочапалавых органаў? Можа, з-за гэтага існуе СНІД? Можа быць, ужо даразмаўляліся і самы час задумацца?

## АБЯРЭГ

У беларускай мове матных слоў практычна няма. Асабіста мне вядома толькі «халера ясная» — прамое ўказанне на хваробу, якой заканчваецца эмацыйная нястрыманасць. Аднак так ужо сумна размеркавана ў жыцці, што роднай мовай мы практычна не карыстаемся, а руская прапануе мат з павышанай павярховасцю. Пры жаданні можна адшукаць адпаведныя слоўнікі, убачыць палітыкаў і нават пісьменнікаў, якія брыдкасловяць, і шчырыя прыхільнікі ды заступнікі мату таксама знойдуцца. Так, непрыемнае напружанне такімі словамі сапраўды скідаецца, але пытанне ў тым, куды, на каго і з чым вяртаецца. Нашла бабуля бумеранг, цяпер не ведае, як выкінуць. Праклён (а мат, па сутнасці, ім з'яўляецца), даючы часовую палёгку, вяртаецца, каб прынесці раўнацэнную шкоду таму, хто выпусціў яго на волю. Ці можна ад гэтага засцерагчыся? Канешне. Прыдумайце сваю сістэму скідваць крыўды, бяскрыўдную, а яшчэ лепш — карысную.

А няхай табе будзе добра!
Поспехаў на тваю галаву!
Ды ідзіце вы ў свядомае жыццё!
Трах-цібі-дох!
Дай Бог табе розуму!

Давайце створым слоўнік моўных абярэгаў і заменім негатыўную кадзіроўку на пазітыўную.

## НАПРЫКАНЦЫ

Калі мая старэйшая дачка была яшчэ зусім маленькай, бабуля апранула яе ў лепшую сукеначку, сама таксама прыгожа апранулася, і пайшлі яны ў парк. Міма праязджаў грузавік і абліў цудоўную парачку з галавы да ног.

— Каб ты не даехаў, — выдыхнула мая мама, Аленкіна бабуля.

— Так! Няхай у яго бензін скончыцца! — зняла праклён мая мудрая пяцігадовая дачушка.

Дзеці, як і мы, адчуваюць напружанне і выпрабоўваюць адмоўныя эмоцыі, але цудоўна абыходзяцца звычайным лексіконам. Брыдкасловіць яны пачынаюць, калі жадаюць пераймаць нас, дарослых. Ці трэба, каб мы асацыіраваліся ў іх з нястрыманымі істэроідамі, якія праклінаюць людзей за свае ж памылкі? Можа быць, лепш нам навучыцца тлумачыць канфліктныя сітуацыі простым недахопам паліва?..

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

# ЧАМУ ЭЎТЭРПА ЎПАДАБАЛА БРЭСТ

***Было ў Лілії Рыгораўны прыгожае і высокае душэўнае памкненне: стварыць свята для роднага горада. І чвэрць стагоддзя таму яна арганізавала ў абласным цэнтры міжнародны фестываль, з якім не вытрымліваюць пароўнання многія падзеі музычнага жыцця сталіцы. Думаеце, перабольшваю? Значыць, вы ніколі не паглыбляліся ў класічную сферу сучаснага мастацтва, проста не цікавіліся, чым жыве вялікі свет музыкі.***

У гэтым вялікім свеце Лілію Батыраву ведаюць. Шчыра паважаюць. Вядомасць і павага прыйшлі да яе задоўга да таго, як яна атрымала званне заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь і за сваю падзвіжніцкую працу была ўзнагароджана спецыяльнай прэміяй Прэзідэнта Беларусі дзеячам культуры і мастацтва. Многія айчынныя і замежныя музыканты, чыноўнікі, брэсцкія меламаны даўно ведаюць і паважаюць Батыраву як Асобу. Унікальную і легендарную.

Калісьці ў адным са сваіх лаканічных эпісталярных экспромтаў, адрасаваных Лілії Рыгораўне, геніяльны піяніст XX стагоддзя, дасціпны і мудры Святаслаў Рыхтэр назваў яе «брэсцкай разбойніцай». Мабыць, з намёкам на валявую натуру і незалежны характар гэтай незвычайнай выкладчыцы фартэпіяна ў абласным музычным вучылішчы. Яна і сёння ўражвае сваёй мэтанакіраванасцю, моцным палемічным духам: варта паслухаць яе эмацыянальныя бескампрамісныя выступленні на пленумах праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў! Апантаная. Упартая. Пераборлівая. Неўтаймоўная. Дзівачка. Рамантычная максімалістка. Незаменная «маці фестывалю», без якой гэтае капрызліва-датклівае музычнае дзіця і не з'явілася б на свет, і не дажыло б да свайго 25-гадовага юбілею. І, мабыць, невыпадкова менавіта ёй давялося ў 1968-м сустракаць на чыгуначным вакзале самога Рыхтэра, які, вяртаючыся ў Маскву з еўрапейскіх гастролей, упершыню даваў канцэрт у незнаёмым для яго памежным горадзе над Бугам (потым ён прыязджаў у Брэст яшчэ 17 разоў). Менавіта Батыравай лёс падараваў доўгія сяброўскія стасункі з вялікім піяністам і яго жонкай, знанай спявачкай Нінай Дарліяк. Пакуль быў жывы Святаслаў Тэафілавіч, Лілія Рыгораўна атрымлівала ад яго цёплыя лісты: з Японіі, Аўстрыі, Турцыі, з расійскай сталіцы. Дзякуючы яму рызыкнула стварыць цуд...

Як вядома, Рыхтэру належала ідэя запачаткаваць у Маскве ў Музеі выяўленчых мастацтваў імя А. Пушкіна калядны фестываль класічнай музыкі «Снежаньскія музычныя вечары», што неўзабаве ператварыўся ў прыгожую зімовую традыцыю. Гэтая мастацкая з'ява настолькі ўразіла Батыраву, што яна — чытай вышэй! — пачала марыць пра свята класічнай музыкі міжнароднага ўзроўню і ў сваім горадзе. Вось і прыдумала для Брэста «Студзеньскія музычныя вечары». Таксама калядныя.

У гісторыі «Студзеньскіх музычных вечароў» — канцэрты з удзелам Святаслава Рыхтэра, Эміля Гілельса, Артура Эйзена, Марыі Біешу, Маквалы Касрашвілі, Тамары Мілашкінай, Алены Абразцовай, Таццяны Шмыгі, Аляксандры Пахмутавай, Віктара Траццякова, Уладзіміра Крайнева, Саўлюса Сандэцкіса, Уладзіміра Мініна і яго славутага камернага хору, Уладзіміра Співакова з «Виртуозами Москвы». А яшчэ — шматлікія візіты артыстаў з далёкага замежжа.

Дарэчы, і сёлета ў сімвалічным фестывальным небе луналі сцягі розных дзяржаў. На сцэне Брэсцкага акадэмічнага тэатра драмы і музыкі выступалі спевакі з Азербайджана, Грузіі, Балгарыі, Беларусі, Паўднёвай Карэі, Кітая, Польшчы, Румыніі, Расіі, Украіны, трыа італьянскіх тэнараў, Маладзёжны духавы аркестр з Венгрыі, украінскі камерны аркестр «Акадэмія», Квартэт саксафонаў школы музыкі і мастацтва з Літвы, піяністы,

якія прадстаўлялі Германію і ЗША, Беларусь і Літву, скрыпачы — прадстаўнікі Арменіі і Бельгіі, Грузіі і Расіі... Хтосьці з іх завітаў на берасцейскі фэст упершыню. Хтосьці ўжо як добры знаёмец — напрыклад, ганаровыя госці, «зоркі» сусветнай велічыні: скрыпачка Ліяна Ісакадзе, піяніст Барыс Блох. І гэты «парад зорак» проста немагчыма ўявіць без двух нацыянальных акадэмічных народных калектываў Беларусі: хору імя Г. Цітовіча на чале з Міхасём Дрынеўскім ды аркестра імя І. Жыновіча пад кіраўніцтвам Міхася Казінца, без даўняга заўсёдніка «Вечароў», выбітнага беларускага піяніста Ігара Алоўнікава, без маэстра Аляксандра Анісімава. Своеасаблівымі «трыма кітамі» музычных праграм успрымаліся Сімфанічны аркестр Брэсцкага акадэмічнага тэатра драмы і музыкі з дырыжорам Аляксандрам Сасноўскім, Камерны аркестр Брэсцкай абласной філармоніі пад кіраўніцтвам Аляксандра Мартыненкі, Сімфанічны аркестр Брэсцкага музычнага каледжа імя Р. Шырмы на чале з Людмілай Жабінскай. Асаблівы настрой у атмасферу канцэртаў уносіў вядучы Святаслаў Бэлза — народны артыст Расійскай Федэрацыі, знакамітая медыйная і свецкая персона, літаратуразнаўца, музычны крытык, публіцыст.

* * *

Зрэдчас прыязджаючы ў Мінск, Лілія Батырава максімальна загружае свой дзень арганізацыйнымі справамі. Часу для размоў амаль не застаецца. Ды ўсё ж аднойчы ўдалося нам пагутарыць. Я распытвала Лілію Рыгораўну, спрабуючы раскрыць і зразумець «сакрэтныя механізмы» яе дзейнасці, якая можа мець поспех толькі ў спрыяльным для культуры асяроддзі. А яна расказвала:

— *Брэст ужо даўным-даўно, да нараджэння фестывалю, быў у музычным сэнсе асвечаны горад. На мяжы 1950—60 гадоў, калі мы яшчэ не ведалі паняцця «майстар-клас», да нас прыязджалі прафесары з Масквы і праводзілі ў музычным вучылішчы адкрытыя ўрокі. Спакваля ў наша жыццё ўвайшлі канцэрты знакамітых гасцей. За кожным імем — вяха ў музыцы XX стагоддзя: піяністы Віктар Мяржанаў, Міхаіл Васкрасенскі, Дзмітрый Башкіраў, спевакі Галіна Пісарэнка, Уладзімір Атлантаў, Алена Абразцова, скрыпач Віктар Трацякоў, віяланчэлістка Наталля Гутман... Мяржанаў наведваў наш горад не толькі як педагог, але і як саліст. Ніна Дарляк, жонка Рыхтэра, выступала перад нашымі студэнтамі, займалася з імі вакалам. Сам Святаслаў Тэафілавіч урокі ў класе не праводзіў, але ж навучэнцы мелі магчымасць паслухаць ігру майстра. Вельмі актыўна ўплывалі на развіццё асветніцкага і педагагічнага працэсаў у нашым вучылішчы вядучыя беларускія кампазітары, спевакі, піяністы: Яўген Глебаў, Юрый Семяняка, Тамара Ніжнікава, Міхаіл Бергер, Валянціна Рахленка, Валерый Шацкі. Памятаю, Ірына Цвятаева прывозіла ў Брэст свайго лепшага вучня — маленькага хлопчыка Ігара Алоўнікава, якога цяпер усе ведаюць як выдатнага саліста, прафесара.*

Цяпер і Лілію Батыраву, якая працягвае выкладаць у Брэсцкім музычным каледжы імя Р. Шырмы (колішнім вучылішчы), ведаюць як старшыню Брэсцкага абласнога музычнага таварыства, стваральніцу і артдырэктара (мастацкага кіраўніка) міжнароднага фестывалю класічнай музыкі «Студзеньскія музычныя вечары». А калісьці...

— *Мы з мамай засталіся ў Брэсце пасля вайны (нарадзілася ж я ў Мінску). Экстэрнам скончыла школу, затым і музычнае вучылішча па класе фартэпіяна Яўгеніі Дабратворскай, вучаніцы знакамітай Есіпавай. Я працавала, таму і навучанне па спецыяльнасці працягвала ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі завочна. І зноў пашанцавала: педагогам была Валянціна Рахленка, чалавек надзвычай эрудзіраваны, не толькі з музычнай, але і з філалагічнай адукацыяй. Тады ў Брэст пачаў наведвацца з канцэртамі Міхаіл Васкрасенскі. А каб разнастаіць праграмы і выканаць штосьці з рэпертуару для фартэпіяна з аркестрам, прапанаваў мне сыграць з ім у чатыры рукі — выканаць другую партыю, «за аркестр». Вядома, я засумнявалася: правінцыйная піяністка, на сябе забылася, клопаты толькі пра вучняў. Але Валянціна Рахленка дала «дабро»... Потым і Рыхтэр параіў мне выступаць перад публікай... З гадамі ўсё, назапашанае падчас навучання, стасункаў з высокаадукаванымі і духоўна багатымі людзьмі, увасобілася ў справе майго жыцця. Я актыўна ўключылася ў дзейнасць народнага ўніверсітэта культуры, прадстаўляла яго як лепшы на ВДНГ у Маскве, дзе выступала з дакладам; потым пачалася праца ў музычным таварыстве, у праўленні Беларускага саюза музычных дзе-*

*ячаў. «Снежаньскія вечары», арганізаваныя Рыхтэрам, я наведвала штогод. І ўрэшце задумала фестываль у Брэсце.*

Між тым, публіка тут спешчаная мастацтвам высокай вартасці, таму трэба падтрымліваць сапраўды міжнародны ўзровень. План кожнага новага свята прадумваецца загадзя, ад фестывалю да фестывалю вядуцца перамовы з патэнцыяльнымі ўдзельнікамі, абмяркоўваюцца магчымыя варыянты канцэртных праграм... І ўрэшце накіды гэтых задачак з многімі невядомымі ператвараюцца ў афішы і маляўнічы буклет, зроблены паводле еўрапейскіх узораў: з прывітальнымі зваротамі ад афіцыйных асоб, спісам удзельнікаў аргкамітэта і спонсараў. І ў горад прыходзіць свята. І на нейкі час можна забыцца пра тыя праблемы, што гнятуць у будзённым жыцці.

— *На жаль, пры шчырым памкненні выглядаць цывілізаванай культурнай еўрапейскай краінай наша грамадства пакуль не прыйшло да адэкватных прыярытэтаў у галіне культурных каштоўнасцей. Прыкра ўсведамляць, што ў нас класіка змушана быць таннай або бясплатнай. Але ж класічнае мастацтва, якому трэба вучыцца з маленства літаральна да скону, і сабекошт якога, вядома ж, высокі, — гэта набытак на ўсё жыццё. А масавая эстрада, дзе сорак пяць разоў, часам без усялякага сэнсу, можна паўтараць адно і тое ж слова, не пакідаючы ў сваёй галаве нічога істотнага, — гэта хуткаплыннае насланнё. Прыкра, бо гэтак званыя зоркі за адно выступленне атрымліваюць столькі, колькі музыкант-педагог, мабыць, за месяц напружанай самаадданай працы. Ведаеце, што мяне трывожыць? Тое, што клапатлівая маці, не задумваючыся, выкладвае немалую суму, каб дзіця «адзначыла» заканчэнне навучальнага года ў рэстаране, замест таго, каб прапанаваць больш танны і адпаведны ўзросту адпачынак. І што адны і тыя ж, далёка не лепшага ўзору песні тыражуюцца ў школьных летніках, ва ўнівермагах, на папулярных радыёстанцыях, у транспарце і да т. п. І тое, што нашым дзецям не робяць «прышчэпкі» музыкай, як, напрыклад, у Японіі, Кітаі, Карэі, дзе з ранняга маленства навучаюць элементарным навыкам ігры на якімнебудзь народным інструменце, выхоўваюць музычны густ, вучаць слухаць і адрозніваць лепшыя ўзоры ў розных жанрах. Трывожыць, што публіку цягне туды, дзе лягчэй, а да разумення класікі трэба прыйсці праз душэўную працу, праз пэўныя намаганні. І тое, што класіка ў нашым грамадстве такая неабароненая...*

* * *

У фестываля адказныя арганізатары: Брэсцкі абласны выканаўчы камітэт, Міністэрства культуры Беларусі, Беларускі саюз музычных дзеячаў, Брэсцкі гарадскі выканаўчы камітэт, абласное музычнае таварыства. У яго салідныя спонсары, сярод якіх генеральны фундатар юбілейных «Студзеньскіх музычных вечароў» Брэсцкі абласны выканаўчы камітэт, а таксама СПААТ «Брэстгазаапарат», мясцовы лікёрагарэлачны завод, абласная філармонія, СТАА «Мабільныя ТэлеСістэмы», СП «Санта Брэмар», ААТ «Савушкін прадукт», шэраг банкаў, Музычнае таварыства імя Г. Вяняўскага (Польшча), Польскі інстытут у Мінску, іншыя ўстановы і суполкі. Да падрыхтоўкі фэсту спрычыніліся Дзяржаўны камітэт пагранвойскаў Рэспублікі Беларусь і Дзяржаўны мытны камітэт, пасольствы Беларусі ў шэрагу еўрапейскіх краін, Генеральнае консульства Рэспублікі Польшча ў Брэсце.

Сёлета — зрэшты, як і заўсёды, — удзельнікі фестывалю былі ў палоне паляўнічых на аўтографы і ў цэнтры ўвагі штодзённых берасцейскіх газет. На сцэне ім урачыста ўручалі памятныя дыпломы і арыгінальныя статуэткі. А гаспадыню свята, гераіню падзеі «знайшла» ўзнагарода з Масквы, з чым Лілію Батыраву павіншавалі артысты і гледачы. Яна атрымала Срэбны медаль і званне лаўрэата прэміі Фонду Ірыны Архіпавай — за велізарны ўнёсак ва ўмацаванне культурных сувязей паміж Расіяй і Рэспублікай Беларусь.

Што да Эўтэрпы... Нельга катэгарычна лічыць яе «персанальнай» музай-апякункай музыкі, хаця, паводле міфалогіі, Эўтэрпа не расставалася з флейтай і суправаджала лірычныя спевы. Музыкай жа сам Апалон апекаваўся, яна існавала над усім і паўсюль, і кожная з дзевяці антычных муз (а ў наш час і «дзясятая сястра» — кіно) міжволі да яе спрычынялася. Паспрабуйце ўявіць Тэрпсіхору, Эрату, Мельпамену, Талію, нават Кліа ці Уранію без музыкі! Ды, бадай, бліжэй за ўсіх да музычнага мастацтва апынулася тая вытанчаная істота, спадарожніца песень, чыё імя перакладаецца з грэчаскай мовы як «захапляльная», — Эўтэрпа. Ці яна Брэст зачаравала, ці Брэст яе прываражыў... Вось дык пытанне!


















**bjarozka@mail.ru
vk.com/club 34570145**



**● Верасок**

# Мяне кліча ў Полацк дарога...



*Сафійскі сабор.*

* * *

Мяне кліча ў Полацк дарога,
У край старадаўні крывіцкі,
Да гісторыі слаўнай, да Бога —
Да вытокаў хачу спрычыніцца.

Полацк стаў незабыўнай калыскай,
Дзе ядналіся нашыя землі.
Палачане па-таварыску
Баранілі Рубон, як умелі.

Полацк наш — Ізяслаў і Рагнеда,
Рагвалод, Брачыслаў, Усяслаў...
Свет варожы, пыхлівы зведаў:
Полацк — князь-горад, а не васал!

Еўфрасіння тут розумам светлым
Пра навукі і веру дбала,
Ў гэтым краі святым, запаветным
Нам святыні Хрыста будавала.

А пры Грунвальдзе полк палачанаў
Ваярскай адзначыўся славай.
Крыжак быў надоўга прагнаны
Гэтай бітвай няўмольнай, крывавай.

Следам — трыумф Скарыны:
Кракаў, Падуя, Прага.
Першы друкар краіны
Кнігай здабыў павагу!

Нечакана сусед усходні
Прыпыніўся ля нашага броду.
Зноў узяцца за меч і паходню
Давялося майму народу.

Верхні горад. Святая Сафія.
Гэтак сэрца заходзіцца жалем...
З тваім лёсам ці звыкліся тыя,
Хто рупліва цябе будавалі?!





*Горад Полацк.*



*Барысаў камень.*

Узнялася ты птушкаю смелай
Да аблокаў у сіняе неба.
Не даўмелася — чыстая, белая, —
Што суседа баяцца патрэбна.

Пажадаў непрыяцель-чужынец
Сплямяжыць цябе, зруйнаваць!
Ён лез на царкоўны дзядзінец,
Каб славу тваю растаптаць.

Трывожныя гукі аргана
Напомняць жахлівую дату:
Палеглі ад шабляў тырана
Тут шэсць святароў-уніятаў.

Ды, дзякаваць Богу й нябёсам,
Змаглі адрадзіць горад людзі.
Здабыўшы шчаслівага лёсу,
Наш Полацк стаяць вечна будзе!

***Кацярына МАХНАЧ,***
***17 гадоў, в. Сыраваткі,***
***Смаргонскі р-н,***
***фота Рагнеда МАЛАХОЎСКАГА.***

# Конкурс Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь

***«Бярозка» з радасцю стала пляцоўкай для конкурсу Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь на лепшы літаратурны твор сярод падлеткаў. Такім чынам, вітаем пераможцу! Чытаем пераможцу!***

**Узроставая група 13-16 гадоў**

## Не бойцеся быць добрымі

Дзевяцікласніца Маша лічыла сябе чалавекам з трывалымі маральнымі жыццёвымі перакананнямі. Спакойная, ураўнаважаная, яе немагчыма было ўбачыць нервовай і злоснай.

Гэты школьны дзень быў самым звычайным, будзённым, пакуль не абвясцілі пра новенькую.

Юліяна (менавіта так яе звалі) прыехала з іншага горада. У Машыным класе прызвычаіліся да новенькіх, таму прыход Юліяны не выклікаў здзіўлення. Па прынцыпе класнай кіраўніцы, усе навапрыбылыя праходзілі курс азнаямлення са школай менавіта ў Машы — і Юліяна не стала выключэннем.

Маша сядзела з двоечнікам Эдуардам за перадапошняй партай. Чамусьці настаўнікі ўсіх часоў і народаў імкнуцца пасадзіць нядбалага вучня з выдатніцай-дзяўчынкай. Яны наіўна мяркуюць, што гэта станоўча паўздзейнічае на ацэнкі двоечніка. Аднак досвед шматлікіх пакаленняў даказвае, што гэтая спроба накіраваць на шлях ісціны прыводзіць толькі да заўсёднага шыпення выдатніцы пры запуску чарговага кавалка крэйды ў акно. І ні да чаго канкрэтнага не прыводзіць: двоечнік — ён нязменны двоечнік!

Такім чынам, Машу, якая сядзела з Эдуардам, хацелі пасадзіць з новенькай, але ж... двоечнік і выдатніца — трывалая пара. З новенькай не пасадзілі! Ёй усяго толькі даручылі паказаць сталоўку, бібліятэку і прыблізна пазнаёміць з характарам настаўнікаў.

Маша была такой дзяўчынкай, якая сумленна выконвала ўсе заданні, але мала з кім сябравала. Большасць аднакласнікаў былі для яе проста аднакласнікамі. Такая натура ў гэтай дзяўчынкі.

Пасля першага ўрока Юліяна падышла да Машы.

— Прывітанне!

— Прывітанне, я Маша.

— Скажы, калі ласка, а ў колькі адкрываецца бліжэйшая бібліятэка? — пацікавілася Юліяна.

— Школьная падыдзе? — усміхнулася Маша.

— Не-не, я маю на ўвазе гарадскую.

— Абед у іх заканчваецца а трэцяй. Адразу ж пасля шостага ўрока. Я магу цябе правесці, калі трэба.

Юліяна расквітнела і рассыпалася ўдзячнасцямі:

— Дзякуй вялікі, ты мне вельмі дапамагла!

— Ды няма за што... — здзіўлена паціснула плячамі Маша. У гэтай новенькай адчувалася нешта дзіўнае. Гэтага не было ў іншых знаёмых дзяўчынак. Шчырая — Машы здавалася, нават занадта — дабрыня была ў кожным слове, кожным руху.

Званок з шостага ўрока! І дзяўчынкі накіраваліся ў бібліятэку, якая знаходзілася ў дзесяці хвілінах хады ад школы.

Па дарозе Юліяна распавядала пра сябе. У яе былі дзве сястры і малодшы брат. А яшчэ котка і тры кацяняткі. Юліяна любіла шакалад і салодкую гарбату. Маша ж у сваю чаргу распавяла пра сваю сям'ю. У бацькоў яна адна. Праўда, ёсць яшчэ такса Луіза Яўгенаўна. Яўгенаўнай яна была з-за сваёй важнасці, нягледзячы на нязначныя памеры.

Была зіма, снег падаў буйнымі камякамі і рыпеў пад нагамі. Дзяўчынкі зайшлі ў краму пагрэцца і набыць чаго-небудзь цёплага. Юліяна, сумна зазірнуўшы ў кашалёк, на апошнія грошы набыла два гарачыя піражкі. Выйшлі на вуліцу. Каля крамы пабачылі старога. Сядзеў ён на бардзюры, пакрытым ледзяной скарынкай, і чагосьці чакаў.

— Увесь час тут сядзіць, — незадаволена вымавіла пенсіянерка, што праходзіла міма. — Толькі замінае тут.

Вочы Юліяны сталі вялікімі:

— Як гэта замінае?

— Ну, вось так і замінае! Няма чаго тут канькаць. Лепш бы на працу ўладкаваўся! Гультаі яны ўсе!

Юліяна, здавалася, зарумзае, але яна ўзяла сябе ў рукі і падышла да старога. Маша стаяла ўбаку і моўчкі назірала за дзіўнай для яе сітуацыяй. Усе яе знаёмыя грэбавалі набліжацца да такіх людзей — не тое, што размаўляць!

— Скажыце, Вам патрэбна дапамога?

Стары моўчкі ўзняў вочы на дзяўчыну. Юліяна працягнула піражкі.

— Вось, вазьміце, — сказала яна ціха.

Юліяна адышла, і яны з Машай працягнулі свой шлях. Маша азірнулася: ён усё так жа сядзеў.

Для Марыі ўсё астатняе было як у сне. Яна не запомніла, як прыйшла дахаты. Як зрабіла ўрокі. Як паглядзела фільм. Усе думкі былі заняты гэтым поглядам выпадковага старога. Добрым, удзячным і такім пакутлівым. А, можа, зусім невыпадковага старога? Бо ў свеце няма нічога выпадковага. Не трапіцца выпадкова кніга, невыпадкова выцягнецца на іспыце менавіта вывучаны білет, невыпадкова сыйдзе з рэяк трамвай і народзіцца чалавек. Тут усё грае сваю ролю. Тут свая сістэма. Гэта сістэма сустрэч, сістэма слоў. Усё пакідае свой след. І хто ведае, што зробіць Маша пасля бяссоннай ночы разважанняў. Магчыма, яна знойдзе старое паліто бацькі і падорыць старому, а, можа, яна замест бліскучай кар'еры юрыста арганізуе фонд дапамогі бедным. Адно мы ведаем дакладна: гэты выпадак не прайшоў без следу. Яе перакананні зменяцца.

Не бойцеся быць добрымі.

*Марына ЧЫЧАЕВА, Мінск*

# Яны не разумеюць!



Яшчэ адзін кубак зялёнай гарбаты з бергамотам — і Лія, як заўсёды, працягне размову на адну з улюбёных ёю тэм: у яе інстытуце мастацтва за апошнія паўгода было праведзена безліч цікавых майстар-класаў, пра якія яна распавядала з вялікім захапленнем.

Вечарэла. І дзяўчына ведала, што сёння ўжо можна нікуды не спяшацца і дазволіць сабе пагаварыць па душах з сяброўкай. Лія любіла гэтыя рэдкія вечарыны і павольныя размовы. Гаварыла яна заўсёды многа, але толькі пра тое, у чым сама была ўпэўнена і пераканана: пра мастацтва і яго ролю ў жыцці грамадства, свае шматпакутныя адносіны з Арцёмам і людзьмі, з якімі ёй прыходзілася кожны дзень мець зносіны. І шмат чаго іншага, да болю знаёмага...

Лія любіла жывапіс і, як многія дзяўчаты, была вельмі тонкай і трошкі нервовай натурай. Яна верыла ў ідэалы, адмовілася ад мяса і нават перайшла на штучнае футра.

Тым часам у тэлевізары, які выконваў ролю фону, замільгаў чарговы рэкламны ролік.

— Зноў гэтая рэклама! — з абурэннем прабубнела сяброўка. — За вечар ужо ў пяты раз паўтараюць адно і тое ж. Котачкі, сабачкі! Дапамажыце бяздомным жывёлам! Прытулак для жывёл яны, бачыце, вырашылі зрабіць... Толькі грошы і цягнуць з простых людзей гэтыя «валанцёры»! Колькі можна?!

— Няўжо табе не шкада гэтых безабаронных істот?! — у тую ж хвіліну адрэагавала Лія. Колькі ім давялося зведаць пакут з-за чалавека... Мала таго, што іх выкінулі, як непатрэбную рэч, дык з іх так званыя «людзі» робяць шапкі, кажушкі... А колькі ўсяго таго, пра што мы не ведаем і не жадаем ведаць!..

— А я і забылася з кім гавару! — насмешліва сказала сяброўка. Ты ж у нас сама святасць: абаронца жывёл, вось ужо і вегетарыянкай стала. Не, кажы што хочаш, а я без мяса не магу! Жывёлы для гэтага і патрэбныя, каб іх есці. Эх, Лілёк-Лілёк, ведаю я вас вегетарыянцаў-абаронцаў... Паглядзім, наколькі цябе хопіць, добрая ты наша душа!



— Паўгода ўжо не ем мяса… — з крыўдай адказала Лія. А жывёл я люблю… Як іх можна не любіць?!

Лія выйшла ад сяброўкі і накіравалася да прыпынку.

«Які сёння цудоўны вечар!» — яна любавалася ўсім, што яе акаляла. Восеньскае лісце саграваала сабой шэрую халодную зямлю, а ліхтары адкрывалі вачам схаваны ў цемры свет. І гэта было так прыгожа...

У такія моманты ёй было яшчэ больш шкада сваю сяброўку і падобных да яе:

«Бедныя! Яны не разумеюць, яны не ўмеюць любіць і цаніць “моманты”... Простыя і цудоўныя “моманты”!»

Нечакана каля Ліі прабег захутаны ў цёплае паліто хлопчык. Ён трымаў у руках маленькага шчанюка. Лія павярнулася. Яна заўсёды, па нейкай непадуладнай звычцы, глядзела ўслед таму, што ёй было цікава ці незразумела.

Да хлопчыка падбеглі яго бацькі і, схапіўшы за плечы, сілай спынілі яго. Сур’ёзнасць таго, што адбывалася ў той момант, была бачная па іх міміцы, што на нейкі час «упрыгожыла» твары гэтых дарослых.

Лія стала сведкай нябачнай для іншых дзеі: «Не забірайце яго! Можна, я яго пакіну? Ён жа зусім адзін… Мама! Тата! Што ж з ім будзе?»

Але дарослыя вырвалі шчанюка з рук свайго дзіцяці і пакінулі маленькае бездапаможнае чорна-белае цельца на асфальце. На што шчанюк толькі ціха цяўкнуў.

«Не хвалюйся, мой даражэнькі! — казала яму маці. — З ім нічога не здарыцца. Вось убачыш. Яго хто-небудзь забярэ… Хто-небудзь абавязкова яго забярэ».

«Я ў гэтым упэўнены! — неяк недарэчна дадаў бацька. — А ў нас яму будзе дрэнна. У нас жа котка дома!»

І не даўшы апамятацца свайму сыну, падхапілі яго за абедзве рукі і павялі з сабой. Мабыць, дадому да коткі.

Лія машынальна азірнулася па баках, але нікога побач не было. На дварэ зусім позна. На прыпынку засталіся толькі двое: яна і маленькі шчанюк. Лія разгублена паглядзела яму ў вочы.

«Як жа рэзка пахаладала!»

Ёй успомнілася апошняя размова з сяброўкай…

«Яны не разумеюць».

І тут пад’ехаў аўтобус.

Побач з прыпынкам ляжаў чорна-белы нікому не патрэбны клубочак, які чагосьці чакаў… Але чаго? Ён і сам не разумеў.

*Вікторыя* ***МАРТЫНОВІЧ***

# Руплівая Воля!



***Бываюць жа такія неверагодныя школьнікі! Дванаццацігадовая Вольга Казлова з мінскай гімназіі № 10, якую сябры называюць Воля, — стыпендыятка спецыяльнага фонду Прэзідэнта! Іграе на цымбалах. Вельмі руплівая дзяўчынка! Занятасць Волі ўражвае: гімназія (дзе паспявае вучыцца на 8, 9, 10), індывідуальныя заняткі ігры на цымбалах, сальфеджыа, эстрадныя спевы ды два ансамблі — «Купалінка» і «Васількі».***

— Цяжка, канешне, але я ўсё паспяваю, — кажа Воля. — Спачатку прыходжу са школы ў шэсць гадзін ці ў чатыры, іграю на цымбалах, каб суседзям позна ўвечары не замінаць, а потым раблю астатнія ўрокі.

**Ларыса Янковіч**, выкладчыца Вольгі Казловай, кіраўніца ўзорнага ансамбля «Васількі», а таксама гімназічнай філармоніі «Ліра», з імпэтам і зацікаўленасцю бярэ ўдзел у нашай гутарцы:

— Якасць выканання любога твора можа быць рознай. І Воля хоча навучыцца іграць на цымбалах як мага больш выразна, хоча наблізіцца да дасканаласці. Для гэтага патрэбны не толькі здольнасці, але і вялікае жаданне, разуменне таго, да чаго трэба імкнуцца. Усё гэта патрабуе ад дзіцяці добрай арганізацыі свайго часу. Нават мужнасці! Волі, як любому чалавеку, хочацца адпачыць, пачытаць кнігу, кудысьці схадзіць, проста расслабіцца. Але зусім нячаста яна можа жыць так, як хоча. Увесь свой час Воля адказна плануе і падпарадкоўваецца не жаданням, а розуму. Менавіта такія людзі дасягаюць пэўнага поспеху ў жыцці: людзі, якія могуць «наступіць на горла» ўласным жаданням і ляноце.

 

**— Воля, а сам працэс ігры на цымбалах цябе захапляе?**

— Так! І іграць падабаецца, і чытаць па нотах — вельмі цікава. А яшчэ я лічу, што кожны музычны твор — гэта свая вялікая гісторыя!

**Ларыса Аляксандраўна:**

— Імкнуся абуджаць у дзяцей творчую фантазію. Праз асацыяцыі з прыроднымі з'явамі, з пачуццямі чалавека. Чым меншае дзіця, тым больш асацыяцый са светам жывёл. Музыка — самы складаны від мастацтва. Каб зразумець, чаму менавіта так у творы, уключаеш сваю фантазію. Музыку трэба вучыцца асэнсоўваць, праз розум прапускаць. Дзеці, якія займаюцца музыкай, вельмі добра развіваюць сферу пачуццяў. Яны разумеюць, што такое сум, самота, радасць, эйфарыя.

— Спачатку тата і мама запісалі мяне на фартэпіяна. Але я пачала плакаць, і мяне перавялі на цымбалы, пра якія я марыла, — кажа Воля.

Бясспрэчна, цікавае жыццё ў дванаццацігадовай Вольгі Казловай! Конкурсы, гастролі.

**Воля:**

— Я прымала ўдзел у розных конкурсах. І мне гэта вельмі падабаецца! Кожны чалавек, які знаходзіцца ў пакоі, цябе слухае — прыемна! Калі ты іграеш перад людзьмі, то павінен лічыць, што ўсе прыйшлі, каб цябе паслухаць. Тады настрой уздымаецца — сыграеш добра!

**— Стыпендыятка спецыяльнага фонду Прэзідэнта! Як атрымалася?**

**Ларыса Аляксандраўна:**

— У мінулым годзе праходзіў конкурс, што носіць імя нашага праслаўленага цымбаліста, прафесара Іосіфа Жыновіча. Конкурс гэты праходзіў у тры этапы. Воля заняла летась першае месца ў горадзе, таму яе паслалі на рэспубліканскі конкурс, які праходзіў у Лідзе. І прыехалі туды лепшыя з лепшых. Усе дзеці з абласных гарадоў і Мінска, якія занялі першае месца. Там было цяжка хоць якую-небудзь перамогу атрымаць: удзельнікаў шмат, усе таленавітыя. І вось у Волі атрымалася другое месца заняць. Гэта сапраўды вельмі складаны конкурс, таму пераможцы і становяцца стыпендыятамі спецыяльнага фонду





Прэзідэнта. Прэзідэнт асабіста ўручае прэміі.

Не так даўно Воля з Ларысай Аляксандраўнай гастралявалі ў Нідэрландах.

**Воля:**

— Там было вельмі хораша. Добрыя людзі. Мы давалі канцэрты штодзень. Бывала, па два канцэрты на дзень. У каледжы, царкве выступалі, у дамах састарэлых.

**Ларыса Аляксандраўна:**

— Нас уразіла, у якіх добрых умовах жывуць у дамах састарэлых, як клапатліва даглядаюць старых! Нас слухалі з вялікай увагай, пляскалі ў ладкі з усіх сваіх не вельмі вялікіх сіл.

**— Воля, і не надакучвае табе музыка?**

— Не. Калі стамляюся, маці проста кажа: «Усё, адпачывай!» Але пакуль я не скончу тое, што пачала, не пайду адпачываць!

**— А як праходзяць твае выхадныя дні?**

— У суботу раблю хатнія заданні, потым іграю на цымбалах. А ў нядзелю ўдзень адпачываю, а ўвечары зноў іграю на цымбалах.

**— Добра вучышся ў школе?**

— Летась амаль выдатніцай была. Але ў гэтым годзе, у сёмым класе, ужо васьмёркі ёсць. На кожным уроку я стараюся, добра ўсё рыхтую. Калі атрымліваю дрэнную адзнаку, то імкнуся яе выправіць. Мой фотаздымак вісіць на дошцы гонару ў школе!

**— Ці збіраешся ў будучым паступаць у Акадэмію музыкі, напрыклад?**

— Не ведаю. Але адно дакладна ведаю: вельмі, вельмі люблю музыку!

*Напрыканцы Воля і Ларыса Аляксандраўна прадэманстравалі госцю з часопіса свой талент — сыгралі на цымбалах «Купалінку». Любоў, захапленне і прыгажосць у рухах музыкаў! Ды асаблівая магія ў чароўным гучанні народнага інструмента.*

***Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ***

**Захапленне маю**

# Я люблю спорт!

***Спорт! Для некаторых гэта лад жыцця. Фізічная нагрузка дапамагае палепшыць працу сэрца, пазбавіцца ад лішняй вагі. Нашыя звязкі і мышцы становяцца больш моцнымі, здаровымі, менш схільнымі да траўм. Спорт — гэта цэлы свет, у якім жывуць баксёры, плывуны, гімнасты, атлеты — можна пералічваць да бясконцасці. І ў кожнага прадстаўніка гэтага свету свае традыцыі, свае правілы і героі. Пры занятках спортам фізічны і духоўны пачатак чалавека пачынаюць утвараць гармонію.***

Некаторыя дзеці пачынаюць займацца спортам у раннім узросце, яны дасягаюць шмат чаго, але для гэтага ўпарта працуюць, аддаюць увесь свой вольны час трэніроўкам. Часам юныя спартсмены плачуць ад стомы, аднак ідуць наперад да сваёй мэты і дасягаюць яе. Становяцца майстрамі спорту або кандыдатамі. Спорт робіць нас моцнымі духам, выпрацоўвае ўменне пераадольваць цяжкасці. А яшчэ: курэнне, алкаголь, наркотыкі і спорт — рэчы несумяшчальныя.

Гісторыя спорту пачалася вельмі даўно. Яшчэ з часоў Старажытнай Грэцыі праводзіліся алімпійскія гульні, прызам за перамогу ў якіх быў лаўровы вянок. Цяпер прызамі з'яўляюцца кубкі, медалі і граматы. Паступова гэтая сфера чалавечай дзейнасці пачала ператварацца ў від адпачынку і цяпер даступная ўсім. З развіццём спартыўнай індустрыі выступленні спартсменаў становяцца ўсё больш папулярнымі, і многія з іх атрымліваюць вялікія ганарары.

Для некаторых людзей спорт — добры сродак для аздараўлення і трэніроўкі арганізма. Фізічныя нагрузкі паляпшаюць працу сардэчна-сасудзістай сістэмы, сістэмы дыхання, апорна-рухальнага апарату, ды і ўсяго арганізма ў цэлым. Сэрца трэніраванага чалавека скарачаецца не больш як 60 разоў у хвіліну, а сэрца нетрэніраванага чалавека — 70—80. З гэтага бачым, што сэрца спартсмена мае больш часу на адпачынак. «Спартыўныя» людзі радзей хварэюць на сардэчныя захворванні. Таксама фізічныя нагрузкі спрыяюць павелічэнню альвеол у лёгкіх, удасканальваючы гэтым дыханне. Ёмістасць лёгкіх становіцца большай, працаздольнасць нашмат большай, чым у людзей, якія аддаюць перавагу праседжванню на канапе. У чалавека развіваецца мускулатура і цяглічная сіла. Ён менш стамляецца на працы, выглядае больш бадзёрым і актыўным, ды і каму не хочацца мець прыгожыя цяглiцы.

Але для некаторых людзей спорт — гэта лад жыцця. І без рэгулярных заняткаў чалавек не можа існаваць. Часам спартсмен проста «жыве» ў спарт-









зале. Такі стыль жыцця вельмі карысны! Вы не праседжваеце гадзінамі перад тэлевізарам або камп'ютарам, псуючы зрок і сваю нервовую сістэму.

Але ёсць і мінусы, у сучасным прафесійным спорце багата недахопаў. Ён звязаны з грашыма, што выклікае канкурэнцыю між людзьмі. А прага перамогі можа падарваць добры стан здароўя. Спартсмены перанапружваюць арга-нізм і з узростам пачынаюць хварэць. Але ці можа быць па-іншаму, калі ў сутнасць спаборніцтва закладзена неабходнасць перамагчы свайго саперніка, перамагчы самаго сябе, «скокнуць вышэй галавы»?

Існуе вера, што спорт выхоўвае ў чалавеку толькі самыя лепшыя якасці. У нейкім сэнсе гэта так: спартсмену патрэбны добрая фізічная форма, уменне хутка прымаць рашэнне і браць удзел у гульні каманды. Аднак многія свядома парушаюць правілы, грэбуюць нормамі паводзін. Па сцвярджэнні сацыёлагаў, спорт з'яўляецца люстэркам сапраўднага ўкладу жыцця: калі ў грамадстве распаўсюджаны грубасць і гвалт, гэта ж будзе і ў спорце. Калі палітыкі і бізнесмены імкнуцца да перамогі любой цаной, то і ў спорце будуць няшчырыя гульні і подкупы.

І ўсё ж... Я люблю спорт! І маё меркаванне: займацца ім варта, бо больш плюсаў, чым мінусаў. І там ёсць не толькі сапернікі, але і сябры. Дзе яшчэ, як не тут, можна перажываць вялікія перамогі і паразы? Толькі спартсмен ведае каштоўнасць нейкай долі секунды!

Спорт — гэта майстэрства, руплівая праца, у нечым небяспечная, але прыгожая. Якая сіла і цярпенне патрэбны, каб справіцца з канём у конным спорце! Якая вытрымка і сіла волі ў баксёраў! Які трэба мець разлік і тактыку ў хакеі, гандболе, футболе, баскетболе!

***Вераніка ГАМЗЮКОВА,***
***15 гадоў, Гомель***

# Патрэбен чалавек



Здаецца, нічога грандыёзнага не адбылося ў тваім жыцці, але нешта змянілася. Калі, чаму? Можа, халодны вецер данёс да цябе хвалюючы пах парфумы? Або ў дзяўчыны, што стаяла побач з табой на аўтобусным прыпынку, мабільны зайграў забытую мелодыю? У які момант памяркоўная плынь тваіх думак адхілілася ад звычайнага свайго кірунку? Можа, сёння раніцай? Ці ў мінулы панядзелак? Невядома...

І вось сэрца неспадзявана заміраe. Ты разумееш, што няма моцы жыць далей так, як цяпер. Трэба нешта змяніць. Хутчэй. Бо нудотна, так нудотна стала, куды не ідзеш. Холадна і сумна. Дык няхай будзе бойка! Бойка з гэтай шэрасцю, з аднолькавымі днямі.

І ты шукаеш. Што? Песню, верш, фотаздымак... Тое, што дасць табе спакой, хаця б на дзень, на некалькі хвілін. Губляеш час у сацыяльных сетках і ўсё чакаеш нечага. Хтосьці павінен напісаць, патэлефанаваць, сустрэцца сёння на тваім шляху. Той, хто зменіць гэты неспакойны стан. Будзе радасць або слёзы і хваляванне. Няхай! Але нічога не змяняецца. І ты пакутуеш, ты маркоцішся, не ведаеш, што змяніць. Толькі цішыня, толькі холад. А патрэбна нейкае выйсце. І здаецца, ніхто не разумее, не хоча зразумець і пачуць. Проста вар'яцееш!

А потым — раз! — і «адпусціць». Глядзіш па баках — усё змянілася. Чаму так? Бо з'явіўся новы чалавек на тваім шляху. Яшчэ ўчора ён не выконваў ніякай ролі ў жыцці, а сёння займае частку думак. Гэта як глынуць свежага паветра, атрымаць моц, каб дачакацца цяпла, перасядзець гэтую зіму. Усё, як і раней: тралейбусы, справы, сям'я, вучоба, камп'ютар. А на душы святлей.

Цяпер разумееш: жывеш! І ёсць прычына ўсміхнуцца. Як усё проста: патрэбен чалавек! Той, якому ты распавядзеш, напішаш, у думках перад сном паведаміш пра тое, як прыгожа промні сонца аплятаюць чорныя галіны ля твайго акна, які кранальны фільм ішоў сёння па тэлебачанні...

Без розніцы, хто гэты чалавек, які падараваў табе другое дыханне. Цяпер ты жывеш! Жывеш па-іншаму! Яго позірк, яго словы, яго вобраз змянілі твой стан.

Ідзеш далей, цябе чакае новая вясна.

*Анастасія ХУРСЕВІЧ*

● **Дзённічак**

# Адзін дзень з жыцця шасцікласніцы



**6:40**

Старэйшая сястра Ксюша ўключае святло і шэпча мне на вуха:

— Прачынайся…

Я расплюшчваю адно вока і сонна мармычу:

— Яшчэ пяць хвіліначак...

Вядома ж, гэтыя «5 хвіліначак» вылiлiся ва ўсе 15.

**6:55**

Прыходжу на кухню і з «царскім» выразам твару ўсаджваюся за стол. Гляджу на сваю талерку і лыжкай неахвотна калупаю манную кашу:

— Гэта што, сняданак?

— Уяўляеш, так, — мама глядзіць на мяне строгімі вачыма.

— А дзе гарачыя канапкі?

— Карына, не пачынай! — яна ўсім сваім выглядам паказвае, што гутарка скончана.

Са смуткам гляджу на «бясконцую кашу» (так называю менавіта манку, бо зачэрпваеш адну лыжку, а яна ўся цягнецца, ды здаецца, што ніколі не скончыцца...) і ўсё ж такі пачынаю ёсці...

**7:10**

Пасля сняданку з’яўляецца адвечная праблема: што апрануць?

Справа ў тым, што мама ў самы няўдалы момант заўважае адну маленькую складку на маёй спадніцы і носіцца па кватэры ў пошуках праса, але ж знаходзіць яго толькі тады, калі мне ўжо трэба выходзіць.

Гэтая ранішняя мітусня ўжо стала ў нашай сям’і своеасаблівым рытуалам.

**7:45**

Хутка насоўваю шапку на вушы — і бягу ў школку!

Заскокваю ў дзверы, похапкам скідаю з сябе куртку і «лячу» ў клас, не звяртаючы ўвагі на дзяжурных.

**8:00—14:45**

У школе час цягнецца вельмі павольна...

Я знаёмлюся з культурай Старажытнай Грэцыі на ўроках гісторыі. Рашаю сумныя задачы на матэматыцы. Бегаю, скачу і выконваю розныя практыкаванні на фізкультуры.

І вось, нарэшце, усе ўрокі скончыліся.

Хапаю партфель і першая выбягаю з кабінета. Ура, сёння пятніца!

**14:48**

Праз 3 хвіліны я ўжо дома. Хутка паабедаўшы, уключаю камп'ютар — і трапляю ў «джунглі сусветнага павуціння», як гавораць цяпер.

**15:50**

Трэба ж, ужо гадзіна мінула! А заходзіла толькі «аву» змяніць... Са сваёй сяброўкай Сашай я гатова перапісвацца бясконца! Але трэба спяшацца на заняткі гуртка.

— Спазняюся, я жудасна спазняюся! — прыгаворваю, зачыняючы ўваходныя дзверы. У такія моманты пачуваюся Белым Трусам з Краіны Цудаў.

**16:00**

У «Школе журналістыкі» мы абмяркоўваем навіны, чытаем газеты, выконваем цікавыя творчыя заданні і нават здымаем відэаролікі. Тут, дарэчы, я і пішу свае нататкі.

**18:00**

Па дарозе дахаты захаджу на пошту і купляю паштоўку з прыгожым малюнкам нашага горада, каб адправіць яе ў Нідэрланды. А ўчора я атрымала паштоўку з Амерыкі! Справа ў тым, што прыкладна год таму ў мяне з'явілася новае хобі — postcrossing. Для тых, хто не ведае, растлумачу: гэта абмен паштоўкамі. Такі спосаб зносін людзей з розных краін здаецца мне больш цікавым, чым з дапамогай сеціва.

**18:30**

Вечарам па пятніцах я звычайна гляджу анімэ (японскія мультсерыялы) і чытаю мангу (чорна-белыя коміксы). Люблю спазнаваць нешта новае пра Японію і, наогул, лічу захапленне японскай культурай сваёй індывідуальнасцю. Не разумею людзей, якія кажуць, што ім не падабаецца анімэ, калі яны яго нават не глядзелі!

Я мару пабываць у краіне Узыходзячага Сонца, а яшчэ з'ездзіць на анімэ-фестываль «Higan», які штогод праходзіць у Мінску.

**21:40**

Перад сном ляжу з навушнікамі і слухаю музыку. Наогул, не ўяўляю свайго жыцця без яе! Мне падабаюцца розныя жанры, але асабліва люблю альтэрнатыву, J-Rock і J-Pop. У будучыні хачу навучыцца іграць на бас-гітары: яе струны ствараюць такія класныя гукі!

Не заўважаю, як засынаю. Ціхенька ўваходзіць мама, здымае навушнікі, пяшчотна цалуе мяне ў лоб і шэпча: «Дабранач!»

*Карына ЧУЕС,*
*12 гадоў, школа журналістыкі «Маладзік», г. Маладзечна*

● **Дынамік**

# Трасянка?.. Трасянка!!!




***«Разбітае Сэрца Пацана» — «Не налівай», Мн., 2012, «БМAgroup».***

Неяк у сваім артыкуле «Музычны прывід Франкенштэйна» пра гурт «Разбітае сэрца пацана» я заўважыў, што ўжо ў першым сваім альбоме «Rozавы zакат» (2008) музыканты прадэманстравалі: у сваіх перасмешках з «Мелодыяў і рытмаў замежнай эстрады», што яны і іграць навучыліся, як тыя кумі-ры 80-х. Бо ў складзе калектыву на вакале і гітары Дзяніс Тарасенка (раней у арт-рокавым «Склепе» тварыў), басіст Андрэй Восіпчык (зажыгаў у не менш сур'ёзным гурце «Exist»), трывалую музычную падрыхтоўку маюць і бубнар Юры Сізоў ды яшчэ адзін вакаліст (з флейтай) Павел Гарадніцкі. Ды аранжыроўкі прадуманы настолькі прафесійна, што міжволі прыгадваеш і Міка Джагера, і «Baccara», і ўсё лепшае, што старшае пакаленне калісь апантана слухала ў Савецкім Саюзе. Яно не пагоршала ў версіі «Разбітага сэрца пацана», бо стала прыкметным і смешным. Сізова замяніў за бубнамі Алесь Кавалёў, але гэта і надалей не замінала здольнасці нашых музыкаў ствараць з даўно мёртвых хітоў смешны прывід музычнага Франкенштэйна. Пераканаў у тым і іх новы альбом «Не налівай», які выйшаў перад падвойным сінглам «Ч/Б».

Крокам наперад у развіцці канцэпцыі неаперасмешнікаў стала паглыбленне айчыннага кантэксту творчасці: ну хіба не чуецца ў назве альбома выразнай пародыі на каралёў нашага рытм-энд-блюза «Крама» з іх несупыннымі хваласпевамі п'янцы («Гэй, там, налівай», «Выпі са мной да дна» ды інш.)? Ну дык вось вам і «Не налівай, не налівай, ну што ты дзелаеш са мной». Чаму «дзелаеш», а не «робіш», бадай, зразумее кожны носьбіт сучаснай беларускай трасянкі. Той самай трасянкі, якая многім замяніла ў краіне Беларусь родную мову ды стала адметным мастацкім трэндам парадыйнага мастацтва.

Праўда, музыкаў гурта «Разбітае сэрца пацана» акурат і дакараюць многія, быццам у іх не трасянка, а зусім зрусіфікаваная мова з лёгкім беларускім акцэнтам. Але ж возьмем, напрыклад, спеў «Пакуты якутаў»: тут так і шыбае свежасцю роднай крынічкі! Ці ж не ўжылі б зрусіфікаваныя недабеларусы штось-



ці накшталт «Страданія ў Танзаніі» ў сваіх гукавых каламбурах? Беларускі кантэкст мае і каламбур вакол славутай нашай зоны адпачынку — «Нас Раўбічы ждуць».



*Гурт «Разбітае сэрца пацана» на сцэне сталічнага клуба «Re:Public».*

Меламаны сталага веку наўрад ці абыякава паставяцца да алюзій на паўночнакарэйскія кінабаявікі 80-х («Хонгільдон») ды запальчывыя поп-рок-хіты Юрыя Антонава, Smokie, шарм меладычнай настальгіі Джо Дасэна. А прапародыю на філасофію дарвінізму яны і не марылі («Пакрылася лёдам зямля, / Памерлі усе дыназаў-ры, з'явілісь макакі, / І з іх нарадзіліся людзі — / Шэкспіры, Рэмбранты, Далі»). Адным з найбольш удалых хітоў альбома я назваў бы Walli-е — гэткая віртуозная танцавалачка з, на жаль, ненарматыўнай лексікай, таму дзяўчыну на party не запросіш.

Атрымалася і чарговая фірмовая песня-візітовачка: «Разбітае сэрца ні склеіць, ні сшыць, / Разбітае сэрца дзяўчонак баліць. / Падруг дафіга, а друзей — ні фіга, / Віною ўсяму — касцяная нага».

Злобныя абстракцыі «РСП», бадай, здольны пакінуць станоўчыя ўражанні слухачам, а вось ці тое ж у бессэнсоўнай песні «Лук-чэснок»? Тут занадта фрывольна інтэрпрэтавана імя нашага выбітнага кампазітара: «Лучэнок, Лук-чэснок — іздзевалісь дзеткі, / Лучэнок, Лучэнок плачэт в туалеце» — гэта нават не шалкевічаўская «Таварыш Сапега заплакаў», бо дзе ў Шалкевіча парадыйны вобраз, там у «РСП» атрымалася банальная хамская знявага. Мы ж прозвішча вакаліста гурта Дзяніса не выкручваем накшталт Пітарасенка ці клавішніка Гарадніцкага не называем Задраніцкім, бо падстаў для выплёсквання хамства ў кожным з нас знойдзецца нямала, важна толькі чалавекам застацца ў гэтым кантэксце. Але ў тым і праблема артыстаў парадыйнага жанру, каб здолець не пакрыўдзіць беспадстаўнай іроніяй талент, Божы дар. Зрэшты, агульны кантэкст альбома «Не налівай» дабрадушны, цёплага здаровага гумару і добрага настрою ён пакіне слухачу нямала.

Асобнае захапленне выклікае тут мастацкая аздоба. Асабліва тонкія ў ёй пёркавыя малюнкі, выкананыя на ўзроўні Пікасо або Гуэры. Вось толькі імя беларускага генія вы не знойдзеце на вокладцы кружэлкі. Такая савтрадыцыя, аднак.

***Вітаўт МАРТЫНЕНКА, музычны крытык***

● **Конкурс школьных сачыненняў**

# І сніцца мне мора...

Мора — мая стыхія. Пра яго пісаць нялёгка, а з іншага боку, можна пісаць бясконца. Мне пашчасціла ўбачыць мора некалькі разоў. Пабыўшы на ім аднойчы, хачу вяртацца туды зноў і зноў. Я не магу сказаць, якое з убачаных мной мораў лепшае. Кожнае адметнае і непаўторнае. Глянеш на яго — і немагчыма стрымаць радасць у грудзях: здзіўляюць уяўленне неабдымныя марскія прасторы. І кім толькі не ўявіш сябе ў гэтае імгненне: і Грэем з твора Аляксандра Грына «Пунсовыя ветразі», і Дзікам Сэндам, капітанам кітабойнай шхуны «Пілігрым» з твора Жуля Верна «Пятнаццацігадовы капітан». Толькі ў моры можаш усвядоміць, што значыць для цябе зямля.

На працягу ўсяго года я з нецярпеннем чакаю лета, каб сустрэцца з гэтай унікальнай з'явай пад назвай «мора». Яно не можа не пакінуць след у свядомасці чалавека, і мой унутраны свет таксама не стаў выключэннем. Мне часта сніцца мора, людзі, з якімі там пазнаёміўся. Моры злучаюць народы. Пасля кожнай паездкі ў мяне з'яўляецца шмат новых сяброў. На беразе Чорнага мора я пазнаёміўся з хлопцамі з Расіі, якія сталі для мяне добрымі сябрамі. Ад іх я даведаўся пра нашага ўсходняга суседа шмат цікавага. Культура, традыцыі, гісторыя і розныя іншыя тэмы закраналіся ў нашых размовах. Толькі мора змагло сабраць і аб'яднаць людзей рознага ўзросту, з рознымі інтарэсамі. Мора стала для нас месцам штогадовых інтэрнацыянальных сустрэч.



Мора бывае пяшчотным і суровым, яно многае дае чалавеку для жыцця, але, на жаль, можа і забраць жыццё. На марскім узбярэжжы я наведаў некалькі званіц і цэркваў, пабудаваных у гонар загінулых маракоў.

Калі знаходзіўся ў адной з іх, мой сябар з Расіі ўзгадаў страшную трагедыю, якая адбылася 12 жніўня 2000 года ў Баранцавым моры на атамным падводным ракетным крэйсеры «Курск». На борце расійскай лодкі загінула 118 ча-



лавек! У гонар іх і іншых загінулых маракоў мы ў званіцы запалілі свечкі памяці.



Я сумую па марской прыгажосці... У снах я часта бачу мора, чую шум прыбою, дыхаю саленаватым паветрам, напоўненым марской свежасцю. Дзіўным ззяннем іскрацца марскія хвалі, а ля берага неўгамонна плёскае срабрысты прыбой. Гэта відовішча заварожвае сваёй разнастайнасцю, патаемнасцю і непрадказальнасцю. У маёй свядомасці захавалася начное мора, калі яно зліваецца з небам, і толькі заход сонца нагадвае пра сябе вузкай чырвонай палоскай. Неба і мора — дзве вольныя стыхіі. Зведаўшы ад убачанага захапленне наяве, я часта гэту карціну бачу ў сне. Рассыпаныя па небасхіле зоркі адлюстроўваюцца ў моры, і да іх можна дакрануцца. У такія імгненні нараджаецца пачуццё, быццам ты пакупаўся ў Сусвеце.

Я прачынаюся і баюся расплюшчыць вочы, каб не знікла цудоўнае бачанне мора. Калі падымаюся з ложка, то адчуваю прыліў новых жыццёвых сіл. І гэта тыя сілы, якія мне яно дорыць.

За што я люблю мора? За тое, што гледзячы на яго, адчуваючы плёскат хваль, удыхаючы вільготнае паветра, я адчуваю, як за спінай вырастаюць крылы, адчуваю, што гатоў свабоднай птушкай узняцца да аблокаў і адтуль азіраць зямлю, абдымаць яе і абараняць яе ад бед і нягод. Зліваюся з шумам хваль, што коцяцца павольна і разважліва... У галаве ўсё супакойваецца, думкі нікуды не бягуць з хуткасцю святла, думаю толькі пра харошае і спакойнае. Люблю мора за адчуванне гармоніі ўнутры сябе. Калі бушуе шторм і хвалі спрабуюць знішчыць скалы, адчуваеш, які ж слабы чалавек перад стыхіяй.



Мора — гэта таямніца, якая ніколі не пакорыцца чалавеку, але, народжанаму на зямлі, так хочацца дакрануцца да гэтай тайны, паспрабаваць яе зведаць і зразумець.

*Артур ХОМБАК, 17 гадоў,*
*Гімназія № 5, Гродна,*
*фота*
*Рагнеда МАЛАХОЎСКАГА.*

# Шукаючы — знойдзеш!*

### *Аповесць*

Па той бок было ціха: ні снегу, ні ветру. А яшчэ пахла вогнішчам і недзе брахаў сабака. «Можа, і Лобзік», — падумаў хлопчык. Аднак вечарэла, з кожнай хвілінай рабілася ўсё цямней. Трэба было кудысьці рухацца. Косця вырашыў ісці ў сваю ж вёску, толькі ў мінулую, ранейшую.

Ён выйшаў з лесу і ўбачыў, што снег сапраўды яшчэ не выпаў. Агледзеўся, хацеў ужо накіравацца да агародаў, як заўважыў агеньчык у баку руін касцёла. Сэрца моцна забілася ў грудзях, здавалася, падбіраецца да горла, дыханне перахапіла. Касцёл чарнеў на фоне неба. Ён быў вялізны і цудоўны! Хлопчык ніколі не мог уявіць, што ён такі прыгожы, і што зруйнавалі такую прыгажосць, разбілі, а аднаўляць няма каму. Не разважаючы, ён пайшоў да будынка. Вакол цішыня, так што пачуліся ўласныя крокі па сухой траве. З цемры нечакана выплыла пасыпаная каменьчыкамі дарога, а потым хлопчык заўважыў, што акрамя касцёла нешта яшчэ не так. І сапраўды, уздоўж дарожкі з'явілася алея з высокіх дрэў, у цемры не разабраць якіх. У Косцін час іх ужо не было. Толькі дзе-нідзе тырчэлі пянькі. І бабуля не распавядала, што там раслі дрэвы.

Разважаючы, Косцік падыходзіў усё бліжэй да касцёла. Святло лілося збоку, з невялікага акенца. «Бляклае нейкае святло, — падумаў хлопчык. — Напэўна, ад газнічкі».

Як толькі Кастусь падышоў да масіўных прыгожых дубовых дзвярэй і наважыўся іх адкрыць, яны самі ціха адчыніліся. На парозе стаяў малады мужчына, на выгляд гадоў трыццаці, цёмнавалосы, у сутане, са скуранoй торбай у правай руцэ. У касцёле было абсалютна цёмна, свечкі не гарэлі нават на алтары.

— Добры вечар. Ты хто? — запытаўся ксёндз.

Голас у яго быў ціхі, ласкавы. У ім чулася зацікаўленасць.

— Косцік Сквароўскі, — адказаў хлопчык.

— Скварoўскі? А чаму я раней цябе не бачыў? Я ўсіх Скварoўскіх, здаецца, ведаю.

Ксёндз быў шчыра здзіўлены.

— А можна, я вам па дарозе растлумачу? Гісторыя цалкам неверагодная.

Косціку не хацелася ілгаць. Ды і каму? Калі глядзіш такому чалавеку ў вочы, немагчыма хлусіць.

Тым часам ксёндз ужо выйшаў з касцёла і замкнуў дзверы вялікім, цяжкім на выгляд, ключом. Далейшая размова адбывалася ўжо на вуліцы.

---

* Працяг. Пачатак у № 2 за 2013 г.



— Я слухаю цябе, Косцік Сквароўскі, хлопчык, які прыйшоў невядома адкуль.

— Вас завуць Павел Юрскі? — запытаўся Косцік.

— Так.

— А які гэта год?

Ксёндз з цікавасцю глянуў на хлопчыка і цярпліва адказаў, на ўсялякі выпадак вызначаючы і месяц:

— Чатырнаццатага лістапада 1928 года.

— Божа мой! Менш за год засталося...

Святар і хлопчык ішлі да вялікага драўлянага дома, які быў схаваны недзе ў садзе. «Летам, напэўна, тут вельмі прыгожа», — падумаў Косцік, гледзячы на голыя галіны невысокіх дрэў.

Пасля апошняй фразы, кінутай хлопчыкам, ксёндз Павел спыніўся і спытаў:



— Да чаго засталося менш як год?

— Да вашай гібелі, — адказаў хлопчык.

Косцік падумаў, што святар зменіцца ў твары, пачне трэсці яго за плечы і выпытываць падрабязнасці. Замест гэтага ён спакойна прамовіў:

— Давай зойдзем у дом, і ты мне ўсё раскажаш.

Два цёмныя сілуэты, адзін высокі, з торбай у правай руцэ, другі нізкі і з нейкімі рэчамі за спінай спакойна рухаліся праз сад да дома. Косцік згадаў, што ні саду, ні дома не засталося. Усё знішчылі. Хлопчык зірнуў на ксяндза, які ішоў побач. «І яго заб'юць, — падумаў Косцік. — Ён жа мяне ні за што не паслухае, застанецца, не з'едзе».

Ксёндз Павел дастаў з сумкі ключ і адчыніў дзверы дома. Прайшлі праз цёмны калідор, дзе трохі пахла зямлёй і агароднінай, там жа знялі абутак і апынуліся ў цёплай кухні. Косцік нават здзівіўся, наколькі там цёпла, быццам зусім нядаўна нешта гатавалі, і печ яшчэ не паспела астыць. Ксёндз растлумачыў, нібы прачытаў думкі хлопчыка:

— У мяне ёсць кухарка, у яе ключы ад дома. Яна гатуе мне ежу кожны дзень. І ў кухні, і ў хаце заўсёды цёпла.

Пасля гэтага ён запаліў газавую лямпу, паставіў яе на стол, дастаў з печы гарачы гаршчок, у якім была тушаная бульба з кавалачкамі мяса і капустай, паставіў на стол дзве талеркі і запрасіў новага знаёмца прысесці.

— Давай памолімся, а потым за вячэрай ты мне ўсё раскажаш.

Калі перад спажываннем ежы малітву чытаў бацька, гэта было неяк звыкла. Калі ж прачытаў ксёндз Павел, то гэта нагадвала таямніцу, пасля якой ежа станавілася святой. Але ад хвалявання Косціку не хацелася есці. Было жаданне ўсё хутчэй расказаць і распытаць, а потым яшчэ дачакацца раніцы і ўсё добра разгледзець. Ежа чакала свайго часу ў талерках, але ні святар, ні хлопчык яе не краналіся. Яны разглядвалі адзін аднаго.

Косцік прыйшоў да высновы, што ксёндз Павел занадта прыгожы для служэння Богу: высокі, цёмныя валасы, сінявокі, чорныя бровы, роўны нос і крыху буйнаватыя вусны. Яму б ажаніцца! Ад думак Косціка адарваў голас святара:

— Напэўна, хопіць разглядваць адзін аднаго! Давай распавядай усё як ёсць, па парадку, нічога не ўтойваючы.

Косцік уздыхнуў і пачаў свой аповед:

— Я прыйшоў сюды з тысяча дзевяцьсот дзевяноста шостага года.

Ксёндз Павел пaглядзеў кудысьці ў столь, нейкі час думаў, а потым задаў адразу некалькі пытанняў:

— Што ж, будзем думаць, што так і ёсць. Тады, як ты сюды трапіў, ці ёсць у вас савецкая ўлада і навошта ты сюды прыйшоў?

— Трапіў я сюды праз дуб, савецкай улады ўжо няма. А прыйшоў навошта? — Хлопчык на імгненне змоўк, а потым працягнуў: — Спачатку было цікава, таму што на маіх вачах у дрэве знік сабака, і я вырашыў паглядзець, куды ён падзеўся. Цяпер, калі даведаўся, што вы яшчэ жывы і гэта дваццаць восьмы год, я хачу папярэдзіць вас пра небяспеку і прашу з'ехаць адсюль.

— У чым справа? Чаму я павінен пакінуць гэта цудоўнае месца?

— Касцёл узарвуць у верасні тысяча дзевяцьсот дваццаць дзявятага года. І вы там загінеце. У вас моцна абгарацъ ногі, але памрэце вы ад удушша. Вас будуць хаваць трыма вёскамі. А жанчыны будуць галасіць так, што скаланецца лес.

Косцік выдыхнуў. Нялёгка расказваць чалавеку пра яго смерць. Сам бы ён не хацеў сустрэць хлопчыка з будучыні, які распавядаў бы такія жахі.

— Дзякуй табе, што прыйшоў мяне папярэдзіць, — прамовіў ксёндз. — Але ты ж разумееш, што калі Гасподзь вырашыў, што я павінен загінуць у агні пакутніцкай смерцю, то я не паеду адсюль нікуды і ўжо тым больш не пакіну святыню. Ты можаш смела вяртацца да бацькоў, бо яны непакояцца. Так што, калі ласка, еш і адпраўляйся дадому, праз свой чароўны дуб.

Косцік чакаў такога адказу, але гэтым вечарам дадому ён не збіраўся дакладна. Раз ужо трапіў у мінулае, то варта тут добра ўсё разгледзець. У касцёле ён яшчэ не быў, наваколлі не агледзеў. На сваіх продкаў паглядзець — таксама цікава. Можа быць, пабачыць свайго прадзеда або прапрадзеда. А бацькі? Будуць перажываць, вядома, і бабуля знервуецца. Аднак ён жа вернецца. Канешне вернецца.

— А ці можна мне ў вас пераначаваць?

— Навошта? — спытаўся ксёндз.

— Разумееце, — шчыра адказаў Косцік. — Там, у дзевяноста шостым годзе, я займаюся раскопкамі ў касцёле. Пасля таго, як яго ўзарвалі, нікому не было да руінаў справы. Наадварот, нехта нават цэглу цягаў для лазні. Вашага саду і дома зусім няма. Могілкі засталіся. Мне б усё хацелася агледзець. Хаця б адзін дзень. А заўтра вечарам я пайду.

Ксёндз моўчкі глядзеў на хлопца. «Здаецца, гэты невядомы Скварoўскі гаворыць праўду».

— Што ж, як пажадаеш. Але гэта не сумленна ў адносінах да тваіх бацькоў. Уяві, што б здарылася, калі б знікла маці.

— Я думаю, што тата пайшоў бы ў міліцыю...

Косцік адказаў даволі разгублена.

— Разумееце, у мяне дома асобны пакой. Я сказаў, што пайшоў спаць, а сам вылез праз акно. Да раніцы мяне не будуць шукаць. Заўтра дзень пашукаюць, а да вечара я і сам з'яўлюся.

Ксёндз пагрукаў кончыкамі пальцаў па стале. «Ну як яму забароніш? Так усё складна распавядае!»

— Што ж, прымусіць я цябе не магу, але ў любым выпадку мой дом адкрыты. Калі ласка, у мяне два пакоі. Пойдзем, я пакажу, дзе ты можаш размясціцца.



Ксёндз устаў, прачытаў малітву і толькі тады, забраўшы са стала лямпу, прайшоў у драўляныя дзверы з цікавай, зялёнай ад часу, меднай ручкай.

Святло ад лямпы выхапіла з цемры стол, накрыты белым карункавым абрусам, на які і была пастаўлена лямпа, чатыры драўляныя крэслы з выгнутымі спінкамі, канапа, невялікая шафа, а таксама дзверы ў суседні пакой.

Тым часам, пакуль Косцік усё разглядваў, ксёндз Павел дастаў з шафы яшчэ адну лямпу і запаліў.

— Гэта табе. На ўсялякі выпадак. Я ведаю, што дзеці часта баяцца цемры, я і сам некалі баяўся, а яшчэ і дом не родны. Так што можаш на час пакінуць. А я потым ноччу затушу. Я ўсё роўна яшчэ доўга не буду класціся спаць.

— Я не маленькі ўжо і цемры не баюся. Не патрэбна мне лямпа, — адказаў хлопчык сур'ёзна. А потым дадаў ужо вінавата: — Вы пакіньце, калі ласка, лямпу, пакуль я не лягу, а потым гасіце. Я не спалохаюся.

Ксёндз моўчкі паставіў лямпу на стол і прайшоў у свай пакой. Пакуль дзверы адчыняліся і зачыняліся, Кастусь паспеў разгледзець толькі вялікае драўлянае бюро, якое стаяла насупраць выхада.

У шафе ляжала падушка, коўдра, прасціны. Уся бялізна была ідэальна чыстая і выклікала павагу да жанчыны, якая яе сцірала без сучасных мыючых сродкаў і машын. Хлопчык усё гэта рассцяліў на канапе, распрануўся, лёг пад коўдру і толькі тады крыкнуў:

— Ксёндз Павел, загасіце, калі ласка, лямпу.

У дзвярах з'явіўся святар. Ён падышоў да хлопчыка, перахрысціў яго, затым пагасіў святло. Косцік адразу ж заснуў. І пабачыў ён вельмі дзіўны сон: быццам прыходзіць на тое месца, дзе рос дуб, але няма там дрэва, чыстая палянка, і толькі маленькі дубок недалёка ад таго месца ўзвышаецца, і нібыта ёсць гэта той самы чароўны дуб, ды толькі чакаць давядзецца, пакуль ён вырасце, каб вярнуцца назад. Спалохацца б Коціку ў гэты момант, але яму не страшна зусім, нават весела, што ён столькі часу з ксяндзом Паўлам правядзе. І паварочваецца хлопчык, каб да касцёла ісці, толькі раптам грукат страшны і людзі крычаць: Ксёндз Павел! Ксёндз Павел памёр!

Абудзіла Косціка нізкарослая бабуля з добрым тварам, пакрытым сеткай зморшчынак. Яна лёгенька кранула хлопчыка за плячо і выйшла. Астатняе

дарабіў пах ежы, які разносіўся па ўсім доме. Косцік сеў на ложку. Дзверы ў пакой ксяндза былі зачынены, а, мяркуючы па таму, як ярка свяціла ў вокны сонца, святара ўжо там не было. Падлога была халодная, так што апранацца хлопцу давялося хутка, каб не стылі ногі. Вельмі хацелася есці. Дзверы ў кухню былі расчынены, і не паспеў Косцік выйсці з пакоя, як убычыў стол, а на ім талерку з блінамі.

— Сядай, не саромейся, — сказала бабуля надтрэснутым, як у казках, голасам. — Ксёндз Павел гаварыў, што ты яго дарагі госць, а, значыць, варты таго ж, што і ён сам. Як цябе клічуць?

— Косцік Сквароўскі.

Не варта было называць прозвішча, менш было б праблем і тлумачэнняў. Але бацька ў дзяцінстве навучыў яго так прадстаўляцца, вельмі ўжо ганарыўся сваім прозвішчам і хацеў, каб сын усюды яго гучна называў.

Бабуля прысела і ўважліва паглядзела на хлопчыка.

— З чыіх жа гэта ты Сквароўскіх? У мяне ўжо ўнук, такі як ты, па ўзросце, і ні разу я не сустракала іншых людзей з такім прозвішчам.

Пасля бабуля яшчэ больш уважліва паглядзела ў твар хлопчыка, потым нягучна ўскрыкнула і сама сабе зацiснула рот рукою. Аказваецца, яна не вельмі добра бачыла, і толькі цяпер нешта разгледзела.

— Дык ты ж на ўнука майго, Сярожку, вельмі падобны, толькі старэйшы, ды валасы цямней. І вочы іншага колеру...

Непрыгожа было без тлумачэнняў пачынаць есці, тым больш, што перад ім сядзела яго ўласная прабабуля, так што Косцік сказаў:

— Прыбыў я, бабуля, здалёк і з’яўляюся далёкім вашым сваяком. Ксёндз Павел даў мне заначаваць, таму што я ў гэтых месцах праездам.

Бабулю, здавалася, адказ задаволіў. Яна моўчкі ўстала, адышла кудысьці, затым паставіла на стол смятану, талерку і кубак з цёплым малаком. Калі Косцік пачаў есці, яна зноў прысела насупраць і працягвала пільна ўглядацца. Хлопчык у сваю чаргу таксама пазіраў на родную прабабулю, толькі не так адкрыта. На галаве ў яе завязана living рознакаляровая хустка, з-пад якой выбілася некалькі хвалістых сівых пасмаў. Ад вачэй да скроняў разыходзіліся глыбокія зморшчыны, таму што яна шмат углядалася, у яе быў дрэнны зрок.

— Добры ты хлопчык, — прамовіла яна, нарэшце. — Толькі дзіўны лёс цябе чакае. Вельмі незвычайны.

Потым бабуля ўстала, паправіла хустку на галаве і выйшла. Цяжкія дзверы грукнулі ўслед.

Вось Косцік і ўбачыў сваю прабабулю, якая прадказвае яму дзіўны лёс. Цікава, можа, у яго таксама адкрыецца калі-небудзь дар прадказанняў? Косцік зірнуў на вуліцу праз акно: яшчэ свяціла сонца, але збіралася на дождж, так што варта выходзіць аглядаць наваколле, пакуль на вуліцы не зрабілася зусім мокра.

*Ганна СТАРЫКОВІЧ,*
*малюнкі Алены БОСАВАЙ*

***Працяг у наступным нумары***

